# 10/2006

# ПОЛЫМЯ



**Міхась СТРАЛЬЦОЎ**

## Бацькаўшчына

З двара прыйду і сяду ля агню.
Палаюць дровы. Ссечана капуста
На градах — блаславенне дню.
Змрок у палях –– там сіберна і пуста.

Узыдзе месяц позна. На парог
Я ноччу выйду. У нямым здранцвенні
Паветра, далеч. Серабрыцца лог
За сажалкай — на ім снуюцца цені.

О роднае маё! Як доўга да цябе
Ішоў я, кволы падарожнік.
О весялосць у восеньскай журбе!
Агонь.
Саган.
Вуголле і трыножнік.



# ПОЛЫМЯ

# 10

(924)

2006

кастрычнік

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2006

## ЗМЕСТ





**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

# «ВОЧЫ МАЦІ — ВЕЧНАСЦІ АКНО...»

## Максім ТАНК

* * *

Помню: маці заўсёды клалася спаць
Толькі пасля таго, як засыналі
І дзеці ў запечку,
І куры на курасаднях,
І косы, заточаныя пад страхой,
І агонь у задымленай печы,
І вілы з памялом у качарэжніку,
І яблыня, загледзеўшыся ў студню,
І аблокі над страхой буслінай,
І палявая дарога, закалыханая жытам.

Як жа мне сёння заснуць,
Калі, яе прыгадаўшы,
Усё не спіць
І не спяць мае думы.

## Аляксей ПЫСІН

* * *

У запозненым прызнанні
Зноў ты, маці, прада мной:
Бачу я тваё старанне,
Бачу вечны клопат твой.
І на холадзе, і ў спёку
Досыць зроблена ўсяго.
Хоць заўсёды быў я збоку,
Недагледзеў аднаго.
І гадоў пражыў нямала,
А не знаю, як тады:
Дзе ты брала, намывала
Залацінкі дабраты?

## Васіль ЗУЁНАК

* * *

Двор без мамы — народ без мовы...
Ды агонь святы не пагас.
Ёсць душа — будуць вешчыя словы,
Двор збірацьме, зняверанных, нас...

Не, не будзе Радзіма страчана,
Калі маці мову нясуць
І па слоўцу, па гуку — у спадчыну,
Як дыханне, дзецям даюць.

Сцежка да пачатковае школкі,
Што мяне загароддзем вяла,
Сёння ўсыпана лапнікам смолкім:
Мама тут у бяссмерце пайшла.

Вось яно — у загадцы дзіцячых
Вачанят. Гэта іх урок:
Ад расстання, ад смерці, ад плачу —
У жыццё скіраваць свой крок.

Ёсць Радзіма — і ёсць бяссмерце.
Мова ёсць — не згіне зямля.
На скрыжалях вякоў не сцерці
Слоў, што вёска ўзрасціла мая.

Па складах іх чытаюць дзеці,
Як і я калісьці чытаў,—
І няма даражэйшых на свеце,
Як пад небам свет гэты стаў.

І на ганку мачулінскай школы
Прачытаюць праз тысячу год
Дзеці гэткія ж — купкай вясёлай:
«Мама, мова, Радзіма, народ...»

## Уладзімір ПАЎЛАЎ

* * *

Помню маму яшчэ маладую.
Мой узрост быў той самы, які
Сам пабачыў: зару залатую
Выпускала матуля з рукі.

Былі дзеці заспаны бясконца.
Білі дрыжыкі ранак рабы.
Але мама нам зычыла сонца,
Покуль дойдзем у лес па грыбы.

Паказала рукою нам маці
На усход, што пачаў ружавець:
— Сонца ўстане і будзе ўмывацца,
Толькі ўважліва трэба глядзець.

...За гады пагубляў я нямала,
Але вечны малюнак такі:
У кароне зары мая мама
Выпускае свяціла з рукі.

## Янка СІПАКОЎ

### МАТЧЫНА СЭРЦА...

З усіх гукаў, якія зведаў,
гэты быў самы першы —
яго я пачуў яшчэ да свайго нараджэння:
як прыслухоўваўся я і як мне спакойна
было ў ім — ён, здаецца, мяне атуляў,
як паветра, з якім пазнаёмлюся потым.
Гэты гук, калі я нарадзіўся,
быў таксама заўсёды са мною,

ён мацнейшым здаваўся
за ўсе гукі і вёскі і горада:
за рыканне кароў і рыпенне трамваяў,
за спевы птушак і галас транзістараў,
за пошум дрэў і ўздых стадыёнаў,
калі там забіваюць гол.
І хоць гук быў нямоцны, па ім
я заўсёды звычайна знаходзіў,
дзе на той час была мая мама:
ля студні, у полі, пад лесам
ці на кладзішчы...
І хоць мамы даўно ўжо няма,
я і зараз біццё яе сэрца чую
і лягчэй засынаю, натомлены,
пад яго супакойлівы тукат —
як пад гоман ціхага летняга ліўня
альбо пад задумліва-светлае
ціктаканне
звыклае
ходзікаў...

## Мікола МАЛЯЎКА

* * *

Зямля пад снегам стыла, як бетон,
І даставаліся з гарышча кросны.
Не спаў, у шыбу стукаў вецер злосны,
А мама ткала цёплы кужаль-лён,
Спявала: «Ходзіць сон каля акон...»
Я непрыкметна плыў у свет дзівосны:
Крынічка булькала, шумелі сосны, —
І засынаў пад музыку красён.

Не помню сам, калі пры хаце ўтульнай
Знасіліся кужэльныя кашулі,
Грукочуць кросны хіба толькі ў сне, —
А калыханка, вытканая з гукаў,
Чаруе ласкай матчынай мяне
І сёння, у касмічным веку ўнукаў.

## Казімір КАМЕЙША

### ЖЫВЕ НА ЗЯМЛІ МАЯ МАМА

Жыве на зямлі мая мама,
Вёдрамі будзіць планету.
Шлях яе біты самы —
Ад студні і да загнета.

Еду, яе пакідаю
І не пакіну ніяк.
Мама мая маладая,
Мама мая залатая.
Старая мама мая.

З доляй заручан лясною,
Сам не лясны я даўно.
Шчасця няма са мною,
А мама заўсёды са мной.

Стрэцца баюся з маною —
З крыўдай мана заадно.
Каханай няма са мною,
А мама заўсёды са мной.

Лёгкага бачыла мала,
Крок што ні дзень — то цяжэй.
...Жыве на зямлі мая мама,
Мама мяне беражэ!

## Яўгенія ЯНІШЧЫЦ

* * *

Ты вучыла мяне сеяць жыта і лён
І цярплівасці вечнай — уголас не плакаць.
Апынуся калі сярод чорных варон, —
Я памру, ды не буду па-іхняму каркаць.

Вось трывожна вядзерца нясу, як тады,
Як вучыла, нясу. Я нясу, каб суседка
Не сказала, што нават звычайнай вады
Прынясці не умее, не заліўшы сукенку.

Цвёрда мною завучан натруджаны крок
Твой,
якому павек ужо не саступіцца.
І душа мая часта, нібы матылёк,
На агонь вылятае, ды агню не баіцца.

Пішаш: «Век мой пражыты. Наперадзе — твой.
За мяне не хвалюйся. Я буду здаровай
Да апошняй вячорнай зары палявой
І грыбочка апошняга ў нашай дуброве».

Мама, сею не жыта я, сею не лён.
Але з лёну і жыта я словы складаю.
І калі углядаюся ў парасткі дзён —
Чую крокі твае. І свае вымяраю.

## Леанід ГАЛУБОВІЧ

### ЛЮСТЭРКІ МАТЧЫНЫХ ВАЧЭЙ

Я ў юнацтве ўглядваўся ў люстэркі:
Бог, прарок — не больш таго, не менш...
За душой не маючы капейкі,
Я ў душы вызваньваў грошны верш.

І глядзеўся ў вочы я каханай:
Прынц, ды толькі, што там ні кажы...
Па сяле блудзіў як апантаны
З пачуццём узнёсласці душы.

А нядаўна ў вочы роднай маці —
Слёзныя люстэркі — зазірнуў
І ўбачыў воблік там дзіцяці —
Сам сябе і ўсю сваю віну
Перад ёй, прад грэшным мілым людам,
Прад каханай, што сышла даўно...

Я ў люстэркі больш глядзець не буду.
Знаю: ёсць праўдзівае адно —
Вочы маці — вечнасці акно...

## Міхась ПАЗНЯКОЎ

* * *

Дагарае вогнішча на ўзлеску,
Дым віецца смуткам між галін.
Падары мне, сонейка, усмешку,
У задумным лесе я адзін.

Горасны, маркотны, мабыць, самы,
Я прыехаў загаіць душу,
Бо няма ўжо роднай, любай мамы,
І твайго цяпла таму прашу.

Тыдзень пад дажджамі я бядую,
Згадваю маленства, светлы край...
Не заменіш, ведаю, матулю,
Дык хаця б крыху паспачувай...

І раптоўна хмары расхінула,
Асвяціла сонца мой куток,
Быццам мама ласкава зірнула
І шапнула: «Не бядуй, сынок!..»

## Міхась БАШЛАКОЎ

### МАЦІ

Ступлю на родны свой парог —
Насустрач маці.
Пытаецца: «Ну што, сынок,
Стаміўся, мабыць?»

А у самой сляза з вачэй
Цячэ паволі.
Душу самотай апячэ,
Агорне болем.

За плечы ціхенька крану
Сівую маці,
Яе ласкава прыхіну:
«Не трэба плакаць...»

Слязу змахне яна рукой
І пасвятлее.
І ўся — і тварам, і душой
Памаладзее.

## Мікола МЯТЛІЦКІ

### МАТЧЫНА ПРОСЬБА

Раніца пазірала
Барвай густой з нябёс.
Месца ты выбірала
Вечнае
Між бяроз.

Ціха лісцём спадала
Голлейка на крыжы.
— Задаўна прыглядала!
Тут мяне палажы...

І, як пакуты вырак,
Голас крануў душу:
— Ўцеха мая — ты вырас!
Блізка мой час... Прашу...

Хмельна буяніць лета.
Чуў, як раса дрыжыць.
Просьба? Пустое гэта!
Маме шчэ жыць ды жыць!

Небу сказаў: не скора
Зрынешся, дзень бяды!
Толькі гукнула гора,
Мама, цябе сюды.

Ноч далічыла зоркі,
Знікла ў чужых палях.
Боль мой няўцешна горкі —
Мамін астатні шлях.

Ў бессанях ім прастую,
Каля труны стаю.
Чую я, мама, чую
Просьбу тваю.

Ёй, як жадала, збыцца
Чорны пасобіў лёс.
Хай табе мякка спіцца
Ў цішы сваіх бяроз.

Згубна ў абшарах сее
Стронцый хмурын сувой.
Горкай слязой расее
Шлях беззваротны твой.

Бачу у сне збалелым,
Самым няўцешным сне:
Мама, ідзеш у белым,
Шэпчаш з жальбою мне:

— Пуста як кінуць вокам.
Чорна. Наўсцяж — драты.
Ўцеха мая, — далёка
Сёння адгэтуль ты...

## Анатоль ЗЭКАЎ

### МАТУЛІНЫ ПЕСНІ

Заспявай, матуля, песню
надвячоркам у цішы.
Разумею, што балесна
ад той песні на душы.
Разумею, хоць хатульны
век нібыта і мінуў.
Ты пачні адна, матуля,
я пачую — падцягну.
Заспяваем мы пад вечар,
як у даўніну жылі,
бо заўсёды песні лечаць,
нават горкія калі...

## Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

### УСПАМІН

Ён дагэтуль мне ў горле пяршыць
І вядзе за сабою да крамы.
«Дайце нам на чатыры душы», —
Хлеб купляе у крамніка мама.
Я ніколі не бачыў душы,
Толькі чуў, што яна, быццам птушка, лятае...
Я спытаўся у мамы: «Скажы,
Я таксама — душа? Тая самая, тая...»

І сказала мне сцішана мама:
«Ты — таксама, сынок, ты — таксама...»

## Ала КАНАПЕЛЬКА

### КРОСНЫ

Мама кросны снуе
І суворую ніць,
Як вучыла жыццё, —
На аснову.

— Ручнікі па вясне
Пойдзем, доню, бяліць.
Бацька выстружа пранік кляновы.

Накідае ў ніты
Мама чуйнай рукой
Ільняныя суворыя пасмы.
— Казачэньку, не ты
Мяне стрэў за ракой.
У людзей ні аб чым не пытайся.

Паплылі чаўнакі
Ў морак ніцяў густых —
Мама кросны на золку заткала.
Лёсу мой, ручнікі!
Светла вышыю іх.
... «Ой, у гаю зязюля кувала».

## Віктар ШНІП

* * *

Рыпіць старэнькі калаўрот —
Вецер укруціўся ў спіцы.
Ля матулі дрэмле кот.
Час цячэ па белай нітцы.
Сонца села за акном
У стажок на загуменні.
І ў матулі на ўвесь дом
Свецяць з-пад рукі праменні.
Цемра ўхутала сяло.
Светла ў нас.
Мы не заснулі.
Пэўна, дзённае святло
Спрадзена ў клубок матуляй.





Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

# МЕСЯЦ У РАІ, або АДДАЙ СЭРЦА ЛЮДЗЯМ

*Аповесць*

## VIII

Панядзелак выдаўся зранку пахмурным, і куды паверне — на пагоду ці на дождж — цяжка было вызначыць. Снедалі на кухні, маці выгаворвала ім, што ўчора не купілі хлеба. Пра ўчарашнюю спрэчку нешта не гаварылі, як асцерагаліся, каб не было працягу.

Настрой адпавядае пагодзе, ці пагода настрою, — вырашыў Янка. Але трэба брацца за работу, то і настрой можа паправіцца — і пайшоў секчы дровы. Дошкі, пáкалкі, аполкі, цурбаны сек і калоў, скідаў у кучку, а потым, як збіралася шмат, насіў у адрыну і складаў ля высокай сцяны, каб прасыхалі. Секчы дровы ён любіў, гэты занятак ведаў з маленства, як толькі мог моцна трымаць сякеру ў руцэ, каб яна часам не вырвалася і не параніла ног. Такіх здарэнняў у яго не было, толькі аднойчы, ужо дарослым хлопцам, ён рассек сабе насок левага бота, а каб гэта вясною, ды быў босы, дык меў бы добрую цацку.

Калі ўсё гладка ішло, дык і час ляцеў непрыкметна, толькі правая рука рабілася нейкая цяжкая і непаваротлівая, не такая, як напачатку. Секучы, думаў пра рукапіс, які ён па вечарах ужо пачытваў. Знаходзіў шмат вучнёўства, неспрактыкаванасці, браку прафесіяналізму. Занадта смелыя яны хлопцы, што ўзяліся за такую «тоўстую», вялікую працу. Дзеянне разгортвалася паралельна: у Савецкім Саюзе і ў гітлераўскай Германіі. Тут паказвалася жыццё рабочай сям'і недзе ў Кіеве, дзе галоўны герой працуе на заводзе «Арсенал», вырабляе гарматы, а ў Германіі — эмігрант з Расіі, які тут ужо мае сваю справу, займаецца гандлем, мае нейкае дачыненне да вярхоў трэцяга рэйху… Нешта як бы падобна на тое, што мы бачылі ў кіно, у «Семнаццаці імгненнях»…

Янка не зларадніча́ў, што вось дзівакі ўзяліся не за сваё, таму і вынік адразу відзён… Не, яму было проста шкада людзей, якія патрацілі шмат часу, думалі нешта змайстраваць, спадзяваліся на поспех… Яшчэ цяжка сказаць, як пойдзе далей, мо там яны ўбяруцца ў сілу, падвучацца, авалодаюць майстэрствам — і атрымаецца нешта такое, што варта надрукаваць.

У Янкі ўжо быў вялікі вопыт у гэтым плане, на яго вачах вырасла некалькі пакаленняў маладых празаікаў — а пакаленне ён лічыў дзеся-

цігоддзем. І, як правіла, усе пачыналі з апавядання, рэдка хто з аповесці, тым болей — з рамана. Літаратурная творчасць падобна да любой іншай работы, прафесіі. Перш за ўсё трэба мець талент, адчуванне слова, веданне літаратуры. Той, хто не прачытаў горы кніжак, хоць ён у душы і мае божую іскру, не стане значным майстрам, ён застанецца недавукам, яго творы не стануць адкрыццём нечага такога, чаго мы не ведаем, што здзівіць свет. Пісьменнік павінен прайсці школу: спачатку чытання, навучання, потым — пісання, але свайго, каб яно не было падобна ні на Сервантэса, ні на Бальзака, ні на Талстога ці Караткевіча, а каб яно было тваім ад пачатку да канца, ад клічніка да кропкі.

Як сказаў адзін крытык, кожны значны талент разбурае агульнапрызнаныя каноны і рамкі, бо яму там цесна. Геній, як бульдозер, расчышчае дарогу, і па ёй пачынаюць рух усе тыя, хто не мог прабіцца сам, сваёю сілаю. Сярод іх можа быць нямала значных постацяў, але большасць не захавае свайго следу ў літаратуры.

Усё пачынаецца, як з малога дзіцяці. Яно расце, разумнее, дужэе, яно нечаму вучыцца. І калі яно працавітае, калі яно таленавітае, яно сябе пакажа, пра яго скажуць: вось гэта чалавек! Бо талент і праца — гэта і ёсць геній! Будзь ты вунь які таленавіты, але калі ты гультаяваты, калі ты не працуеш да сёмага поту, ты вялікіх вышынь не дасягнеш. Праз церніі — да зораў! Да таго ж вучыцца трэба змалку, у юнацтве, у маладосці, калі памяць вострая, як брытва, калі ты ўсё запомніш, нічога не прапусціш, нічога не забудзеш. Потым навука да чалавека не надта прыстае, бо ён ужо абцяжараны ўсякімі зямнымі клопатамі, яму не да навукі. І нагнаць, дагнаць тое, што ты павінен быў узяць у юнацтве, пазней не вельмі ўдасца. Да таго ж жаданні мяняюцца з часам, і тое, што цябе раней так моцна цягнула, потым можа здацца табе нецікавым, без чаго ты спакойна пражывеш. Адсюль мараль:выбірай дарогу змоладу, ідзі па ёй і не азірайся. І дасягнеш свайго, і нечага значнага, і пакінеш свой след на зямлі.

І што напісана пяром — не высечаш тапаром, вось гэтаю сякераю, — думаў Янка, секучы і колючы дровы. Сякера — гэта сіла, якая больш разбурае, чым стварае. Ці наадварот: больш стварае, чым разбурае? Вось гэтая суседава хата — нядаўна яе не было. А чалавек з сякераю яе паставіў. А цяпер другі чалавек сячэ ўсё лішняе, што ад яе засталося, што замінае і не лягло на месца. Глупства! Сякера — гэта начынне, зброя. Важна каму, для чаго яна трапіць у рукі. Як аўтамат, як атамная бомба. Не, атамная энергія! Адны хочуць яе паставіць на службу чалавека, другія — яму на пагібель. Чалавек, калі добра падумаць, мог бы зрабіць чалавецтва шчаслівым. Каб... Каб яму толькі далі, каб яму не шкодзілі. Каб яго не разрывалі на часткі: трэба гэта, трэба тое, трэба другое...

Чалавека прывучаюць да думкі, што вайна непазбежна, што без вайны нельга абысціся. А ці так гэта? Навошта чалавеку вайна, мірнаму чалавеку? Яна яму непатрэбна, бо нічога добрага не можа яму даць, апроч калецтва ці смерці. Не, яго пераконваюць, што яму трэба ісці ваяваць, бо на іх напалі, трэба абараняцца. А чаму напалі? Хіба нельга зрабіць так, каб ніхто ні на кога не нападаў? Можна зрабіць! Толькі трэба дамовіцца, толькі трэба, каб кожная дзяржава не лічыла сябе лепшай за ўсіх, а астатнія ўсе — дрэнныя. Не, няхай яны самі рашаюць у сябе, якія яны: добрыя ці кепскія, няхай перарабляюць сябе самі, паляпшаюць, даводзяць да ладу... Ды людзям не даюць вырашаць усё самім, за іх думаюць і вырашаюць іх улады, але толькі іх іменем: імем народа — супроць народа! Мо такога мы не бачылі?

Мо не перажаылі? Яшчэ і як бачылі, яшчэ і як перажылі! «Цярпі, зямелька родная, няма дабра, няма!» — сказаў, здаецца, Якуб Колас. А ён ведаў, што казаў, быў мудрым чалавекам Мысляром! Прарокам! Як ён казаў пра зямлю, тую, што родзіць, што нас корміць? Ніхто так моцна і праўдзіва не сказаў, як ён. Як там? «Зямля дасць волі, дасць і сілы, зямля дагледзіць да магілы. Зямля дзяцей тваіх не кіне. Зямля — аснова ўсёй Айчыне».

А што цяпер зямля? Ад яе адракаюцца, ад яе ўцякаюць. Бо яна не корміць таго, хто яе абрабляе. Ці корміць абы-як, абы ты толькі мог заўтра прыйсці на працу. А заробіш — не разгонішся, не разжывешся. Калі ў цябе жонка і трое дзяцей, а ты адзін працуеш — будуць твае дзеці недаеўшыя, і ты сам будзеш есці бульбу з кіслым малаком. А, як той казаў, па малаку ног не павалаку. Значыць, як той казаў, трэба мяняць сістэму. А другі кажа: трэба мяняць апарат. Хто бліжэй да ісціны? Змяніўшы апарат, сістэма можа застацца. Лепш памяняць сістэму — тады зменіцца і апарат…

Такія вось непрычасаныя думкі, як казаў той Ежы Лец, лезуць у Янкаву галаву, калі ён заняты такою звыклаю для яго працаю. Сякера, як жывая, робіць усё, што ад яе патрабуецца. Яна б'е без промаху, расколвае, сячэ, раўнуе і руйнуе, падганяе пад адну мерку, каб чалавек мог спакойна карыстацца яе справай ўзімку.

Дарэчы, колькі вось так чалавек спальвае дроў за зіму, колькі лесу высякаюць на ўсе такія патрэбы, а чалавечыя лёгкія ўсё менш атрымліваюць кіслароду, усё большыя і большыя робяцца азонавыя вокны ў атмасферы, парніковы эфект перарастае ў экалагічную катастрофу, а чалавецтва як бы і не бачыць усяго гэтага, яно па-ранейшаму развівае чорную металургію, выплаўляе мільёны тон жалеза, з якога клепле ракеты і танкі, самалёты і магутныя дрэдноўты-аэрадромы, атамныя падводныя лодкі, здольныя пускаць атамныя ракеты з-пад вады — у любую кропку зямное паверхні. І гэта ўсё чалавек рыхтуе на чалавека, таму што адзін белы, а другі чорны, адзін жыве так, а другі — інакш, і не хоча жыць так, як жыве яго сусед. Дык вось гэты сусед рыхтуе яму бомбы і ракеты, а той павінен рыхтавацца, каб адбіць напад, не дапусціць тыя бомбы і ракеты на сваю зямлю! І няма спакою! «Цярпі, зямелька родная, няма дабра, няма». Дакуль жа мы будзем самі сабе ворагамі? Дакуль будзем знішчаць да сябе падобных, гэта значыць, самых сябе? Дакуль?

Дальбог жа, галава пачынае балець ад такіх вось супярэчлівых думак, робіцца не па сябе, хочацца недзе ўцячы ад іх, схавацца і падзецца. Але дзе ты схаваешся ад… самога сябе, ад таго, што цябе акружае, што цябе трымае, як на ланцугу, і нікуды цябе не адпусціць? Дзіва, што людзі без меры п'юць, што яны канчаюць жыццё самагубствам, што яны ідуць на злачынствы. Ды ўсё таму, што такі вось неўладкаваны, неўраўнаважаны, такі шалёны гэты свет…

А можа, хопіць на сёння? Пара зрабіць перакур. Янка глыбока ўганяе сякеру ў калоду, спрабуе тапарышча — ні з месца. Потым робіць некалькі рэзкіх рухаў рукамі, выпроствае плечы, паводзіць лапаткамі, — адным словам, ставіць усё на месца.

Цяпер можна прайсціся па траве, па садзе. Амаль у канцы саду, на мяжы поля і поплаву, стаяла-расла цікавая яблыня, па лісці і пладах падобная да пепінкі ці ранеткі, але яблыкі былі ў яе круглейшыя і цвярдзейшыя, чым у пепінкі, звычайна ружавата-залацістыя з сонечнага боку і белаватыя з зацененага. Яблычкі былі проста як каменныя, і калі яны падалі з яблыні, амаль што не заставалася ніякага следу ад удару. А знятыя з яблыні, яны

маглі праляжаць да новых, і нічога іх не брала, нічога з імі не рабілася, толькі мяняўся смак — яны смачнелі і мякчэлі, набываючы сабе цану. І ўся яблыня была ўсыпана такімі вось залацістымі яблычкамі ад ніжніх галін да самага верху, яны ажно ламаліся, не вытрымлівалі цяжару. І ёсць у яе ўверсе вялікая вісячая галіна, якая аддзяляецца ад ствала амаль пад прамым кутом, і калі на ёй шмат яблык, ёсць пагроза, што яна не вытрымае вагі і зломіцца. Вось яе і трэба было ўвесь час падпіраць доўгаю жэрдкаю.

Янка, колькі выходзіў у сад, заўсёды любаваўся гэтаю незвычайнаю яблыняю, яна проста радавала яго душу і весяліла вочы — малайчына, працаўніца, харашуха — проста на зайздрасць гэтым тоўстым разгатым антонаўкам, якія яе акружалі і мала чым адрозніваліся адна ад другое, толькі што галіны былі ў іх таўсцейшыя, мо таму і яблыкі раслі большыя, ды іх не так было шмат, як на гэтай асенняй яблыньцы. Янка падышоў да абцяжаранага дрэва, задраў галаву, аглядаючы ўсю плойму проста да смеху вясёлых залацістых і ружаватых яблычкаў, залюбаваўся непаўторным жывым нацюрмортам, вартым таго, каб быць намаляваным ці хоць сфатаграфаваным на каляровую плёнку. Але ён гэтым, на жаль, не займаўся, калі быў малады, не хапала грошай на апарат, а калі яго падарыў сябра да нейкай яго даты, — дык ужо не засталося таго імпэту, які патрэбен, каб брацца за такую далікатную справу. І цяпер Янка часам шкадуе, што прападаюць іншы раз цікавыя моманты-кадры.

Цераз драцяны плот былі соткі маладога суседа-агранома, трэба будзе спытаць у яго, што гэта за гатунак такі расце ў іх садзе. І яблыня ўжо немаладая, ёй не менш як трыццаць-сорак гадоў.

— Янка, Янка, на абед! — загукала Рагнеда ад парога хаты.

«Вось-вось, — сказаў сабе Янка. — Рагнеда! Гэтая яблыня — уся яна, ад верху да нізу. Яна надта арыгінальная, вырываецца з гэтага пейзажу, але яна яго і аздабляе, прыцягвае да сябе ўвагу. Без яе гэты сад, гэты двор і хата былі б нашмат бяднейшыя, яны проста не мелі б эпіцэнтра, вакол якога ўсё і групуецца. Вось чаму Рагнеду цягне быць тут, застацца і жыць. Яна адчувае сябе часткаю гэтага пейзажу, яна адчувае гэта нутром».

Янка азірнуўся, памахаў ёй рукою, але ісці не спяшаўся. Пра ежу яму яшчэ і не думалася, хоць у садзе ён мог знайсці спелы яблык, сліву ці грушу, якія ўжо падаюць долу, разбіваюцца на кашу.

Падумалася, а ці падабаецца яму тут, у новай сям'і, хоць яна і такая малая, у гэтых вось Жаркоўскіх, маткі і дачкі, і павінен быў прызнацца, што яму тут добра. Мо не так, як было ў бацькі і маткі, то былі родныя людзі, якія яго гадавалі, выводзілі ў свет, а гэтыя — чужыя, але вось становяцца ўжо сваімі, ты ўжо пераплёў з імі свой лёс, сваю жыццёвую дарогу, і хоць ты не ведаеш, як будуць ісці сумесныя дарогі, аднак спадзяешся на лепшае. Адчувалася, што маці недалюблівае старэйшую дачку, але гэта не шкодзіць ім жыць побач, нешта разам рабіць, раіцца, часам спрачацца, нешта даказваць адна адной — часам эмацыянальна, нават на высокіх нотах, асабліва з матчынага боку, а часам нешта ўспамінаць, смяяцца, жартаваць, — так, як і належыць матцы і дачцэ. У адносінах да сябе Янка адчуваў сімпатыю збоку цешчы, але быў у яе і нейкі прыхаваны недавер: вось ён такі, але гэта ўсё на паказ, раптоўна ён можа перамяніцца, бо за плячыма ў яго шмат чаго такога, што пераважыць усё добрае, паказное, і ён зноў пяройдзе ў той асяродак, у якім ён жыў, рос, круціўся і варыўся. Што ён да канца не надзейны, што яму нельга верыць на ўсе сто. І ўсё тое, што яны тут гавораць між сабою, гародзяць нейкія планы — гэта

ўсё паказуха, у думках, у душы ў яго можа быць зусім-зусім іншае. Недавер да сябе Янка не стараўся растапіць, ён паводзіў сябе натуральна, без аглядкі, гаварыў што думаў, не паддобрываўся, хоць і не даваў сабе волі, не забываўся, што ён не дома, а ў гасцях. Ён лічыў, што словамі, якія яны ні былі б расквечаныя, недаверу не растопіш, і толькі час пераканае матку, што яна памылялася, што ён не такі, як пра яго гаварылі, як пра яго яна сама думала. Няйначай недзе паміж сабою маці і дачка гаварылі пра яго, аб чым казала яму Рагнеда на пачатку іх канікулаў, Янка нават упэўнены, што яны спрачаліся між сабою, і маці мо нават знарок дадавала чорнае фарбы ў яго партрэт, каб падражніць дачку, каб яна выкладвала ўсе свае козыры, абараняючы свайго другога абранніка, і гэтым самым развеяць яе ўласныя сумненні наконт зяця Янкі.

З аднаго боку, яна магла цаніць яго як пісьменніка. Дачка знайшла сабе пісьменніка! Гэта не так проста ў наш час. Афіцэра можна хутчэй, як яе малодшая Альбіна, а вось каб пісьменніка, дык тут складаней. Хоць за другім разам… Ну, няхай ён там сярэдні пісьменнік, зорак з неба не хапае, на грудзі сабе не вешае, на пагоны таксама, бо ў яго тых пагонаў няма, як у Альбінінага мужа, але ўсё ж такі… Да таго ж зямляк, разам вучыліся, аказаўся хлопец з галавою. Хоць і выпіць любіць, і да дзевак схадзіць ахвотнік. Гэта яна чула з чужых слоў і не была ўпэўнена, што так яно і ёсць, што гэта чыстая праўда, мо хто знарок чэрніць чалавека, зайздросціць яму ці мае якую злосць. Але ж, як кажуць, дыму без агню не бывае. А яго адносіны з першаю жонкаю, яго ўцёкі з сям'і — да яе дачкі… Смерць былое жонкі праз год ці колькі… Таксама нейкая таямніца, нейкая загадка. Але там яна ўжо не разбярэцца, ды і не яе гэта клопат. Хай будзе на яго сумленні, можа, ён вінаваты, а можа, і не, Бог яму суддзя. Можа, і яе дачка мае тут нейкую долю віны, цяжка сказаць… Дачка малюе яго ружовымі фарбамі, усяляк абараняе: яна яго лепш ведае, чым іншыя, яна тое, яна гэта… Але хто можа ведаць чалавека, калі ён прайшоў вунь якую дарогу адзін ці з кім, пакуль стаў побач з табою? Ды што тут вельмі разважаць, шукаць нейкія канцы? І ў яе, і ў яго дарога ўжо напалову пройдзена, а якая яна была дагэтуль — адны яны ведаюць. А якая будзе далей — ніхто не ведае. А мо так і лепей…

Зноў на ганку пачуўся Рагнедзін голас:

— Янка, дзе ты? Чакаем!

— Іду! — адказаў Янка і пакіраваў да калодзезя, памыў рукі і твар. Рукі ў яго загрубелі, былі паабіваныя, падрапаныя, як у якога няўдалага работніка, нават з чорнымі паддужкамі пазногцяў. Так яно і было: рукі таксама праходзілі практыку, вучыліся нанова — і не ўсё ішло гладка.

У хаце пахла гатаванымі стравамі, хоць пераважаў кроп. Была смажаная бульба з яйкамі, яшчэ нешта — як боршч: хоць распеkäжыся.

Янка сеў на сваё месца, маці дастала няскончаную пляшку віна, наліла яму чарку — аднаму.

— Чым гэта я так заслужыў? — здзівіўся Янка і зірнуў на Рагнеду. Тая толькі хітра ўсміхнулася, нібы ведала нейкі сакрэт, але не хацела яго выдаваць.

— Сёння ты вельмі ўжо стараўся, — сказала маці. — Рагнеда проста хацела ісці цябе пацалаваць за такое стараннe.

— Мне здаецца, я сёння махаў сякераю, як і ўсе разы, — адказаў Янка. — Мо трохі прывыкаю, спрытней рукі ходзяць — гэта іншая рэч. То дзякую, за ваша здароўе, — сказаў ён і павёў чаркаю — ад маткі да дачкі.

Выпіў, пахваліў віно і стаў закусваць. Еў не спяшаючыся, добра пера-жоўваў, як па парадзе дактароў, хоць гэта ў яго атрымлівалася само сабою. Ён быў павольны ў ядзе, як і ў працы, нібы з таго анекдота: пан наймае работнікаў, але адразу садзіць іх за стол і дае есці. І тых, хто першы з'ядаў сваю норму, браў на працу. Але часам хто спяшыць, той людзей смя-шыць — ёсць і такая прыкмета.

— Я вось паглядзела на тваe рукі, Янка, ды ўспомніла адзін выпадак, які са мной быў даўно, яшчэ за польскім часам, як мы тут жылі, покуль нас на захад не перакінулі.

— Раскажы, мама, нешта я не памятаю, — папрасіла Рагнеда, яна сядзела побач з Янкам і сёрбала боршч з глыбокай талеркі.

— Было так. Бралася ўжо на вечар, шарэць пачало. Дома я чамусьці была адна. Раптам на дварэ тупат ног, нехта стукае ў дзверы, я адчыніла — бачу, два маладыя хлопцы, апранутыя як вясковыя, у простай вопратцы. Павіталіся ды просяць: мо дасце нам чаго павячэраць, вось колькі ў даро-зе, стаміліся. Я запрасіла іх на кухню, наліла па місе вось такога баршчу, пакідала назаўтра, дала хлеба. Яны шапкі паскідалі, ядуць і хваляць. Ды кажуць, што гэта ж яны ідуць за мяжу, у Саветы, тут ім жыцця няма. Сталі лаяць польскія парадкі, хваляць савецкія. Гавораць па-беларуску, але ней-кія яны як надта выгладжаныя для вясковых хлопцаў. Я толькі глянула на іх рукі і падумала: не, хлопчыкі, рукі ў вас не сялянскія, не такія, як вось у Янкі, хай ён толькі не пакрыўдзіцца. Не стала я ім паддакваць, кармлю іх і думаю: выбірайцеся вы хутчэй адгэтуль, ніякія вы не палітыкі, што ўцяка-юць ад паноў у савецкі рай. Тады я і сама верыла ў тое, што нам па радыё гаварылі з Мінска і Масквы. Павячэралі яны і пайшлі. Потым стала вядома, што гэта былі пераапранутыя паліцыянты, якія ішлі па слядах нейкіх уцека-чоў і заходзілі па дарозе да сяго-таго: а раптам і клюне хто на іх кручок?

Скончыўшы пра сябе, яна пачала пра мужа — як яго ўзялі паны на заметку, што ён быў камандзірам у Чырвонай Арміі... У іх была нянька, дaглядала дзяцей. Чагосьці трапіла ёй у рукі фатаграфія Паўлавіча ў вай-сковай форме, яна павесіла яго ля свайго ложка і ўсім казала, што гэта яе нарачоны. І вось гэты амаль што жарт перарос у сур'ёзную справу: яго і ўсю іх сям'ю выслалі адгэтуль на Палессе, недалёка ад Картуз-Бяро-зы. Але і там яны доўга не пажылі, іх зноў перакінулі на захад, ажно на Пазнаньшчыну, на мяжу з Германіяй. Бацька па-ранейшаму настаўнічаў, а яна сама вяла ў школе ручную працу, вучыла дзяўчынак вязаць-вышы-ваць і ўсякаму іншаму, што ім трэба ведаць у жыцці.

У іх сям'і частым госцем стаў ксёндз Максімільян Мругас, стары ўжо чалавек, вельмі набожны, які заапекаваўся іхняю Рагнедай. Мругас шмат перажыў. Калісьці ён ездзіў з багатым памешчыкам у Італію. У пана памешчыка была вельмі прыгожая жонка. Там, у Італіі, яна знайшла сабе прыгожага каханка. Аднойчы пан застаў іх у пасцелі — і застрэліў абаіх. Ксёндз Мругас, тады яшчэ зусім малады, мазаў мірам іх целы і адпяваў, праводзіў у апошнюю дарогу.

— Мругас, ужо пазней, меў пакаёўку, закахаўся ў яе, яна нарадзіла яму некалькі дзяцей, потым выдаў яе замуж, доўга ёй памагаў, купляў...

— Мама, ну што ты гаворыш? — перабіла яе Рагнеда. — Гэта ў друго-га ксяндза была такая гісторыя з пакаёўкай. А ў яго былі дзве незамужнія сёстры, яны даглядалі яго, кармілі, вялі гаспадарку.

— Шмат вельмі ты ведаеш, — незалюбіла маці Рагнедзіных слоў. — Якая ты тады была, што магла бачыць ці ведаць пра яго?

— Ва ўсякім разе, Мругаса я ведаю... ведала мо лепш за цябе, я ў яго кампаніі праводзіла мо пяць гадзін у дзень. Ён вучыў мяне не толькі маліцца, ён вадзіў мяне ў сваю карцінную галерэю, расказваў гадзінамі пра італьянскае Адраджэнне, пра Бацічэлі, Рафаэля, Леанарда да Вінчы, шмат пра каго. І разказваў, чым яны адрозніваюцца адзін ад аднаго, што галоўнае ў іх творчасці. «Сікскцінская мадонна», «Тайная вячэра» — ён мог гадзінамі гаварыць пра іх, я слухала яго як чароўную музыку, у мяне мурашкі бегалі па спіне, на вачах былі слёзы ад яго прачулых слоў... А калі мы гулялі на прыродзе, у яго англійскім парку, дзе былі стрыжаныя зялёныя газоны, дрэвы, падстрыжаныя таксама — кубы, шары, піраміды, — ён так цікава расказваў, так мог захапіць апавяданнем, што здаецца — ты не на зямлі, а недзе ў нейкім раі, эдэме, і гэта з табою гаворыць не проста ксёндз Мругас, а нейкі прарок, апостал, нехта адтуль, з нябёсаў... — Рагнеда так захапілася ўспамінамі маленства, што проста не магла спыніцца.

— Цябе нельга было адарваць ад яго, як тую пчалу ад мёду, — пацвердзіла маці, нават усміхнулася неяк прыязна і цёпла.

І тут Янку пацягнула за язык спытаць:

— Гэта ксёндз Мругас падаў вам думку перахрысціць Рагнеду ў каталічку?

Ёсць такія тэмы, што лепш іх не чапаць, хоць табе і цікава. О Божа! Як на яго глянулі маці і дачка, як змяніліся іх твары, сталі чужымі і халоднымі, непрыязнымі і злымі. Яны глядзелі на яго як на круглага дурня, на ёлупня, на апошняга асталопа. Янку хацелася праваліцца праз зямлю, але слова не верабей, паляцела і не зловіш, ні на якія зярняткі яно не вернецца.

— Ты разумнейшага нічога не прыдумаў? — ледзяным тонам спыталася ў яго Рагнеда, ірванулася з-за стала і выскачыла за дзверы.

— Такога я ад вас не чакала, — перайшла на «вы» маці, павольна ўстала з-за стала і пакіравала на кухню.

Янка застаўся адзін за сталом, адзін са сваім недарэчным пытаннем, на якое ніхто не захацеў адказаць, хоць яно было простае, як двойчы два, і ён цяпер на яго адказаў бы і сам, і не трэба было б пытацца ў іх, гнявіць і злаваць, сыпаць соль на раны, якія ўжо даўно зажылі. А мо і не зажылі? Чаму яны, жанчыны, нечакана востра адгукнуліся на такое простае, здавалася б, пытанне? А каб жыў Рагнедзін бацька, ён адказаў бы Янку на такое пытанне? Відаць, адказаў бы спакойна, як мужчына мужчыну. І Янка пачуў бы нешта такое: «Ведаеш, хлопча, жыццё складанае, яно ў некалькі столак, не ў адну. Як у адну — і рвецца часцей, па законе: дзе тонка, там і рвецца. Чаму я згадзіўся перахрысціць яе ў каталічку? Па простай прычыне: яна ў нас здольная дзяўчынка, яна мо нават адораная, таленавітая. У яе вялікае, можа, нават і вельмі, будучае. Для гэтага ў яе ёсць усё, бракуе толькі дробязі: яна не каталічка. А ў нас як? Праваслаўны — ты рускі, католік — ты паляк. Простая, як двойчы два, арыфметыка. Мы падумалі, што без гэтае дробязі яе біяграфія будзе шэранькая, у яе проста не будзе крылаў, яна не ўзляціць. Яна будзе курыцаю, а не арліцаю. Такую думку, дарэчы, нам убіў у галаву ксёндз Мругас, наш часты госць і прыяцель, які апекаваўся Рагнедаю і ўжо тады зразумеў, і нам дапамог зразумець, што гэта не простае, а вельмі адоранае дзіця, што яму многа дадзена. Што яго трэба ў час падтрымаць, даць яму крылы. І мы з жонкай згадзіліся. Хоць тыя крылы далёка яе не занеслі, высока не ўзнялі... Можна сказаць, яе крылы апаліла вайна. Вайна змяніла лёс мільёнаў, што тут казаць? Адны да часу пайшлі на той свет, жывыя цяжка выходзілі на роўную дарогу. Праўда, не ўсе аднолькава: адным было

цяжэй, другім лягчэй, тут таксама ў кожнага свой лёс, сваё наканаванне. Рагнедзе не пашэнціла, і нават двойчы. Першы раз — што пайшла ў лесатэхнічны інстытут, па маёй падказцы: ты будзеш лесніком, я буду ў цябе, як на курорце… Тут мая вялікая памылка… Другая памылка ўжо яе, што выйшла замуж — на першым курсе — за свайго выкладчыка, развядзёнца, і нашмат старэйшага за яе, аматара выпіць… Вось гэтыя дзве фатальныя памылкі зламалі яе жыццё. Усе яе таленты прапалі марна. Ёй патрэбен быў філфак, яшчэ лепей — мастацкі інстытут, у яе талент мастака. У яе талент педагога, нават артыста — з яе знешнасцю… А яе абселі дзеці, яна кінула вучобу — і ўсё скончана. Ледзь змагла adолець медыцынскі тэхнікум, пайшла ў медсёстры. Вось яе вышыня! З усімі яе талентамі. Адзінае дасягненне — што яна, можна сказаць, адна выгадавала двух сыноў, паставіла іх на ногі. Іх тут жа ўзялі ў войска, убачылі, узрадаваліся, не забылі… Аднаго і другога за ім: ніякай скідкі, ніякай адтэрміноўкі! Памятаеш у Шаўчэнкі, хоць па-руску: «Недомерки да калеки у богатых дети. А у вдовы один был сын — годен, ровно под аршин». А ў яе забралі двух. А праз год адзін вяртаецца з Поўначы, недзе з Нарыльска, інвалідам, як з вайны — адмарозіў рукі, аднялі пальцы… Такі вось лёс напаткаў Рагнеду…»

Нешта падобнае мог бы сказаць пра Рагнеду чалавек, які ведаў яе з малых гадоў, ішоў побач з ёю, вёў яе за руку. «А чаму вы назвалі яе Рагнедаю? — спытаўся б Янка ў таго чалавека, які быў яе бацькам. — Чаму не Ядвігай, напрыклад?» І пачуў бы мо такі адказ: «Так і стаяла пытанне: Усход ці Захад? Пераважыў Усход — хай будзе князёўна беларуская, крывіцкая, чым каралева польская. Хіба гэта мела якое значэнне? Ніякага, але для жанчыны — гэта вунь што — палова жыцця. А мо каб назвалі Ядвігай, лёс яе быў бы інакшы, цікавейшы? Кажуць, што ад імя шмат залежыць… Але нешта не верыцца…»

Паразважаўшы над сваімі ўласнымі адказамі на свае ж пытанні, Янку стала як бы лягчэй, ён не адчуў сябе такім ужо вінаватым, як яго зрабілі жанчыны — жонка і цешча. Мо гэта і было з яго боку трохі бястактна, груба, але ж асаблівай крамолы ён тут не бачыў: ён жа не прыдумаў гэты факт, ён адбыўся, а калі адбыўся, дык можна яго і тлумачыць, аналізаваць — а чаму, а як? Тым болей, што падзея была так даўно! А вось жа для іх яна засталася нейкім болем, які баліць яшчэ і дагэтуль. Дзіўны народ гэтыя жанчыны! Ну добра, ён папросіць у іх прабачэння, як ён сам смяецца з некаторых вяскоўцаў — скажа «звініце».

Цікава, што прайшло мо хвілін дзесяць, а ён, як аглушаны, сядзеў за сталом, а чаго чакаў — і сам не ведаў. Устаў, агледзеў стол — яшчэ шмат было недаетага-недапітага, абед перарваўся мо на сярэдзіне — якое марнатраўства! Але пайшоў на двор, нікога са сваіх не ўбачыў, пакіраваў да дрывотніка. Узяўся за тапарышча, тузануў-націснуў — не паддаецца, ледзь выдраў з калодкі — так глыбока загнаў. Тут у яго засталося не так і шмат работы — расколоць і пасекчы некалькі дошак, сукаватых калодак-цурбакоў, абрэзкаў і трухляватых бярвенцаў — няйначай ляжалі на зямлі пад якім матэрыялам.

За работай думкі яго патроху сталі траціць суцэльную плынь, ён стаў уваходзіць у азарт, сачыў, каб не прамахнуцца, каб секануць там, дзе трэба — не па суку, а між сукамі, тады будзе толк. Але думкі, як назойлівыя мухі, не адставалі, зумкалі, кусалі, лезлі ў вочы сляпіцаю. Ну навошта табе было пытаць пра такія даўнія сямейныя таямніцы, ці варта было здзьмухваць з іх стары пыл? Мог бы спытаць у самой Рагнеды, мо яна ўспрыняла б тое пытанне як звычайную чалавечую цікаўнасць — і не

знайшла б у ім ніякай абразы ці чаго непрыстойнага. Проста ён выбраў няўдалы момант, у яго не хапіла такту даслухаць увесь аповед да канца…

А цяпер вось будзеш думаць, як вярнуць страчаныя пазіцыі, і яшчэ невядома, ці вернеш. Урэшце, гэта не такая ўжо і вялікая драма, як ён сабе размаляваў, неяк абыдзецца… Думаў, што зробіць заўтра: трэба паправіць вароты, плот у некаторых мясцінах — замяніць гнілыя штыкецiны, павязаць у пучкі і знесці ў паветку ўжо даўно пасечанае галлё ў садзе. А як будзе добрая пагода, дык мо давядзецца з'ездзіць з Рагнедаю і сястрою Жэняю ў вёску, дзе яны жылі, дзе пахаваны іх дзед і бабка, схадзіць на могілкі.

Работа пасоўвалася добра, без усякіх зігзагаў, кучка пасечаных дроў усё расла, а тая, што павінна быць пасечанай, усё меншала. Нарэшце пакалоў апошні сукаваты цурбанок, панасіў дровы ў адрыну, схаваў сякеру, пайшоў пад калодзезь памыцца. Цікава, што жанчын яго не было відаць. Маці, хутчэй за ўсё, пайшла да суседзяў на тэлевізар, а Рагнеда мо хіба накіравалася ў горад, у краму.

Прайшоўся па садзе, але сёння ў яго настрой быў не «філасофскі», і яго пацягнула ў хату, да тоўстага рукапісу, які ішоў нешта вельмі марудна.

Узяўся чытаць, але адчуў, што не можа — хоць што хочаш рабі. Мо настрой і тут быў вінаваты — хутчэй за ўсё. Пашукаў вачыма на этажэрцы — і знайшоў апавяданні Чэхава па-беларуску, выданне адразу пасля вайны. Хто пераклаў — невядома, рэдактар — Кандрат Крапіва. Мо сам і перакладаў? Але не, не быў бы рэдактарам, ёсць такое правіла. Мо Сцяпан Майхровіч, тады дырэктар выдавецтва? Можа, і так. Пераклад быў сярэдні, як на той час — то і не благі, а як на цяперашні — слабы… Шмат ка́лек з рускае мовы, русізмаў, як капля, адзежа…

Усё гэта чытана, праўда, па-расейску, але чытана даўно, а цяпер яго чытаеш як першы раз — і бачыш, які Чэхаў культурны, глыбокі пісьменнік, які ён аб'ектыўны ў ацэнцы сваіх герояў. Апавяданне «Мужыкі»… Гэта такая сіла, што нам, цяперашнім, трэба павучыцца так паказваць народ. Вельмі сурова, хоць і са спачуваннем, з болем сардэчным, але з дакорам, з крыўдаю за людзей, за іх некультурнасць, дзікасць, п'янства, за гэтую вечную рускую лаянку, якая ідзе за рускім чалавекам, як цень… Ці пра выхрыстаў: «Выхрыст паставіў 12 банек і потым яшчэ 12, напіўся чаю і паехаў». А хворы пад раніцу памёр — банькі «наразаныя», пускаць кроў… Трэба будзе яшчэ перачытаць «Палату № 6», як яна гучыць сёння, — вырашыў сам сабе Янка.

Ён так зачытаўся, што не пачуў, як вярнулася Рагнеда. Відаць, яна яго шукала па ўсім пляцы і вось зазірнула ў спальню, а ён ляжыць на ложку і чытае, абапёршы галаву на руку. Янка зрабіў выгляд, што не чуе яе і не бачыць. Яна падышла да яго, села на ложак у нагах. Здаецца, настрой у яе ўвайшоў у норму, яна спакойная.

— Ну што, нягоднік, зачытаўся? — спыталася гучна, але мірна. Слова «нягоднік» было ў яе хадавым і ўжывалася хутчэй у жартоўным сэнсе, без усякай злосці.

— Ведаеш, я хацеў схавацца дзе-небудзь ад вас, але пасля падумаў: дзе ад вас схаваешся? Судзіце, як вінаваты. Гатоў адказваць, мэа кульпа — мая віна, як казалі некалі рымляне.

— Сваю віну ты будзеш доўга замольваць, асабліва перад мамаю. Ды і я табе буду часта пра яе нагадваць. Гэта будзе такі хвост. Як чуць што — і цябе адразу за балючае месца.

— Што за намёкі? Ці я цябе не так зразумеў? — ажывіўся Янка і адклаў кніжку. — Што за хвост?

— А такі. Гэта робяць спецыяльна, каб трымаць чалавека пад кантролем. Хіба ты не ведаеш? — здзівілася Рагнеда.

— Адкуль мне ведаць? Дагэтуль у мяне хвастоў не было.

— А вось цяпер будзе. Хоць адзін…

— Дык выходзіць, што і я цябе пацягнуў за… балючы хвосцік? Але я не хацеў, звініце!

— Я табе зараз зазвіню! Па тваёй надта вумнай галаве, — прыгразіла Рагнеда. — Яшчэ пабачым, што табе мама скажа.

— Вось я і думаю: а што будзе? Чаго мне чакаць?

— Вельмі ўжо не бойся, — супакоіла яго Рагнеда. — Але зрабі выгляд, што ты проста калоцішся ад страху. Тады яна цябе пашкадуе. Як вось я, — і яна абвіла рукамі яго шыю, прытулілася тварам да яго і моцна пацалавала ў шчаку. А потым сказала: — Хоць ты і не заслужыў, нягоднік…

## IX

На чацвер выпаў святы Спас. Пагодка з самага ранку — як па заказе. Янка падахвоціў Рагнеду паехаць разам з ім у яго родную вёску Дабрынічы. Па дарозе трэба толькі забраць сястру Жэню, якая таксама не была там некалькі гадоў, схадзіць на магілкі дзеда і бабкі. Калі ісці пешкі, дык туды ўсяго дзесяць кіламетраў. Некалі Янка хадзіў адтуль у горад пешкі, потым — на ровары. А цяпер людзі адвыклі хадзіць — падавай ім аўтобус. Вось яны і чакалі дзёнешняга аўтобуса — недзе ў гадзіну дня ці трохі болей. Прыехалі ў Прышчэпы, забралі Жэню — якраз аўтобус спыняецца каля іхняй хаты. Прамінулі адну вёску, праехалі яшчэ пару кіламетраў — і выйшлі з аўтобуса, тут ім трэба было крута вярнуць на поўнач, на вёску Гускі, а адтуль ужо і не так далёка да іх роднае вёскі.

Спераду ў іх ішла нейкая маладзіца ў цёмным свэтры і ў чорных кароткіх штанах, з невялікаю сумкаю-пакетам, якою яна моцна размахвала і нешта спявала — ці не была пад мухаю. Дарога пайшла ўніз, некалі тут на прадвесні бегла вада, утваралася цэлая рэчка. Во тут ляжаў вялізны прадаўгаваты валун, але ад яго ўжо не засталося і следу. Вёску Гускі не пазнаць — так разраслася, забудавалася хатамі да самай чыгункі, а гэта кіламетра паўтара. І хаты добрыя, вялікія, крытыя гонтаю або шыферам. Што ні кажы, што ні рабі, а людзі неяк умудраюцца і жыць, і будаваць, жаніцца і гадаваць дзяцей. Жыццё невынішчальнае.

Ля чыгункі, якую, дарэчы, меў дачыненне будаваць і сам Янка, ён хадзіў, ужо падлетак, за сваю старэйшую сястру, ля гэтай чыгункі размяшчалася цэлая сям'я старых шведскіх курганоў, ужо невысокіх, пляскатых, злізаных часам, усё роўна як копы сена, якія доўга стаялі і іх упляскалі дажджы. А цяпер іх не было і знаку — голае роўнае поле, свежа заараное і пабаранаванае, на якім нешта збіраюцца сеяць. А мо ўжо і пасеяна, але яшчэ не ўзышло. Хоць сеяць яшчэ ранавата… Не, не пасеяна, бо на полі не відно ні воранаў, ні гракоў. На пасеяным яны так і пасуцца, прылятаюць нават і галубы, а цяпер ужо кнігаўкі-чайкі.

От такую загадку і загадаў кабетам Янка, і вось які быў вынік: гарадская Рагнеда, падумаўшы, адказала, што не ведае, а вясковая Жэня адразу сказала, што не пасеяна — няма ніводнага грака ці вароны.

Ад чыгункі прайшлі нейкую вярсту — і тут ужо былі раней дабрыніцкія хутары, а цяпер — роўнае поле, праз якое крочаць слупы высокавольтнай лініі, толькі цяжка сказаць: з усходу на захад ці наадварот. А раней

тут стаялі хаты, былі сядзібы — Бамбешкі, Драгуны, Пільневічы, Савашы, Ленкаўцы, Язэпчыкі, Пальчыкі. Цяпер іх хаты перабраліся ў вёску, у гурт.

— Вунь гляньце, той слуп стаіць якраз на нашым полі, — сказала Жэня і паказала рукою на высозны бетонны слуп, які нёс на сабе тры ніткі правадоў. — І тое дарогі, па якой мы хадзілі і ездзілі, і следу няма. — Яна скінула свой свэтар і засталася ў светлай кофце з кароткімі рукавамі, разагрэлася ад хады і нібы памаладзела. — А вунь ля могілкаў стаялі дзве хаты, жылі два браты з сем'ямі. Браты паўміралі, а іх дзеці-ўнукі перасяліліся ў вёску, недзе там жывуць. Адны дрэвы засталіся… А колькі гэта гадоў прайшло, як з вёскі на хутары высялялі, — спыталася яна ў Янкі, хоць тады іх яшчэ не было на свеце.

— Недзе адразу, як скончылася вайна, пасля ўсіх паходаў і ўцёкаў, як тут запанавалі палякі. Пяцьдзесят гадоў з хвосцікам. А мо нават пры цары, сталыпінская рэформа вёскі…

— Дык бачыш, за нейкіх два-тры пакаленні людзей то выганяюць на хутары, то потым іх зноў зганяюць назад. Людзі не паспеюць моцна пусціць карані, як тут іх жыўцом выдзіраюць. Вось тут і жыві! Дзіва, што людзі цяпер не трымаюцца наседжаных месцаў, разлятаюцца па свеце…

Могілкі сустрэлі іх спаважным шумам высокіх таполяў на старой палавіне, клёнаў і вішняў, дзічак-грушаў. Плошча могілак, як падалося Янку, павялічылася ўтрая, і там, дзе хавалі людзей апошнім часам, дрэў яшчэ амаль не было, сядзелі часам кусты бэзу і акацыі ля той ці іншай магілкі. Трохі пахадзілі, покуль знайшлі сваіх дзеда і бабку, якія былі пахаваны ў старой частцы могілак. У іх былі прыклады, ляжачыя помнікі, і нават не абгароджаныя, як гэта робяць цяпер: ставяць абеліскі і абгароджваюць. Усё мяняецца, усё не стаіць на месцы…

Яны пастаялі, памаўчалі. Жэня ўспамінала нешта сваё, Янка — сваё. Ён як праз сон помніў свайго дзеда Паўлюка, але добра запомніўся эпізод, калі яны разам — стары і малы — хадзілі са свайго хутара ў вёску глядзець на самагубцу, панскага парабка, які застрэліў дзяўчыну, што не захацела выйсці за яго замуж, а потым — сябе. З панскага нагана… Недзе тут блізка ад іх дзеда і бабкі стаіць помнік той дзяўчыне, што пайшла з жыцця без пары.

Прайшліся трохі па новых могілках: абеліскі, агароджы, часам лепшыя, часам горшыя, а часам нават пышныя, калі так можна сказаць пра тое, што стаіць на могілках. А прозвішчы — такія да болю знаёмыя, такія блізкія імёны, часам твар знаёмы глядзіць на цябе з чорнага абеліска — твой равеснік, а ён ужо ляжыць тут. Куды ж ты спяшаўся, браце? На аднаго старога — пяць маладых, сярэдняга веку — шмат самагубцаў, тых, што загінулі ў аварыях і катастрофах: нават дзеці…

Такое вось цяперашняе жыццё. Тэхнічны прагрэс сваім катком ломіць перш за ўсё чалавека, бо ён далікатны, без жалезнага панцыра…

Тое, што адчуваў Янка, цяжка перадаць: ён нібы апынуўся тут голы сярод сваіх, тых людзей, якіх ён пакінуў яшчэ ў маладосці і пайшоў шукаць лёгкага хлеба, хоць ён ведаў яшчэ з беднага свайго досведу, што лёгкага хлеба не бывае, і малайцы тыя, што не кідаюцца яго шукаць, а застаюцца тут, з бацькамі, у сваіх сем'ях, жэняцца, нараджаюць дзяцей. Вось на такіх і трымаецца зямля і ўсё жывое на ёй, хоць іх па-сапраўднаму не цэняць, кажуць: вось куркулі, не хочуць кідаць сваіх цёплых гнёздаў, не едуць будаваць камунізму, а ядуць сваё сала, п'юць самагонку — і ім гэтага досыць…

Было так, што Янка спачатку зайздросціў тым, хто падаўся ў свет і знайшоў недзе там, далёка, сваё шчасце, а потым, пажыўшы і сам за светам — не

так ужо і далёка, але ж — за светам! — ён ужо стаў зайздросціць тым, што засталіся на гэтай зямлі, завялі свае сем'і, свае гаспадаркі, гадуюць дзяцей, сталі шафёрамі, трактарыстамі, паляводамі, пыняць бясконцую сваю сялянскую працу, па святах — ды і да свят — выпіваюць, шумяць, пяюць песні, але не такія стройныя і мілагучныя, як раней, калі вёска была як вёска, а горад — як горад. Цяпер гэтай мяжы амаль не відаць, яна сціраецца, бо шмат хто ў вёсцы ўжо мае сваю машыну, ён ужо не прывязаны наглуха да свайго двара, як на якары, а можа ў вольную часіну недзе адскочыць, нешта купіць, памяняць, прадаць — машына яшчэ яму патрэбна як сродак лепей жыць, шпарчэй круціцца, каб мець з гэтага нейкую выгоду. Выгоду — і толькі!

Пра культуру можна і не гаварыць. Пра культуру няма калі думаць, ды без яе ўрэшце можна неяк пражыць — во колькі яны жывуць — і нічога. Галоўнае, каб не крычаў пусты жывот, каб яму быў занятак, а ўсё астатнее прыкладзецца. Чалавек, сам таго не заўважаючы, прыпадабняецца жывёле, для якой ежа — галоўнае, астатняе не так ужо і важна, якое яно — цёплае ці халоднае. Лепш каб цёплае, але…

Янка адчуваў сябе як голы, у яго была аголена душа, яна балела ад кожнага нязначнага дотыку, ад кожнага ўспаміну, ад знаёмага ці блізкага прозвішча, імені, фатаграфіі на абеліску — ад усяго таго, што давялося яму тут перажыць за гэтыя часіны, ходзячы вось па гэтых сцежках, гразкіх дарогах, па зарослых могілках, на якіх шмат яго продкаў, шмат дзядзькоў і цётак, ляжыць нават яго родны брацік, які памёр у вайну пасля родаў…

І сёння ён многа даў бы, каб апынуцца тут аднаму, без сястры і жонкі, тут ён мо пастаяў бы на каленях, паплакаў бы над сваім лёсам і лёсам вось гэтых усіх — мо ўжо некалькіх тысяч — людзей, што знайшлі сабе вечны спачын пасля нялёгкага і не заўсёды складнага зямнога жыцця, што пайшлі з яго адны ў старасці, другія ў маленстве, пасля нараджэння, трэція — у сярэднім веку, калі можна было жыць ды жыць. Ён ішоў тут як босы па бітым шкле — і адчуваў скураю кожны востры адколак гэтага шкла, які ўпіваецца яму ў скуру падэшваў ног. Ён ішоў і нібы бачыў на сабе скіраваныя вочы-душы ўсіх, хто тут сёння ляжыць, і сваіх бабкі і дзеда, і ўсіх-усіх, хто яго ведае і не ведае, і яму хацелася ім сказаць: «Даруйце, мае дарагія сваякі, крэўныя, землякі, што я яшчэ не з вамі, што я хаджу яшчэ па зямлі, і хоць рэдка, але яшчэ прыходжу ў госці да вас. Мы, жывыя, вельмі-вельмі шмат вінаватыя вам, бо гэта вы першыя прайшлі па тых дарогах і дарожках, вы першыя іх праклалі і пратапталі, а нам за вамі ўжо лягчэй і лацвей ісці. За гэта сёння мы скажам вам толькі дзякуй. А яшчэ вам вялікі дзякуй за тое, што вы пакінулі на гэтым свеце сваіх нашчадкаў, што свет не звядзецца, бо вы паклапаціліся пра ўсіх жывых. Я, мая сястра Жэня — мы дзякуем вам, нашы дзед Павал і бабка Ганна, што мы жывём, што мы ходзім па свеце, радуемся і плачам, цешымся і гаруем, што робім, як усе людзі, каб род наш не звёўся, не прапаў без следу на гэтай грэшнай і святой зямлі. Мы вас шануем, мы вас любім, мы памятаем вас і не забудзем, покуль мы жывыя, покуль нам адведзена Богам. Спіце спакойна, дарагія людзі! Мы памятаем вас!»

Нешта вось такое сказаў бы Янка на развітанне. Цяжка было на сэрцы, і разам з тым ён адчуваў, што цяжар патрохі змяншаецца, растае, хоць у нейкай малой меры ён скінуў з сябе тую віну перад гэтымі людзьмі, якую ён адчуваў заўсёды: жывы вінаваты перад нябожчыкам — ужо нават тым, што ён жыве — яшчэ жывы. Міжволі ўсплывалі прачулыя радкі з «Чыгункі» Някрасава: «Братья! Вы наши плоды пожинаете, нам же в земле истлевать суждено. Всех ли нас, бедных, добром поминаете или забыли

давно?..» Някрасаў гаворыць як бы ад імя тых, хто ўжо адышоў у іншы свет, і спадзяецца, што жывыя не забудуць тых, хто адышоў, і будуць удзячны за «плоды», якія яны пажынаюць. Каб жа яно так і было… Але мудрыя словы Някрасава ніколі не састарэюць, яны будуць і будуць біць нам у сэрца, будзіць наша сумленне, ачышчаць яго ад усякіх дробязяў жыцця.

Яны ўсе трое, задуменныя, нейкія як пасвятлелыя, нібы яны толькі што былі ў храме, выйшлі з могілак, зачынілі весніцы агароджы і накіраваліся да вёскі, да якой было рукою падаць, — мо якіх метраў трыста. Дарога вяла цераз мост, а яго фактычна і не было, усе дошкі былі паздзіраны, трэба было ісці па бэльках. Ну а праехаць можна было збоку, па поплаве, дзе пасля дажджу лёгка загрузнуць, асабліва з цяжкім грузам. А вясною тут цэлае разводдзе, вада імчыць не так пад мостам, як цераз дарогу, дзе яна апускаецца ніжэй і не мае насыпу. Патрэбен рамонт, а яго няма. І так цягнецца не адзін год. Вёска толькі дае, з яе бяруць, як з бяздоннага калодзезя, а каб даць ёй — нешта не выходзіць.

Вось яны ў вёсцы, мінулі першыя хаты, выбіраюць сушэйшую сцежку, каб не замачыць абутку. Янка зазірнуў у двор дома злева, але на дзвярах вісеў замок. Тут жыў яго школьны сябра Лявон Пальчык з сям'ёю, а вось жа недзе сёння яны адлучыліся. Пайшлі далей па вуліцы, аж у канец старой вёскі, у ёй некалі жыў дзед Павал з бабкаю Ганнаю, а вось жа перайшлі на хутар, а потым вярнуліся пад таполі, зноў бліжэй да вёскі…

У канцы вуліцы стаяла школа ў старым садзе, і школа была домам старое пані, як і вялізны сад, які перайшоў у калгас, а дом — пад школу, а сама пані недзе пераехала да маладых сваякоў у другую вёску. У гэтай школе вучылася Жэня, а Янка, старэйшы за яе на тры гады, ужо хадзіў у пяты клас у суседнюю вёску, за якіх пяць кіламетраў. Але гэта было даўно, да вайны…

Але і ў школе нікога не засталі — жнівень, канікулы. Пасядзелі на ганку, паўздыхалі: як ляціць час! Ногі трохі адпачылі — і яны зноў пайшлі, ужо ў новае сяло, якое ўзнікла пасля таго, як ссяліліся хутары.

— Тут напачатку будзе крама, зойдзем, можа, што купім, — сказала Жэня.

Так яны і зрабілі — зайшлі, паглядзелі на амаль што пустыя паліцы, Рагнеда нават зацікавілася посудам: нешта фарфоравае, як міскі ці салатніцы.

Тут зайшоў кульгавы прысадзісты мужчына, загарэлы, трохі зарослы і ўжо лысаваты, без шапкі, павітаўся, паглядзеў на незнаёмых, а пасля пазнаў — Янку, Жэню, здзівіўся, што яны такія выраслі. Янка таксама пазнаў чалавека: то быў Міхась Захарчук, якога ў саракавым годзе вывезлі з сям'ёю ў Сібір як польскага канфідэнта. У вайну яму ўдалося трапіць у войска, ён ваяваў, быў паранены і страціў нагу, вярнуўся дадому разам з сям'ёю.

— У госці? — спытаўся гучна ў Янкі.

— Нават не ў госці, а так, паглядзець на бацькаўшчыну, — адказаў Янка.

— Чуў пра цябе, чуў — вершы пішаш, — сказаў Захарчук упэўнена.

— Ну, не зусім вершы, — не стаў спрачацца Янка, — але пішу сёе-тое.

— Пішы, малайчына! — ён падаў Янку руку, моцна пацiснуў. — Поспеху ў працы!

Толькі цяпер Янка ўспомніў, на каго Захарчук падобны: ды на Ралана Быкава! Такі ж прысадзісты, моцны фігураю, і з твару нешта такое ёсць — як ужо вядомае, звыклае і прыемнае. Бываюць жа падобныя людзі!

Янка падзякаваў за пажаданне, яны ўсе трое выйшлі з крамы і пакіравалі ў новую вуліцу. То быў ранейшы шляхоцкі засценак, тут жылі паля-

кі, як іх называлі, а фактычна католікі-беларусы, некаторыя з іх выехалі ў Польшчу пасля вайны, а адтуль прыехалі на іх месца беларусы з Беласточчыны. Раней тут хата ад хаты была далёка, а цяпер, як перайшлі людзі з хутароў, стала нават цесна. Але вуліца не была яшчэ ўпарадкаваная, гразкая, яны ішлі краем, дзе сушэй. Справа размяшчалася ферма, цяляты стаялі замурзаныя ў торфакрошку, якая ужывалася на падсціл, пад нагамі ў іх стаяла чорная вада-калатуша.

Яны ішлі па вуліцы без усякай мэты, спадзяваліся спаткаць каго знаёмага, а не — дык завернуцца і пойдуць назад. Але, на шчасце, спаткалі жанчыну прыблізна такога ж веку, як і яны, мо трохі маладзейшую. Яшчэ да вайны сябравалі, жылі амаль па-суседску, цераз адзін хутар, і часцяком наведваліся адны да другіх. А сябравалі яны таму, што сябравалі іх маладыя дзядзькі, якія тады, пры панскай Польшчы, сядзелі разам у турме — за палітыку, як тады называлі.

— Няўжо гэта вы? — усклікнула Манька. — Вачам сваім не веру!

Яна па-мужчынску падала ўсім руку, затрымала позірк на Рагнедзе, і Янка сказаў, што гэта яго жонка, і дадаў — другая, хоць яго за язык ніхто не цягнуў. Манька кіўнула, як усё роўна зразумела, бо тут ведалі пра Янку ўсё, не горш як у раёне. Манька была родная сястра Лявона, на двор да якога зазіраў Янка, калі ішлі сюды з могілак.

— А да каго ж вы ішлі? — спыталася і, не чакаючы адказу, дадала: — А можа, вы да нас зойдзеце? Тут вось побач, — і яна паказала на новую хату побач пры вуліцы, вокнамі на ўсход. — Хадзем, хадзем, гэтулькі не бачыліся.

Янку яна здалася надта смелая, а была такая далікатная, мяккая, як кацянятка. І выглядала амаль як гарадская жанчына: валасы гладка прычасаныя, сабраны ззаду ў вялікую куклу, твар загарэлы, але свежы, і, здаецца, яна мала змянілася, хоць ён не бачыў яе гадоў дваццаць. І падумаў, што калі б ён яе сустрэў дзе-небудзь у горадзе, а не тут, усё роўна пазнаў бы.

— Зойдзем, зойдзем, — сказаў Янка, — паглядзім, як ты жывеш.

Ён побач з ёю, як пара, ішлі першыя, а Рагнеда і Жэня за імі, нешта гаварылі, Жэня расказвала пра той час, калі яны былі яшчэ дзецьмі, хадзілі разам у школу, потым на вячоркі і танцы.

Яны зайшлі ў двор, добра агароджаны пілаваным штыкетнікам, нават разгароджаны на дзве палавіны: адна ля хлява, другая — ля хаты. Чыста, прыбрана і падмецена, нібы яны чакалі гасцей.

Янку пакінулі на дварэ, сказалі трохі «пасумаваць», а яны, усе тры жанчыны, схаваліся ў хаце. Ясна, чым яны там будуць займацца: пагавораць і пачнуць рыхтаваць на стол што-небудзь смачненькае. А ён сеў на шырокую лаўку пры хаце, адпачываў. Успамінаў, як даўно гэта было, проста не верыцца! А Манька была яго першым каханнем, што ні кажы. Ён сябраваў з яе братам Лявонам, а хадзіў да іх з-за Манькі, якая паступова пачала афармляцца з дзяўчынкі на падлетка, ужо сталі акругляцца яе далікатныя грудзі, якія яго дражнілі і нават сніліся па начах. А Маньцы пра каханне не было часу думаць, яна была першаю памочніцай у маткі, якая засталася ўдавою пры жывым мужы: ён пайшоў за мяжу, у Саветы, шукаць шчасця сабе і ім. А Мікола, яго малодшы брат, сядзеў у турме, а ўсё роўна сям'я была вялікая: маці, чацвёра дзяцей, яшчэ дзед і бабка, ужо старыя, нямоглыя, але што-небудзь рабілі па гаспадарцы. А гаспадарыў ужо падлетак Лявон, вёў мужчынскую справу: араў, касіў, вывозіў

гной на поле. Такое яго было жыццё — не паспеў развітацца з маленствам, як адразу трэба станавіцца мужчынам. А Манька яму памагала. Памагала матцы гадаваць малодшых дзяцей, брацікa і сястрычку…

З вуліцы нехта бразнуў весніцамі, пачуліся крокі. Янка азірнуўся — да яго набліжаўся Лявон, лепшы сябра яго школьных гадоў. Ён устаў з лаўкі, яны павіталіся, абняліся. Лявон быў моцны, прысадзісты мужчына, прасаляраны і прамазучаны, як і кожны трактарыст.

— А я іду па вашых слядах, — пачаў весела Лявон. — Мне сказалі, што ты заходзіў, куды пакіравалі… Не думай, у нас разведка не дрэмле. Як ты? Чуў, што ажаніўся?

— Ажаніўся, браце, другі раз… Што зробіш? — неяк замяўся Янка. — Жыццё задае задачкі… А як ты?

— Я на трактары, хай ён затане. Але што парадзіш? Трэба цягнуць лямку. Вось і цягну. Жонку ж ты маю ведаеш, твая некалешняя суседка. Яшчэ маю двух сыноў, адзін ужо ў войску, танкіст. Я ў артылерыі адбухаў, а ён з трактара перасеў на танк. Недзе ў Брэсце служыць, цяпер далёка не заганяюць, як раней. Як мяне: у Арменію, у Балгарыю, у Венгрыю.

— Дык ты, можа, і ваяваў? — здзівіўся Янка.

— Дваццаць сёмы год ваяваў — не ўвесь, а мне давялося. У Венгрыі дабіваў немцаў і мадзяраў. З закрытых пазіцый, і на прамую наводку ставілі… Але я не лічуся ўдзельнікам вайны, хоць маю і медаль за перамогу над Германіяй.

— Як гэта — не ўдзельнік, калі ты ваяваў? — зноў здзівіўся Янка.

— А таму, што дваццаць сёмы афіцыйна не ваяваў — па гадах. Дваццаць шосты — законна, а сёмы не меў права, мне было ўсяго васемнаццаць гадоў…

Ён не паспеў дагаварыць, як на двор зайшоў яшчэ адзін мужчына, сярэдняга ўзросту, хударлявы, насаты, у шэрай футболцы.

— Во, якраз і Рыгор дома, — сказаў Лявон. — Гэта Маньчын муж, знаёмцеся. З беластоцкіх перасяленцаў…

Янка ўстаў, яны паціснулі адзін другому рукі. Далонь у Рыгора была цвёрдая, як косць. Няйначай, сталяр ці цясляр, будаўнік. І не памыліўся, бо Лявон патлумачыў:

— У яго лепшая работа, як у мяне. У яго чыстая — стружкі ды пілавіне, ды трэскі, вунь які пах здаровы, не то што ў мяне. У яго нават у валасах стружкі, — пажартаваў Лявон са шваграa.

— Што ў валасах — не бяда, абы не ў галаве, — адказаў з усмешкаю Рыгор. — А хто табе не дае кінуць свайго мурзатага каня?

— Лёгка сказаць — кінуць, — як пакрыўдзіўся Лявон. — У мяне і другая прафесія ёсць, я пячнік, але дзе тых печаў вельмі набярэшся, каб з іх пражыць? А трактар і летам, і зімою ў руху, нібы той конь. І я пры ім грэюся…

— Што грэешся, то гэта праўда, — згадзіўся з ім швагер. — Ты, бачу, ужо трохі падагрэты?

— А як жа? Сёння ж святы Спас, спасае нас. Як было не адзначыць? — зарагатаў Лявон.

Тут іх размову перапыніла Манька, выйшаўшы на ганак. Яна была ўжо ў новай кофце блакітнага колеру ў вялікія ружы, і Янку здалося, што яна адразу памаладзела і пахарашэла.

— Ой, добра, што вы ўсе сабраліся, — усклікнула яна. — Хадзем у хату, усё ўжо гатова.

Яна нават пачакала, пакуль яны зайшлі, неяк па-асабліваму глянула на Янку, ці яму так здалося? Відаць, што і ў яе душы ажылі нейкія ўспаміны, нейкія забытыя малюнкі даўно мінулага. Янку нават здалося, што ў яе злёгку ўспацеў яе далікатны нос — тады носік — які некалі смяшыў іх, выдаючы яе хваляванне — на ім выступалі ледзь прыкметныя расінкі.

Яны прамінулі кухню, апынуліся ў зале, не надта прасторным, бо хата была перагароджана на два пакоі. Янку ўразіла, што пакой быў абстаўлены па-сучаснаму: бардовая канапа з ясікамі, некалькі мяккіх крэслаў такога ж колеру, на сценах — два пейзажы невядомага мастака, рамкі з фатаграфіямі, са столі звісала люстра пад крышталь на пяць ражкоў, сцены аклеены светлымі, у кветкі, шпалерамі.

— Прашу за стол, — сказаў гаспадар і паказаў на расстаўленыя вакол прамавугольнага стала лёгкія крэслы.

Стол быў застаўлены так, што не было вольнага месца, і закускі былі пераважна вясковыя, нават кілбасы свае работы.

— Пакуль вы там гаварылі, мы вам кашы наварылі, — сказала вершам Янкава сястра Жэня. — Нездарма ў мяне брат паэт, і я ад яго навучылася.

— Ён паэт? — здзівіўся Лявон. — Ён жа піша апавяданні, там усякія аповесці, а не вершы.

— А тут сёння нам адзін чалавек сказаў, што ён вершы піша, — патлумачыла Жэня.

— Вялікая бяда, — умяшалася Рагнеда, якая з усмешкаю слухала іх гутарку. — Хай што хоча піша, абы не ленаваўся, а ці вершы, ці прозу — чытач разбярэцца.

— А што, мо яшчэ і вершы пачну пісаць, хто ведае? — прымірэнча закончыў тэму сам Янка. — Хоць я і не паэт.

За стол селі неяк стыхійна, але сіметрычна: трое гасцей з аднаго боку, трое сваіх — з другога.

— Гаспадар, налівай у кілішкі, — сказала Манька да мужа, — людзі даўно з дарогі, прагаладаліся.

Янка і яго жанчыны ўсміхнуліся, але не сталі апраўдвацца, што яны не галодныя — хай будзе, як кажа гаспадыня.

Гаспадар пачаў наліваць у кілішкі на доўгіх ножках.

— Каму што? Ёсць чырвонае, ёсць і белая.

Жанчыны захацелі віно, мужчыны — гарэлку

— Ну вот, чырвоныя і белыя. Хто на каго першы? — не прайшоў міма колераў Лявон, калісьці гэта была вунь якая палітыка.

— Дай ты ўжо сказаць людзям, — трохі зазлавала на брата Манька. — Ніяк не нагаворышся.

Лявон зрабіў на твары смешную міну, пакруціўся на крэсле і замоўк, чакаючы, што яна скажа сама.

Манька ўстала, узяла свой кілішак з чырвоным віном, уздыхнула, абвяла вачыма супрацьлеглую палову застолля і неяк нават расчулена — выдаваў голас — сказала:

— Я так рада, што да нас завіталі госці... Дарагія госці... Некалешнія нашы суседзі... Мы так любілі быць разам... А потым — вось не бачымся па дзесяць гадоў... Ці мо нават болей...

Янка слухаў яе такі прыемны, але ўжо амаль забыты голас, і не мог паверыць, што гэта ён у сваёй роднай вёсцы, што побач з ім яго землякі, з якімі разам рос, набіраўся сілы і розуму, а потым пакінуў іх, паехаў у свет. І вось вярнуўся, хоць і не надоўга, хоць усё тут ужо моцна змяні-

лася, што хаты ўжо не тыя, у якіх яны раслі, ужо новыя, і стаяць на новых месцах, але ж усё-такі гэта тая зямля, якая іх успаіла і ўскарміла, якая дала ім сілу, каб жыць, да нечага імкнуцца.

— То за здароўе нашых гасцей, — закончыў за жонку гаспадар, ён, няйначай, баяўся, што яна расплачацца.

Яны ўсе дружна чокнуліся, разліваючы белае і чырвонае на квяцісты свежы настольнік, усміхаліся, гаварылі кожны нешта сваё, што цяжка было ўлавіць і перакласці на зразумелую мову. Так жа дружна выпіўшы, сталі разбіраць закуску — што каму падабаецца, бо выбар быў багаты: паляндвіца, апетытныя скрылікі кумпяка, пальцам пханай кілбасы — на першым месцы, а потым ужо печаныя яйкі на свіных скварках — неадымная страва сялянскага застолля. — «Усё гэта лепш было б выдаць касцам, адпраўляючы іх на раніцу касіць», — падумаў сам сабе Янка.

Ад выпітага кілішка Янка адразу захмялеў, нібы ён выпіў не чарку, а шклянку. Няўжо на яго сёння так паўплывала сустрэча з роднымі мясцінамі, са знаёмымі і блізкімі людзьмі, з гэтаю зямлёю, якую яны сёння таптталі, хоць і не босымі нагамі, як трыццаць ці болей гадоў назад.

У ім закіпала цэлая бура пачуццяў, ён гатовы быў сёння на нешта такое, аб чым потым шкадаваў бы, мог бы нагаварыць нечага такога, што потым усе пераказвалі б яго словы і рагаталі б, як з апошняга дурня... Не, Янка, не расслабляйся, вазьмі сябе ў рукі, ты павінен пакінуць пасля сябе добры ўспамін. Ты — дробны эпізод у іх жыцці, і не спадзявайся, на большае. Што прайшло, таго ўжо не вернеш...

Янка сам папрасіў, каб яму далі слова. Гаспадар тым часам наліваў кілішкі. Кілішкі жанчыны прасілі не пераліваць цераз венцы, мужчыны маўчалі, менавіта адзін Лявон і маўчаў, Рыгор быў заняты, а Янка збіраўся з думкамі. Ён нават устаў — так яму лепш гаварылася, ён як бы адчуваў большую адказнасць за тое, што гаварыў. І, зірнуўшы чамусьці на гаспадыню, нібы звяртаючыся да яе, пачаў:

— Так шмат хочацца сказаць... Так шмат думак і пачуццяў абудзіла сёння ў мяне гэтая сустрэча з вашым, некалі і з нашым — краем, думаю, што і ў маёй сястры, пра жонку я не кажу, яна вырасла трохі далёка адгэтуль, — сустрэча з вамі, і даволі нечаканая... Лявон — мой лепшы сябра школьных гадоў, яго сястра Манька-Марыя, мая сяброўка таксама, нават больш — яна маё першае нясмелае каханне, хай даруе яе муж Рыгор маю шчырасць. Мо я яму зайздрошчу, што ён стаў мужам такое дзяўчыны... прабачце, жанчыны. Але не буду... Усё ўжо тое мінулае... Для мяне галоўнае — што я пабачыў вас усіх, пераканаўся, што ў вас усё, як у добрых людзей, што зямля наша ў надзейных руках... І скажу тое, што я ўжо стаў паўтараць: раней я зайздросціў тым, хто пакінуў нашу зямлю, паехаў далёка шукаць сабе шчасце, а цяпер я зайздрошчу тым, хто на ёй застаўся, хто ёй не здрадзіў, не адрокся, хоць было і нялёгка. І ад зямлі, і ад мовы свае роднае, на якую мы ў горадзе пачынаем забываць. За вас, за тых, хто застаўся, хто не прадаўся!

Тост, па ўсім відаць, спадабаўся, асабліва правай палавіне застолля, калі лічыць ад парога, хто правы, а хто левы. Усе дружна выпілі, сталі выбіраць, чым закусіць, а выбар быў, проста разбягаліся вочы. І разам з тым застолле ажыло, усе загаманілі, ды так, што цяжка разабраць, хто што гаворыць. Гаспадар сказаў гучней за ўсіх: «Гаварыце па адным!»

— Першы я, — вырваўся Лявон з агульнага хору, — і я хачу сказаць табе, браце Янка, ты добра пра нас гаварыў, дзякуй табе. А наконт таго, што ты нам зайздросціш, што мы тут засталіся... Чаго тут зайздросціць?

Пераязджайце ды жывіце ў нашым раі — і ўсё. Чаго там доўга прыцэньвацца-прыцэльвацца?

Янка ўжо хацеў адказаць Лявону, але не паспеў, бо ўмяшалася Рагнеда:

— А мы якраз у нашых Будніках і прыцэньваемся-прыцэльваемся да вашага вясковага жыцця. Мне вельмі хочацца жыць вось так, як вы, мець гаспадарку, каб было ўсё сваё, ні ад кога не залежаць.

— Дайце мне дадаць пару слоў, — узняў руку Янка, — каб быў ясны малюнак. Ёсць прымаўка: блізка відаць, ды далёка дыба́ць… Мы хутка, што ні кажы, станем старыя. А як у вёсцы старым, вы лепш за нас ведаеце — па вашых бацьках. Таму, як адна паэтка пісала ў вершы: «Едземедзем усе дружна на суботнік у калгас», — а як ёй сказалі ехаць разам, адмовілася: няма настрою. Вось і ў нас так: няма настрою!

Тут пачаліся спрэчкі, застолле падзялілася на два лагеры, і цяжка было разабраць, хто пераможа, чые довады будуць мацнейшыя. Жанчыны былі ўсе за вёску, у тым ліку і гарадская Рагнеда, з мужчын Рыгор схіляўся да горада, Лявон вагаўся, да каго далучыцца, Янка таксама не быў абсалютным прыхільнікам горада, ён даказваў, што старое дрэва няможна перасаджваць, бо яно засохне, па-другое, трэба падыходзіць індывідуальна: хай кожны жыве там, дзе хоча. Іншая рэч, што так зрабіць няпроста, што ў яго такая работа, што ў вёсцы яе нельга рабіць.

— А чаму не? — заспрачаўся Лявон. — Вунь Шолахаў усё жыццё ў вёсцы, станіцы Вёшанскай, пражыў, а «Ціхі Дон» напісаў! Другі ў горадзе так не напіша!

— Ты, Лявоне, прывёў выдатны прыклад. Шолахаў жыў пераважна ў сваёй станіцы, хоць у яго была кватэра і ў сталіцы, у Маскве. Такіх, як Шолахаў, адзінкі. Я не такая велічыня, я сярэдні беларускі пісьменнік. У горадзе я вучыўся, там мяне пакінулі на працу, там я і зараз працую. Вы нават можаце не ведаць, хто такі рэдактар. Я сам пасля вучобы не ведаў, што гэта такое. Аказваецца, гэта той, хто друкуе кнігі. Яму прыносяць рукапіс, надрукаваны на машынцы, ён чытае яго, нешта там папраўляе, перапраўляе, потым падпісвае ў набор, потым у друк. І ён адказвае за тое, што ў гэтай кніжцы будзе надрукавана: каб ніякіх граматычных, а тым больш фактычных памылак не было. Праўда, ёсць яшчэ і цэнзура, але калі рэдактар вельмі пільны, палахлівы, то ён вылавіць усё, і цэнзару ўжо не будзе чаго рабіць — крамолы там не застанецца. Дык вось, я магу жыць недзе тут і быць рэдактарам у часопісе ці ў выдавецтве? А ўжо як пайду на пенсію — тады іншая рэч, магу выбіраць месца хоць на Паўночным полюсе, — скончыў свой доўгі маналог Янка.

— Ну, там трошкі холадна, і ноч доўгая, — пажартаваў Лявон. — Пераязджай лепш да нас. Тым болей, што твая жонка згодна на вёску.

— Так і зробім, — жартаўліва-сур'ёзна згадзіўся Янка. — І тады я пачну пісаць пра вас, пра нашу вёску.

— А што, матэрыялаў у нас шмат. Ты нават трохі нешта пісаў, але неяк надта перакруціў тое, што ў нас было, з тым, чаго не было.

— Ты правільна гаворыш, Лявоне. Ты, як той літаратурны крытык: будзеш мяне кансультаваць — па артылерыі, па трактарах, яшчэ па чым? — спытаўся Янка наўгад.

— Па гэтым самым, як яго — што наліваюць, — падказаў Рыгор і шматзначна пстрыкнуў сябе па падбародку.

— О, тут я разбіраюся… У гаручках я майстар, нават прафесар, — зарагатаў сам з сябе Лявон. — Магу пракансульціраваць любога… магу…

— Знайшоў чым хваліцца, — паўшчувала яго сястра Манька. — Каб ты пахваліўся, колькі ты класаў скончыў, а то што… Вось твой таварыш, яго ведаюць далёка, а цябе…

— Мяне таксама ведаюць, — перабіў яе Лявон, — ва ўсіх брыгадах, дзе я араў на трактары… А што не вучыўся… Дык хіба я тут вінаваты? Я вучыўся б, але хто нас карміў бы? У Янкі бацька быў, таму ён мог вучыцца. А майго і твайго бацьку польскім шпіёнам зрабілі… У расход пусцілі… А потым я ў Венгрыі, наводчыкам, снарады пасылаў за тых, хто майго бацьку… — Лявон не скончыў, закрыў твар рукамі і ўсхліпнуў, плечы яго ўздрыгнулі.

Застолле прыціхла, Лявонавы словы і яго слёзы, хай сабе і не зусім цвярозыя, уразілі ўсіх. У Янкі на вачах таксама закруціліся слёзы — ён вельмі добра разумеў свайго сябра, спачуваў яму і шкадаваў, што Лявон пасля пяці класаў кінуў вучобу. А з яго выйшаў бы выдатны інжынер, бо тэхніку ён любіў, ведаў яе, быў працавіты, толькі потым, ужо як стаў брыгадзірам, пачаў часцей заглядаць у чарку, за што і быў паніжаны да трактарыста.

Урэшце Лявон авалодаў сваімі пачуццямі, выцер вочы белаю сурвэткаю, неяк вінавата паглядваў на гасцей — ці не смяюцца з яго? Было не да смеху, усе гэта разумелі, і Янка не стрымаўся, каб не загаварыць зноў, запоўніць паўзу:

— Ты, Лявон, не трымай сэрца на сястру, яна не хацела цябе пакрыўдзіць, проста так атрымалася… Драма нашага жыцця ў тым, што адно пакаленне расплачваецца за грахі папярэдняга. Ваш бацька шукаў шчасця перш за ўсё для вас, а знайшоў сабе магілу, а вам прынёс гора і пакуты. А сам ён стаў ахвяраю савецкай агітацыі, як і многія з нас, асабліва нашы бацькі, дзядзькі… Яго трагедыя была страшная: ён загінуў ад рук тых, каго лічыў сваімі вызваліцелямі, за каго сядзеў у турме. Горшага нельга і прыдумаць… І ён быў такі не адзін, былі тысячы. Паўстае пытанне: а хто за гэта адкажа, як і за слёзы і пакуты іх бацькоў, жонак і дзяцей? Няма адказу на гэта пытанне. Адзіная надзея — на Бога. Можа, вам здасца дзіўным, што Янка, заўзяты піянер і камсамолец, сёння ўскладае надзею на Бога, як адзінага носьбіта праўды і справядлівасці. Такую перамену ў душы і свядомасці перажыў не я адзін, перажылі мільёны, і асабліва тыя, каму было цяжка, хто быў незаслужана пакараны, прыніжаны, пакрыўджаны… Я не думаю, што Лявон адразу паверыць мне, стане ў шэрагі вернікаў, але калі ён зробіць гэта, ён стане іншым чалавекам — выратуе сябе і сваю душу ад граху… Мы ўсе грэшныя, але мы каемся, мы молімся, і Усявышні даруе нам нашы грахі. Хай і сёння Усявышні даруе нам грэх спажывання напою, які зацямняе светлы чалавечы розум і прыводзіць часта да бяды. Будзьма з Богам — і ён не пакіне нас…

Янка замоўк, чакаў, што будзе: спрэчка, ухвала, нязгода? Паўза была нядоўгай: зноў загаварылі, зашумелі ўсе разам, і цяжка было разабраць, хто чаго хоча, хто за і хто супраць.

Выходзіла неяк так, што за сталом ішоў дыялог паміж Янкам і Лявонам, астатнія заставаліся слухачамі ці фонам, часам дадавалі нешта нязначнае, як падкідалі ў агонь паленца, каб ён лепш гарэў. І цяпер зноў галоўным апанентам у Янкі стаў Лявон, нездарма яны былі старыя школьныя сябры.

— Ведаеш Янка, ты мяне трохі здзівіў. А яшчэ больш здзівіўся б твой дзядзька, пачуўшы, што ты заклікаеш да Бога, — сказаў Лявон рэзка.

— А што, да Бога заклікаць горш, чым да сусветнай рэвалюцыі? Мой дзядзька, які склаў галаву ў першыя дні вайны, яшчэ больш здзівіўся б,

каб паглядзеў на наша сённяшняе жыццё. А яшчэ больш здзівіўся б твой бацька: ці таго ён дабіваўся, што мы сёння маем, што маюць яго дзеці?

— Ты хочаш сказаць, што нашы сённяшнія здабыткі — гэта гуано старой курыцы, што мы жывём горш, чым жывуць на Захадзе? — пачынаў злаваць Лявон. — Я жыву не горш за свайго бацьку, які жыў пры панах, а я пры Саветах.

— Ну, ты быў у Венгрыі, у Балгарыі, бачыў, як там людзі жывуць. А вось як у Польшчы — няхай твой швагер Рыгор нам скажа, ён з перасяленцаў, хто не ведае, — і Янка паказаў рукой на сваю жонку Рагнеду, хоць яна за гэты час ужо магла даведацца.

Рыгор усміхнуўся, пашчыпаў падбародак, нібы шукаючы шчацiння, і сказаў:

— Мне неяк не выпадае хваліць тое, ад чаго ўцякаў, скажуць: прамяняў быка на індыка. Але, пажыўшы тут, параўнаўшы, бачу, што там парадку больш, чым у нас. Культура працы там вышэйшая, заробкі большыя. Там трактарыст у белай кашулі сядзіць у кабіне і кіруе, як які пілот. А наш Лявон? Ён у зашмальцаванай ватоўцы, прапахлы салярам… Ну і там трактарыст працуе пераважна на сябе, а тут — на дзяржаву. Розніца ёсць? Ёсць, і вялікая. Ну і па выхадных і святах палякі ходзяць у касцёл сем'ямі, мо менш за нас п'юць…

— Дык і праўда, чаго ты сюды перасяліўся, калі там лепш? — спытаўся Лявон, папіваючы ліманад са шклянкі.

— Не забывай, што там Польшча, а я — беларус, захацеў жыць у Беларусі. Да таго ж я ведаў, што знайду тут тваю сястру, а яна стане маёю жонкаю.

Усе паглядзелі на Маньку-Марыю, як яна засаромелася і апусціла вочы, і дружна зарагаталі. Пасыпаліся жарты:

— З-за аднаго гэтага варта было перасяляцца.

— Вось і кампенсацыя за ўсе страты…

— Да таго ж — бліжэй да Усходу…

— А мо варта было б — да Захаду?

— Беларусы так яшчэ і не ведаюць, да каго прыстаць: да Усходу ці да Захаду.

— У гэтым іх галоўная бяда, яны, як той бурыданаў асёл, паміж дзвюх копаў сена: не ведае, з якое есці…

Апошнюю фразу сказаў Янка, некаторыя за сталом не ведалі, што гэта за такі асёл, і папрасілі яго патлумачыць.

— Быў такі Бурыдан, грэк ці рымлянін, ужо не памятаю, і меў ён асла… А aслы, як нам вядома, слабыя на галаву, і вось гэты асёл ніяк не мог вырашыць, з якое капы есці, хадзіў ад адной да другое ды так і выцягнуў ногі ад голаду пасярод тых копаў.

— Ці не ў мой агарод гэты камень? — спытаўся Рыгор.

— Не-не, гэта ў наш агарод, браце Рыгор, — паспяшаўся супакоіць гаспадара Янка. — Сэнс такі: калі выбіраць, дык выбіраць, а не стаяць на раздарожжы, вачыма сумнымі глядзець удалячынь, як сказаў адзін наш паэт.

Колькі яшчэ б цягнуліся спрэчкі — невядома, але тут Жэня спыталася ў гаспадароў, у колькі гадзін ідзе сноўскі аўтобус, на якім яны паедуць дадому.

Рыгор і Лявон адначасова глянулі на свае гадзіннікі, і першы Лявон сказаў, што да аўтобуса яшчэ добрая гадзіна, а Рыгор паправіў яго, што яшчэ засталася гадзіна і дваццаць пяць хвілінаў.

Жанчыны-госці, Жэня і Рагнеда, зашумелі: трэба збірацца! Манька супакоіла ўсіх: спозніцеся — пераначуеце ў нас, месца хопіць. Можна нават і не ісці на гасцінец. Але куды там! Ад гарбаты адмовіліся, хоць гаспадыня абяцала хутка згатаваць. Мужчыны выпілі яшчэ па кілішку — аглаблёвую, ці чапковую, — як кажуць суседзі-палякі, на пасашок, як кажуць суседзі-расейцы. Можна было ўзяць і тры кілішкі, але гэта ўжо было б занадта…

Развіталіся, як родныя, як лепшыя сябры — шчыра, са слязьмі на вачах, з абдымкамі і пацалункамі, абяцаючы, што будуць прыязджаць, заходзіць, сустракацца… Ва ўсякім разе, Янка быў упэўнены, што ў год раз ён зможа зазірнуць у сваю родную вёску, пабачыць сваіх сяброў маленства і юнацтва, пабыць на родных могілках, прынесці кветкі.

Манька-Марыя была сумная, як нечым незадаволеная, яна мала гаварыла за сталом, усё больш клапацілася, каб госці пілі-елі, каб не засталіся галодныя. Яе Рыгор паводзіў сябе прыстойна, не быў п'яны і на грош, гаварыў памяркоўна і спакойна, з пачуццём уласнай годнасці, як гаспадар хаты. Янкавы жанчыны — сястра і жонка — таксама не выпіналіся, не збіраліся зацьміць гаспадыню. Яны, няйначай, шмат што перагаварылі, калі рыхтавалі на стол, ужо былі ў курсе сваіх жаночых справаў, таму адчувалі сябе ўпэўнена, як дома.

А сам Янка быў пад добрым хмелем, чамусьці яму лёгка пілося, але, хоць закусь была смачная і каларыйная, ён не вельмі паспяваў з ёю спраўляцца, бо даводзілася шмат гаварыць, чаго ён увогуле не любіў, але дзе ты падзенешся, калі раз-пораз узнікае нейкі вузел, які трэба разблытваць, калі гавораць пра тое, што воляй-няволяй трэба нешта дадаць або нешта аспрэчыць? Да таго ж яму хацелася сказаць нешта такое, каб яго потым не ўспаміналі са смехам, а як дасведчанага сур'ёзнага чалавека. Бо ён ведаў, што людзі заўсёды любяць да сказанага табою дадаць нешта сваё, ды ў такой прапорцыі, што ад твайго амаль нічога не застанецца, але ўсё роўна выходзіць, што гаварыў гэта ты, які тут быў.

Лявон падахвоціўся праводзіць іх да аўтобуса, яны выйшлі з хаты, калі пачынала шарэць. Па гразкай вуліцы, выбіраючы сушэйшую сцежку, яны пакіравалі з вёскі на дарогу-гравейку, што вяла да гасцінца. Ісці заставалася няшмат, мо якую вярсту ці болей, для вясковага чалавека гэта не адлегласць. Першыя ішлі Рагнеда і Жэня, а за імі следам, але трохі адстаўшы, пляліся Янка і Лявон, абодва трохі ацяжэлыя — і ад шчодрага стала, і ад нейкай вірлівай, як Янку здалося, гутаркі за сталом, якая забрала ў іх шмат энергіі. На добры лад, лепш было б заваліцца дзе на сена ды даць храпака. А тут яшчэ трэба на нейкі аўтобус…

Жанчыны наперадзе нешта гаварылі між сабою, а яны таксама не маўчалі. Лявон расказваў, як ён шукаў бацькавых слядоў, колькі пісаў у розныя інстанцыі, якія прыходзілі адпіскі: нічога не ведаем, звярніцеся туды і туды, а там таксама нічога не ведалі ці не хацелі ведаць. І недзе праз гады тры ён знайшоў нарэшце месца, дзе яму далі на рукі паперу, што яго бацька — прозвішча, імя, імя па бацьку, злоўлены пры пераходзе польска-савецкай мяжы і расстраляны як польскі шпіён — і ў канцы дата. «Вось і ўсё», — выдыхнуў Лявон. «А кампенсацыя?» — спытаўся Янка. «Чаго захацеў — кампенсацыі! У іх портак не хапіла б, каб з усімі расплаціцца», — адказаў Лявон. «А рэабілітацыя?» — зноў спытаўся Янка. «Рэабілітацыя — калі ласка, паперкі ім не шкада. А што мне з тае рэабілітацыі? Я і так ведаў, што ён ніякі не шпіён, не вораг Саветам».

Яны падышлі да гасцінца, на скрыжаванне дарог, дзе будзе ехаць аўтобус Сноў—Буднікі, сталі чакаць, радаваліся, што не спазніліся. І тут убачылі агні на дарозе з Саматканавічаў. Лявон адразу вызначыў: едуць камбайны, там яны жалі, а цяпер вяртаюцца нанач у свой гараж. І вось яны блізка, асвяцілі сваімі вачамі-фарамі іхнюю кампанію, якая стаяла пры дарозе. Мо каб не Лявон, то яны б праехалі міма, але яго пазналі ў кампаніі з нейкімі незнаёмымі — і спыніліся: адзін, другі, потым пад'ехаў і трэці. Камбайны, як гіганцкія страшыдлы, асляпілі іх фарамі, падфарнікамі, усімі габарытнымі агнямі, а вялізныя бункеры, капніцелі, матавілы, шнекі, бліскучыя зубы жняярак здаваліся яшчэ больш вялікімі і нерэальнымі. Але хлопцы аказаліся знаёмыя, нават Янка іх пазнаваў, не так даўно яны былі хлапчукамі: Янкаў траюрадны брат Васіль Пільневіч, сваяк па матцы, сын Пальчыка Міхаля, некалешняга суседа, з трэцяга камбайна спусціўся таксама знаёмы хлопец — сын Лепцюка Міхала, такі ж насаты, як усе Кірухавы. Пад'ехаў на матацыкле Лявонаў малодшы сын Уладзя, які працаваў памочнікам камбайнера. Наперабой яны распытвалі Янку, як ён тут апынуўся, ці збіраецца ён сустрэцца з землякамі. Яны яго ведалі, яшчэ памяталі, калі ён быў студэнтам і прыязджаў дадому на канікулы, а яны яшчэ былі хлапчукамі.

Янка быў страшэнна расчулены гэтаю сустрэчаю з маладымі камбайнерамі, казаў, што знойдзецца час, каб наведаць іх, наладзіць сустрэчу, шчыра пагаварыць…

І тут якраз пад'ехаў аўтобус на Буднікі. Яны сталі развітвацца — з хлопцамі, з Лявонам, памахалі рукамі і зайшлі ў салон. Былі вольныя месцы, яны селі побач, маўчалі, кожны ў душы перажываючы гэтую нечаканую сустрэчу з новым пакаленнем вясковай моладзі. У сініх камбінезонах, запыленыя, але дужыя, загарэлыя, вясёлыя хлопцы з роднай вёскі стаялі ў Янкі перад вачыма і цяпер, калі аўтобус ужо адмераў нямала кіламетраў. «Можа, і не прападзём, — думаў Янка. — Горш, як было ў вайну і пасля вайны, не павінна быць. Галоўнае, каб людзі не страцілі свае чалавечае годнасці і нацыянальнай свядомасці».

## X

Усталі позна, ледзь разварушыліся — так адгукнуўся ўчарашні дзень. Проста не верылася, што яны тут, у Будніках, а не ў Дабрынічах, дзе ўчора прабылі цэлага паўдня. Пагода ціхая, цёплая, неба без хмараў, без аблокаў, у паветры ўжо сям-там відаць, як плавае павуцінне.

Маці сёння была ўважлівая да іх, нават ласкавая, казала, што ўчора адна сумавала, нават не захацела абедаць, нудзілася без іх, не ведала, за што ўзяцца — нічога не клалася на душу.

Янка трохі касіў картаплянік, трохі збіраў ападкі, трохі папраўляў плот. Пасля поўдня заняўся чытаннем рукапісу: час ідзе, людзі чакаюць, што ён скажа — ці тое яны пісалі? Вечарам схадзілі на возера, добра пакупаліся, асабліва ён сам, бо Рагнеда, як заўсёды ля вады, была асцярожная, і мо таму, што не ўмела плаваць. Янка таксама не быў добрым плыўцом, ён плаваў сярэдне, не вельмі хутка, але на вадзе мог пратрымацца доўга, хоць на глыбокім месцы адчуваў сябе не вельмі ўтульна — страх не адпускаў яго, асабліва як блізка не было людзей..

Затое назаўтра, хоць надвор'е было такое ж, як і ўчора, усё пайшло інакш, можна сказаць, у паскораным тэмпе.

Зноў узяліся за трускаўкі, ці клубніцы, тут іх называюць як хто хоча: і так, і гэтак. Янка капаў, пашыраў плошчу, а Рагнеда жалезнымі граблямі выбівала з глебы пырнік, выбірала клубнічныя флянсы і аддавала матцы, а тая садзіла ў свежую пульхную зямлю: на той год на іх ужо будзе ўраджай.

Маці сёння была ўжо зусім не тая, учарашняя, а халодная, бурклівая, увесь час вучыла Рагнеду, як і што рабіць, нібы тая першы раз трымала ў руках граблі, ніколі не выбірала і не садзіла флянсаў. Выходзіла так, што ўчора матцы іх не хапала, сёння яны былі нібы лішнія. Рагнеда патлумачыла матчын настрой вельмі проста: маці чакала малодшую дачку з палкоўнікам: сёння субота. Калі не прыедуць сёння, будзе такая і заўтра. А як і заўтра не, то ўжо трэба моцна трымацца...

У гадзіну дня маці пачала гатаваць абед — з разлікам на гасцей. Янка ўзяўся круціць мясарубку, клаў свіное мяса і ялавічыну ў гарлавіну машынкі. Мяса ўжо мела нездаровы пах, але што зробіш, калі ў маткі халадзільніка няма, а дзеці і зяці пра такую «дробязь» не надта думалі: калі маці маўчыць, то што ім? Яна тут гаспадыня, а не яны. Урэшце, у яе ёсць добры склеп...

Недзе каля трох дня прыехалі доўгачаканыя Рагаткіны: Альбіна з палкоўнікам і маладая пара: іх дачка з зяцем. Навезлі ўсякіх сталічных прысмакаў, нават поўную жароўню з галубцамі. Стол быў прыбраны на сем персонаў, давялося толькі яго рассунуць, каб усе змясціліся. Кіравала ўсім працэсам Альбіна, маці часам падказвала ёй, але неяк далікатна, не так, як яна гаварыла з Рагнедаю, што вельмі здзівіла Янку. Здзівіла і тое, што Альбіна не была падобная на сваю старэйшую сястру Рагнеду. І каб Янка не ведаў, што гэта родныя сёстры, ніколі не падумаў бы, што яны дзеці адных бацькоў. Падобныя яны былі толькі складам цела, камплекцыяй — сярэдняга росту, грудастыя, але Альбіна выглядала больш мажною, чым Рагнеда. І здаецца, не была такою хуткаю, як Рагнеда, а больш паважнай, павольнай. Янка памятаў яе па школе, але тады яна была яшчэ падлеткам, ішла на некалькі класаў пазней за яго. А цяпер стала такая пышная кабета — нездарма палкоўнічыха. А сам палкоўнік у сваёй ахоўнай форме выглядаў вераб'ём перад ёю: невысокі, хударлявы, але фізічна моцны, нават культурыст, адчувалася ў ім шмат схаванай энергіі — гэткі пці-Напалеон, які, нягледзячы на свой незайздросны рост, глядзіць на людзей зверху, нібы яны былі ліліпутамі, а ён адчуваў сябе Гуліверам.

Пілі прывезенае са сталіцы балгарскае віно, хвалілі, палкоўнік не прыстаў да кампаніі, ён быў за рулём, але ў гутарцы ўдзельнічаў, гаварыў ён рэзкім, нават чаканным камандзірскім голасам, ад якога, здаецца, вібравалі вушныя перапонкі. Тыповы савецкі палкоўнік, — падумаў пра яго Янка, тыповы грыбаедаўскі Скалазуб, ён каго хочаш у дзве шарэнгі «построит, а пикнете — так мигом успокоит». Ну і натуральна, што гаварыў ён на чысцейшай рускай мове, нават без невынішчальнага, як кажуць некаторыя, беларускага акцэнту. Ён нават здзіўляецца, што нехта яшчэ гаворыць не па-руску.

— Слушай, Иван, чего это ты в своих стародедовских лаптях щеголяешь? — спытаўся ён у Янкі, які гаварыў за сталом па-беларуску. — Или ты думаешь, что ты умнее всех, кто сегодня изъясняется по-человечески?

Янка адчуў, як у яго кроў ударыла ў галаву, і каб ён даў сабе волю, дык тут быў бы вялікі скандал. Толькі сказаў рэзка:

— Па-першае, не рабі з мяне Івана, я быў і застаюся Янкам. Па-другое, калі ты нашу мову называеш лапцюжнаю, дык ты не арыгінал, так яе даўно называлі прыхадні з усходу і з захаду. І нават плацілі тым, хто плёў такую

лухту... Але не трэба забываць, што карыстаецца чужым толькі той, хто свайго не мае. Я, дзякуй Богу, маю сваё, ім і карыстаюся. Наш адзін паэт сказаў, што мова — гэта адзежа душы. Аддаў мову — аддаў душу... Вось ты ўжо без душы. Можаш крыўдзіцца, але толькі на сябе... І на тых, хто ў цябе яе забраў, а ты гэтага нават не заўважыў...

— Да ты несешь, Янка, полную чушь! — загрымеў Рагаткін, ажно, здаецца, зазвінелі некаторыя шыбы ў вокнах. — Ты зачисляешь меня в черт знает какие враги нации. Будто я ей изменил! Поменял язык — и я уже враг!

— Я не такі катэгарычны, як ты і тыя, хто цябе перарабляў. Я не кажу, што ты вораг нацыі, ты — проста блудны сын. А вось тыя, і ты разам з імі, ужо бачыш ува мне ворага, і толькі таму, што я, трымаючыся за сваё, не хачу ад яго адракацца і браць чужое. Ці не так ты разважаеш?

— Ну, ты даёшь! — зноў узвіўся Рагаткін. — Я удивляюсь, как тебя там держат, такого ярого националиста, как тебя не попёрли, не пропёрли!

— Чаму не паперлі? Ды таму, што я не нацыяналіст у бальшавіцкім разуменні гэтага слова. Я беларускі патрыёт, я за тое, каб беларусы былі роўныя з рускімі, а не былі малодшым братам. Каб іх мова была дзяржаўнаю, каб на ёй гаварылі не толькі дома, але і на працы, у школе, у інстытуце, у Вярхоўным Савеце, каб ён называўся па-беларуску — Вярхоўная Рада, а не па-руску — Савет, каб сакратар ЦК гаварыў са сваім народам па-беларуску, і каб ты, абаронца Радзімы, таксама гаварыў на роднай мове і падаваў каманды на гэтай мове. І гэта, каб ты ведаў, не нацыяналізм, гэта права кожнай нацыі мець тое, што мае самая шматлікая ў Саюзе нацыя... І так хочуць не толькі многія беларусы, але і многія ўкраінцы, казахі, грузіны, літоўцы і іншыя, хто сёння насяляе Саюз. І, што важна, нас ужо шмат, і нас ужо нельга, як у 37-м годзе, браць і расстрэльваць, як нацыяналістаў — толькі за тое, што мы гаворым кожны на сваёй мове... Нас шмат, і час ужо не той, дыктатура не ў пашане, нельга з людзьмі абыходзіцца, як з быдлам... І я ўпэўнены, што пройдзе не шмат часу, як ты памяняеш свой погляд на нацыяналізм, адрачэшся ад так званага інтэрнацыяналізму і сам прызнаеш, што быў адурманены савецкаю прапагандаю і лічыў родную мову мужыцкаю, непатрэбнаю, а яна, аказваецца, такая ж панская і людская, як французская, польская, нямецкая і ўсякая іншая, як казаў той жа наш паэт Багушэвіч.

Рагнеда нечакана для ўсіх запляскала ў далоні і сказала гучна:

— Малайчына, Янка, ты сказаў тое, што трэба! Проста малайчына!

— Тое, што трэба? — перакрывіў яе Рагаткін. — Да за такие слова надо к стенке ставить!

— А вось і не паставіш! — ужо са злосцю сказала Рагнеда. — Хопіць, што ставілі да вайны, вынішчылі ўсю нашу інтэлігенцыю. А цяпер — хваробу!

— Шмат хто, ну не вельмі шмат, — паправіўся Янка, — і сёння гатовы ставіць нас да сценкі, але баяцца, каб не атрымаўся адваротны эфект — каб не паставілі да сценкі іх самых, тых, хто хоча выкапаць магілы нам, патрыётам. Мы ж не заклікаем біць рускіх, хай жывуць на здароўе. Мы толькі хочам, каб рускія не глядзелі крывым вокам на таго, хто гаворыць на сваёй мове, а не на расейскай, хто хоча, каб яго дзеці гаварылі і вучыліся на роднай мове...

Паўза была надта кароткай, але яе тут жа скарыстаў Рагаткін:

— А где вы раньше были? Почему отдали позиции? Почему не защищали свой язык, когда его у вас забирали? Да вы сидели как мыши под метлой, боялись разинуть рот, потому что это грозило пулей. А теперь вы

поднимаете вой, вам жалко языка! Да его уже нет, его и не будет, поздно вы очухались. И масса вас не поддержит, она вас не поймет. Она практична, прагматична: кто говорит на вашей мове? Такие крикуны, как ты, а вас не так уж и много…

— Нас многа, а будзе яшчэ больш, — адказаў Янка. — І гэты час не за горамі. Бо праўды нельга схаваць, яе нельга закапаць, яна ўсё роўна выйдзе наверх. Усе расстраляныя — рэабілітаваны, з іх знята ранейшая выдуманая віна. Правы расстраляныя, а не тыя, хто іх расстрэльваў, у каго была ўлада… І я не думаю, што ты з гэтым не згодзішся, таварыш палкоўнік, — сказаў ужо больш спакойным тонам Янка.

— Напрасно стараешься, не думай, что ты меня переубедил, — скрывіўся Рагаткін, нібы ў яго раптам забалеў зуб.

— Гэта недадае табе гонару. Адмаўляць відавочнае можа хто? Не хачу называць крыўднага слова… — і Янка асекся.

— Крыўднага слова? — паўтарыў Рагаткін без усякага акцэнту. — Какое это крыўднае слова ты мне хотел сказать? Говори, не стесняйся, не красней!

— Не слова, а ёсць вядомае лацінскае выслоўе. Яно гучыць так: Asinus asinorum in secula seculorum.

— Ну и что тут зашифровано? — спытаўся Рагаткін са скепсісам.

— Калі хочаш, я табе перакладу, — умяшалася Рагнеда.

Рагаткін весела зарагатаў:

— Смотри ты, и она латынь понимает! Давай-давай, переводи!

— З песні слова не выкінеш, пераклад такі: асёл аслом на вечныя часы, ці на векі вякоў.

Рагаткін зноў зарагатаў, але яшчэ больш гучна, нават, як здалося Янку, неяк фальшыва, не ад душы, і хутка закругліўся.

— Да это как раз будто о тебе сказано, глубокоуважаемый Янка, о твоей ослиной упрямости, которая не дает тебе открыть шире глаза и посмотреть правде в лицо. А правда такова, что ваша мова отжила свой век, это ее закат мы видим, и ты зря ерепенишься, защищаешь то, что уже нельзя воскресить, — як канчатковы прысуд, прамовіў Рагаткін чаканнымі словамі.

— Дарэмна ты так лічыш, таварыш палкоўнік, такое гаварылі ўжо дзвесце гадоў назад расейскія палкоўнікі, тыя, што вешалі Кастуся Каліноўскага. Аднак яны, як мы ўсе бачым, памыліліся на ўсе сто працэнтаў: наша мова жыве і жыве Беларусь, значыць, жыве і надзея на наша адраджэнне.

Колькі б яшчэ цягнулася спрэчка, невядома, але тут маці ўстала з-за стала, зрабіла жэст, што затыкае вушы, скрывіла твар, як ад вялікага болю і сказала да іх, што спрачаліся:

— Вы, мужчынкі, прабачце, як тыя два казлы на кладцы: хто каго спіхне ў ваду. А хутчэй, дык вы абодва туды трапіце. Таму, пакуль вы яшчэ сухія, разыдзіцеся і памірыцеся, і дайце нам спокуй. А спрэчку вы закончыце другім разам, цяпер пара збірацца ў дарогу.

Апошнія яе словы прагучалі як каманда: хопіць круціць пустыя жорны, трэба і меру знаць. Абед скончыўся, хто ўстаў з-за стала, хто яшчэ застаўся. На стале шмат заставалася, сем персонаў яшчэ раз трэба было б пасадзіць у застоллe, тады мо стала б і чыста. Рагаткін выйшаў на двор закурыць, потым пайшоў у сад. Маладая пара круцілася ля бабулі, тут жа была і Альбіна. Янка і Рагнеда былі ну зусім лішнія, стараліся ім не замінаць.

А госці хутка заняліся зборам у дарогу: ірвалі яблыкі, капалі бульбу, выбіралі гуркі і памідоры. Маці, як генерал, хадзіла і камандавала, дзе што

браць, у што складаць, куды пакласці. Смешна было слухаць, як яна падказвала маладому зяцю, мужу ўнучкі, дзе капаць бульбу: прама-прама, левалева, яшчэ лева, а той ніяк не можа яе знайсці. Нарэшце! А там яе некалькі карчоў, яна сама ледзь знайшла. Давялося капаць у другім месцы.

Рагнеда нарвала ў торбачку трохі яблыкаў, некалькі гуркоў, каб перадаць у Мінск сваім хлопцам. Палкоўнік зрабіў кіслую міну, але ўзяў. Затое вялікую бутлю, якую Рагнеда хацела пераправіць у Мінск — некалешні яе падарунак матцы, — катэгарычна ўзяць адмовіўся: няма месца ў багажніку.

— А можа, вы мяне ўзялі б у Мінск? — сказала яна сястры Альбіне і палкоўніку. — Так хочацца паглядзець на сваю кватэру.

— Машына і так будзе перагружана, — адказала за дваіх Альбіна. — А мы яшчэ па дарозе, у Касмовічах, будзем браць пару балёнаў малака, дзесяць дзесяткаў яек, мо яшчэ чаго. Так што ты даруй…

— Найдите извозчика подешевле! — зарагатаў сам сабе Рагаткін. Ён быў узвінчаны, увесь час не выпускаў з зубоў цыгарэты.

Урэшце ўсё было складзена, спакавана, надышоў час развітання. Рагнеда з Янкам знарок трымаліся воддаль ад гасцей, каб маці магла пагаварыць з імі без сведак, бо яна не любіла, калі хто лішні мяшаўся ў іх прыватную гутарку. І калі сам Рагаткін ужо збіраўся садзіцца за руль, яны падышлі, Рагнеда развіталася з Альбінаю неяк нават афіцыйна, Янка пацалаваў ёй ручку, развітаўся з маладымі, якія яму спадабаліся, — відаць, будзе добрая пара.

Рагаткін падаў руку Янку, моцна заціснуў яго пальцы у сваёй далоні і сказаў на развітанне:

— Ты прости, у меня фамилия рогатая, она обязывает, а вот у тебя рога могут обломать, это у нас умеют. А ты так и прешь на рожон, без оглядки. Помни 37-й год, не таким хребет ломали.

— Ты палохаеш, ці што? — трохі здзівіўся Янка такому павароту ў гутарцы швагра. — Мо нам пара забыць той 37-ы? Мо час разабрацца ва ўсім, не ломячы касцей, як нармальныя людзі? Вось мы з табою пагаварылі — і засталіся, думаю, сябрамі?

— Я не палохаю, но мы любим крайности. Чтобы это нас не погубило… Ну пока!

«Баявая машына» кранулася з месца, абдала праважатых выхлапным дымам, вырулiла на вуліцу, павярнула направа і за некалькі хвілін знікла за паваротам. Яны засталіся ў меншасці — толькі ўтраіх. Відаць, маці найбольш перажывала гэтую ростань — яна развіталася з любімаю дачкою, якой аддавала душу і сэрца, а цяпер вось аддае плён свае нялёгкай працы. Няйначай, яна думала, а што атрымае ўзамен: ці ўсё тое, што яна, Альбіна, атрымала ад маткі, ці, можа, каб хаця дзесятую долю таго — і ёй было б досыць. Яна ведала сваіх дочак мо больш чым хто іншы, яна бачыла розніцу ў іх характарах, у іх поглядах на жыццё, у іх інтарэсах, — і разумела, што старэйшая дачка больш разумная, глыбокая, чулая, але якраз гэта і не давала ёй, матцы, быць з ёю такою шчыраю, блізкаю, як з малодзейшаю, хоць тая была нашмат прасцейшая, невысока адукаваная, не хапала зорак з неба, але ўмела пастаяць за сябе, за сваю сям'ю, умела разжаліць яе, матку, каб выцыганіць — вельмі ёмкае народнае слоўца! — у яе тое, што ёй трэба было ў пэўную хвіліну ці часіну. І адзін раз, і другі, і трэці, і ўсё жыццё, пакуль яны жывуць побач, жылі побач. І маці ўжо змірылася з гэтым і лічыць, што так і трэба. Яна не адрывае ад сябе, ёй не баліць і не шкада, яна аддае нават з радасцю — абы ім было добра. А вось старэйшая, хоць і нашмат бяднейшая, а не папросіць, не паплача, што ёй нешта трэба,

не прызнаецца нават, што ёй кепска, а яшчэ падкіне ёй які падарунак… І ў каго яна такая ўдалася? — не раз і не два пыталася ў сябе маці.

Яны паехалі — і як бы чагосьці забракавала, не стала нечага патрэбнага. Вось былі тут новыя для Янкі людзі — і яму былі цікавыя іх гутарка, іх погляды на жыццё. Хоць гэтым разам выйшла не так, як хацелася б: гаварылі, праўдзівей, спрачаліся яны ўдвух, швагры, а ўсе астатнія слухалі, мо каго асуджалі, а каго ў думках абаранялі. Янка не вельмі спадзяваўся, што падтрымлівалі яго. Рагнеда — тая была за яго, астатнія — невядома. Маладыя могуць думаць зусім не так, як яны, старэйшыя, іх цяжка зразумець, як і яны, пэўна, не ўсе разумеюць, чаго хочуць іх бацькі, а тым больш — дзяды. Кожнае пакаленне моліцца свайму богу. Можа, гэта і добра, бо кожнае пакаленне глядзіць на свет сваімі вачыма. Дрэнна, калі яно глядзіць чужымі…

Рагнеда адразу ўзялася мыць посуд са стала, а маці бурчыць: хай застаецца, яна сама заўтра перамые. А сёння яна проста не можа: змаглася, не паабедала па-людску…

— Мама, колькі ты будзеш прыслугоўваць гэтым гастралёрам? Хіба яны самі, маці і маладая дачка, не маглі падаць на стол? Нават памыць посуд пасля сябе? Ці яны самі не ведаюць, дзе што расце, дзе ляжыць, што ўзяць? Яны і без цябе ўсё ведаюць — і зробяць самі. А ты проста пасядзі, палюбуйся, пацешся на сваю змену. Колькі можна высільвацца?

Сёння маці не хацела пачынаць спрэчкі, відаць, стамілася. А Рагнеда мо якраз хацела скарыстаць момант: я табе, мамка, усё скажу, што ў мяне на душы, ты толькі слухай.

Маці казырала сваімі заслугамі не толькі перад Альбінаю, але і перад ёю, Рагнедаю. Гэта яна выгадавала Рагнедзе сыноў — і старэйшага Гарыка, і малодшага Юрыка. А Юрыку і грошай на вяселле дала, ажно пяцьсот рублёў. А пасля яшчэ, як прыязджаў з жонкаю на матацыкле, вадзіла іх у магазін, купіла нявестцы аксамітную сукенку, туфлі, гардзіны ў кватэру… Што яна гадавала ёй дзяцей, ёсць дакументы: фота, лісты, запіс у пенсійнай кніжцы, калі ёй пенсію пераводзілі адгэтуль у Мінск, дзе яна сядзела пры Рагнедзіных дзецях…

— Я табе, мама, шчыра дзякую за гэта, але чаму ты мне не памагла вучыцца, як мне было цяжка? У цябе нават мне яблыка не знаходзілася, ты ўсё аддавала Альбіне, якая і так жыла бязбедна за сваім афіцэрам.

— Каб не я, яны голыя хадзілі б, што тая афіцэрская зарплата? Няўжо мне Альбіна няпраўду гаварыла і гаворыць?

— Якраз яна і гаворыць табе няпраўду. Яна проста запалохала цябе сваёю беднасцю, ты стала пастаўляць ёй усё, што ты можаш, жыць для яе і яе сям'і. Ты пахавала сябе як чалавека, ператварылася ў яе прыслугу. Мала гэтага: Альбіна ўсяляк нагаворвала на мяне — што я сякая і такая, што памагаць мне не трэба, усё роўна яна прагуляе. І ты ёй верыла, нібы ты мяне ведала горш за сваю Альбіну.

Маці слаба адбівалася, яе аргументы былі нейкія непераканаўчыя. Рагнеда, як здалося Янку, загнала яе ў кут, з якога дарогі назад няма.

— А колькі я памагала Альбіне? — наступала яна на матку. — Мо яна ўжо забылася? Колькі яна ў мяне жыла? Хто памог паступіць ёй у ін'яз, дзе яна правучылася ўсяго адзін семестр і была адлічана за непаспяховасць? А потым я ўладкавала яе ў геафізічную партыю ў Слуцк, дзе яна і знайшла свайго лейтэнанта, цяпер палкоўніка… А потым жылі ў мяне, як вярнуліся з Цюмені, чатыры душы… І за гэта яна плаціла мне вось такімі нагаворамі: я прапашчая, гуляшчая, навошта ёй памагаць? Усё гэта хлусня, няпраўда

ад пачатку і да канца. Я была бедная, гэта так, але сваё цела не прадавала. Я мела сваю медсястрынскую зарплату, я працавала як праклятая, брала звышурочныя, каб пракарміць сваіх хлопцаў, апрануць, адправіць у школу. І яны не выглядалі горшымі за ўсіх дзяцей, і вучыліся выдатна... А ты ў Мінск перасылала сваёй Альбіне мяшкамі бульбу, гародніну, яблыкі, а мне рэдка калі твой зяць перадаваў які мяшэчак пабітых яблык... Не хто-небудзь, а твае суседзі пыталіся ў цябе, чаму ты пасылаеш толькі адной дачцэ, а другой, старэйшай, амаль нічога, ты адказвала, што старэйшая і так пражыве, а малодшая зусім бедная, ёй трэба памагаць.

Маці ўжо нават не адказвала на Рагнедзіны закіды, яна стала нейкая як каменная, зацялася і маўчала, апусціўшы галаву на грудзі, і можна было падумаць, што яна дрэмле.

Янку ўжо рабілася шкада старое жанчыны, а тым болей — маткі яго жонкі, і ён шукаў моманту, каб спыніць фантан Рагнедзінага — не сказаць каб красамоўства, але нечага такога тэатральнага, як маналог абвінаваўцы. Яму прыйшла ў галаву думка, што Рагнеда магла б стаць неблагою артысткай, і ўсе якасці для гэтага ў яе былі: прывабная знешнасць, дасканалая жаноцкая постаць, тэмперамент, голас, выразныя сінія вочы, — усё гэта прыцягвала да сябе ўвагу гледача. Сёння яна вяла сваю ролю выдатна, выступала як ярасны абаронца справядлівасці, а не толькі свае асобы. І вось яна пачала яшчэ адну тэму, якую маці ніколі не закранала, нібы яе ўвогуле і не было: пра Рагнедзінага бацьку, пра свайго мужа Івана Паўлавіча.

— Цяпер, мамачка, я хачу ведаць, чаму ты адправіла майго бацьку ў вар'яцкі дом, чым ён заслужыў такую, з дазволу сказаць, ласку? Не думай, што я табе паверыла... Я потым знарок пайшла працаваць у тую бальніцу, куды яго запраторылі. І там я знайшла дакументы, дзе чорным па белым было напісана: агульны склероз, пнеўманія. І ніякае не вар'яцтва, як ты ўсім хацела даказаць. — Рагнеда замоўкла, чакаючы адказу, — і ён прагучаў адразу ж.

Маці раптоўна ўстрапянулася — адкуль узяліся ў яе сілы? — і пачала расказваць трохі нервовым тонам, з нейкімі як перабіўкамі між словамі, як ён сябе паводзіў апошнім часам, як збіраўся рабіць даклад у Вашынгтоне перад Кангрэсам — ну быў проста натуральны вар'ят: лез на сцяну і кідаўся на яе з кулакамі... Вось таму яна і выклікала людзей — урача і фельчара, потым суседзяў, і яго адправілі ў Мінск. А з пошты вярнулі пісьмо Сталіну, якое ён напісаў перад гэтым.

— Дзе тое пісьмо, дзе ты яго падзела? — перабіла яе Рагнеда.

Маці толькі вяла махнула рукою і працягвала:

— Яго павезлі ў Мінск з партфелем, набітым усякімі паперамі, ён з ім не разлучаўся, нанач клаў пад падушку. Яму сказалі, што ён у Мінску будзе чытаць лекцыю перад нейкімі акадэмікамі...

— А дзе той партфель, куды ён падзеўся? — дапытвалася Рагнеда.

— А хіба я ведаю? Мне яго не аддалі, — апраўдвалася маці.

— Як гэта не аддалі? Павінны былі вярнуць! — настойвала Рагнеда.

— Шукай ветру ў полі! — маці зноў махнула рукою, ужо са злосцю. — Потым я два разы ездзіла да яго ў Мінск. Першы раз мяне да яго не пусцілі, не ведаю чаму... Паехала другі раз, заходжу ў палату, а ён ляжыць, прывязаны да ложка — за рукі і ногі. І сустрэў мяне яхідным смехам. Нічога не сказаў, нібы яму мову адняло. Сястра дала яму лыжку вады, ён папярхнуўся, выплюнуў... А як ён Альбіну прыняў — гэта жах! Ён кінуўся да яе, закрычаў, выганяў з палаты, выкруціў ёй вялікі палец на руцэ. А тыя

апельсіны, што яна яму прынесла, шпурляў на падлогу і таптаў нагамі. Вось так ён прыняў тваю сястру… А ты ж у яго была?

— Не магла я ў яго быць, ты ж ведаеш, я ўпала і разбіла калена, самую рэпку, таму і не магла яго наведаць. Каб я там была, партфель не прапаў бы, яны не мелі ніякага права яго забіраць, гэта яго рэч, яе павінны былі вярнуць разам з ім…

— Мелі ці не мелі — пайдзі дакажы. Цяпер канцоў не знойдзеш. Мо ён і там крычаў, што памёр тыран? Ведаеш, што за такія словы яму пагражала? А мне? А вам усім? Цяпер вы смелыя, а тады хто мы былі? Ніхто! Маглі прыехаць, забраць, судзіць ці без суда адправіць, куды ім захочацца…

— Дык вось, ты, мамка, бацькам ад іх і адкупілася, — падвяла вынік Рагнеда. — Таму ты і захацела ад яго адгарадзіцца!

— Я хацела вас выратаваць, пра сябе я не думала, — адказала маці нейкім панылым тонам.

— Я ведаю, за каго ты баялася! За Альбіну! Каб у яе Рагаткіна пагоны не паляцелі з плеч.

Янка ўжо чуў гэта ўсё ад Рагнеды раней, а цяпер ён нібы глядзеў невялікі сямейны спектакль, у якім маці і дачка хочуць даказаць сваю праўду і вінавацяць адна адну ў розных грахах. Само сабою зразумела, што ён быў за Рагнеду, але разам з тым у яго душы варушыўся жаль да яе старое маткі, якой выпала нямала перажыць страхаў і напасцяў, маючы такога мужа, якім быў Іван Паўлавіч Жаркоўскі. Вось пра гэты страх яны якраз і гаварылі цяпер. І гаварыць ужо можна. А тады…

— Я табе скажу, — спакойна азвалася маці, — што за Альбіну я больш баялася, чым за цябе. У цябе муж быў парторгам высокай установы, выкладаў недзе там сваю матэматыку, ён удзельнік вайны, былы афіцэр, паранены, — яго не вельмі возьмеш абы за што. А Альбінін малады афіцэр — яму раз — і пагоны паляцелі б, як ты кажаш. І што тады рабіць Альбіне? Куды ёй з дзвюма малымі дочкамі? У яе ж ніякай прафесіі, у цябе хоць зачэпка нейкая ёсць, а ў яе — нічагуткі…

— А хто ёй не даваў? Хай бы не ленавалася, дык бы і інстытут скончыла. А як я хацела вучыцца, дык вы мне фігу з макам…

— Цябе Бог не абдзяліў талентамі, усё ты пабрала, а вось яна засталася ў мяне ў чым стаіць.

— Не кажы, мамка, ты на яе дзьмухала, ты з яе пушынкі здымала, ты яе ад усякай працы аберагала, ты яе вучыцца не прымушала — вось яна і вырасла такая безабаронная. Толькі замуж умела выйсці, тут яна спрыт паказала…

— А што ты хочаш? Яна не прамахнулася, так як ты, хоць ты ў нас вунь якая спрытная і таленавітая. А яна бездапаможная. Але затое яна гаспадыня, вунь бачыш, прывезла цэлую жароўню галубцоў, як смачна іх елі за маліну, як хвалілі.

— Як мукі скрыня, дык і свіння гаспадыня. Хай бы яна на маю зарплату разагналася! Я суп варыла з аднае моркаўкі, дзвюх бульбін, заскварвала падсмажанаю на алеі цыбуляю, у мяне кількі былі палічаны — колькі каму. Я была донарам, кроў здавала, каб неяк выжыць… А яна жыла як пані, капейкі не лічыла. Так, як ты некалі, за такім дрэнным, ліхім мужам, маім бацькам. Колькі бацька меў у месяц, як быў дырэктарам школы пры паляках?

— А недзе трыста злотых…

— А што за іх можна было купіць?

— Што хочаш купляй, можна не скупіцца. Карова каштавала сто пяцьдзесят злотых на рынку. А пуд жыта каштаваў два злотых.

— Вось бачыш, якая ты была каралева за маім бацькам! А ты яго, не раўнуючы, як у заготскот здала…

Янка чакаў, што вось яны пагаварылі на высокіх нотах, а пад канец перайшлі на мірны тон, усё ўкладваецца ў нармальныя рамкі — і тут такая вось канцоўка! Нават яму разанула вуха такая Рагнедзіна фраза, а што ўжо гаварыць пра матку? Не ўмее Рагнеда быць дыпламаткаю, мо таму яе маці і недалюблівае, што яна за словам у кішэню не лезе, можа секануць з пляча.

Маці ўспыхнула, як порах:

— Як ты гаворыш са мною, нягодніца? — крыкнула яна і стукнула далонню па стале, ажно зазвінелі шклянкі ў сподках. — Я цябе так вучыла гаварыць са старэйшымі? Са сваёю маткаю — тым болей! Ты што, ужо зусім гонар страціла?

— Давай лепш пра гонар не будзем успамінаць, — роўным тонам адказала Рагнеда. — Мы яго даўно размянялі на дробную манету… Я хачу, каб ты папрасіла ў бацькі прабачэння за тое, што ты з ім зрабіла.

— Не табе судзіць, як я вінавата перад тваім бацькам! Не табе! І не лезь з носам у чужое проса! Ты лепш думай пра сябе і сваю сям'ю. У цябе ёсць свае абавязкі, а ў мяне свае. Я ў твае не лезу! — усё так жа эмацыянальна-рэзка гаварыла маці.

— Я абараняю свайго бацьку, — усё так жа роўна вяла гаворку Рагнеда. — Маю я на гэта права? Я хачу ведаць пра яго ўсё! Я хачу, як цяпер кажуць, яго поўнай рэабілітацыі. Таму што ён не вінаваты перад табою, а хутчэй — наадварот.

— Ты лічыш, што чым больш ты будзеш чарніць мяне, тым сама станеш больш ружовая ці белая? Я ведаю свае грахі, і ведае іх Бог, а ты чужых грахоў не падлічвай. Я ўжо табе сказала: займайся сабою, вось мужам сваім, па ўсім відаць, неблагім чалавекам. А ты ўсё распінаешся, табе трэба нешта мяняць, нешта перарабляць… Вунь ідзі ў грады і там перарабляй ці яблыкі збірай…

— Дзякую, мамка, за парады. Ты да мяне заўсёды, як да першакласніцы адносілася, лічыла, што я нічога не павінна рабіць па-свойму, за мяне ты сама падумаеш. Мала ты мне давала волі, баялася, што я павярну не туды, куды ты кіруеш. Толькі так, толькі туды, куды ты скажаш… Я толькі цяпер зразумела, што, каб я цябе менш слухала, а ты мне як маці больш дапамагала, мой лёс быў бы зусім інакшы. Не была б я медсястрою, а магла б стаць доктарам медыцыны, прафесарам. А ты на мяне махнула рукою: няхай, яна і сама праб'ецца, хай ёй бацька дапамагае, яна яго любімая дачушка. А Альбіна — твая любімая дачушка, яна ад цябе мела ўсё, што хацела… Памятаеш, як мы з бацькам былі па дні галодныя, калі ты мыла бялізну і падымала згэлк на ўсю хату, нібы ты сама меней варочала горы? Ды што бялізна? Гэта дробязь! Але ўсё тое, што рабіла ты, ацэньвалася па самаму высокім градусе, а што мы — тое не ставілася і ў грош. Бо ты прыгожая, ты самая-самая, на цябе адну павінна свяціць сонца, ты ў цэнтры ўвагі, для цябе ўсё! Мо не так? Альбіна — таксама прыгажуня, непаўторная, ненаглядная. А я — і ў каго я толькі ўдалася? У сваіх цётак, бацькавых сёстраў! У мяне і нос не такі, як трэба, і стан не ў тваім гусце — як у маіх цётак. Нечым яны табе не падабаліся, хоць былі і прыгожыя, і статныя, і працавітыя, і добра замуж павыходзілі… Не было ў нас ладу ў сям'і, не было прагрэсу. Сям'я была падзелена на две палавіны: правую і левую.

Вы з Альбінаю — правая, мы з бацькам — левая. Мы ішлі ў розныя бакі, таму і прыйшлі да нічэго, як кажуць палякі... Вы настаўнікі, вы па тым часе дасягнулі немалых вышыняў. А чаго дасягнулі вашы дзеці? Якіх такіх вышыняў? Горкі смех. А дзеці павінны абганяць сваіх бацькоў, узнімацца вышэй за іх, інакш не будзе прагрэсу, будзе застой і дэградацыя. У нас атрымаўся менавіта застой, таптанне на месцы ці хадзьба па крузе. І ўсё таму, што мы былі падзелены, сям'я ішла не ў адным кірунку. Ты ставіла на Альбіну, бацька — на мяне... Але бацьку ты не дапускала да руля, кіравала ўсім ты, кіравала ў Альбінін бок, у яе інтарэсах. Бацька памёр без пары, прапалі ўсе мае таленты за нішто, ты тут адна гаруеш, як бязродная сірата, толькі Альбіна нешта мае ў жыцці — хоць нейкі дастатак, спакойна пагадавала дзяцей... Вось і ўся наша сямейная эпапея: шэрая, будзённая. А магла быць і лепшая, але ты, мама, яе сапсавала. Толькі ты!

Янка ўвесь час хацеў перапыніць Рагнедзін доўгі маналог, каб яна не даводзіла сябе, а асабліва старую матку, да знемажэння, да сардэчнага крызу, але чамусьці не мяшаўся ў іх сямейную спрэчку, слухаў. Няхай выкажуць усе свае крыўды, усе свае думкі адна пра адну, гэта нават цікава і яму, чужому тут чалавеку — мо нават некалі прыдасца як матэрыял для нейкае сямейнае драмы. Матэрыял сапраўды не радавы, такога канфлікту не вельмі знойдзеш абы-дзе... Аднак жа — можа, і хопіць? Ці не час пашкадаваць нервы і сэрца?

— Рагнеда, — узняў руку Янка, — дазволь цябе перапыніць. Пашкадуй сваю маму і сябе. Колькі чалавек можа вытрымаць пад высокім напружаннем? Гадзіну, дзве, не болей. А колькі ўжо ў нас ідзе дыскусія? «Караул устал», — памятаеце матроса Жалезняка? Падумай пра маму, пра сябе... Ты шмат нагаварыла крыўдных слоў маме, для яе сэрца гэта небяспечна, нават для цябе. Нават для мяне, хоць я тут чалавек збоку... Я лічу, што сказана тут шмат чаго пазітыўнага, але шмат і лішняга. Асабліва, мне здаецца, Рагнеда перастаралася, дыялог ператварыла ў маналог, — такім чынам, парушыла этыку. За гэта яна павінна папрасіць у мамы прабачэння. А мама, калі яна згодна, няхай адкажа на ўсе Рагнедзіны закіды, каб слова апошняе засталося за старэйшым чалавекам, а няма больш паважанага старэйшага чалавека, як нашы мамы. І на гэтым мы закрыем дыскусію — да лепшага часу.

— Ой, ты хітры секундант, Яначка, — ажно засмяялася маці — ад яго слоў ці ад сваіх, але адразу перамянілася, як адышла, — чакаў, пакуль абодва бакі не наломяць сабе добра бакі, а потым ужо выступае міратворцам... Але дзякую і за гэта, што ўважыў старасць. А мая дачка хацела, каб я яшчэ мо і яе пераспрэчыла. Яна думае, што я яшчэ вунь якая — як яна. Дык яна ж за мяне на дваццаць адзін год маладзейшая. Чуеш, Рагнеда? А ты хочаш са мною ў рожкі брацца. Пабойся Бога! — Яна зрабіла невялікую паўзу, правяла далонямі па твары, нібы здымаючы з яго нябачную павуціну. — Не буду я табе нічога адказваць, дачушка, падумай спакойна над тым, што ты мне сказала, і як было мне прыемна ўсё гэта чуць ад роднага дзіцяці, якое я нарадзіла, выгадавала, вывела ў людзі, але, бачыце, не зрабіла яго доктарам медыцыны! Гэта ты ўжо сама павінна была старацца... Мо і дарэмна мы пасля бойкі кулакамі махаем, здароўе трацім. Мо яго яшчэ паберагчы варта. Не сёння ж жыццё канчаецца, не сёння...

На гэтым скончыўся іх доўгі дзень. Супакоіўшыся трохі, яны разышліся па сваіх пакоях. Аднак прыйсці ў норму было не так проста. У Рагнеды разбалелася галава, яна кідалася ў пасцелі з боку на бок і ніяк не

магла заснуць, нібы не ўсё яшчэ выказала, і таму гаварыла яму, Янку, які ляжаў побач. Яна дадавала дэталі, якіх не гаварыла матцы, каб надта яе не злаваць: як карміла сваіх сямейнікаў — ішла ў школу ў восем, а вярталася ў дзесяць вечара, а што ў дзяцей няма нічога зваранага, то Бог з імі. Ці як яна адносілася да Рагнедзіных «жаніхоў». Выбірала не Рагнеда, а яна: жаніх павінен быў адпавядаць яе густу, мець адпаведную біяграфію. Асабліва ёй не падабаліся вясковыя хлопцы: гэты не такі, гэты не гэтакі. Гаварылі доўга, мо да гадзін трох ночы. Рагнеда прыняла таблеткі і ўрэшце заснула. Але ў сем раніцы прачнулася ад болю галавы — цягнула на ваніты. Значыць, падскочыў ціск. Янка даў ёй таблетку адэльфану, валер'янкі — трохі палепшала, і яна заснула. Янка быў устаў, але зноў лёг, не хацеў парушаць ломкае цішыні, мо там і маці доўга не спала, хай паспіць хоць на раніцу. Аднак сам заснуць больш не змог, перабіраў увесь учарашні дзень: прыезд Рагаткіных, гутарку-спрэчку, потым іх ад'езд, зноў спрэчку з маткаю…

Янка ўстаў недзе гадзін у дзесяць, маці ўжо хадзіла па двары. Была нейкая шэрая і сонная, казала, што кепска спала, часта прачыналася, балела галава. Настрой быў прыгнечаны, але ні на кога не скардзілася, што нямала здзівіла Янку. Спыталася пра Рагнеду, ці балела ў яе галава, і, пачуўшы Янкаў адказ, нават зазлавала: хіба можна так сябе ўзвінчваць, так цвяліць? Навошта ёй трэба было варушыць даўно забытае? Мо трэба яго часам паварушыць, і праветрыць, але не часта. З чым Янка не мог не згадзіцца: таптацца па мазалях не трэба, хай яны засыхаюць.

Яна яшчэ раз пахваліла яго за тое, што спыніў бясконцую спрэчку, якая магла давесці не толькі да болю галавы, а яшчэ і да чаго горшага.

Усё больш Янка прыходзіў да высновы, што яны з маткаю не ўжыліся б, калі б пасяліліся ці ў яе хаце, ці каб нешта сабе збудавалі. Яна прывыкла ўжо жыць адна, каб ёй ніхто не замінаў, тым больш не казаў, што ёй рабіць і як рабіць. Сёння яна можа дазволіць Рагнедзе памыць посуд, а заўтра — не, бо ў яе іншы настрой. Тое ж самае і з бялізнаю — яна і дагэтуль не дае мыць Рагнедзе яе кашулі ці якія там панталоны, не дае варыць ежу. Застаецца толькі быць на пабягушках: падай, прынясі, зачыні…

А калі няма згоды ў малым, дык не будзе яе і ў вялікім. Значыць, усё застаецца так, як было: маці жыве тут, яны — там, у Мінску. Пакуль у яе ёсць здароўе, яна будзе адна.

## XI

У аўторак раніцою дзядзька Карусь, Рагнедзін дзядзька з бабчынага калена, прыйшоў і сказаў ім, што адкрыўся прыём яблыкаў, ападкі па пятнаццаць капеек за кілаграм. У гэтага дзядзькі Каруся цікавая біяграфія, прайшоў польскую вайну з немцамі, потым акупацыя, а па вызваленні ваяваў у Прусіі, быў паранены, мае шмат узнагародаў. Не шкодзіла б, каб ён расказаў пра гэта ўсё больш падрабязна.

Дзядзька Карусь пайшоў, а яны ўзяліся збіраць яблыкі. Яны — гэта Рагнеда і Янка, а маці хадзіла, пaглядала, як ідзе работа. Потым ні з таго ні з сяго сказала Янку схадзіць на той пункт, праверыць, а мо Карусь сказаў няпраўду.

— Мы зараз сходзім з Рагнедаю, — адказаў Янка, — яна там яшчэ не была, хай паглядзіць.

Маці тут жа адмяніла свой першы загад.

— А чаго туды ісці? І што там глядзець? — сказала яна разважліва. — Схадзіў бы адзін, навошта Рагнеду цягнуць? Хай збірае ападкі…

— Не, усё-такі трэба праверыць, вы правільна сказалі. Не ведаючы броду, не лезь у воду, — не адступаўся Янка.

І яны пайшлі на пару, маці трохі пабурчала і супакоілася. Мінулі браму, зайшлі ў двор. Пад яблыняй, недалёка ад хаты, яны ўбачылі жанчыну, якая сядзела на драўляным тапчане са спінкаю. Яна выглядала нейкаю змораnaю, худою, сядзела неяк ненатуральна роўна, трымала перад сабою складзеныя рукі, якія дробненька трымцелі. Жанчына адразу пазнала Рагнеду, заплакала, стала распытваць пра матку, пра яе. Рагнеда коратка адказала, што маці яшчэ варушыцца, сёе-тое яшчэ можа рабіць. А яны — Рагнеда паказала на Янку — прыехалі да маткі, пабыць на прыродзе, трохі адпачыць ад вялікага горада. У канцы, натуральна, спыталася, а што з ёю?

І цётка Анюта расказала цэлую невясёлую гісторыю, як яна ехала да сына, у горадзе на калдобіне аўтобус падкінула, яна стукнулася плячыма аб сядзенне і пашкодзіла пазваночнік. Праляжала два месяцы ў бальніцы, але ўсё роўна здароўя не вярнулі, засталася вось такою — калекаю. Пабедаваўшы разам, урэшце Янка і Рагнеда зайшлі ў гумно, дзе прымалі яблыкі. Ужо знаёмы Янку высокі худы мужчына пацвердзіў, што апад ён сёння прымае, хай прывозяць. Ён нават даў ім з сабою новую скрынку, і яны пайшлі назад. Па дарозе Рагнеда сказала, што якраз гэты дзядзька вазіў яе бацьку ў Мінск у бальніцу. «Бог іх пакараў, але чаму не яго самога, а яго жонку?» — спыталася як сама ў сябе Рагнеда.

Збор ападкаў працягваўся ў паскораным тэмпе, назбіралі ажно тры скрынкі. І тут раптам яны ўбачылі на сваім дварэ чарнявага і барадатага маладога хлопца сярэдняга росту ў джынсавым касцюме з партфелем у руцэ. Яны адразу пазналі яго: то быў Анатоль з Заастравеча, пару гадоў назад ён вучыўся са старэйшым Рагнедзіным сынам Гарыкам на геафаку універсітэта, а цяпер яго, аказваецца, закінулі ў Калінінградскую вобласць, у былую Прусію. Цяпер ён прыехаў да сваіх у госці і вось хоча ведаць, як маецца яго стары сябра. Пасля кароткіх роспытаў дазбіралі чацвёртую скрынку і пайшлі за «круглы» стол у садзе.

Агледзеліся, што ў іх нічога няма з напояў, і Янка тут жа скокнуў у краму, узяў пляшку «Зуброўкі», хлеба, кілбасы, шпротаў. Маці тым часам рыхтавала абед, Рагнеда, як магла, старалася ёй дапамагчы, але пячы аладкі маці ёй усё роўна не дала. Яны былі ужо ў яе рашчыненыя, толькі кідай на патэльні ды пячы на газавай пліце. І ў яе гэта спрытна і хутка атрымоўвалася. «Круглы» стол аж гнуўся ад смачных страваў, праўдзівей, не ўмяшчаў усяго, што трэба было паставіць. Але неяк абыходзіліся — падавалі па чарзе, канвеерам. Выпілі па кілішку за сустрэчу, Анатоль трохі расказваў пра Прусію — Калінінградскую вобласць, дзе не засталося нямецкага парадку, затое шмат савецкага бязладдзя. Яму там працаваць нялёгка, людзі вельмі розныя, з усяго свету, але ёсць і шмат беларусаў, якія цяпер сталі сумаваць па радзіме, так жа, як і ён сам. Адзіная думка — вярнуцца назад.

— Хоць і тут не мёд, — далучылася Рагнеда і пачала расказваць пра старэйшага сына, з якім сябраваў Анатоль. — Вы ж ведаеце, што яму далі вольны дыплом, ён ужо быў жанаты, дык мо з паўгода нічога не мог знайсці, а потым уладкаваўся па знаёмстве ў нешта звязанае з вадою і аздараўленнем — нейкі спартыўна-лазневы комплекс. Але добра, што і так, — жонка працуе педыятрам, дачка расце… А мы вось тут у мамы загараем, нават на возера ходзім купацца, хоць і рэдка. Можна і рыбку лавіць, але мой Янка нешта не хоча.

— Я часам у краме рыбку лаўлю, а так, на вуду — не маю цярпення, — адказаў жартам Янка.

Маці сёння была ў добрым гуморы, і паколькі Анатоль быў амаль што паляшук, з поўдня раёна, яна стала расказваць пра вёску Морач, пра Морацкі народны хор, які яна бачыла яшчэ да вайны. Якія ў іх народныя строі — нават паказала нейкі стары фартушок, які ў яе захаваўся з таго часу: жоўтае поле, а на ім нашыты палоскі рознага колеру. Нібыта раней да іх прыязджаў чагосьці прэзідэнт Масціцкі і прывёз нейкіх кракаўскіх строяў, якія там засталіся і дагэтуль: спадніцы ў дробную клетку, гарсэты са шнуроўкаю, чаравікі на высокім корку і з доўгімі халяўкамі. І што яны ўсё тое вельмі ўпадабалі і ўвялі ў сваю моду.

Адным словам, доўга гаварылі, спрачаліся: пра сваё, пра чужое — польскае і расейскае. Што чужое становіцца сваім, калі яно доўга жыве на новым месцы, калі яно паступова падпарадкоўваецца мясцоваму закону — і хутка зліваецца з агульным фонам, нават перастае вылучацца. Ці не лепшая доля акупанта: растварыцца ў чужым бясследна? Ці горшая: старацца рабіць так, каб мясцовае было недзе там, пад сподам, а наверсе панавала тое, што ён прынёс сюды, хоць мо яно і не лепшае за тое, што тут было? І таму — бясконцае спаборніцтва свайго з чужым, добра, як мірнае…

Урэшце ўсе трохі стаміліся, Анатоль сказаў, што яму трэба ісці, каб паспець на аўтобус. Янка пайшоў пад яблыню, падняў некалькі малінавак і даў госцю з сабою. Ён падзякаваў за гасцінны стол і развітаўся, пацалаваўшы жанчынам ручкі. Янка правёў госця па вуліцы, амаль да аўтобуснага прыпынку. І вось Анатоль напаследак аглушыў Янку нечаканым прызнаннем: што ў яго дома павесіўся яго малодшы брат, нешта ў яго не выйшла з каханнем, і вырашыў, што лепей не жыць, чым жыць без каханай. Янка шчыра паспачуваў Анатолю, яны развіталіся. Пачутае яго моцна ўразіла, ён ішоў назад і думаў, якое бывае жорсткае жыццё. Вось чаму Анатоль меў нейкі як прыгнечаны выгляд, мала гаварыў і зусім не ўсміхаўся. А што ўжо казаць пра яго бацькоў, якія перажываюць трагедыю з сынам? Не дай Бог…

…Яблыкі здаць у той дзень Янку не ўдалося: то тое, то гэта — і дня няма. Серада пачалася з пагоды, на небе ні воблачка, вецер невялічкі, толькі злёгку варушыцца лісце на дрэвах. Пасля снядання Янка пайшоў дазбіраць ападкі, каб быў поўны камплект. У гадзін дванаццаць дня пайшоў на прыёмны пункт — а раптам прыёму няма? И добра што пайшоў, бо гаспадар гумна недзе адлучыўся, і невядома наколькі. Так сказала яму тая кабета ў чырвоным світры, якую яны бачылі з Рагнедаю. Яна сядзела на тым жа тапчане ў такой жа позе, трымала рукі перад сабою, і яны дробна трымцелі.

Жанчына папрасіла яго, каб ён павадзіў яе трохі, а то ёй робіцца неяк моташна, пачынае падварачваць пад грудзі. Янка памог ёй устаць з тапчана, узяў пад руку і павадзіў па двары. Яна стала расказваць, што сёння раніцою ўпала, як уставала з ложка, моцна грымнулася аб падлогу, пабілася: баліць калена і сцягно правае нагі. І раптам яна перамянілася, нібы засаромелася, і Янка не разумеў, што яна хоча сказаць.

— Вы хочаце нечага папрасіць? — спытаўся ў яе Янка.

— Гэта ж я захацела пасікаць, ды саромеюся вам сказаць, каб вы мяне падвялі да яблыні, я там прымастаколюся…

Ён падвёў яе да яблыні, яна абхапіла дрэва адною рукою, каб не ўпасці, а ён зрабіў некалькі крокаў убок, адвярнуўся. Яна неяк непрыкметна і хутка зрабіла сваю далікатную справу, Янка зноў узяў яе пад руку, падвёў да тапчана і пасадзіў. Яна стала дзякаваць яму і ажно заплакала. У яго

самога слёзы набеглі на вочы, а чаго — ён і сам не ведаў. Няйначай, ад спачування да чалавечага болю, чалавечай бяды… А чым ён мог памагчы гэтай жанчыне, калі не памагла медыцына? Нічым…

Янка вярнуўся назад, сказаў, што сёння прыёму няма. Маці мыла ў начоўках на ганку сваю бялізну, Рагнеда недалёка ад яе, пад бярозаю, у тазіку паласкала іхнія «шкуркі», нібы гэтай работы не магла зрабіць адна Рагнеда. Можа, яны тут пра нешта гаварылі, мо спрачаліся, але абедзве былі надзьмутыя — не ў гуморы.

На Янкава кароткае паведамленне маці тут жа выдала:

— Бачыце, учора дзень быў кароткі, яблык не здалі. А сёння закрыта. Так яны і пагніюць, тыя яблыкі, пакуль ты іх здасі. І яшчэ што папрашу? Я казала не чапаць малінавак, а ты ўсё роўна кідаў іх у скрынку, я сама бачыла. І ўчора таму хлопцу даваў…

— Ажно пяць штук, — знарок падказаў Янка.

— Табе смешачкі, а я іх сабе хаваю, пяку ў духоўцы, сырых я не ўкушу… Глядзі, больш не бяры, — неяк сур'ёзна, як малому дзіцяці, выгаворвала маці Янкаву віну.

І тут Янка, нечакана для сябе, выбухнуў, як бомба, і выдаў усё тое, што пакрыху-памалу збіралася ў яго свядомасці: і пра яе скнарлівасць, пра педантызм і дробязнасць, пра яе абыходжанне з імі як з дзецьмі: гэта можна, гэта не, туды хадзі, туды не хадзі.

— Да вас ніхто не паедзе, ніхто не прыйдзе, акрамя Альбіны, якой усё можна, астатнім — не, нават вашай дачцэ Рагнедзе. Вы лічыце, колькі я ўзяў у вас яблыкаў? Ды я іх вам вярну, паеду да маткі, да сястры, яны мне дадуць цэлы мех… Дарэчы. Сястра прыносіла нам яблыкі, сала і яшчэ там нешта, вы каштавалі яблыкі, хвалілі, а вось пазнаёміцца з ёю вы палічылі для сябе неганаровым жэстам…

— Ды я была так апранута, што пасаромелася… — хацела апраўдацца маці, зачапіўшыся за апошнія Янкавы словы — ці мо яны найбольш зачапілі яе за жывое?

— Проста вы лічыце сябе велічынёю, як заўсёды, а тут нейкая вясковая кабета, сястра такога ж самага санкюлота-бясштаннага, як кажуць французы. Вы ўвесь час падкрэсліваеце сваю значнасць, сваю думку-меркаванне, ні ў грош не ставячы чужое… Вось вы мыеце сваё, а ваша дачка — сваё, а хіба так трэба на добры лад? Вы ніколі, колькі мы тут, не згадзіліся з дачкою, не прыслухаліся да таго, што яна вам раіць, вы лічыце яе ну проста малым дзіцем — і гэта яна павінна вас слухаць ва ўсім і заўсёды… Ды каб яна вас не слухала, яна стала б вунь якім чалавекам, я ў гэтым ўпэўнены! Мне мае бацькі не навязвалі свае волі, не паказвалі пальцам, куды мне ісці вучыцца, затое яны памагалі матэрыяльна — і таму я дасягнуў нечага ў сваім жыцці. Дарослым дзецям не трэба паказваць, куды ім ісці, што выбіраць, яны гэта зробяць самі, ім патрэбна ваша дапамога ў крытычны момант. Вы гэтай дапамогі сваёй дачцэ не далі, вось таму яна і павінна была перажыць такую цяжкую паласу ў сваім жыцці, пакуль выбілася на роўную дарогу… Чаму вы не хочаце, каб яна тут жыла? Ды таму, што яна будзе вам замінаць, будзе блытацца пад нагамі. Вы не захацелі даць ёй тут пабудавацца, каб яна не стала раўнапраўную з вамі гаспадыняю гэтых сотак, такога вы не можаце дапусціць: хата ваша, соткі вашы, сад ваш. А якое гэта ваша, калі яно ўсё належала Жаркоўскім, яны тут жылі спакон веку? А сёння ўжо іх дачка не мае ніякіх правоў на гэтую вашу, як вы кажаце, уласнасць? Хоць яна ніякая не ваша, калі разабрацца па-чалавечы…

— Што ты такое гаворыш, Янка, што ты гаворыш? — бралася за галаву маці, неяк разгойдвалася, як яўрэй у час малітвы.

— Тое, што вы чуеце, — рэзка адказаў Янка. — Вам шкада падзяліцца са старэйшаю дачкою, затое вы лёгка дзеліцеся з малодшаю, хоць яна матэрыяльна жыла і жыве нашмат лепш, чым старэйшая. Каб гэта яна сказала, што хоча тут жыць з вамі, я ўпэўнены, вы прынялі б яе ў любы час, і ўжо не вы ёю камандавалі б, а яна вамі. І куды толькі падзеўся б ваш гонар…

— Мне мае дочкі абедзве роўныя, я іх аднолькава люблю, — не вытрымала маці — і яшчэ нешта хацела дадаць, але тут умяшалася Рагнеда:

— Не кажы, мама, не кажы. Тваю любоў я адчуваю ўсё сваё жыццё, толькі яна вельмі калючая, твая любоў да мяне, а вось Альбіну ты любіш, як трэба любіць, і мо нават лішне: усё ёй дазволена, усё для яе, для яе мілых дачушак, тваіх унучак…

Калі б на гэтую сцэну сямейнага разладу глядзеў хто збоку, напэўна, заходзіўся б ад смеху, бо жанчыны, маці і дачка, стаялі воддаль адна ад другое, адна над начоўкамі, другая над тазікам, а Янка, як сувязны паміж імі, хадзіў сюды-туды, вырываўся нават на дарожку да калодзезя, і ўсё сыпаў, як з мяшка, свае важкія, як яму здавалася, довады, заганяючы сваю родную цешчу ў кут. Довадаў і аргументаў у яго было яшчэ і больш, але ён баяўся іх усе выдаваць, каб не пакрыўдзіць такую самалюбную, ганарыстую жанчыну грубым, неасцярожным словам. Ён не хацеў мяшацца ва ўсе астатнія перыпетыі іх жыцця, яго цікавіла толькі лінія маці—дачка, бо гэта ў нейкай меры закранала і яго самога: адносіны да яго жонкі былі фактычна адносінамі да яго, і калі балела ёй, балела і яму.

— Як сказала адна жанчына — а яна перад вамі, ваша дачка — аддайце сэрца людзям, не замыкайцеся на дробязях, гляньце на свет шырэй — і вы ўбачыце, што жыццё не такое аднастайнае, яно не павінна замыкацца на вашай малодшай дачцэ, а вы не яе слуга, у вас шмат абавязкаў — нават перад усім нашым грамадствам, хай гэта гучыць і трохі высакапарна, і вы раней так і жылі, гэта відаць з таго, як да вас адносіліся людзі раней, як пра вас расказвае старэйшая дачка, якая ведае вас з малых гадоў і цэніць вас як сваю матку, як чалавека грамадскага, які жыў не толькі для сябе. Вы аддавалі сэрца людзям, і гэта правільна, так павінен рабіць кожны чалавек, калі ён патрыёт, калі ён любіць свой край і людзей, сярод якіх вырас і жыве… Дык вось, ваша старэйшая дачка працягвае вам руку дапамогі, а вы не хочаце яе браць, хоць дапамога вам патрэбна, вы ўжо чалавек у гадах, і таму не адхіляйце рукі, якая вам працягнута. Вы можаце падумаць, што мы так робім у сваіх шкурных інтарэсах, але гэта не так. Мы ўсё робім і будзем рабіць па абавязку свайго сумлення, свайго сэрца. Мы, як і вы, будзем аддаваць сваё сэрца людзям, так, як аддавалі яго і вы…

Маці больш маўчала, чым спрачалася, яна нібы не знаходзіла контраргументаў у спрэчцы, не знаходзіла моманту, каб уклініцца ў спрэчку і нешта даказаць, а мо нават і змяніць ход спрэчкі на сваю карысць. На гэта ў яе ўжо не было ніякага імпэту, яна нават не была на той хвалі ўздыму, на якой адчуваў сябе Янка. Фактычна яна здавалася без бою, і Янку ўжо было шкада яе: знайшоўся герой, ваюе са старою кабетаю, хоча перавярнуць яе ў сваю веру… Смешна ты сёння выглядаеш у яе вачах, вельмі смешна!

Суседзі побач, цераз вуліцу і цераз плот, напэўна ж, чулі гэтую спрэчку-сварку і, відаць, дзівіліся, што раптам у Жаркоўскіх такі шум. А дагэтуль тры тыдні стаяла цішыня. Што там у іх магло здарыцца?

Абедалі нехаця, пры абсалютным маўчанні, стараліся не пазіраць адно на аднаго. Янка яшчэ раз пераконваўся, што такіх эксперыментаў-выбрыкаў больш рабіць не трэба, бо яны да добрага не давядуць.

Адразу пасля абеду да іх зайшоў малады чалавек, даволі прыстойны з выгляду, апрануты ў чорны ґарнітур і пад гальштукам, хоць на дварэ такая цяплынь.

Ён назваўся Казановічам, працаваў у райкаме партыі інструктарам, родам з блізкае ад цэнтра вёскі, якая была знакамітая тым, што з яе за мяжу ў Саветы ўцякло мо чалавек дваццаць маладых хлопцаў, і ў большасці лёс іх быў трагічны: або былі расстраляны як польскія шпіёны, або апынуліся далёка-далёка і там загінулі — у шахтах або на лесапавале.

— І што вы хацелі? — спытаўся ў яго Янка, не на жарт заінтрыгаваны.

— У мяне сабрана шмат матэрыялу пра нашых камсамольцаў-падпольшчыкаў, якія дзейнічалі пры нямецкай акупацыі. Лёс вы іх ведаеце, яны ўсе загінулі, некаторыя нават былі павешаны.

— Так, я чуў пра іх, некаторых ведаў асабіста, адзін быў маім сваяком, — сказаў на гэта Янка. — Вы хочаце паказаць мне матэрыял?

— Менавіта так я і падумаў, але з сабою не ўзяў, проста хацеў спытаць, мо ў вас няма часу ці яшчэ якая прычына.

— Часу заўсёды бракуе, але паглядзець матэрыялы не адмоўлюся.

Інструктар павесялеў, сказаў, што днямі зойдзе і прынясе папку. На гэтым яны і развіталіся. Толькі цяпер, зблізку, Янка прыкмеціў, што яго новы знаёмы трохі пад газам, хоць скура твару не выдавала яго ні на грош. З такою скураю, падумаў Янка, можна смела ісці ў начальнікі — не падвядзе.

Калі госць пайшоў, Янка ўзяўся капаць градку пад кветкі, але не паспеў надта разагнацца. Суседзі Аляксейчыкі сталі перавозіць брыкет, які ім выгрузілі на дварэ. І адразу ў іх пайшло на перакос: «тачанка» абярнулася, брыкет з кашоў пасыпаўся на зямлю. Янку, каб і не хацеў, давялося памагаць, бо стары дзед ужо не мог моцна трымаць ручкі «тачанкі», кіравала яна ім, а не ён ёю.

Янка ўпрогся папраўдзе, вазіў мо гадзіну ці болей, добра-такі ўгрэўся, і ўжо мала заставалася да канца, як прыйшла Рагнеда і сказала, што прымаюць яблыкі, і што трэба не праміргаць моманту. Цяпер ужо сусед Аляксейчык стаў памагаць Янку грузіць скрынкі — усяго чатыры — і нават пайшоў з ім на прыёмны пункт, хоць нешта ды трохі пасабляючы ў дарозе. На яблыкі яны патрацілі няшмат часу, вярнуліся, і Янка яшчэ дапамог перавезці астатак брыкету.

Усе былі проста шчаслівыя ад такое ўдачы: і суседзі, і яны самі — рэдка калі выдараецца такі дзень, калі ўсё спорыцца.

— Давай сходзім на возера, трэба змыць працоўны пот, — сказаў Янка Рагнедзе, і яна згадзілася. Паклалі ў торбачку ручнік, мыла, нават запасныя плаўкі і пайшлі.

Накрапваў дожджык, але па ім можна было жыць, вада за дзень сагрэлася, прыемна абцякала цела. Янка добра паплаваў, потым памыўся з мылам, а Рагнеда толькі тупала з берага па плыткай вадзе. Яшчэ ў маленстве ёй наваражыла цыганка, што ад вады яна мецьме бяду — ад вады блізка да бяды.

Вячэралі даволі дружна: Янка добра папрацаваў, утаргаваў грошай за яблыкі, аддаў матцы, а яна вярнула яму пяцёрку «ганарару» ды яшчэ паставіла недапітую пляшку віна. Добра напрацаваўшыся, як след прагаладаўшыся, Янка са смакам еў смажаную бульбу і запіваў кефірам. Гэта была яго любімая ежа яшчэ з маленства: бульба з кіслым малаком.

Пасля вячэры Янка засеў чытаць тоўсты рукапіс, ужо недзе трэць ён адолеў, але каб у яго спыталіся, ці ёсць тут аснова для кнігі, ён не змог бы адказаць пэўна: нешта як быццам і ёсць, але нечага і бракуе. Любы выдавец такую рэч лёгка верне аўтару і скажа: мо хто вам яе і надрукуе, а я не магу…

Назаўтра было свята Зелна — у царкве свянцілі зёлкі і ўсякія травы. Янка з Рагнедаю зранку пайшлі ў горад, каб папоўніць свае харчовыя запасы. На вуліцах відаць былі жанчыны з букетамі і букецікамі ўсякіх зёлак, якія кіраваліся пад Арынскую царкву.

— Глядзі, Янка, у гэтай жанчыны ў белай блузцы ў букеце тырчаць галоўкі маку, — паказала Рагнеда на жанчыну, якая размінулася з імі. — Яе не аштрафуюць за мак?

— Наша міліцыя занята больш важнымі справамі, чым нейкі там мак, — адказаў Янка голасам самаўпэўненага начальніка.

На тратуары ля рэстарана спаткалі Янкавага земляка — з адной вёскі, нават былога суседа Ленкаўца, які тут жыве ўжо даўно, а сустракаюцца яны рэдка. Гэта быў прысадзісты моцны мужчына з сівымі прамымі валасамі, за якія і раней яго звалі Сівы.

— Прывітанне земляку, — абрадаваўся Ленкавец, падаў Янку руку, а Рагнедзе кіўнуў. — Даўно вас разам не бачыў. — Узняў вочы на шыльду «Рэстаран» ды сур'ёзна спытаў: — Мо зойдзем?

— З самага ранку? Трэба апетыт нагуляць, а тады ўжо можна, — адказаў Янка.

— Тады рэстарана пад рукою не будзе, — не згадзіўся Ленкавец. — Вы спяшаецеся? А то раскажу гісторыю за так, якая са мною была.

І тут жа пачаў расказваць, як ён са шваграм з Тальяці, ёсць такі горад на Волзе, выпілі па пляшцы «Экстры», а потым пайшлі пабачыць пляменніцу, даўно ў яе не былі. Праходзяць, вось як цяпер, міма рэстарана. Швагер угледзеў знаёмую шыльду ды кажа: «Мо зойдзем?» — і кіруе ў дзверы. Зайшлі, распрануліся, узялі па пляшцы піва, па сто пяцьдзесят гарэлкі і па дзвесце смятаны. Пачалі з гарэлкі, цягнуць сабе не спяшаючыся. Ды раптам як тузане яго швагра — бы са шланга — і проста на стол. — Тут ён просіць прабачэння за «натуралізму». — Ён, Ленкавец, проста як ашалеў, ускочыў на ногі ды ходу, на вешалку, хацеў забраць паліто ды змыцца. А тут не прапускаюць! Прыбяры, кажуць, шмат тут вас усякіх… А швагер ужо спіць за сталом як дома. Прыбраў ён як належыць, штурхае швагра, а той і не думае прачынацца. Давялося яшчэ цягнуць яго дадому. Які ж вывад просіцца? А вельмі просты: не можаш — не бярыся. Або — ведай меру сваю.

Яны разам пасмяяліся трохі, а потым Янка кажа свайму земляку:

— Ты лепш раскажы, як ты на вепручку да ваенкома Фаміна заехаў і што з гэтага атрымалася. Вось хай Рагнеда паслухае.

Ленкаўца доўга ўпрошваць не трэба, ён заўсёды гатоў.

— Як час маеце, паслухайце. Гэта было яшчэ ў вайну, нас толькі вызвалілі, каб іх гром пабіў. Я з дваццаць сёмага, мяне ў войска могуць забраць. А ўжо адзін старэйшы з нашай сям'і недзе прапаў на вайне палякаў і немцаў, другі ўжо ў Чырвонай Арміі, недзе да фронту набліжаецца, а тут і мяне, маці адна-адна застаецца. Вось яна мне і кажа: з'ездзі ты да гэтага ваенкома, я чула, што ён сяму-таму скідкі дае, як яму дасі што вартае. Вазьмі кабанчыка, што аддзелены ад свінак, ён ужо на пудоў пяць пацягне. Завязі ты гэтаму ваенкому, мо і злітуецца над намі… Так я і зрабіў: даведаўся, дзе ён жыве, ды ранічкаю прывожу яму кабанчыка. Ён не вельмі

і здзівіўся, узяў, прозвішча маё запісаў, адрас. Кажа, будзе табе адтэрміноўка, праз тыдзень зазірні. А ён ужо такі важны стаў, з жывоцікам, у дарагім халаце мяне прымаў, нейкія хлопцы тым кабанчыкам займаліся… Ну мы дома супакоіліся, ды ненадоўга. Назаўтра ранічкаю нейкі вайсковец прыносіць мне позву — тэрмінова да ваенкома. Што там такое? Ажно бяда: кабанчык наш тэрмінова акалеў за ноч. Ад чаго — ніхто не ведае… І што ж? Фамін кажа мне: усё, пойдзеш ты, як міленькі, служыць, сушы сухары. Я дадому, расказаў матцы, яна пабожкала, паплакала, а потым і гаворыць: рабі, сынок, як хочаш, а я на тваім месцы не пайшоў бы ім служыць, хопіць што два ўжо служаць, невядома, ці жывыя вернуцца. Што ж, калі так, трэба падумаць… А ў мяне быў адрасок аднаго хлопца з Данбаса, ён там апынуўся не так даўно, пісаў, што можна ўладкавацца ў вучылішча ФЗН шахцёрскага тыпу, нават мяне агітаваў. Ну, я за гэта ўхапіўся, як той тапелец за саломінку. Сабрала мяне маці, дала сідар вялікі, як падняць, я ў Баранавічы на прыгарадным, а адтуль прамою дарогаю ў Данбас, у той славуты Краснадон — Алег Кашавы, Любка Шаўцова і іншыя. Тады я іх яшчэ не ведаў — хто такія, гэта пазней… Праз які тыдзень прынялі мяне ў тое вучылішча, стаў на шахцёра вучыцца, у шахту спускацца, адбойны малаток цягаць, а ён цяжкі, халера, і вібрацыю вялікую дае, аж муціцца ў галаве. Хіба я думаў, што ад поля, ад лугу буду хадзіць пад зямлёю па той чорнай шахце, дзе вугальным пылам смярдзіць, а не нашымі лугавымі краскамі пахне. Ды што зробіш? А пра тую страшную гісторыю я ўжо тваёй жонцы не стану расказваць, яшчэ сніцца будзе. Бывайце здаровы! — і ён падаў сваю шырокую далонь-лапату — і пайшоў у свой бок.

— Цікавы ў цябе зямляк, — сказала Рагнеда. — Кім ён тут працуе?

— Ён шавец, у камунгасе робіць. Вось давай свае туфлі — са старых зробіць новыя. Ён рабацяга, з малых год цягнуў як вол, надрываўся. Зямлі мелі шмат, тры браты, раслі сіротамі, бацька памёр рана. За працаю свету не бачылі. А што цяпер? Ён уцёк ад калгаса, а браты там, маюць хаты, сем'і, абодва вярнуліся з вайны. Цяпер можна жыць, а спачатку капейкі лічылі… Але ён мне неяк казаў, што залатнікоў у іх было, як гузікаў, у куфры ў прыскрынку ляжалі — бяры жменяю. Гэта яшчэ пры панах было…

— А што ён гаварыў пра нейкую страшную гісторыю? — зацікавілася Рагнеда.

— Ён мне раней расказваў. Там, у Краснадоне, на шахце, забілі аднаго выкладчыка вучылішча, іх брыгадзіра. Быў абдзіралам, рэзаў усякія расцэнкі, сабе грошы налічваў. Вось адзін адчайны хлопец і пакараў яго. Недзе ў парку ў нядзелю былі танцы, іграў аркестр, фабзайцы таксама там круціліся, і іх брыгадзір — падпіты, вясёлы, задзіраўся з хлопцамі. Вось той фраер і шаснуў яму нажом па шыі, па соннай артэрыі. І нават не ўцякаў, здаўся міліцыі.

— Ой, лепш бы я не пыталася пра гэты самасуд. Вялікі грэх адабраць у чалавека жыццё, — ажно здрыганулася Рагнеда. — Не судзяць людзі, судзіць Бог.

— Відаць, часам Бог доўга прыглядаецца да злодзея, таго, хто робіць зло, і ўсё адкладвае кару, чакае — мо чалавек адумаецца? І тады збоку нехта смелы ці жорсткі бярэцца папраўляць несправядлівасць, бярэ грэх на душу — і судзіць нейкага там гада сваім судом, сваёю ўласнаю рукою. Я лічу, што самасуд — гэта суровае папярэджанне тым, хто не баіцца Бога і робіць зло. Ён думае, што Бог пра яго забыўся. Ажно знаходзіцца рука, якая яго дастае — рука самасуду…

— Нешта ты, Янка, вельмі намудрыў, што я і не разабралася, — сказала Рагнеда ўжо ў дзвярах крамы.

Яны купілі белага хлеба, чорнага ўжо не было, малака, масла, смятаны ўжо не было — ці яшчэ не было? — у другой краме па дарозе купілі марозіва — спецыяльна для жанчын, — сказаў Янка, і Рагнеда згадзілася.

Дома быў поўны парадак. Маці на ганку перабірала гарох, аддзяляла паточаны чэрвямі ад цэлага, ля яе ног кошка з кацянём гулялі ў свае гульні. Кошка абдымае малое пярэднімі лапамі, прытрымліваючы, каб не ўцякло, а заднімі хуценька штурхае яго ў жывоцік, а зубамі жартам матлошыць яго ці ліжа яму поўсць. Кацяня то спрабуе адбівацца — смешна б'е кошку па лапах сваёю яшчэ слабаю лапкаю, то проста «здаецца» — сцішваецца і не супраціўляецца зусім, ляжыць, як нежывое, а кошка не ведае, што з ім рабіць далей: надыходзіць момант прымірэння.

Паглядзелі, пасмяяліся, Янка аддаў матцы сумку з пакупкамі, а сам пайшоў рыхтаваць скрынкі для яблыкаў, зноў трэба збіраць ападкі, іх ужо на зямлі шмат пад кожнаю яблыняю.

За яблыкі ўзяліся дружна, назбіралі ажно чатыры скрынкі, Рагнеда ўжо так стамілася, што поўзала ракам па траве, рагаталі з яе, як малыя, рагатала і яна сама.

Але здаць апад не паспелі, бо спазніліся, было ўжо восем вечара. Праз якую гадзіну сталі вячэраць, елі бульбу з салам і з кіслым малаком. Неяк прапала ранейшая напружанасць, якая была дагэтуль. І, відаць, таму, што ў абед Янка папрасіў прабачэння ў маткі, што ў сераду так груба з ёю гаварыў, забыўшыся пра субардынацыю, пра павагу да ўзросту і сацыяльнага становішча чалавека.

У маткі сёння быў лірычны настрой, яе пацягнула на ўспаміны. Расказвала, як яна вучылася ў Полацкім інстытуце шляхетных дзяўчат, як яны любілі чытаць святыя кнігі, можна сказаць, праграмныя, але былі ў іх і свае, якіх нельга было паказваць настаўнікам. Запомніўся ёй зборнік Янкі Купалы «Шляхам жыцця», які ім падараваў знаёмы хлопец. Яна нават яшчэ не забылася і змагла працытаваць чатырохрадкоўе з верша «Бабулька — прадаўшчыца зёлак»: «Ляжаць перад бабкай ці вечар ці ранак, пучкі дзевясілу, чабор і румянак. Ад кожнай хваробы ё зёлкі, карэнні, лячыць можна імі падвей, парушэння».

І ўспомніла яна гістарычны верш Янкі Купалы, з якога цытуюць апошні куплет, яна яго запомніла таксама:

А вот як не любіць гэта поле і бор,
І зялёны садок, і крыклівую гусь!..
А што часам тут страшна заенча віхор?
Гэта енк, гэта крык, што жыве Беларусь!

Потым неяк непрыкметна перайшлі да нядаўнага разладу: як Янка «выступаў», як бегаў-выдыгаў ад ганка да калодзезя, размахваў рукамі і даказваў свае ісціны. Рагнеда перадавала ўсё гэта ў «асобах», і яны проста браліся за жываты ад смеху. Смяяўся і сам Янка, бо што яму заставалася рабіць? Ну перабраў ён меру, ну перагнуў палку, даў сабе волю, распераразаўся... Што яшчэ? Не ўлічыў, што ён у гасцях, а ў гасцях паводзіць сябе трэба адпаведна.

Вячэра прайшла ў цёплай сяброўскай атмасферы, як пішуць палітычныя аглядальнікі. Маці неяк на вачах мянялася да іх — у лепшы бок. Хоць жаданне камандаваць у яе не прайшло, але ўжо неяк спакойна яна глядзіць

на тое, што яны робяць, часта паўтарае фразу: «рабіце што хочаце, хоць на галаве хадзіце», менш гаворыць сваё любімае «я знаю», а раней яна гаварыла яго на кожнае Янкавае і Рагнедзіна слова, яе кароннае «я тут гаспадыня», яны ўжо не чулі некалькі дзён… Мо і не дарэмна Янка «выступаў»?

А вечарам Рагнеда гаварыла з суседкаю Аляксейчыхаю, яны ўбачыліся цераз плот, прысталі і завялі гамонку. Суседку зацікавіла, а што гэта ў іх як бы нейкі шум чуваць быў у дварэ некалькі дзён назад? Нібы Янка на некага тут сварыўся? Ці праўда гэта? Рагнеда расказала, з чаго пачалося, і што Янка выказаў некалькі «цёплых» слоў матцы: за яе сквапнасць, за тое, што любіць падаваць каманды хоць трэба, хоць не трэба, і яшчэ дадаў сяго-таго.

А Аляксейчыха дадала ад сябе: яны бачаць, як маці надрываецца і ўсё шле грошы Альбіне, а цяпер ужо і ўнучкам. Кажа: «Цяпер у мяне тры сям'і». А тая сям'я прыязджае на машыне на дзве гадзіны, загружаецца — і паехала. Яны бачаць, якая Альбіна ганарыстая, што яна глядзіць на ўсіх з верху ў ніз, а душы ў яе няма. І добра бачаць, што Рагнеда нічуць не горшая за Альбіну, а вось маці да яе халодная як лёд. Хоць Рагнеда і працавітая, і прыветлівая, добрая да людзей, і справядлівая, шчырая да маткі, жадае ёй дабра, а маці думае, што Рагнеда хоча захапіць усё яе багацце…

Рагнеда пераказала, што хваляць і Янку: што просты, не ганарысты, носа не задзірае, умее рабіць усякую работу, нават памагае старым суседзям.

Так што сёння яны, Рагнеда і Янка, убачылі сябе збоку, чужымі вачыма. І матку таксама. Голас народа? Можа, і так…

## XII

«Наш добры жнівень у раі канчаецца, трэба рыхтавацца да адлёту», — падумаў Янка, беручы касу і кіруючы ў сад. Ён устаў рана, да снядання захацеў зрабіць размінку. Густая раса халодная, аж коле ў ногі, але не абуваўся — хай загартоўваюцца нервы. Трэба было скасіць бульбянішча, праўдзівей, дакасіць, бо, калі яны капалі скараспейку, і Янка скасіў націну, каб лягчэй разганяць градусы.

І гэтым разам касіць было няпроста, пра ніякія пракосы і гаворкі няма, бо картаплянік, абвіты бярозкаю, як павіхою, дадаткова яшчэ ўсялякім іншым зеллем, трэба было збіваць, а потым аддзіраць ад суседніх зараснікаў, трэба было заходзіць то з аднаго, то з другога боку, каб знайсці зручную пазіцыю, падсекчы пераплеценыя расліны. Але паволі праца ідзе, усё большае плошча паваленага бульбяніска. Дзесьці за гадзіны дзве Янка скасіў палову таго, што трэба. Потым узяў жалезныя трохпальцовыя вілы і стаў скідаць скошанае ў кучкі ля плота, зноў рваў рукамі спіралі Бруно з бярозкі, даконваў густую вільготную макрыцу і высокае разгатае зелле з дробнымі белымі кветачкамі, якое з'явілася на беларускім полі нядаўна і якое ахрысцілі «манька» — няйначай, за яе вялікую пладавітасць і жывучасць.

Урэшце Рагнеда паклікала яго снедаць — і дарэчы, бо ўжо пачала адчувацца слабасць ва ўсім целе, хацелася прысесці ці прылегчы.

Снедалі — і ўвесь час паглядалі ў вокны, чакалі, што вось-вось прыедзе чалавек разганяць бульбу, а яго ўсё няма. Прыёмны пункт таксама закрыты. Адным словам, іх планы застаюцца на нулі.

Але такое бяды! Узяліся хто за што: маці выбірае гуркі, Рагнеда збірае ападкі, Янка выкошвае пад яблынямі ў адным месцы, у другім, адкасіў ад трускавак, бо сусед Аляксейчык, які таксама косіць у матчыным садзе сабе траву, «перабірае меру» і зразае шмат націння трускавак. Янка,

відаць, таксама не быў лепшы, бо маці, паглядзеўшы на яго работу, сказала: «Янка, што ты нарабіў?». А Янка ў адказ: «Я і так пакінуў шмат травы ў трускаўках, трэба было яе касіць ніжэй». Маці больш не сварылася, толькі сказала як сама сабе: «Рабі, як знаеш». Пад сліваю стала збіраць апалыя спелыя слівкі — спачатку ў фартух, а потым сказала Рагнедзе прынесці міску, запрашала есці Янку, але ён адмовіўся, не любіў перабіваць сабе «апетыт» у рабоце. Потым Рагнеда сабрала ападкі пад малінаўкаю, Янка выкасіў і там, а потым перайшоў на ўзмежак, там раскашавалася снітка, і тут ён «навастрыў» касу аб катушку дроту, іржавага і гладкага, толькі чаго ён тут апынуўся?

Аказалася, што дрот быў на сваім месцы, маці сказала Янку рабіць каркасы на вянкі. Спачатку трэба зняць мерку: вызначыць вышыню, шырыню, сам авал і ўнутраную сетку. Дрот трэба выпрастаць, пасекчы яго на патрэбныя кавалкі, а потым ужо ўсё злучаць у адно, мацаваць тонкім алюмініевым дротам. Янка заняўся такою новаю для яго работай, думаў, што нічога ў яго не выйдзе, ажно асвойтаўся хутка: вочы баяцца, а рукі возьмуцца — і зробяць. Час ляцеў непрыкметна, не заўважыў, як ужо нахапіўся абед.

— Чаму гэта позны абед такі бывае смачны? — спытаўся Янка ў сваіх жанчын, аплятаючы густую капусту са смятанаю.

— Каб ты дацягнуў да вечара, дык ён здаўся б табе яшчэ смачнейшы, — дала яму параду Рагнеда.

— Як у смак робіш, то ў смак і з'ясі. Я глядзела, ты там насек мне гэтулькі матэрыялу, што мне надоўга хопіць. Дый накасіў нямала. Заслужыў двайную порцыю, — пахваліла яго маці.

— А й не адмоўлюся, — засмяяўся Янка. — Вельмі ж капуста ўдалася. Хто варыў? Толькі каб не паўтарылася, як у тым анекдоце…

— Не я, не я, — засмяялася Рагнеда. — Гэта маміна заслуга.

— Дазвольце аб'явіць падзяку, — сказаў Янка і схіліў галаву перад маткаю. — І свой сакрэт прашу перадаць мне. Часам буду падкормліваць Рагнеду, каб не пахудзела. Яе капуста не такая, як ваша. Чулі, што яна сказала? Абед чым пазнейшы, тым ён смачнейшы. А я дагэтуль не ведаў, — разышоўся Янка, нібы ён тут сёрбаў не капусту, а які хмельны крупнік, ёсць такі ў літоўцаў.

На другое была курачка са смажанаю бульбаю і кіслым гурком. Янка еў з апетытам, ён і праўда добра прагаладаўся.

— Ведаеце, пасля такога полудня я ўжо непрацаздольны, — сказаў ён, нібы напрошваўся, каб яму больш не давалі ніякае работы.

— Чуеш, мама, не кармі яго так смачна, бо тады з яго нікудышны работнік.

— Як што якое, я на падножны корм перайду, — змірыўся Янка. — У садзе цяпер не прападзеш з голаду.

Маці толькі ўсміхалася, не ўступаючы ў гутарку, а потым сказала:

— А як той Напалеон гаварыў: дарога да сэрца салдата ляжыць праз жывот. Здаецца, і да сэрца мужчыны ўвогуле. Так што ты, Рагнеда, не забывай, як трэба трымаць мужа на кручку.

— Ці на кароткім павадку, — падхапіў Янка. — Тыя ж французы даюць параду жонкам, як трымаць мужа, каб ён адчуваў сябе вольным чалавекам: адпускаць павадок, з кароткага рабіць доўгім.

Збіліся на французскую тэму — і пайшло! Маці стала ўспамінаць свой інстытут у Полацку, урокі французскай мовы, французскай кухні, моды, паводзін, розных рытуалаў — каб цяпер так вучылі ў школах дзяў-

чынак! Нездарма матку запрашалі ў школу, яна ўжо была на пенсіі, каб дапамагла прыняць гасцей з Індыі, бо гэта не так проста, як здаецца збоку. І ёй пасля вельмі дзякавалі, бо прыём прайшоў на высокім узроўні, госці былі задаволены.

Па абедзе Янку адправілі ў краму па хлеб, неяк выйшаў увесь запас. Цяпер хлеба колькі хочаш, не тое, што тыдзень назад — канец жніўня, збожжа сабрана, абмалочана, змолата, спечана. Любата!

Зайшоў яшчэ ў прадуктовую краму, купіў малака, смятаны, цукру. Трэба было зазірнуць у кіёск, купіць газетаў, але махнуў рукою — адпачну ад прэсы, ды і што там вельмі вычытаеш?

Пакуль Янка быў у горадзе, да іх заходзіў дырэктар школы і сказаў, чаму сёння да іх не прыехаў араты. Аказваецца, зламаўся плуг, а другі ўжо быў зломаны, вось ён іх і павёз у рамонт. Абяцаў, што будзе заўтра зранку. А ў дырэктара школы, сказала маці, вялікае гора — нядаўна загінуў яго малодшы брат, утануў у нейкім там вадасховішчы. Ды і на іхнім возеры топяцца людзі, за лета патанула ўжо некалькі чалавек, асабліва п'яныя.

Не паспеў Янка агледзецца, што рабіць, за што ўзяцца, як зайшоў той малады мужчына з чырвонаю папкаю для яго, — усе звесткі пра хлопцаў-падпольшчыкаў. Селі за «круглы стол» у садзе, Янка пагартаў паперы, а іх было шмат. Але з матэрыялаў у чырвонай папцы нічога не возьмеш. Вось, напрыклад, Іван Ліс, вучыўся ў Саматканавіцкай школе, камсамолец, уступіў у падпольную групу, удзельнічаў у некалькіх аперацыях — пашкоджанне тэлеграфнай сувязі, аварыя на чыгунцы, яшчэ нешта, потым арышт, допыты, расстрэл… І так амаль усе, хто тут пералічаны. А іх жа неяк трэба ажывіць, каб яны заварушыліся, загаварылі, сталі нешта рабіць, — адным словам, сталі жыць і змагацца. А потым — апошнія дні, гадзіны, хвіліны… Усё гэта няпроста, ой, як няпроста! Але паспрабаваць трэба — рашыў для сябе Янка, хай застанецца хоць добрая памяць пра хлопцаў, якія склалі галовы на самым пачатку. Ім было цяжка, бо пачыналі на голым месцы, ніякага вопыту. Першым заўсёды цяжка…

— Дык што, зямляча, будзем старацца нешта зрабіць? — спытаўся Янка ў інструктара.

— Я думаю, з вашым вопытам мы нешта зробім, — усміхнуўся Казановіч.

— Па руках, — сказаў Янка сур'ёзна. — Вы толькі дайце мне свой адрас. Бо мы хутка ад'язджаем.

Казановіч дастаў з грудное кішэні пінжака картку-візітоўку і ўручыў яе Янку.

— Як што — званіце ці пішыце, — сказаў пры гэтым.

— Ну і добра. Тады я не стану вас затрымліваць. Буду думаць. Бывайце здаровы.

Яны ўсталі з-за століка, Янка правёў госця да весніцаў.

«Мусіць, ты не падумаў, Янка, за што бярэшся, што цябе чакае з гэтым матэрыялам. Ён вельмі цяжкі, ён вельмі балючы. Вось-вось, вельмі балючы. Але і адмаўляцца было — проста грэх. Таго ж Ліса Янка добра ведаў, разам вучыліся. Ліс быў старэйшы за Янку, пераростак. Высокі, прыгожы хлопец, вельмі культурны. Ці Паляшчук, яшчэ адзін з падпольшчыкаў — яго, Янкаў, далёкі сваяк, вучыўся ў Нясвіжы…»

За думкамі, за клопатамі дзень прайшоў непрыкметна.А калі што муляе, то і не спіцца. Янка ўстаў рана, пайшоў на размінку з касою, а тут і сняданне. Толькі скончылі, як прыйшоў чаканы араты, мажны мужчына,

былы вучань Янкавай цешчы Раісы Сцяпанаўны, як ён яе назваў, а яна яго — Юркам. Ён зайшоў разведаць, што і як, агледзеў, дзе тая бульба і колькі яе, абяцаў зараз прыехаць.

Рагнеда пайшла да суседкі папрасіць, каб памагла — і тая згадзілася, абяцала прыйсці, як толькі ўбачыць, што Юрка прыехаў — з яе акна ўсё добра відаць.

І вось араты Юрка прыехаў, распрог каня, унеслі плуг, бо воз застаўся на вуліцы, заязджаць у двор ён не захацеў.

Гаспадар паставіў каня ў плуг, адмераў лейцы, прывязаўшы іх да ручак плуга.

— Ну, паехалі, — сказаў ён каню, і той паслухмяна крануўся з месца. Конь быў каштанай масці, рослы і мажны, ёмкі.

Янка вадзіў каня, той ішоў хутка, дыхаў з натугаю, але не спыняўся на паўбаразны, цягнуў да канца — да павароту. Такіх коней Янка любіў — за іх сілу, за цягавітасць, і гэтая любоў у ім жыла з малых гадоў, і ён памятае толькі аднаго каня, які быў у яго бацькі — Сівага, не такога рослага, як гэты Каштаны, але таксама цягавітага і рухавага. У вайну, як ішоў фронт на Захад, як немцы ўцякалі, Сівага ўзялі пад сядло савецкія салдаты, а замест яго пакінулі таксама сівую маладую кабылку…

Разаралі хутка, мо не прайшло і гадзіны. Бульба аказалася сярэдняя, не разгонішся, але для маткі на зіму хопіць, калі не аддасць палову Альбіне. Хоць ад такое яны могуць адмовіцца — вось каб трохі большая…

Памагала выбіраць суседка, ужо ў гадах жанчына. Цікавы тып чалавека з простым, як не стандартным выглядам твару — як часам малююць вяскоўца, рабацягу, даярку. Але адчувалася, што яна асоба мо нават чулая і спагадлівая, нягледзячы на яе каструбаватую знешнасць.

Бульбу выбралі хутка, засталося разараць толькі міжраддзе, але Юрка абяцаў зайсці па абедзе.

Так яно і было: Юрка прыехаў па абедзе, скончыў разорваць яшчэ хутчэй, чым першую палову. Што значыць добры пачатак! Юрка ўжо вывеў каня на вуліцу, запрагаў, маці падышла да яго — нібы вынесла плату за работу, але не хацела, каб тут былі нейкія сведкі, чужыя вочы, а тут якраз Янка выносіць плуг, ставіць яго на воз, бразгае, грыміць жалезам.

— Ну што табе тут трэба, Янка? Скрозь ты свой нос усунеш! — як на малога, амаль закрычала на яго маці.

— Ды я вось толькі плуг паставіў — і ўсё, носа майго тут не будзе, — прымірэнча сказаў Янка, хоць яму хацелася смяяцца ад такое матчынай строгасці, хутчэй паказное: хто ў хаце гаспадар? А мо проста такі ўжо ў яе характар: ставіць усіх на месца, патрабаваць — яе! — парадку?

Бо ўжо праз некалькі хвілін яны заспрачаліся, куды лепей ссыпаць бульбу: пад яблыняю ці ў адрыну? Маці казала насіць у адрыну, а Янка — пад яблыню, хай лепш прасыхае на сонцы, праветрываецца. Урэшце маці згадзілася — хай прасыхае. А потым ужо яе трэба пераносіць у склеп, дзе прыбрана месца, і гэта ўжо Янкаў клопат…

У сем гадзін схадзілі на возера, закрываць сезон, як сказала Рагнеда. Вада ўжо стала халаднаватаю, але купацца яшчэ можна. Янка паплаваў, змыў працоўны пот і адразу адчуў сябе памаладзелым. Рагнеда гэтым разам увайшла ў ваду да каленяў, але тут жа выскачыла, заскакала па траве, нібы яна ўступіла ў які кіпень.

— Ой, як ты толькі можаш цярпець? — падзівілася яна з Янкі.

— Я й не такое магу сцярпець, шаноўная пані Жаркоўская.

— Ты так мяне нязвыкла называеш, Янка, што мяне ажно пранізала. Нешта як бы варухнулася ў душы даўно забытае, нібы я не малая дзяўчынка, а вось такая, як цяпер, усё разумею, усё ведаю, усё маю... Вельмі-вельмі дзіўны момант...

Выцершыся, апрануўшыся і абуўшыся, яны пайшлі не на шырокую дарогу, а сцежкаю — на Замчышча, праз вал. Адгэтуль, з вала, адкрываўся велічны малюнак на рэчку і дарогу, абсаджаную таполямі, а за імі рассцілаўся луг. Таполі здалёк здаваліся маленькімі зялёнымі копамі ці стажкамі. Пастух унізе гнаў кароў, яны адгэтуль, зверху, здаваліся козамі. А другі дзядзька ўзганяў на вал спутанага каня, шэрага, у яблыкі. Спачатку конь як бы ленаваўся ўзбірацца ўгару, а потым разагнаўся і пайшоў скакаць на пад'ём па дыяганалі, нібы які горны ахал-цекінец — яму ўжо не прывыкаць.

Было падобна на тое, што яны глядзяць нямое кіно. Вось дзядзька гоніць гусей. Але гоніць — не тое слова. Ён ідзе першы з лазінаю ў руцэ, а штук сем гусей ішлі за ім, як за маткаю, не парушаючы строю. А другая чарада гусей, большая, мо штук дзесяць ці болей, вярталася з папаскі самастойна. Тут ужо гусак вёў чараду — ішоў першы важна, павольна, пакрыкваючы і азіраючыся, а ў канцы выцягнутай ў лінію чарады чыкіляла вялікая шэрая гусь з падбрушшам да самай зямлі. Ля выхаду на дарогу гусь адстала — вядома, кульгае — і гусак-важак даў каманду свайму войску паскубці травы, і гусі з дружным гергятаннем узяліся за работу. Шэрая гусь іх дагнала — і гусак зноў стаў першы, падаў голас, і яны ўсе сваім парадкам выцягнуліся ў нітку і рушылі за важаком.

— Ты ведаеш, Яначка, — парушыла маўчанне Рагнеда, — як я гляджу вось на такія малюнкі, у мяне слёзы на вочы просяцца. Якое ўсё простае, бясхітраснае, а якое яно наша, роднае, блізкае сэрцу, яго нельга забыць і прамяняць яго ні на што нельга...

— Ты як адгадала мае думкі, — адказаў Янка і ажывіўся: — нешта падобнае сказаў бы і я. Гэта частка нашага жыцця, нават частка нашае душы, свядомасці. А яшчэ — і гэты магутны вал, і глыбозны роў, які ўжо даўно зарос травою, а некалі яго запаўняла вада, атачаючы замак і крэпасць, і сама крэпасць, якая тут стаяла некалькі стагоддзяў, — гэта таксама частка нашага жыцця, нашай гісторыі, нашай свядомасці. І як шкада, што гэта ўсё ўжо ў мінулым, што мы тут як гледачы, а не ўдзельнікі жывога працэсу, які павінен быць, на добры лад, бясконцы, непарыўны, не пасечаны на кавалкі. Аднак жа — мы ўжо гледачы... Яшчэ як бы і ўдзельнікі, але толькі на кароткі момант. Тыя гусі, што маршыравалі нядаўна, тут больш дома, чым мы з табою. Што ты на гэта скажаш, наш самадзейны філёзаф?

— Вось ты загаварыў пра гісторыю — і я адразу як бы зноў апынулася ў нашым музеі, такім бедным — у параўнанні з тым, якім ён мог бы быць. У нас тут, можа, варта было б стварыць панараму, зрабіць макет гэтага Замчышча, вала, крэпасці, каб людзі маглі сёння бачыць тое, што было калісьці — тысячу ці хоць бы пяцьсот гадоў назад. Наша мінулае спіць, яго ніхто не ведае, а значыць — яго няма, яго не было. Так лічаць людзі... А наша мінулае — гераічнае, багатае на падзеі вялікага маштабу. Узяць тую ж бітву з татарамі ў 1506 годзе... Не толькі сялянскі бунт у вёсцы Гускі ці партызанскія зямлянкі ў нашых лясах на поўдні раёна. Тут была каралева Бона Сфорца, магнаты Радзівілы, гетман Вялікага княства Літоўскага Міхайла Глінскі, тут працаваў вядомы ўсяму свецкаму адукаванаму свету Сымон Будны. А ўсё гэта фактычна застаецца за кадрам. І за мяжою бачнасці нашага зроку, і нашага слыху, і нашага розуму, нашага досведу.

Янка слухаў і думаў, што яна гаворыць праўду, але каб зрабіць хоць трохі з таго, пра што яна марыць, патрэбна зусім іншая палітыка, патрэбны не такі як ёсць накірунак мыслення. Для гэтага, як у тым анекдоце кажа стары дзед, трэба мяняць калі не ўсю сістэму, дык хоць апарат. Менавіта — хочацца плакаць над нашым лёсам, над лёсам нашага краю і нашых людзей. Мы хочам людзьмі звацца — казаў наш прарок Янка Купала сто гадоў назад. Ну і што? Мы завёмся людзьмі, а вось ці мы імі сталі, яшчэ вялікае пытанне. Мы хочам, а нам не даюць, мы хочам быць нацыяй, а нас не прызнаюць. Нас разбіраюць на часткі, крояць на кавалкі, нас хочуць зрабіць ворагамі адно аднаму — каб мы грызліся, як тыя сабакі за костку, каб не ішлі ў адным кірунку, а ў розныя бакі. Нашу мову не лічаць за мову — вось самае страшнае. І з гэтым ужо змірылася большасць, яна апранула свае душы ў чужыя строі і хутка забудзецца, кім мы былі, хто мы былі і якая наша гісторыя…

— Што ж ты маўчыш, Яначка, хіба я не тое кажу? — спыталася Рагнеда.

— Ты гаворыш слушныя рэчы, але хто цябе пачуе, акрамя мяне? Думаеш, пачуюць тыя, што намі кіруюць? Яны скажуць: нешта вы не тое гаворыце. Нам патрэбна малако, мяса, хлеб, а вы пра нейкія панарамы, пра гісторыю. Няма ў нас далёкай гісторыі, яна ў нас пачынаецца з Кастрычніцкай рэвалюцыі, і гэтую дату мы адзначаем і будзем адзначаць. А нейкае там Княства Літоўскае — гэта не наша.

— Ты так лічыш? — здзівілася Рагнеда. — А мне здаецца, што гэта рэальна, трэба толькі моцна захацець.

— А хто захоча? Дапусцім, дырэктар музея Чарняк захоча. А далей? Далей усё ўпрэцца ў грошы. А іх няма і не будзе. На культуру ў нас грошай няма. Даюць там нейкія капейкі, але гэта на тое, што ёсць, каб яно яшчэ трохі ліпела. І ўсё — далей развіцця няма. Ёсць толькі засыханне ўсяго жывога.

— Ты песіміст, Яначка, ты безнадзейны песіміст, — адказала на яго словы Рагнеда. — Калі рукі скласці і чакаць манны нябеснай, то гэта так. А трэба варушыцца, трэба дзейнічаць і змагацца. Пад ляжачы камень вада не цячэ. Трэба пісаць, крычаць, гаварыць, уводзіць людзям у вушы! Толькі тады можна нечага дасягнуць, дастукацца!

— Ты маеш рацыю, я з табою згодзен — увогуле, але ў прыватнасці — не зусім. Ты хочаш зрабіць з мяне журналіста, які будзе кідацца на кожны наш недахоп, крычаць пра яго, трубіць усім у вушы і г.д. У мяне не такі характар, я не люблю выпінацца і крычаць: вось я які! Я ўсё бачу, я ўсяму гэтаму аб'яўляю вайну. Я лічу, што не трэба страляць з гарматы па вераб'ях… А калі ўжо страляць, дык каб мішэнь была таго вартая.

— Я бачу, Яначка, што ты скупы, сэрца людзям ты не хочаш аддаваць — шчыра, без астатку, без аглядкі, а чакаеш нейкага зручнага моманту, выгаднага ці выйгрышнага для цябе. Не хочаш разменьвацца на дробязі, як ты кажаш. А жыццё наша з чаго складаецца, калі не з дробязяў? Вось увесь гэты агромністы вал — ці не з пясчынак, ці не з крупінак, якія нашы продкі нанасілі і навазілі сваімі ўласнымі рукамі, такімі мізэрна малымі ў параўнанні з гэтаю гарою? А яны яго насыпалі, таму што былі аб'яднаны нечаю магутнаю воляю, ішлі да адной мэты — і зрабілі, пакінулі след у нашай гісторыі, на нашай зямлі, — на той, дзе мы сёння жывём.

— Ведаеш, Рагнеда, табе трэба трыбуну і шмат-шмат слухачоў, ты магла б запаліць натоўп і павесці яго за сабою, як тая Жанна д'Арк, далібог, праўду кажу. Дарэмна ты пайшла ў медыцыну, я ўжо лішні раз пераконваюся, што дарэмна, Але, з другога боку, ты на сваім месцы, бо ты робіш

тое, да чаго заклікаеш мяне і ўсіх іншых: пачынаць з малога, пакуль яно не вырасце ў нешта вялікае, значнае, карыснае і патрэбнае людзям.

— Не смейся, Яначка, не смейся над беднаю медсястрою, я хацела быць большаю, ды Бог мне не даў. Але я рабіла і раблю сваю работу сумленна і шчыра, сэрца свайго не шкадую, — мо хопіць на мой век…

— Я і не смяюся, Рагнеда, тваё імя цябе абавязвае, і ты нутром чуеш, што трэба, а што не. Кожны з нас нечага варты, іншая рэч, што часам ён не ведае, куды яму ісці, за што ўзяцца. А як раней казалі, усе дарогі вядуць у Рым. Таму і быў Рым такі вялізным і магутным — мо адна з найбольшых імперый свету… І калі б мы ўсе паставілі сабе за мэту адрадзіць Бацькаўшчыну, вярнуць ёй некалешні бляск і сілу — а яна была, хоць шмат хто пра гэта не ведае, а шмат хто кажа, што гэта байкі, — дык мы сталі б роўныя сярод роўных, а не пляліся б у хвасце прагрэсу. Ужо даўно ўстаноўлена, што краіна пад чужою ўладаю не развіваецца, а дэградуе, бо з яе высмоктваюць усе сокі, усю кроў. Яна ператвараецца ў донара, у прыдатак да таго, хто кіруе працэсам. Натуральна, што той нехта думае толькі пра сябе, пра свае інтарэсы.

Вялізнае крывавае сонца схавалася за даляглядам, якраз на тым месцы, дзе раней была Янкава хата, дзе цяпер яго вёска, у якой ён ужо госць. Неба, чыстае, без хмурынкі, палала агнём, і можна было падумаць, што заўтра чакаецца замаразак.

— Такі агністы захад, — затурбавалася Рагнеда, — каб толькі заўтра абышлося без замаразку, бо прападуць нашы грады… Хадзем дадому, Янка, там нас мама чакае. — Памаўчала, а потым дадала: — Ведаеш, яна ўжо трохі прывыкла да нас, казала мне некалькі разоў: сумна мне будзе без вас.

— Канечне, з намі ёй лягчэй: ёсць начальства, ёсць падначаленыя. А так кім яна пакіруе?

— Не ў тым соль, Яначка, а ў тым, што адзіноту не ўсе ўмеюць пераносіць. Яна жыла ў сям'і, паўжыцця правяла ў школе, сярод дзяцей, настаўнікаў, а тут раптам — жыві адна! Кватаранты — чужыя людзі, яшчэ шчасце, як трапяцца добрыя, спагадлівыя, тады трохі лягчэй. А так надта цяжка, я яе вельмі разумею. І каб яна згадзілася, я забрала б яе да нас, ты ўжо прабач…

— Так яна і пойдзе, чакай! Мо каб да Альбіны, — не згадзіўся Янка.

— Пэўна, што ў Альбіны ёй было б лепей, але я баюся, што з Рагаткіным яна не ўжылася б. Надта ён салдафоністы, а яна такіх не любіць, я яе ведаю. А да цябе яна ўжо як быццам прывыкае, ты мягчэйшы, культурны, спагадлівы, яна гэта адчувае.

— А што сварыўся з ёю, то што? Нічога?

— Гэта, па-мойму, дробязь. Але яна дапамагла нам адчуць, хто ёсць хто, што можна, а што не. Цяпер яна ведае нейкія свае межы, а ты — свае. Цяпер вы ўжо не станеце сварыцца з-за нейкага там яблыка…

— Яблыка разладу заўсёды можна знайсці… пры жаданні…

— Якраз гэтым яна прызнала цябе за свайго, бо на свайго можна накрычаць абы за што — як пад кепскі настрой. А ты пакрыўдзіўся — і пайшло-паехала!

— Цяпер будзе ведаць, што не ўсё ёй можна. Ну, і мне таксама, — падвёў вынік Янка.

Так, перамаўляючыся, яны і прыйшлі на свой двор, дзе за «круглым сталом» убачылі матку і госцю — Ніну Кірылаўну, якія нешта гаварылі між сабою, а на століку стаяла вялікая талерка са слівамі і яблыкамі-малінаўкамі.

Павіталіся, тут жа Ніна Кірылаўна звярнулася да Янкі:

— Я да вас, Янка, і ўсё па тым жа пытанні, як з анекдота. Ці прачыталі вы тоўсты рукапіс? Гаварыце як ёсць, не саромейцеся, як ёсць, так і добра.

Янка трохі не зразумеў апошняй фразы: як ёсць, так і добра.

— Ніна Кірылаўна, мне засталося няшмат, якіх дзве-тры сотні старонак. І да нашага ад'езду я скончу і пагавару з аўтарамі.

— І што вы ім скажаце, калі не сакрэт? — з усмешкаю спыталася Ніна Кірылаўна.

— Скажу, што такога тоўстага фаліянта яны нідзе не надрукуюць. Па-першае, з-за аб'ёму, па другое, з-за нізкай высокаякаснасці, як кажуць у выдавецкіх колах — такі вось каламбур. Мо яны пакрыўдзяцца на мяне, але я кажу тое, што думаю…

— Не перажывайце, Янка, я прыйшла забраць рукапіс. Нашы аўтары нешта не прыйшлі да згоды, проста пасварыліся і будуць дзяліць рукапіс. А як — гэта ўжо ім рашаць. Вось так!

Для Янкі развязка была зусім нечаканая, але яна аказалася больш лёгкаю, чым ён думаў. Няхай цяпер разбіраюцца самі. І няхай не пішуць такіх тоўстых опусаў: не той час.

Ён пайшоў у хату, склаў рукапіс, перавязаў яго тасьмаю, як і было, і вынес Ніне Кірылаўне.

— Прыемна, калі ўсё добра, а тут… — Янка запнуўся, падумаў і сказаў: — Шкада, што яны патрацілі гэтулькі часу, а вынік, можа, і нулявы. Пісаць не так проста, як здаецца збоку. Галоўнае — пісаць трэба добра, а гэта надта цяжка.

— А што значыць добра? — спыталася Ніна Кірылаўна.

— Як вам сказаць? Каб вас прызналі за прафесіянала, каб вашы рукапісы прымалі і выдавалі. Толькі ў такім разе вы можаце лічыць сабе літаратарам. А сказаць сабе: я стану пісьменнікам, што тут такога? Гэтага мала! Трэба даказаць сваімі творамі, што ты пісьменнік. Як і ва ўсякай прафесіі, якасць у літаратуры галоўнае… Праўда, выходзяць і слабыя кніжкі, але яны хутка прападаюць, пра іх не гавораць…

— Гэта вы правільна сказалі, Янка, — і Ніна Кірылаўна ўсміхнулася сама сабе. — Вы ўжо даруйце. Цяпер я сваіх аўтараў пракансультую на гэты конт, каб яны дарма часу не трацілі, хай лепш гадуюць унукаў і жонкам памагаюць, дык будзе большая карысць.

І раптам Ніна Кірылаўна стала сур'ёзная і змяніла аб'ект увагі — павярнулася да гаспадыні і сказала:

— Раіса Сцяпанаўна, вы прабачце, але я хацела б запрасіць да сябе на вечар вашых Рагнеду і Янку, я вельмі прашу іх адпусціць.

— Я іх не трымаю, як хочуць — хай ідуць, — адказала маці.

Ніна Кірылаўна падзякавала і звярнулася ўжо да Рагнеды і Янкі:

— Як вы, маладыя людзі, не адмовіцеся схадзіць да мяне на якую гадзінку? Я даўно вас збіралася запрасіць, ды ўсё неяк не выпадала, дацягнула да апошняга…

— Мы з дарагою душою гатовы да вас, Ніна Кірылаўна, — адказаў першы Янка. — І думаю, Рагнеда скажа тое ж самае.

— Я абедзвюма рукамі і нагамі галасую за вашу прапанову, Ніна Кірылаўна. Пайшлі, Янка, пайшлі! — ажывілася Рагнеда. — А ты, мама, не сумуй адна, мы хутка вернемся.

— Ідзіце, ідзіце, а то вы заседзеліся на адным месцы, — прымірэнча сказала маці і памахала ім ручкаю, хоць яны яшчэ стаялі.

І вось яны ідуць — спачатку па сваёй вуліцы, потым ад цэнтра па Першамайскай, дзе жыве Ніна Кірылаўна. Янка ўзяў у яе сумку, бо яна цяжкая, рукапіс важыць некалькі кілаграмаў — шмат вады, жартуюць яны.

Дом Ніны Кірылаўны стаіць зводдаль ад вуліцы, увесь у зеляніне вішняку, яблынь, бэзу і ўсякіх кветак перад вокнамі. Хата драўляная, старасвецкая, з прасторнымі сенямі, з вялікаю кухняю, а далей — зала і асобны пакой, спальня. Прасторна і чыста, шафа з кнігамі туліцца ля сцяны побач з кухняй, тэлевізар на падстаўцы-тумбачцы, газетны столік, — усё, як належыць у людзей, звязаных са школай, з культурай.

А ў цэнтры стаіць невысокі квадратны стол, на якім ужо ўсяго поўна.

— Ніна Кірылаўна, — звярнулася Рагнеда да гаспадыні, — дазвольце нам памыць рукі. Мы хоць і былі на возеры, але вада там не надта…

— Вада там балотная, гэта праўда. Калі ласка, мыйце.

Янка і Рагнеда памылі рукі пад мыцельнікам, прычасалі валасы перад люстэркам.

— Я сябе ўжо не пазнаю, — сказала Рагнеда.

— Нічога, абы я пазнаваў, — супакоіў яе Янка.

Гаспадыня запрасіла іх за стол, яны селі кожны на бакавіне квадрата, адно месца засталося вольнае, хоць тут яшчэ была маладая жанчына, відаць, сваячка гаспадыні.

Рагнеда не ўтрымалася, каб не пахваліць усё, што было на стале:

— Ніна Кірылаўна, вы проста чараўніца, гэтулькі ўсяго смачнага!

— Для дарагіх гасцей нічога не шкада, як у нас кажуць. А гэта мне памагае мая пляменніца Лена, яна ў мяне жыве, усё ўмее, я за ёю як за каменнаю сцяною.

— А я за вамі, — адказала з кухні пляменніца.

Усе засмяяліся. Ніна Кірылаўна папрасіла Янку наліваць у кілішкі, ён з ахвотаю згадзіўся: лепшага не прыдумаеш.

Першы тост быў за сустрэчу, Ніна Кірылаўна падзякавала ім, што памятаюць яе, што вось прыйшлі, для яе гэта як вялікае свята.

Усе дружна выпілі, сталі закусваць, а выбар быў вялікі: салаты, рыба розных гатункаў, кілбасы — таксама, нават пальцам пханая, апетытная, скрылікамі, вяндліна і яшчэ ўсяго шмат.

Гаварылі адразу пра здароўе, гэта значыць, пра хваробы, ад якіх няма рады, потым Ніна Кірылаўна распытвала іх, як яны адпачывалі, што рабілі, як адносіны з маткаю. Расказвала пераважна Рагнеда: што ім тут цудоўна, што месяц праляцеў непрыкметна, але што не абышлося без лёгкае сваркі з маткаю. І яна перадала ў асобах — як усё адбывалася, што гаварыў Янка, што гаварыла маці, — і яны ўсе смяяліся ад душы.

— Дык маці, можа, і пакрыўдзілася на Янку? — спытала Ніна Кірылаўна. — Мы гаварылі перад вашым прыходам, яна не скардзілася.

— Спачатку трохі злавала, было відаць па ёй, — тлумачыла Рагнеда, — а потым усё неяк улеглося. Цяпер яны памірыліся…

— Я афіцыйна папрасіў прабачэння, што дазволіў сабе грубіяніць старэйшаму за сябе чалавеку. Яна, відаць, палічыла, што інцыдэнт вычарпаны, як кажуць дыпламаты, і стала звычайнаю, як заўсёды, — патлумачыў Янка.

— І ведаеце, яна моцна перамянілася, нават стала глядзець на нас з большаю павагаю, менш бурчыць, менш камандуе, — дадала Рагнеда. — Яна любіць пакамандаваць, відаць, гэта ад школы, ад малодшых класаў, дзе трэба ўсё паказаць, навучыць і павучыць… Чаго нельга было сказаць пра вас, дарагая Ніна Кірылаўна. Праўда, Янка?

— Праўда, шчырая праўда! Давайце тост за Ніну Кірылаўну… Скажу вам у вочы і за вочы таксама, што такіх настаўнікаў, як вы, Ніна Кірылаўна, у школе мала. Нават вельмі мала, — паправіўся Янка.

— Ну што вы, што вы! — замахала рукою былая настаўніца і, здаецца, нават пачырванела. — Я такою сябе не лічу.

— Таму вы і такая, што не лічыце сябе геніем. Але што вы сапраўдны, проста ідэальны настаўнік, то гэта так, усе мы бачылі і чулі на свае вочы і вушы, пакуль вучыліся. Урок хіміі, калі я адказваў пра табліцу Мендзялеева, я памятаю яшчэ і дагэтуль. Як я пацеў, прайшоўшы па ўсёй табліцы ад верху да самага нізу: як мяняецца атамная вага элементаў, як яна паступова ўзрастае, як мяняюцца і самі ўласцівасці элементаў, як утвараюцца металы, як яны робяцца ўсё цяжэйшымі — уран, цэзій, стронцый і іншыя небяспечныя для жыцця чалавека элементы… Як вы мяне падпраўлялі, як накіроўвалі, як тактоўна вялі, каб я не памыліўся… А гэта быў мой справаздачны ўрок за першую чвэрць, якую я прапусціў, бо ўжо збіраўся не вучыцца, а ісці ў войска... Але дырэктар школы Войтаў мяне прыняў у дзевяты клас... Я дагнаў прапушчанае і потым скончыў і дзесяць… А тады, здаецца, за адказ я атрымаў чацвёрку ці нават пяцёрку, ужо не памятаю. Вось як было... За вас, дарагая Ніна Кірылаўна, за ваша добрае сэрца, за глыбокі розум, за чалавечнасць, за тое, што вы аддавалі ўсю сябе нам, сваім вучням, і нічога не прасілі ўзамен, апроч добрых ведаў. Дай Бог вам здароўя! І нізкі вам паклон...

Ніна Кірылаўна ледзь не заплакала, але стрымалася, узяла сябе ў рукі і ціха сказала:

— Дзякуй, Янка, дзякуй, дарагі… Гэта мне лепш за ордэн...

— А я яшчэ хачу дадаць, — умяшалася Рагнеда, — што вы, Ніна Кірылаўна, як ніхто іншы, аддавалі нам сваё сэрца і нічога не прасілі ўзамен, як сказаў Янка. Вы менавіта настаўнік, якіх трэба ставіць у прыклад усім настаўнікам, вучыцца ў вас. І я вельмі хацела б, каб Янка напісаў пра вас нарыс. Абавязкова!

Усе паглядзелі на Янку — што ён скажа?

— Для мяне такая прапанова нечаканая, але яна ганаровая. Ва ўсякім разе, я не адмаўляюся і буду думаць. Абавязкова!

— Дзякуй, Янка, дзякуй, Рагнеда. Вы мяне проста расчулілі, дарагія мае вучні. Я шчаслівая, што вы ў мяне былі, што вы ў мяне ёсць — і сёння. Дык вып’ем да дна!

Яны выпілі, але закусвалі неяк ужо вяла, больш гаварылі.

Ніна Кірылаўна стала расказваць, як цяпер ад настаўніка патрабуюць часам немагчымага: падвысіць ацэнку сыну ці дачцэ якога начальніка, не паставіць двойку, а тройку, не тройку, а чацвёрку. Некаторыя такія начальнікі не грэбуюць нават пагрозамі настаўніку.

— А яшчэ раскажу вам дзіўную гісторыю, якая была са мною, праўда, даўно, калі я была яшчэ маладзейшая. Выклікае мяне ў свой кабінет завуч і заводзіць гутарку. Вось вы добрая настаўніца, вас любяць, вам давяраюць — і настаўнікі, і вучні, і бацькі вучняў… Нас цікавяць іх думкі, настроі, погляды і гэтак далей. Нам хацелася б, каб пра такія гутаркі, асабліва негатыўнага характару, вы паведамлялі мне асабіста, і я вам буду вельмі ўдзячны. Ён так гаворыць, а ў мяне ўсё кіпіць, я гатова ўзарвацца, але трымаю сябе ў рамках. І кажу яму: «Вас разумею, я вам спачуваю, але такую высокую місію я не магу выконваць, мне не дазваляе мой характар, я надта мяккая для такой работы. Так што вы прабачце. І дазвольце мне

быць проста настаўніцаю, без усякіх такіх нагрузак». Завуч ажно перамяніўся ў твары, больш нічога не сказаў, але потым мяне нібы не заўважаў… Ну, вы яго ведаеце, ён яшчэ пры вас быў завучам, выкладаў гісторыю.

— Я яго добра памятаю, выкладаў ён больш па падручніку, але нос задзіраў высока.

— І на дзяўчат заглядаўся, а ў нас было шмат пераросткаў, — дадала Рагнеда.

Зноў пасмяяліся, зноў гаварылі, успаміналі. Жыццё ў Ніны Кірылаўны было нялёгкае. Яна выйшла замуж да вайны, настаўнічала разам з мужам недзе пад Старымі Дарогамі, там іх заспела вайна. У першыя ж дні акупацыі мужа яе расстралялі — разам з мясцовымі актывістамі. А зімою прастудзілася і памерла іх маленькая дачушка. І Ніна Кірылаўна засталася адна, не хацела больш заводзіць сям'і, хоць кандыдаты траплялiся. Школа і вучні сталі галоўным у яе жыцці.

— Але што мы ўсё пра сумнае? — ажывілася нечакана Ніна Кірылаўна. — Давайце спяём песню, чамусьці яна ў мяне сёння круціцца ў галаве. Мо і вы ведаеце? «Вол бушуе, вясну чуе…» Давайце памагайце, — шырокім жэстам запрасіла іх гаспадыня. І яна завяла прыемным, нізкім для жанчыны голасам. Янка слухаў: і словы, і мелодыя былі яму знаёмыя, і ён памагаў:

Вол бушуе, вясну чуе,
Воран грача, сыра хоча,
Дзеўка плача, сына хоча.
Не бушуй, воле, наарэшся,
Не грач, воран, надзяўбешся,
Не плач, дзеўка, нажывешся.
Вол бушуе, паараўшы,
Воран грача, сыра з'еўшы,
Дзеўка плача, сына меўшы.

Рагнеда запляскала ў ладкі, да яе далучыўся Янка — апладысменты былі адрасаваны Ніне Кірылаўне, бо гэта яна вяла тут першую скрыпку і выканала песню на выдатна.

Яны заседзеліся ў Ніны Кірылаўны да дванаццаці ночы. Сталі развітвацца.

— Пачакайце, ледзь не забылася, — заклапочана сказала Ніна Кірылаўна. — Ад мяне прывітанне Раісе Сцяпанаўне.

Яна сабрала ў цэлафанавы пакецік са стала ўсякіх прысмакаў, да якіх яны нават не дакрануліся, і ўручыла Янку, дадаўшы: «Тут усё мяккае, на яе зубы».

— Ой, дзякуем, гэта нам будзе адкупнога ад мамы, а то яна можа на нас крыўдаваць, што позна ходзім, — сказала замест Янкі Рагнеда. — Шчыра вам дзякуем за добры вечар.

— І я далучаюся, Ніна Кірылаўна, да Рагнеды. І цалую вашу працавітую ручку, якая не так і даўно ставіла нам у класным журнале неблагія адзнакі.

— Абсалютна заслужаныя, ні завышаныя, ні заніжаныя, — дадала Ніна Кірылаўна. — Я рада, што ў мяне былі такія вучні.

Развітанне было доўгае, шчырае, нават са слязамі на вачах. Абяцалі сустракацца, заходзіць, не забываць старое дружбы, а мацаваць яе, каб яна саграваала душу.

Ішлі па сонных вуліцах гарадка і гаварылі, радаваліся, што ўсё прайшло добра і цікава, што Ніна Кірылаўна была радая іх прыходу, што іх візіт

яе ў нейкай меры падбадзёрыў, узняў яе ва ўласных вачах, хоць яна і сама ведала сабе цану. Але пачуць пахвалу з чужых вуснаў заўсёды прыемна, асабліва калі яна ідзе ад шчырага сэрца.

— І што, ты ніводнай сваёй кніжкі не падпісаў Ніне Кірылаўне? — нібы вяртаючыся да гутаркі за сталом, спыталася Рагнеда.

— Усяго адну, і то даўно, — адказаў Янка. — Трэба будзе паправіць сваю памылку, добра, што нагадала.

— А ты не ўзяў з сабою ніводнае свае кніжкі, — абурылася Рагнеда. — Што ты за пісьменнік такі?

— А што ты за пісьменнікава жонка, памочніца? — адбіваўся Янка. — Не магла нагадаць, не магла падаць?

— Добра, добра, я вінаватая, — супакоілася Рагнеда. — Але нарыс пра Ніну Кірылаўну ты цяпер напішаш, не выкруцішся! Тут я цябе моцна закілзала, га?

— Ды ўжо ж, не выкручуся, — згадзіўся Янка. — Тут столькі матэрыялу, гэтулькі жывых герояў, што тут можна асесці надоўга. І калі яшчэ мне адведзена трохі часу, я сюды абавязкова вярнуся.

— А мяне возьмеш? — сціснула яго руку Рагнеда.

— Без цябе я ні кроку, — жартам адказаў Янка. — Яшчэ, чаго добрага, магу заблудзіць, у гэтым нашым рай-цэнтры.

— Які ты ў мяне добры! Проста не нарадуюся! — у тон яму сказала Рагнеда. — Што я рабіла б без цябе?

Яны ўвайшлі ў двор. У маткі ў пакоі яшчэ гарэла святло.

## Эпілог

Часам успамінаецца Янку, як яны з Рагнедаю сядзелі перад ад'ездам у Мінск за «круглым сталом» і гаварылі пра час, які яны правялі ў маткі. Што можа яны дарэмна ўварваліся ў матчына ціхае жыццё і ўскалыхнулі яго, мо яна ўжо прывыкла да свае адзіноты і лічыць, што так і трэба, і мяняць нічога не трэба. І мо нават балела ў маткі душа, калі яна ўспамінала той месяц, які яна правяла разам з дачкою і зяцем, і яна пачувала сябе няблага, і нават добра, як яна сама тады гаварыла. Яна ўжо, відаць, прывыкала да думкі, што яны тут застануцца жыць, як выйдуць на пенсію. Яна смяялася з таго, што Рагнеда хацела тут будавацца, забываючы, колькі гэта каштуе, а вось каб жылі тут у яе, то яна ўжо лічыла такое верагодным, а думка пра Альбіну неяк паволі адступала на задні план. А на папярэднім плане ў яе яшчэ была надзея пажыць, многа ці мала, падгадаваць унучак, прычакаць праўнукаў.

Але планы адно, а жыццё ідзе неяк так, што яно не зважае на твае планы. Дзень за днём, месяц за месяцам маці пачынала адчуваць, што яна слабне, што тыя клопаты і хатняя праца, якія здаваліся ёй лёгкімі і простымі, пацяжэлі ў некалькі разоў і робяцца нават неадольнымі.

І такая ганарыстая і незалежная маці папрасіла дапамогі: каб на зіму яе забралі ў горад, і канечне ж, да свае любімае Альбіны. А вясною яна, дасць Бог, зноў вернецца ў сваю хату, на зямлю: да саду-агарода, да травы, да птушак і кветак. Яна так моцна прырасла да свайго месца за гэтыя больш як паўсотні гадоў, што яе ўжо нельга было скрануць з яго. Дрэвы павырасталі за гэты час вунь якія вялікія, некаторыя ўжо паўсыхалі… Так і яна — стала ўсыхаць, сілы ўсё больш пакідалі яе, а аднойчы яна адчула,

што не можа больш жыць у свае любае Альбіны, што ёй тут цесна, няўтульна і холадна…

І папрасілася жыць да Рагнеды і Янкі. І Янка — па абавязку сэрца, а Рагнеда — з вялікай радасцю, прынялі яе да сябе. Хоць радасці той ужо засталося мала, бо маці рабілася ўсё больш слабай, і ніякія лекі не памагалі. Яна з цяжкасцю хадзіла па кватэры — нават з крывулькаю, а потым і зусім злягла.

Гэта быў страшэнна цяжкі час для іх усіх, асабліва для Рагнеды і маткі. Як матцы рабілася ўсё горш, як яна засыхала, як тое дрэва з падточанымі каранямі, так і Рагнеда мянялася на вачах — худзела, бляднела, не спала па начах, і Янка пачынаў ужо баяцца, каб яна часам не апярэдзіла маткі. І ніякія ўгаворы, ніякія просьбы ці грозьбы не мелі сілы — дачка нібы паказвала, таго не жадаючы, як яна любіць сваю матку, як перажывае яе боль, з якім жахам баіцца непазбежнага часу.

І гэта, як па індукцыі, перадавалася і Янку: ён таксама схуднеў, страціў апетыт, прапала ахвота да працы. Яго родная маці пакінула гэты свет лёгка і проста, нават за працай. Гэта было ў верасні. Яна з дачкою Жэняй і ўнукам перабіралі бульбу, матка сядзела на зямлі пры сцяне і кідала ў кошык большыя бульбіны, і раптам падбародак яе ўпаў на грудзі, а рукі бязвольна апусціліся на прыпол. Дачка зразумела, што з маткаю бяда, кінулася ў хату, знайшла нашатыр і вярнулася да маткі, але было ўжо позна: яе сэрца перастала біцца…

А Рагнедзіна маці адыходзіла доўга і пакутліва: то яна траціла прытомнасць, як правальвалася ў бездань, то зноў памяць вярталася да яе, але на кароткі час. І ў канцы лютага яна пайшла ад іх назаўсёды. Для Рагнеды гэта быў удар у самае сэрца, яна некалькі месяцаў хадзіла сама не свая — нібы выпаўзала з якое глыбокае ямы.

І амаль не ўзварухнула яе сэрца і тое, што маці, адчуваючы свой кароткі час, адпісала бацькоўскую хату, сад-агарод і ўсе соткі сваёй старэйшай дачцэ Рагнедзе, а не падзяліла маёмасці з дочкамі пароўну, як можна было чакаць.

Малодшая, Альбіна, у душы, відаць, пакрыўдзілася на матку, але знешне прыняла матчыну волю спакойна і разважліва: хай будзе так, як вырашыла маці, справядліва гэта ці не.

Яшчэ адзін кароткі постскрыптум можна дадаць да ўсяго, нават вельмі дзіўны. Палкоўнік Рагаткін, Альбінін муж, пайшоў у адстаўку і заняўся новаю для сябе справаю: абклаўся дапаможнікамі і слоўнікамі ды стаў штудзіраваць даўно забытую ім на вайсковай службе родную мову — беларускую, якую ён яшчэ нядаўна лічыў такою непатрэбнаю. Сяды-тады ён пазвоньваў Янку і браў у яго кансультацыю: як лепш ужыць тое ці іншае беларускае слова, каб яно стала на месца і гучала як належыць.

Яны з апанентаў рабіліся сябрамі. Рагнеда казала, што гэта Янкава заслуга, а Янка адказваў, што змяніўся час — і патрэбны новыя песні, усяго толькі.







Уладзімір МАРУК

# «Я ЧАКАЎ ДЛЯ ДУШЫ ЧЫСЦІНІ...»

* * *

У пералеску зноў пайшлі грыбы,
Як самыя чаканыя прышэльцы.
І я на іх глядзеў,
малы, рабы,
Цераз дзяцінства просценькія шкельцы.

І рабацінне мне было няўзнак,
Адно ў вачах грыбы,
што выняў з моху,
І я на іх,
нібы на Задыяк,
Дзівіўся,
абмінаючы эпоху.

* * *

Я шукаю свае ветракі,
Што на свеце яшчэ не звяліся,
Прыгадаю,
як мы,
хлапчукі,
Верай крылам высокім кляліся.

І лятаў,
абняўшы крыло,
Нам здавалася —
блізка аблокі...

---

***Марук Уладзімір Антонавіч*** *нарадзіўся 6 студзеня 1954 года ў вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум (1972) і філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1980). Працаваў у газетах «Звязда», «Літаратура і мастацтва», у выдавецтвах «Юнацтва», «Белфакс», «Мастацкая літаратура». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя».*

*Аўтар кніг паэзіі «Зоркі ў кронах», «Ліст рабіне», «Інкрустацыя голасам» і інш.*

Прыбягалі гурмою ў сяло,
Калі ўжо нахапіліся змрокі.

Ператомленым спалася ўсмак
Да якога,
не ведаю,
пеўня...
І чакаў нас за лугам вятрак,
І сягоння чакае,
напэўна.

* * *

Назалялі,
ды як назалялі
Дзве суседкі,
блізняткі-сястры,
Незвычайнай ігрой на раялі,
Не ў чатыры рукі —
«паўтары».

Назалялі,
ды я быў трывушчы,
Бо і ноты ніводнай не знаў.
Бы ўрадзіўся ў пакінутай пушчы —
Для звяр'я,
дрэў ссівелых і траў.

Можа, й гэта мяне прымушала
Слухаць, слухаць,
а потым — бягом
Да пустога за поўнач вакзала...
У бацькоўскі запушчаны дом

Я ўлячу,
адшукаю гармонік,
Папрашу:
«Калі што, не карай!..»
Сяду сціпла на хіленькі ўслонік —
Так зайграю!..
Ніколі ж не йграў.

* * *

Гэтак проста злавацца
і ціхенька плакаць,
І ўсміхацца пасля
над хвілінай такою,
Як згадаеш сябе
сярод красак і цацак,
Дзедаў хутар за вузкай
і плыткай ракою.

Калі ж будзеш злавацца ды плакаць,
смяяцца,
Ты пакліч сябе
ў самыя лепшыя госці,
Моўчкі чарку налі,
пасядзі між акацый...
Хопіць месца самотніку
і ў весялосці.

* * *

Зноў напомніць аб даўнім,
былым
Наканечнік зламанай стралы,
Што ніколі нікога не ўджаліць...

І згадаецца попел і дым
На дзядзінцы маім маладым...
Там дзяды мае —
вогнішча паляць.

* * *

Засцелем настольнік.
Ён з вёскі прыехаў,
Каб слухалі мы неадольнае рэха,
Як косяць на лузе і возяць салому...

І ластаўкі шчэбет,
куванне зязюлі
Мы разам з табою,
настольнік,
пачулі...
Чаму ж так няўтульна табе,
гарадскому?

* * *

Мокрае ворыва —
хоць перастала
Ліць з тае хмары,
што хмаркай была.

Выйшаў,
няголены,
моўчкі з вакзала,
Шпарка пайшоў
да пустога сяла.

Марна вароны
валочацца ў полі,
Там пахадзілі наранні шпакі...

Нельга ўцячы
ад рыпучае долі,
Бы забіваць у каменне цвікі.

* * *

Цвіце вярба ля замка за ракою
І мне ажно не верыцца спакою,
З якім рака плыве.
А замак —
спіць.
Пакіну бераг,
хай адзін пабудзе,
Пайду —
і больш сюды не ступяць людзі...
А за ракою нехта просіць піць.

## ПАМЯЦІ АЛЕСЯ ПІСЬМЯНКОВА

А сягоння мой дзень велікодны,
Поўны сцішаных дум і святла.
На пясок я прыкленчу халодны
Ля абжытага смуткам жытла.

Ну а сонца высока-высока,
Разганяе сівую смугу...
Да цябе толькі некалькі крокаў,
А ступіць іх ніяк не магу.

***Вялікдзень,***
***23 красавіка 2006***

* * *

Паспрабуй хоць разок
заступіць за балота,
Пералезці мяжу,
што дрыгвою смярдзіць.
Ты туляўся ў капе
і валяўся пад плотам...
Паспрабуй за балотам
хоць хвілю пажыць.

Не скажу,
што там рай,
за балотам дрымотным,
Невялікая хатка,
нягеглы садок...
І сякеру з-пад лавы
чакае дрывотня,

А за хатай
з крыніцы цурчыць ручаёк.

Ты паслухай
яго ў цішыні пералівы,
Ды згадай,
як ішоў,
абмінуўшы дрыгву,
І адразу адчуеш,
які ты шчаслівы,
І казацьмеш адзінае слова:
«Жыву!»

* * *

Як далёка пахне шашлыкамі.
І высока вершаліны дрэў.
А трава спяшаецца за намі,
Дзе крыніца —
як зямны шэдэўр.

Шашлыкі і вершаліны чуе
Нават за высознаю гарой,
Колькі,
не адкажа,
тут вякуе,
Каб задумны збыўся наш настрой.

Ну а мы паверым ёй і свету,
Ціха ўкленчым перад ёю ніц,
Душы наталіўшы запаветам, —
Ёсць жыццё ў крынічак і крыніц.

* * *

У кожным камені
я чыйсьці бачу твар
Ці чыйсьці сон,
калі не бачу твару...
І сведчыць сябра,
верны ясакар,
Што не званару я,
ды й не гандляру...

У шэрым камені
пазнаю воблік свой,
Яго і сонца,
як усіх,
не грэе...
А сонцаў пасланец,
пчаліны рой,
Чакае,
ці хоць трохі памудрэю.

* * *

У палацы былога магната
Я заглядваю ў кожны куток,
Я б хоць пальцам,
ды нешта пакратаў...
Ён мне пальцам ківае здалёк.

Той магнат,
што валодаў палацам,
Прыгразіў,
каб пра час нагадаць...
Я ж пайду,
развітаюся з пляцам,
Хоць на ім галубоў не відаць.

Я прынёс ім смачнюткія крошкі,
Каб убачыў памысны магнат
Цень галубкі,
як воблік валошкі,
Да якой не вярнуцца назад.

* * *

За мурамі —
ізноў муры,
Сіратлівыя дрэваў цені...
Як барсук,
вылажу з нары,
Дзе абрыдлі шпалеры і сцены,

Хоць на іх нямала святла,
Ды й узоры,
нібы кара́лі,
Бы ў спякотны поўдзень пчала,
Нешта джаліць з іх,
потай джаліць.

І ўцякаю далей ад муроў
Да рачулкі,
што боль атуліць,
Дзе спаткаю баброў-разьбяроў,
Што алешнік мой не кранулі.

За рачулкаю —
бор стары,
Стану я перад ім на калені,
Буду ціха шаптаць-гаварыць,
Забываючы светлыя сцены.

* * *

Пасвятлела.
А ноч яшчэ хоча ўтрымацца
За аерыну ў беразе,
мокры лясок,
Ды на ўсходзе
зара пачынае ўсміхацца,
І начэквае сонца
прырэчны пясок.

У ляску пачынаецца
спеў-шчабятанне,
Праганяючы ноч
і забыўшы на сны.
Далікатна садзіцца
гуллівае ранне
На вяршаліну
самай высокай сасны.

І паціху забудзецца
ноч-векавуха,
Што па іншых сцяжынах
удалеч ідзе...
А загадкавы птах
мне прашэпча на вуха:
«Так і ў нас,
як у вас,
у смяротных людзей».

* * *

Над ракою вісіць павалока,
Не смуга і не волкі туман.
Выйшаў з лесу —
яна недалёка,
А здаецца,
што самападман.

А бліжэй падыходзіш —
і дзіва —
Павалокі наўсцяж не стае,
Толькі рэчка булькоча лісліва, —
Бо не ўдалеч гляджу,
а ў яе.

А наўкола такая прастора
Павалоцы,
туману,
смузе...
А здагадлівы
ранні мой жораў
Побач стаў на цыбатай назе.

* * *

*Як разлагодзіла душу*
*Мне гэта дрэва!*

М. Стральцоў

Спеў канаплянкі ў гушчары
Чуваць далёка,
Жаўна лятае па бары,
Над лугам —
сокал.

Куды ні глянеш з-пад рукі —
Наўкол крылата,
Ляцяць на могілкі крукі,
Буслы —
над хатай.

Ды ўсё запомніць не змагу,
Што сёння ўбачу,
Не даганю,
хоць і бягу,
Я птушку-ўдачу.

Лепш пастаю сярод стагоў,
Бы тое дрэва,
Што пад вясёлчынай дугой
Мяне сустрэла,

Яшчэ не зведаўшы,
які
І чым я дыхаў...
І ціхне гонар гарадскі
Ды меркне пыха.

У дрэва столькі лёгкіх крыл —
А колькі й голля,
На іх садзіцца дзікі пыл
Са сцежкі ў полі.

А хмарка ўдалеч паплыла,
За птушкай —
знаю...
Я,
сутнасць зведаўшы крыла,
Сам
не лятаю.

* * *

Зацвітае і мой цыкламен,
Засланіўшы сабою паўсвету.
Паўтараю,
бы ў песні рэфрэн:
«Я чакаў твайго белага квету».

Незнарок у душу загляні —
Там пялёсткі твае аж свіцяцца.
Я чакаў для душы чысціні
Ад цябе.
Ад людзей —
не ўчакацца.

* * *

Ля п'янлівых півоняў стаім,
І шапочуць нам потай півоні,
Што з-за воблакаў
вечнасці дым
Хутка ляжа на нашы далоні.

Так і хочацца выцвілы квет
Хоць на хвілю пакратаць рукамі,
Бо куды ні глядзі, —
ўсё сусвет —
І півоні,
і воблакі,
й самі.

* * *

Накцюрны і плаўныя вальсы
Паціху прылашчылі слых.
Па клавішах таньчылі пальцы,
Глядзеў не на твар я, —
на іх.

А потым прасіў ну хоць трохі
На памяць што-небудзь сыграць
З любімай музычнай эпохі,
Якой не пара дагараць.

З надзеяй кажу:
«А Шапэна?..»
«А Ліста?..» —
з мальбою прашу...
Ды пальцы ляглі на калені,
Каб я не вярэдзіў душу.

* * *

Колькі дрэў,
ды ля іх не схавацца,
Бо асвеціць маланкавы сполах.
Будзем самі з сябе насміхацца,
Не заўважым,
як выбухне голас.

Гэта страх аддаляецца стрэлам
І сціхае,
як вецер за плёсам...
Зноў гуляем у хованкі з дрэвам,
Нібы ўжо нагуляліся з лёсам.

* * *

Запытайся апошні раз,
Калі дам табе яблык на Спаса:
Што яшчэ паяднала б нас —
Спеў які
ці абшараў акраса?..

А пад яблыняю быльнёг
І адзіны яблык спакусны...
Адказаў бы,
каб толькі змог,
Каб не самыя смелыя вусны.

* * *

Як магу,
я вяртаю мілосць,
Што калісьці квітнела ды знікла.
Засталася звычайная злосць,
Што парой станавілася звыклай.

Часта думаў, —
а што, калі мы,
Ты і я,
на зямлі толькі госці
І на сходзе якойсьці зімы
Ў гэтым свеце не стане мілосці?

* * *

Вы чаравалі,
чаравалі,
Ды падняліся і пайшлі,
І я адзін застаўся ў зале,
Адзін на небе і зямлі.

І запалала зырка рана
У развярэджанай душы,
Святою музыкай аргана
Яе агонь не патушыць.

Вы чаравалі,
чаравалі,

Ды заняволіць не змаглі,
Нібы ніколі не кахалі, —
Вы так пайшлі,
як не былі.

* * *

Я забываю твае наракані,
Моўчкі прысяду на лаўцы ў садку,
Не задавацьму нікому пытанні,
Проста сядзецьму,
падпёршы шчаку.

І не заўважу,
як бегаюць дзеці,
Нехта за лаўкаю лісце грабе...
Я ўжо не першы
на стомленым свеце,
Хто забывае на час і сябе.

* * *

Разаслалі дыван —
памякчэла падлога.
Я ж ступаю з ахвотай па мокрым пяску.
Хоць навокал вісіць хмараў цёмных аблога,
Зноў хачу пахадзіць па расяным ляску,

Пераскочыць ручай,
не такі ўжо і плыткі,
Абрасіцца аб верас на ўлонні палян,
Каб вяртацца дахаты прамоклым да ніткі,
Баючыся запэцкаць дыхтоўны дыван.

* * *

Свечка патухне ў вакне,
Нехта,
відаць,
не засне,
Гледзячы ў столь,
як у неба,

Дзе ані зоркі ў імгле...
Сядзе за стол.
На стале
Соль ды скарыначка хлеба.

* * *

У стомленай восені столькі ўсяго недарэчы:
Прыблудныя цені,
што памяць так хочуць знявечыць,
Прыблудныя хмары,
што лёс паліваюць слязамі,
Каб шчырае стала высокай сцяной паміж намі.

У стомленай восені столькі —
нібыта ў самога...
У хлюпкай гразюцы віхляе між думаў дарога,
Што спыніцца ўпотай
ля самай маленькай капліцы,
Каб там ад грахоў маіх
верай сваёй адмаліцца.

* * *

Пад ветру тоненькі прысвіст
Ляціць у свет кляновы ліст.
Усе выгнанцы мы —
часова

Прыйшлі,
каб ціха прашаптаць,
Што можа нашым лёсам стаць...
Каб атрымалася ж хоць слова.





Анатоль БАРОЎСКІ

# ТРЫ ЕЛКІ ДЗЯЦІНСТВА

*Аповесць*

## 1

У кожнага з нас жыве ў памяці той даўні і дзівосны час, калі мы яшчэ толкам не ўсведамлялі яго, і ён светлым напамінкам сёння стукаецца ў нашую душу, у нашу памяць, як быццам папракае за тое, што мы не ведалі тады — якое вялікае шчасце жыць у Краіне Дзяцінства...

Нам могуць прысніцца сябры, клас, настаўніца... Ды прымроіцца з трывогай, што і ўрок не падрыхтаваны, і таму нараджаецца пачуццё крыўды, што падводзіш настаўніцу, а яна вось-вось павінна назваць тваё прозвішча. І ты сядзіш, сагнуўшы голаў ад страху, ад сораму, што дурнем выглядаць будзеш, калі класная выкліча да дошкі. І ў той жа час сэрца незаўважна ператвараецца ў дзіцячае — цнатлівае і палахлівае, адчувальнае да ўсялякіх дробязяў.

Калі ж тыя сны прыходзяць часта, як не кажынную ноч, то гэта азначае, што ў тваё сэрца пастукалася Яно, Дзяцінства. І паклікалі тыя, з кім ты бегаў навыперадкі босы па халоднай і роснай зямлі. Яны, сяброўкі твае, успомнілі пра цябе, праз зорныя міражы часу і прасторы дасылаюць табе вестку і пытаюцца: «Як ты там жывеш, дружа? Ці ўспамінаеш ты нас?»

То іх біятокі далятаюць да тваіх мозга і душы, — і тады табе ўжо нікуды не падзецца, не ўцячы, як ні старайся.

Мама казала некалі, што чалавек — жывы ён ці не, хаця ж і на тым свеце даўно, — наладжвае пярэзвы, цікавіцца тваім станам і жыццём: памагчы хоча, аберагчы ад злога і ліхога, адчуваючы, як спакутаваліся твае душа і цела. Мо яно і сапраўды так, не ведаю, аспрэчваць не буду. Але, прызнаюся, што ў гэтым нешта ёсць, быць таго не можа, каб не было...

І ты прахопліваешся ноччу (то я ж, канечне, прачынаюся), нішком ад жонкі ідзеш на кухню, похапкам прыкурваеш і дзівішся-здзіўляешся —

---

*Бароўскі Анатоль Мікалаевіч нарадзіўся ў 1942 годзе ў в. Крушнікі Мазырскага раёна. Скончыў Мазырскі педінстытут.*

*Працаваў у калгасе, рабочым на заводзе жалезабетонных вырабаў, настаўнікам пачатковых класаў, служыў у арміі, быў супрацоўнікам райгазеты.*

*Аўтар кніг прозы «Каліна пад акном», «Тросніца» і інш., а таксама некалькіх кніг нарысаў.*

што за насланнё такое з тымі ўспамінамі? Тут клопатаў столькі, што і за стагоддзе не разграбеш, а басаногае дзяцінства не дае спаць, брыкаецца, у бок штурхае сваімі парэпанымі пяткамі... І няўцям, што трэба неадкладна, тэрміновa нават, кінуць усё і імчаць туды, у тую дзівосную і цудоўную краіну, у сваю казку, на свой адзіны бераг. Ды не на суд Божы, не на пакаянне ці споведзь нават, хаця і гэта яшчэ наперадзе, а на ачышчэнне, на агульную праверку (акурат, як у войску), на агляд сваіх радоў, — то ж проста душа твая пачала бунтаваць і памкнулася туды, да сяброў, яна вырываецца з грудзей, пакутуе, чакае, калі супакоіш яе, суцішыш...

Але нават і не з-за гэтага кліча Вышні на Поле Дзяцінства. У зямельцы ж закапана твая пупавінка, а ўяўны атожылак цягнецца да цябе ўвесь час, як ты жывеш. Ты ж і сілкуешся тымі нябачнымі энергецінкамі з тае мясцінкі, дзе бабка-павітуха схавала той вузельчык, які звязваў цябе з мамай, звязвае назаўсёды з краем, які завецца малой радзімай...

Схавала той пупок, як яблыньку пасадзіла. А каб расла ўчэпіста і спорна, караню трэба жыватворная духоўная вільгаць і сіла. А як толькі яе не хапае, у той жа час у тваёй душы пачынае рабіцца нешта незразумелае, злое, — яблынька не адчула ад цябе падпіткі, як і ты ад яе. Пачынае рвацца духоўная сувязь. Вось і пайшоў тады па тоненькай-танюсенькай нітачцы-карэньчыку сігнал бяды і крыку аб дапамозе...

А ты адчуў (я ж, канечне) незразумелы боль пад левай грудзінай і ніяк не можаш даўмецца, што гэта за насланнё такое? Дзівак ты, дзівак... То ж дзяцінства пастукалася ў тваё сэрца...

Нікога не слухай — кідай усё, шукай свае крылы ўзнёсласці і ... Забудзь пра клопаты і праблемы. Неадкладна імчы ў той край, які кліча да сябе, як бы ён далёка ні быў ад цябе — хоць за тысячы і мільёны вёрст. Адчуй сябе зноўку малым. Так трэба. Так неабходна. Адчуй сябе зноў хлапчуком, — і ты тады ўбачыш свет зусім іншымі вачыма, і тады для цябе шмат чаго высветліцца і праясніцца, многае стане зразумелым і блізкім.

Кожнаму з нас — хочам таго мы ці не — жыццё дае шчаслівы шанец: палячыцца ад дарослaсці, ад сур'ёзнасці, ад злых і непатрэбных думак, апамятацца, спыніцца і задумацца над сваімі ўчынкамі, сказанымі словамі, зробленым і няздзейсненым. І гора таму, хто не выкарыстоўвае яго, хто адмахнецца ад паклічу і пярэзваў, палічыўшы тое ўсё дурноццем, і не прызнаецца нікому нават, што нехта клікаў яго ў чароўную і непаўторную краіну. Баючыся, каб не абсмяялі, бо пасада не дазваляла апускацца да такіх прызнанняў і сантыментаў...

Шкада такіх людзей, шкада... Ну, што ж, няхай будзе так, а калі так, то і не зразумець яму ніколі нічога, але ў тым ужо вінаваціць нікога не трэба, апроч самога сябе. Але прыйдзе пара, абавязкова прыйдзе, хоць і праз тысячу год, — але тады ўжо будзе позна, задужа позна... І ніхто тады не паможа вярнуць шчаслівыя імгненні вяртання да самога сябе.

## 2

...Хуткі поезд нясе мяне ў маё далёкае дзяцінства, у тую саму пару, калі яно заканчвалася і пачыналася юнацтва.

Не ведаю толькі чаму, але з першых хвілінаў, як я ўбіўся ў чаргу да касы, каб узяць квіток, мяне адразу ж ахапіла хваляванне — не абы-куды еду, а ў край бесклапотнасці і нястачы, захаплення і горычы, першага кахання і першых расчараванняў...

У жыцці яно як бывае? Імкнешся штодня да нейкай мэты, уздзіраешся, злузваючы да крыві пальцы рук і калені, да нейкіх недасягальных вяршыняў, траціш энергію і розум, ахвяруеш усім дзеля выбранай мэты і прызнаешся самому сабе, што не было, на жаль, часу азірнуцца на сваё даўняе мінулае, паглядзець на сябе збоку, паглядзець тымі непасрэднымі дзіцячымі вачыма, якія не здрадзяць, не падмануць...

Куды, на якую тайную ці не тайную вячэру-застолле мы баімося спазніцца?

Мы ж верылі ў светлае, чыстае, цнатлівае і правільнае. Верылі напісаным кніжкам, настаўнікам, якія казалі, што шчаслівае дзяцінства нам падарыў бацька Сталін. Пазней даводзілі нам, што толькі ён адзін сваёй мудрасцю выйграў вайну з Гітлерам. І яшчэ далдонілі нам, што Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя дала шчасце і волю кожнаму чалавеку. Прымушалі паверыць, што Бога не існуе, а рэлігія — то опіум для ўсяго народа, і ад яе трэба пазбаўляцца...

Нас адвучылі маліцца. Адабралі Хрыста, сказаўшы, што замест яго ёсць другі бог — Ленін. А Біблія казалі, смеючыся, — то байка пра Бога, і яна не адыгрывае той неабходнай ролі ў выхаванні піянераў і камсамольцаў. Мы былі сляпыя, бы толькі што народжаныя кацяняты, знаходзіліся ў стане слепаты нават тады, калі сталі дарослымі, не перастаючы верыць, што толькі ў нас усё добра і шчасна...

Ну, дык тое ўсё, як кажуць, да слова. Бо натура ў нас такая — хлебам не кармі, а дай выгаварыцца, навесці крытыку на забітага льва. І няважна ўжо, слухае нас хто-небудзь ці не. Загана то нашая ці прасвятленне, не ведаю.

Еду-імчу я ў свой далёкі край. То раней здавалася мне, што за трыдзевяць зямель той Казацін ад Гомеля. Бо адтуль, як ехаў некалі, ой якім жа цяжкім і доўгапакутным падаўся мне той адрэзак шляху!

Выбрацца ў дарогу я рашыў нечакана.

Нават і штуршка такога пэўнага не было, пра які я казаў перад гэтым. Хаця, калі шчыра, перад гэтым клікала мяне некуды мая памяць. Проста неяк ноччу ўбачыў я сябе басаногім хлапчуком — з кніжкамі за плячыма, які шморгае носам ад прастуды. Уваходзіла ў раскошу спякотнае лета, апякаў ногі пясок, бы прысак, а я крочыў некуды спешна — ці то ў школу, ці то са школы. І пры тым у мяне было так шчымліва на душы, што я прачнуўся. Такія сны былі і раней, але ім не надаваў асаблівай увагі. То быццам я лётаў над сваёй вёскай, а хлапчукі стаялі ўнізе і нешта крычалі і паказвалі ў мой бок рукамі... А я насіўся птушкай, коршакам, арлом, і адзінае, што мяне турбавала, — каб хаця не зачапіцца за тэлеграфныя слупы і драты, што злучалі тыя слупы.

Эх, сны, сны... Мройная ваша фантазія...

Наш свідравальны станок з праграмным кіраваннем прайшоў выпрабаванні з высокай адзнакай, і галоўны канструктар Арсен Гайкоў нечакана для мяне сказаў:

— Валодзя, за гэтую перамогу я даю табе тыдзень адпачынку. І яшчэ прэмію ўпрыдачу.

Я, канечне ж, не паверыў яго словам. Тады Арсен Робертавіч перапытаў:

— Ці не глухі ты, Уладзімер? Ці то такі няўдзячны, га?

Мне ж толькі заставалася кіўнуць у знак згоды, каб не паказацца аглушаным яго дарункам-паведамленнем.

Ён як уведаў усё роўна, што мне ой як не хапала ў маім жыцці таго такога неабходнага і жаданага тыдня. Усе суткі і апошнія тыдні мы былі загружаны-перагружаны неймавернай працай. Арсен выціскаў з нас, канструктараў, усё магчымае і немагчымае — мо так і капіталіст не здзекаваўся са сваіх рабочых. Але ж не, калі шчыра, то прымусу начальніка мы не адчувалі. Нас эксплутаваў самы галоўны начальнік — прымус прэстыжу. А сіла прыдавала хіба толькі тое, што папярэдні наш станок без стрыманасці хвалілі спецыялісты з Нямеччыны. Нам хацелася і гэты давесці да ладу, бо прэстыж прэстыжам, а і пахла добрай прэміяй.

Мяне ж падораны тыдзень абрадаваў яшчэ і тым, што я мог сплаціць усе свае даўгі. А іх у мяне накапілася шмат і шмат.

Некалі, гадоў дзесяць назад, асмеліўся напісаць у абласную газету невялічкі допіс пра нашую брыгаду. Ну, рукі свярбелі, парабіць з сабою нічога не мог. Напісаў пра тое, як мы ствараем станкі. Дзіўна, але мой допіс надрукавалі, і невядомая мне Марыя Шыманоўская напісала кароценькае пісямко, папрасіла, каб я прыслаў яшчэ што-небудзь з жыцця свайго прадпрыемства. Падказала нават і тэмы, якія яе цікавілі. І зноў надрукавалі дасланае. Прызнаюся, тое мне спадабалася. Падабалася глядзець на радкі ў газеце і подпіс пад імі.

Праз год пад маімі заметкамі да майго прозвішча дабаўлялі «няштатны карэспандэнт». І тады я асмеліўся паспрабаваць свае сілы ў цэнтральнай газеце, ды і ў не абы-якой, а ў рабочай. І — во дзіва! — праз месяц убачыў допіс надрукаваным. Праўда, мяне здорава падкарацілі, падправілі напісанае. Мне падалося нават, што надрукаваны тэкст чытаўся лепей і цікавей. Быццам нехта там, з супрацоўнікаў газеты, паклаў маё пісанне пад важкі прэс і выціснуў усё лішняе. Я зразумеў, што мне трэба было вучыцца пісаць сцісла...

На той час у мяне ляжаў недапісаны нарыс пра баптыста Сівакова. Папярэдне я напісаў ліст, спытаў, ці цікавіць іх такая тэма. Тэма іх зацікавіла. Але я ўзяўся пакуль што за іншы матэрыял. Яго надрукавалі без асаблівых правак. Я стаў ужо іх няштатным карэспандэнтам. Мне нават выслалі пасведчанне, чым я вельмі ганарыўся.

А матэрыял пра Сівакова чакаў свайго часу. Я паабяцаў яго скончыць і выслаць у бліжэйшы час. Але міналі дні, а мне ўсё не выпадала сесці за стол.

А тут на табе — галапузае дзяцінства пастукалася ў маю памяць.

І я махнуў рукой на той нарыс — не ўцячэ нікуды, а тэрміны рэч умоўная, — не надрукуюць цяпер, дык праз год. Для мяне тое ўжо не з'яўлялася галоўным.

Плюнуў на ўсё, адрынуў усё, рашыўся і адгукнуўся на покліч.

Са мною ў купэ сядзяць трое дзяўчатак. Адна з іх, бяляначка, у шыкоўным касцюмчыку, з поўненькімі вуснамі і агністымі вачыма, зіркала тудсюд, як нешта ці некага шукала. Сяброўкі ж маўклівыя, унураныя ў сябе, занятыя сваім, на мяне не звярталі увагі.

Як праязджалі Сож, пад вагонамі затахкалі гучна на стыках колы: «Ты ку-ды, ты ку-ды?..» Я выйшаў у тамбур, каб перастаяць якой паўгадзіны і не назаляць сваім спадарожніцам, — няхай уладкоўваюцца на ноч.

Ці засну я сёння, адчуваючы на душы няўцямную трывогу і ўзрушанасць? Ці супакоюся, узваліўшы на плечы цяжар пражытых гадоў? Хоць і не курыў, а прыйшлося «стральнуць» «прыміну» ў суседа, што дыміў побач. Я на сваіх жа вачах ператвараўся ў хлапчука, які ўсё жыццё хадзіў са мною побач і маўкліва назіраў за мною.

І здавалася ўжо, што не ў вагоне я сяджу, а ў нашай школе — у пятым класе, слухаю, пра што гаворыць сваім хрыплым голасам Рыгор Дзяменцьевіч. Пачуў голас — і нешта прымусіла мяне захвалявацца...

Адна зацяжка, другая...

## Эма

Дзе ж ты цяпер, прыгажуня-прынцэса Эма-Эмачка-Эмуся?!

Якія вятры і чые вочы цалуюць тваю прыгажосць? Ці любіш ты і цяпер сустракаць Новы год?

Дзе ты цяпер, прыгажуня Эмачка?

Дзе?..

Мы сядзім у класе, і настаўнік гісторыі Рыгор Дзяменцьевіч расказвае нам пра далёкія гістарычныя часіны, тлумачыць падзеі, прыводзіць па памяці даты... Расказвае так цікава, што муха ляціць пад столлю, і мы чуем вібрацыю яе крылцаў. Рыгор заўсёды ў сваім нязменным шынялькy і ботах, у гімнасцёрцы, якую сам мые і зашывае зашмальцаваныя мясціны і дзіркі. Мы ведаем, што гэта яго адзінае адзенне, і другога настаўнік не мае.

Але як бы ні было нам цікава слухаць аповеды настаўніка, я не зводжу вачэй з беленькага вуха Эмы — яна сядзіць у наступным радзе, справа. Калі гляджу на яе, у мяне замірае сэрца і лёгкія іголачкі паколваюць у скроні. Не магу адарваць позірку... А побач — Колька Кандыбенка сядзіць, вочы прымружыў — уважліва слухае.

Дзяўчына нечакана аглядваецца, адчуўшы, мусіць, мой позірк, і я, нібы прысаромлены, чырванею, апускаючы вочы долу.

— І не думаў магістр Ордэна, што такое можа адбыцца, — чую зноў патаемны і даверлівы голас гісторыка, і мне здаецца ўжо, што ён гаворыць толькі для мяне аднаго, ну, хіба яшчэ і для Эмы, расказвае цікавую гісторыю маёй радзімы, — Боская кара абрынулася на яго ворагаў...

Рыгор Дзяменцьевіч меў сваю гісторыю, якую, мусіць, напісаў сам ці склаў і чытаў яе натхнёна і з глыбокім веданнем яе падводных цячэнняў... Я ж ніколі і імён такіх не чуў, якія ён называў — Ульрых, Вітаўт...

Адкуль ён тое ведаў, з якіх крыніцаў тое чэрпаў?

— А ці ведаеце вы, што...

І мы з першых слоў уваходзім у казку, у дзівоснае паданне, у далёкую мінуўшчыну, у падзеі, якія адбываюцца ў Вялікім княстве Літоўскім...

Спяваюць трывожна трубы, грымяць зазыўна і ўзнёсла барабаны... Вы ўявіце той напал бою, прыслухайцеся да пераззвону мячоў і дзідаў... Літоўская конніца рушыла, нарэшце, у атаку. Але што гэта? Як у прорву правальваюцца вершнікі — і знаку ўжо няма ад іх. То выкапалі надоечы непрыкметна яміны, прыкрылі іх галінамі і замаскіравалі мохам. Другія і трэція рады па целах папярэднікаў прайшлі яшчэ далей і сутыкнуліся з ворагам у няшчаднай сечы. Нельга было замахнуцца як след мячом — на полі з узгоркаў і ўпадзінаў шырынёй у дзве тысячы крокаў сышліся не менeй, як шэсцьдзесят тысячаў вояў...

Ламаюцца коп'і, сякіры адскокваюць ад каваных шчытоў, лопаюцца, як яйкавае шкарлупінне, пад ударамі чэканаў шлемы...

Іржуць коні, крычаць параненыя, поўзаючы па крывавай зямлі, цягнучы за сабою свае ж вантробы; воклічы і загады камандзіраў глухнуць у агульным пагрозлівым гуле. Ціўкаюць стрэлы, звініць набатам сталь...

І вось воі Вітаўта не вытрымалі, здрыгануліся, пахіснуліся — пад магутным націскам важкай рыцарскай конніцы адкаціліся назад. Колькі вы, думаеце, было вояў, што змаглі даць такі адпор?

Настаўнік папытаўся ў нас, але не глядзеў у наш бок, — стаяў каля акна і не адрываў позірку ад засмужанага неба і воблакаў, — мусіць, там бачыў усё тое, пра што расказваў. І сам жа адказаў на пытанне:

— Усяго тры палкі са Смаленскай зямлі — гэта на стыку з польскімі харугвамі. Здавалася б, колькі тых вояў, жменька, але яна аказалася моцнай і храбрай, бо сваім націскам здолела перашкодзіць крыжакам разбіць усё саюзнае войска. Падалі ў смяротным баі адзін за адным смелыя і бясстрашныя смаляне, але не зрабілі ні кроку назад. Наступіў крытычны момант. І ў гэты ж час зноў пачуўся бадзёры голас зазыўнага горна, рушылі ў наступленне на сваім флангзе палкі Ягайлы...

Крыжаносцы адразу адчулі моцную перашкоду і таму вымушаны былі спыніць праследванне «літоўцаў», а свае ўдарныя, адборныя фарміраванні, кінулі супраць палякаў. Але не змаглі вытрымаць іх націску. Не памог ужо і ўвод у бой апошняга рэзерву, якім кіраваў сам магістр Ордэна. Тут знайшоў сваю смерць Ульрых фон Юнгінген, а разам з ім палеглі яго лепшыя рыцары, якія верылі ў свае сілы, у сваю неператможнасць і Боскае благаслаўленне на поспех...

А я пазіраў на шыю Эмы, але бачыў яскрава скрозь яе кудзеркі тых рыцараў, чуў лязгат дзідаў і верыў, што яны з-за сваіх прыгажуняў клалі свае галовы на полі бітвы. І мне так хацелася пакратаць завіток на яе белай шыі, што аж міжволі мая рука падалася да яе... Але мне ўжо не было калі — я скакаў ужо далей і далей. Я быў сярод злучанага Войска Польскага караля Ягайлы і вялікага князя літоўскага Вітаўта...

На правым флангзе нашага войска пад ветрам ужо матляліся крывавыя тканіны з выявай герба Пагоні — вершніка з мячом. Вось пад гэтымі харугвамі і выйшлі на бітву воі Вітаўта — з Берасцейшчыны і Піншчыны, Кіеўскай, Валынскай, Смаленскай, Гомельскай, Полацкіх зямель. Я ўжо яскрава бачыў, як хутка, бы палёт юркай стралы, шнырылі бунчукі невялікага атрада наёмнікаў татарскай конніцы. А там, дзе знаходзіўся левы фланг, разгарнуліся пад каралеўскім штандарам з белым арлом польскія палкі і наёмнікі з Чэхіі... Са мною побач скакаў Колька Петрушкевіч, нешта крычаў, гледзячы наперад...

То быў Грунвальд. То адбывалася вялікая бітва народаў. Дзякуючы перамозе, яшчэ не адно стагоддзе крыжакі баяліся сунуцца на землі Вялікага Княства...

Настаўнік замоўк, апусціў галаву.

Мне падалося, што і ён скакаў разам з намі, і таму стаміўся, бо цяжка дыхаў, заплюшчыўшы вочы.

— І што ж было далей, Рыгор Дзяменцьевіч? — папыталася Эма, завароажаная, як і я, аповедам настаўніка.

— Далей? — настаўнік не падымаў галавы, глядзеў ужо ў стол, як быццам звяраў праўдзівасць сваіх слоў у нябачнай кнізе. — Далей... Да нас дайшлі абрыўкі гісторыі таго часу. Адны сцвярджалі, што крыжакі разбілі войска Вітаўта і яно ратавалася бегствам да самай Літвы. Але як можна паверыць у тое, калі самі яны сцвярджаюць, што пасля перамогі пад Грунвальдам Вітаўт і Ягайла разам рушылі на сталіцу Ордэна — Марыенбург. Спрачаюцца і сёння, хто ўнёс большы ўклад у перамогу, — ваяры-віцязі ўкраінскіх ці беларускіх зямель. Яны аддалі ўсё, што маглі...

У школьных падручніках, у інстытуцкіх і універсітэцкіх працах навукоўцаў адзначана, што нашы продкі толькі стрымлівалі напор ворага на землі Прыбалтыі. Але ці можна пагадзіцца з такой думкай, га?.. Думайце самі, гісторыю нельга ні палепшыць, ні пагоршыць... Адно скажу, дарагія мае, што гісторыя толькі пацвярджае — перамога пры Грунвальдзе мае аднолькавае значэнне як для палякаў і літоўцаў, так для ўкраінцаў і беларусаў.

Хто з настаўнікаў прывучаў нас да роздуму? Рыгор Дзяменцьевіч жа абуджаў у нас не толькі цікавасць да розных жыццёвых з'яваў, але вучыў самааналізу. Ён абвяргаў тое, што пісалася ў падручніках. Не гаварыў нам прама, каб сумняваліся ў напісаным, але як быццам падахвочваў нас, дзяцей, каб мы сумняваліся ва ўсім, аналізавалі, узважвалі, пераконваліся самі ў праўдзівасці фактаў. Ён гаварыў з намі на мове праўды.

І мы міжволі задумваліся над многімі пытаннямі, хаця і не знаходзілі на іх тады пэўнага адказу.

Аднойчы пасля ўрокаў мы засталіся ўдвух з гісторыкам у класе. Ён ведаў, што мне не хапала яго ўрокаў, бо я часцей за ўсіх дапытваўся ў яго пра тое, чаго не разумеў, што пакінула сумненні. Мо і знарок застаўся — з-за мяне. Мяне ж сапраўды шашалем тачылі балючыя пытанні, якія не мог задаваць у прысутнасці ўсяго класа — не такі быў дурны, але ж і сітуацыя навакольнага трывожнага жыцця вымагала таго, каб мне, з маім дзіцячым розумам, разабрацца.

— Рыгор Дзяменцьевіч, — не вытрымліваю я, — а чаму мы вымушаны жыць між дзвюма праўдамі?

Ён пільна ўглядаецца ў мяне, круціць галавой.

— Чаму ж між дзвюма? — ён ужо дастае з кішэні шынялька капшук з самасадам, просіць, каб я прачыніў акно, чакае, калі сяду насупраць яго.

— Бо ў кніжках адна праўда, а ў жыцці ж другая... Я заблытаўся. І кніжкам цяжка не паверыць, бо іх пісалі разумныя людзі, і вам веру. Праўда, больш веру.

Гісторык зацягваецца самакруткай, прыжмурваецца, выпускае дым, адвярнуўшыся ад мяне да акна. Я бачу яго хударлявы твар, упалыя пашчэнкі, шырокі лоб і залысіну на галаве. Вочы разумныя і добрыя. Ад яго сыходзілі цеплыня і душэўная пяшчота.

Я люблю свайго настаўніка. Люблю за тое, што ў яго такая выдатная памяць і што ён ведае столькі незвычайнага і цікавага. Яго трохі за тое і недалюбліваюць завуч школы і дырэктар, але на людзях сваёй непрыязні ці зайздрасці не паказваюць, тояць у сабе. Але мы ўсё бачым, заўважаем. І знарок на іх уроках задаём такія пытанні, каб яны не адказалі, і тым самым ставім іх у тупік. Яны здагадваюцца, адкуль дзьме вецер, адкуль у нас такая незвычайная цікавасць, адказваюць нешта няўцямнае і няпэўнае, — тым самым падаючы ў нашых вачах ой як нізка...

— Ды як табе сказаць, хлопча, — мой маленькі сябра? Я і сам не хутка зразумеў тое. Жыццё прымусіла зразумець. Таму не буду адказваць на тваё пытанне. Бо, як бы правільна ці хораша ні адказаў я табе, ты мяне ўсё роўна не зразумееш — адказ падрыхтуе і дасць табе само жыццё. Рана ці позна, але дасць. Я стараюся толькі рыхтаваць вас да гэтага, каб кожны зразумеў: чалавек, як птушка, і яму патрэбна воля, прастор. Патрэбны духоўныя крылы — і тады парвуцца любыя ланцугі, якімі скавалі, спавілі, стрыножылі...

— Хто скаваў, Рыгор Дзяменцьевіч?

Настаўнік зноў хмурыцца — ці не крыўдуе ўжо, што задаю яму такія дурныя пытанні, сагнуўся ў крэсле, пра нешта думае. Разумею сёння, коль-

кі ён змог бы мне тады расказаць цікавага і тайнага, каб я быў трошкі сталейшы, лепш, каб дарослы, — тады б ён не асцерагаўся, што мой хлапечы язык можа вынесці гэта за сцены школы. Але я і так быў удзячны яму за тое, што ён смела ўзяў мяне за руку і павёў тымі сцяжынамі, кудою ніхто з настаўнікаў не мог павесці, — каб у мяне, жаўтаротага, пралупіліся збольшага вочы, каб знікла вера ў бязгрэшнасць прышчэпленай нам ідэалогіі...

Ён жа разумеў, што яму пагражала, калі б даведаліся тыя, каму належыць ведаць усё, у якія тайны жыцця ён пасвячаў нас. Хаця гісторык ніколі не лаяў ні Сталіна, ні ўладу, — ён абыходзіў гэтую тэму зусім. Ніхто, нават апантаны стукач ці сексот, не маглі сказаць ці сцвердзіць, што гісторык займаецца нечым недазволеным у сваёй працы настаўніка...

Асабліва любіў настаўнік расказваць нам паданні.

Мы слухалі б іх дзень і ноч, і ў нас не прапала б цікаўнасць — мы ж і падумаць не маглі, што ён расказвае нам старонкі з Бібліі. Літаратурная апрацоўка, на мой сённяшні погляд, была таленавітая, бездакорная... Мы нідзе такога не чыталі і не чулі, а Біблію дык і ў вочы не бачылі.

Ідэолагі баяліся, каб мы не паверылі ў Бога і не пачалі маліцца на Хрыста, замест таго каб спяваць хорам і па адным «Широка страна моя родная...»

— Хто скаваў, пытаеш? Каваль і скаваў... Вялікі Каваль людскога шчасця і яго верныя памочнікі. «Ковалі счастия ключи», а выкавалі сабе ланцугі і кандалы...

Цяпер я ўжо не перапытваў, хаця ж зноўку не разумеў, а толькі здагадваўся пра нешта вялізнае і пачварнае, адчуваў дзіцячым розумам, што не хапае толькі нейкай маленькай дробязі, каб я зразумеў усё-усё... Здагадкі мае былі простыя — чаму настаўнік не можа прыдбаць сабе хаця б простага і прыстойнага касцюмчыка; чаму мая маці ніяк не можа выбіцца з беднасці, хаця ад работы ніколі не разгінала спіну; чаму ў нас больш ворагаў, чым самога народа? Чаму?.. Тысячы «чаму» грызлі мяне і тачылі маю душу штодня, і ў мяне ад таго трашчала і расколвалася ад болю галава — ніяк не рашаліся задачкі, і ніяк не сыходзіўся ў адно цэлае чаканы адказ...

— Хацеў бы я, мой сябра, дапытлівы Валодзька, сустрэцца з табою гадоў так праз дзесяць-пятнаццаць... — настаўнік з нейкім жалем ці шкадаваннем глядзіць на мяне, пацірае пальцам кончык носа, — і дагаварыць пра ўсё. Не, я табе давяраю, ведаю, што ты хлопец разумны, не балабол. Не скора людзі павераць зноў у Бога, у сябе. Але прыйдзе той час, прыйдзе... Пры табе яшчэ прыйдзе...

Настаўнік нейкі час маўчыць, уздыхае. Патухла цыгарэціна, але ён не спяшаецца зноў прыкурваць яе.

— Столькі копаці на нашых душах, Валодзька, вельмі шмат. Мы спавіты дротам і ланцугамі і не можам сказаць пра тое, ні-ні... Цярпі і маўчы. Мы — рабы, мы — паднявольныя, ярма толькі не хапае, хаця і яно ёсць, ды не бачна яго...

Пад акном спыніліся дырэктар і завуч, пра нешта гавораць. Настаўнік адхіснуўся ад мяне, каб, не дай Бог, не заўважылі яго, не падумалі што. Я зразумеў і сам прыгнуўся. Даляталі нейкія словы, але зразумець іх нельга было. Нешта абмяркоўвалі, бо завуч згодна ківаў галавой, а дырэктар настойваў, пераконваў...

Я падыходжу да дошкі, крэйдай пішу дату падзей Грунвальда. Хай бачаць дырэктар і завуч, што гісторык праводзіць са мной дадатковыя заняткі.

Мы яшчэ нейкі час сядзім і маўчым, не ведаючы, колькі прайшло часу. Недзе зачакалася маці, — позна са школы я ніколі не прыходзіў.

— Загаварыліся мы з табой, браце, — спахопліваецца Рыгор Дзяменцьевіч, — маці будзе хвалявацца, што так доўга няма.

— Не будзе. Яна ў мяне добрая.

— Але ж сапраўды пара позняя. Пойдзем.

Але ў дзвярах затрымліваецца, амаль шэптам дадае:

— Мы яшчэ прадоўжым з табой размову. Яшчэ пагаворым. А пачуць ад мяне ты хочаш шмат чаго, ведаю. І ты пачуеш. Толькі не ўсё адразу.

Калі ж выйшлі ў калідор і падыходзілі да дзвярэй настаўніцкай, ужо строгім голасам прамовіў:

— Я думаю, што дадатковыя заняткі памаглі табе разабрацца ў апошняй тэме.

— Дзякую, Рыгор Дзяменцьевіч! Цяпер я ўсе даты запомніў.

Я трошкі асмялеў — ужо мог стаяць побач з Эмай і не чырванець. Тое я адзначыў і запісаў добрым радком у свой духоўны кандуіт як першую, хаця і невялічкую, перамогу над самім сабой.

— Эма, — пытаюся я, стараючыся надаць голасу спакойнасць і абыякавасць, — як ты Новы год сустракаць будзеш?

Яна здзіўлена і дапытліва паглядае на мяне, а пасля скрушна прызнаецца:

— Аніяк.

— Чаму — аніяк?

— Ёлкі няма. Не прывезлі. Дзядзька Іван летась прывозіў, а цяпер ён хворы — ляжыць у бальніцы.

Мяне нечакана апёк сорам — яна, Эма, мая добрая Эма! — на Новы год не мае ёлкі?! А я і не ведаў пра тое. Божа, быў бы я чараўніком, тут жа, перад ёю, вырасла б яна, зялёная прыгажуня. Самая лепшая ў свеце!

— А Дзеда Мароза не прасіла? — папытаўся я ўжо асмялелым голасам — мне чамусьці хацелася па-дурному жартаваць, каб неяк развесяліць прыгажуню Эму — яе кудзеркі, што развяваліся каля вачэй, абуджалі ўва мне жаданне здзейсніць гераічныя ўчынкі — толькі якія?

— То толькі ў казках дзяды-марозы, — горка ўсміхаецца дзяўчына, глядзіць на замарожанае акно, дзе мароз расквеціў дзівоснымі ўзорамі шкло — у двары гарыць чырвоны агонь, і ад таго казачныя лісты з зазубрынамі ўтвараюць фантастычны малюнак. — А ты хіба верыш у іх, Валодзька?

Ад яе пяшчотнага «Валодзька» я плавіўся, як воск пад сонцам.

— Веру. І веру ў тое, што і табе ён прынясе сёння, пад Новы год, ёлку. Прыгожую, казачную.

— Дзівак ты і фантазёр, — у яе вачах цеплыня, і падалося мне, надзея, бо такога позірку я дагэтуль не прыкмячаў.

І ў той жа момант у мяне выспеў дзёрзкі план.

— І яшчэ — чараўнік, — дадаў я.

Дадому я забег на хвілінку. Толькі каб узяць невялічкую сякерку — вострую, зручную.

Маці адразу накінулася на мяне:

— Дзе гэта цябе чэрці носяць? Галодны цалюсенькі дзень.

— З чаго ты ўзяла? Есці мне не хочацца...

— Ото папружку вазьму ды па голым азадку насцябаю. Не пагляджу, што бальшун ужо...

Я сёрбаю спехам цёплы крупнік — выстаяўся ў печы, зрабіўся аж чырвоны, смачны-смачны. А перад вачыма — Эма, яе ўмольныя вочы, яе непаверка ў цуд навагодняй ночы, шыкоўныя кудзеркі — цікава, яны сапраўды ў яе такія ці робіць іх такімі?

І Эма, і я — бязбацькавічы. Я нарадзіўся перад самай вайной, як і яна. Бацька мой быў артылерыстам, пры абароне Гомеля склаў галаву...

Яе бацька дайшоў да Берліна, распісаўся на Брандэнбургскіх варотах, а вяртаўся дадому ноччу — прыехаў ужо ў Казацін, — не вытрываў, рваўся так да жонкі і дачкі, — і трэба ж — у лесе перастрэлі бандыты... Нажом саданулі пад грудзі, не папытаўшы, хто і адкуль. А на грудзях у салдата тры ордэны Славы. Дазналася Вера Пятроўна, мама Эмы, у лес пабегла. Як ведала, дзе ляжыць, — прыбегла, на грудзі ўпала, і тут жа збялела ўся, галава як снегам пакрылася... А твар счарнеў на сопуху...

«Я тую елку, Эма, дастану хоць з-пад зямлі...»

Такую клятву я даў у думках прыгажуні Эме, дасёрбваючы ў місе крупнік.

Ноч панавешвала на неба навагоднія гірлянды пераспелых зорак. Там плавалі рыбы, блукалі мядзведзі, поўзалі ракі, вагаліся шалі... Купал шэрага неба — як вялізная елка — на палову зямнога абшару. Але мне не трэба такую елку, мне жадалася б хаця адненькую — малюсенькую, якая аздобіла б Эміну хату пахам жывіцы і светлага шчасця.

Я ведаў, куды ішоў.

На ўскрайку поля, пры дарозе, воддалеч ад лясніцтва, раслі тры елкі — вялізныя, разлапістыя. Чаму я пра іх успомніў у тую навагоднюю ноч, не ведаю. Вось туды і кіраваў, схаваўшы пад світку сякерку.

Крокі ў марознай цішыні разносіліся, здавалася, на кіламетры.

Пасёлак усцяж пуставаў — усе рыхтаваліся да сустрэчы Новага года. У кожнай хаце гарэла святло. Рэдкі прахожы прасунецца па вуліцы.

Мяне дагнала падвода з людзьмі — я саступіў дарогу. Вазніца, мусіць, быў на добрым падпітку, бо раз-пораз махаў пугай і мацюкаўся. Я глядзеў ім услед і з жахам падумаў, што іх галасы чуваць вельмі далёка: пра тое мне ні ў якім разе нельга забываць.

Над трыма елкамі ўзышоў месяц — круглая поўня. Яна акурат і завісла над шчыкам сярэдняй елкі.

«Месяц указвае, каб выбраў сярэднюю», — чамусьці падумалася ў той момант, і я прыспешыў крок — да елак заставалася яшчэ каля паўгадзіны хады.

Спорна бралася на мароз. Пад падэшвамі чаравікаў рыпеў снег, і, здавалася, што мае крокі чуваць у апошніх хатах пасёлка.

Пад елкамі я насцярожыўся, скінуў чаравікі, у адных шкарпэтках пачаў ускарасквацца да самай вяршаліны, дзе льга будзе адсячы для Эмы шчык елкі...

Сам здзівіўся, як хутка дабраўся да верхатуры.

Наверсе галіны — як перакладзіны лесвіцы. Мне адсячы б адну з іх, карацейшую, і, ведаю, Эма была б шчаслівейшым чалавекам ад такога дарунка, але мяне нейкая, няхай і нячыстая, сіла падштурхоўвала вышэй, да самага вільчыка. Не чуў, як пазлузваў калені, не адчуваў, што паабдзіраў у кроў рукі, — мною кіравала толькі адно жаданне, адна мэта, — параўняцца са шчыкам...

Яна, тая вяршыня, значыла для мяне вельмі шмат. Нават больш, чым сама Эма. Мне чуўся ўжо голас майго настаўніка: «Не губляйся, хлопча,

у жыцці. Калі ўжо намеціў што для сябе, то толькі наперад, толькі да канца. Каб потым не ўзненавідзеў сябе за здраду самому сабе...»

Каму-каму, а сабе здрадзіць я не мог. Не меў такога права.

З кожнай хвілінай падымацца цяжэй і цяжэй. Мяне ўжо ахапіў страх — ніколі з такой вышыні не бачыў свайго пасёлка. Вунь наша школа, трошкі воддалеч, правей, размяшчаўся клуб цукровага завода, а далей ужо — агні вёскі Махарынцы. Лявей жа ад школы — дом Эмы. У вокнах свяціліся агні. Што яна рабіла ў такі час? Маркоцілася без ёлкі? Ці сядзела з маці за святочным сталом — без ёлкі?

Гадзінніка ў мяне не было, але да дванаццаці, меркавалася мне, было яшчэ ладнавата. Сякерка замінала хутка скарыць вышыню, вытыркалася, чаплялася за голле, а метал, астудзіўшыся на марозе, непрыемна прыставаў да цела — аж апякаў. На нейкім адрэзку ледзьве не выслізнула сякерка з-за пояса і не шуснула ўніз, — нейкім цудам удалося утрымаць яе у руцэ...

Яшчэ вышэй, яшчэ... Ствол танчэў і танчэў. І калі ўжо было боязна лезці да канца, бо мог абламацца шчык, спыніўся. Пара. Вельмі ж доўга я дабіраўся да апошняй галіны. Заставалася самае апошняе — ссячы вільчык.

Калі ж я ўдарыў раз-другі па змерзлым ствале, па наваколлі панеслася гучнае рэха — як мячык, паскакала ў марозную цішыню. І тут жа азваліся ў бліжэйшых хатах сабакі. Голас іх здаваўся мне злосным і ўстрывожаным. Прыходзілася чакаць, калі яны змоўкнуць.

Зноў пачаў секчы — прыслухаўся: збоку лясніцтва пачуў выразныя, чыстыя ў марознай цішыні, словы: «Сякуць елку недзе, пайшлі праверым...»

«От жа дурань, не мог для такой справы нажоўку прыхапіць, — апякла мяне запозненая думка, — хто ж на такую тайную справу з сякераю ідзе — на кіламетры чуваць твае зладзейскія памкненні... Дурань і ёсць дурань, разумны так не зрабіў бы...»

Я зноў чакаў нейкі час, з паўгадзіны, а мо і больш, і калі ўсё аціхла, апантана запрацаваў сякеркай — ужо не прыслухоўваючыся да наваколля: падціскаў час, праз якое паўгадзіны Эме мой падарунак што ўчарашні дзень будзе. Гісторык казаў яшчэ — не адступаць.

Елка падалася. Упала, атрасаючы снег з ніжніх галінаў, на зямлю. Пачуліся зноў галасы збоку лясніцтва і тупат ног — беглі, пэўна, да елак. Я кінуў сякерку ў той бок, куды памкнулася ссечаная вершалінка.

Не памятаю, як я споўз на зямлю, як ускочыў у чаравікі і ўхапіў адсечаны шчык. А сякерка тырчэла тапарышчам уверх — знайшоў адразу. Бегма кінуўся ў кусты, туды, дзе была рачулка, якую скаваў лёд і па якой льга было ўцячы, не пакідаючы слядоў, — снег не паспеў прыцярушыць паверхню.

Страх і радасць адначасна жылі ўва мне, ногі порстка неслі ў марозную казачную і таямнічую шэрань. Гарачыня ўжо ўдарыла ў твар — стала горача, як у спёку. А сэрца калацілася ад радасці, што не адступіў, дамогся ўсё ж свайго. Адчуваў сябе адважным ваяром Вітаўта, а на подзвіг паслала мяне прыгажуня Эма. Нават не загадаўшы тое зрабіць...

Доўга блукаў па рачулцы, блытаючы сляды, як заяц, уцякаючы ад звера, хаця ведаў, што дарослых лёд не вытрымае, і ніхто ўжо следам за мной ісці не будзе. То, пэўна, гаварыў ува мне яшчэ не астылы страх, які я пераступіў ужо, але поўнасцю не пазбавіўся ад яго. Не думаў я тады, як бы аднеслася маці да маёй задумы, калі б мяне злавілі за гэтым непрыстойным (збоку ўлад) заняткам, — паперлі б, мусіць, з працы і пасарамаціў бы я яе

на ўсё жыццё. Як і самога сябе. Не думаў і пра тое, што ў шэрых кустах балявалі ваўкі, бо расказвалі, што не так даўно накінуліся яны на жанчыну з дзецьмі, — і ад іх нічагусенькі не засталося... То пасля ўжо, як ачомаўся, уявіўшы, як яно магло абярнуцца ўсё, мяне пачалі калаціць дрыжыкі. Калацілі яны мяне і пазней, калі стаў дарослым, — ад адных толькі ўспамінаў пра тую ноч. Але ніводнага разу не папракнуў сябе, што зрабіў тады неймавернае глупства. Ніколі.

Калі я ўвайшоў агародамі на галоўную вуліцу пасёлка, мне падалося, што па-ранейшаму гарэлі ў вокнах агні, па вуліцы снавалі людзі. Аднекуль даносіліся п'яная гамана і абрыўкі вясёлых песень...

У хаце Эмы толькі на кухні гарэла святло.

Я пастукаў ціхенька ў дзверы. Іх прачыніла Эміна мама — Ніна Пятроўна. Здзіўлена ўспляснула рукамі, пазнаўшы мяне, убачыўшы перад сабою елачку.

— Валодзька! Божачка ты мой! Скуль ты прыйшоў?

Я маўчаў. Толькі адчуў, як страшэнна стаміўся. Адчуў яшчэ, што гарэлі агнём рукі, жывот, ногі — як жару мне хто панакідаў за сарочку і штаны.

— Гэта для Эмы. Яна не верыла, што Дзед Мароз можа пад Новы год прынесці ёлку.

— Але ж яна ўжо спіць... Пайшлі ў хату, пабудзім.

«Як спіць?! — мяне апякла крыўда. — Значыць, яна з-за гэтай ёлкі не збіраецца сустракаць новы 1947 год?»

Пакой абдаў гарачынёй. Святло зырка ўдарыла ў вочы. Маці пайшла ў другі пакойчык, дзе спала дзяўчынка.

На сцяне ціктакаў гадзіннік. Я зірнуў на цыферблат. Божа ты мой! Было ўжо а трэцяй ночы, а не адзінаццаць з паловай, як мне хацелася...

Эма выйшла заспаная, не магла расплюшчыць вачэй. Але калі ўбачыла мяне і пачула пах елкі, ажывілася, радасна войкнула. Нахілілася, дакранулася да калючых іголак, панюхала іх.

— Елачка! Дзякуй табе, Валодзька! Ніколі мне ніхто не дарыў елак, ды яшчэ ў навагоднюю ноч...

«Тым больш у тры гадзіны ночы, калі пачаўся ўжо Новы год...» — пачуўся мне і папрок аднакласніцы.

— Дзякуй табе, мой добры і смелы Дзед Мароз!

Яна падышла да мяне, узяла за рукі і раптам уздрыгнула, ускрыкнуўшы:

— Ой, што гэта?!

Я паглядзеў на свае рукі.

— Мама, мамачка! У яго ўсе рукі ў крыві, паглядзі!

Жахнулася запознена і маці. Прымусіла распранууцца, скінуць адзенне. Аказваецца, я пашкодзіў не толькі рукі, а і грудзіну, жывот і ногі. Ніна Пятроўна скрушна хітала галавой, дзівячыся майму неразумнаму і незразумеламу ўчынку, ніяк не магла даўмецца, што мяне падштурхнула да гэтага...

А потым Эма паставіла елку ў вядро з вадой, прычапіла некалькі цацак. Запаліла свечку і прывязала яе на самы вільчык — для нас толькі пачынаўся Новы год! То быў пачатак нашага, майго і Эмінага, года...

Мы пілі пахкую гарачую гарбату з тортам і коржыкамі, а ў вачах Ніны Пятроўны я заўважыў задумлівую радасць — яна свяцілася нейкім пяшчотным шчасцем, унутраным святлом. І ў сонных вачах дачкі свяціліся радасныя агеньчыкі.

Сябе ж я адчуваў найшчаслівейшым чалавекам — усё ж я здолеў падараваць дзяўчынцы некалькі хвілін радасці.

Мяне чакалі харугвы Вітаўта, каб зноў адправіцца ў далёкае падарожжа, але я яшчэ не мог узяць у рукі шклянку з гарбатай, хаця мне акуратна перавязала раны Эміна мама, абмыўшы іх папярэдне і апрацаваўшы пякучым ёдам...

Дадому я прыйшоў пад раніцу.

Дзіўна, але маці не сварылася на мяне за позні прыход. Не сварылася і раніцай, калі ўбачыла мяне такога — з ранамі і сінякамі на целе.

— З кім д'ябал не жартуе, калі Бог спіць, — уздыхнула яна, усміхнулася нават, гледзячы на мяне, убачыўшы ўва мне ўжо некага іншага, непадобнага на ранейшага хлапчука, але які стаў яшчэ больш родны і блізкі.

Тады я не зразумеў, што яна сказала. Адчуў толькі, што маці змірылася з тым, што я мяняўся на яе вачах. Можа, я тады рабіўся падобны на свайго бацьку, хто ведае...

На яе вачах з хлапчука сын ператвараўся ў мужчыну, у дарослага чалавека.

І заслуга ў тым была прыгажуні Эмы...

Я шчыра верыў у тое.

І яшчэ ў тую ж раніцу маці скрушна, баючыся параніць маю дзіцячую яшчэ душу, паведаміла:

— Сынок... гісторыка ноччу забралі. «Чорны воран» прыязджаў...

«А я тады, пэўна, гарбату з Эмай піў», — падумаў пра сябе і адчуў, як крыўда за лёс настаўніка апякла мяне, і тады ж падумаў яшчэ, што вельмі цяжка мне будзе без яго.

А праз дзень, калі пачаліся заняткі, дырэктар сабраў школьны сход «па прычыне выкрыцця ворага народа». Даручылі і мне выступіць. Але я адразу «асіп», прашаптаў, што гаварыць не магу, што ў мяне ангіна...

Ніхто не выступіў і з класа...

Я ж адчуў сябе сляпым, бездапаможным, без компаса ў руках.

Мне цяпер да ўсяго трэба было даходзіць сваім розумам, сваёй інтуіцыяй, выбраць сваю адзіную дарогу, што вызначыў перада мною Рыгор Дзяменцьевіч.

## Марычка

У вагоне ўжо ўсе спалі. Спалі і мае неспакойныя юныя спадарожніцы.

На верхняй паліцы, паклаўшы рукі пад галаву, спала дзяўчо. Пры цьмяным святле начніка няцяжка было ўбачыць, як па-маладому напруціліся і гайдаліся дзявочыя грудзі. Дзяўчына адвярнулася да сценкі, і не зразумець было — яна спала ці, прымружыўшы вочы, задумалася.

Я пасунуў прасціну вышэй да падбароддзя. Яна нешта прамовіла няўцямнае, уздыхнула.

Дзяўчына ляжала на маім месцы, мне ж саступіла сваю, ніжнюю паліцу — уважыла мой узрост і вагу. Мала таго, дык мой ложак быў засланы і акуратна запраўлены.

Я выключыў святло, але сам зноў выйшаў у калідорчык. Стаў каля акна, прыхінуўшыся лбом да шкла, — глядзеў у цемру.

І чым больш углядаўся, тым яскравей набліжалася да мяне тое даўняе, да якога ехаў, куды мкнулася мая душа і па чым ныла, трымцела маё абуджанае сэрца...

Страшэнна хочацца есці. У мяне кружыцца галава і дрыжаць рукі, пякуча-горка смокча пад лыжачкай. Свідравала адна і тая ж думка — хаця б кавалачак ці акрайчык хлеба, узяць на зуб скрылік сала...

Мяне хістае з боку ў бок, быццам я хадзіў у шторм па палубе карабля, і не было магчымасці за што-небудзь учапіцца, каб не ўпасці. Колькі год ужо той карабель плыў у моры без майго шчырага сябра-настаўніка. Божа, як мне не ставала яго, якім жа я адзінотнікам быў ў жыццёвай буры майго змагання за выжыванне...

Імжэў дождж, і ён вымачыў мяне наскрозь, да рубчыка. На мне зашмальцаваная куртачка, дзіравыя чаравікі. Зуб на зуб не пападае. Не магу сагрэцца — у маім целе, мусіць, скончылася апошняя энергія.

Я брыду прыгарадам — самым трывожным і небяспечным раёнам нашага гарадка, куды я пераехаў са свайго пасёлка, каб набыць якую-небудзь спецыяльнасць. Тут здараліся забойствы і рабаванні, тут маглі перастрэць дзяўчыну і згвалтаваць яе, ведаючы, што ніхто не прыйдзе на дапамогу. Тут могуць зарэзаць у цемры ці арматурынай праламаць галаву... Такая чорная слава пра гэтую мясціну пераходзіла з вуснаў у вусны, разносілася далёка за яе межамі...

У гэтую ж ноч дарога здалася мне асабліва цяжкай, самай пакутнай. Ногі чапляліся за нябачныя каменюкі ці правальваліся ў калдобіны-ямы. Ведаў, што да сваёй Рабочай вуліцы я магу і не дайсці — падкашваліся ногі, не трывалі.

Калі ж я перайшоў чыгуначныя рэйкі, нехта з цемры аклікнуў — ці не мяне:

— Ці не скажаце, дзе ў вас дваццаць чацвёртая школа?

Голас быў дзявочы — няўпэўнены, нясмелы і — затоены.

Я азірнуўся. Пад ліхтаром, які адзіна і свяціў у гэтай цемрадзі, стаяла між двух чамаданаў дзяўчына. Была яна ў доўгім цёмным паліце і хустцы, у валёнках. Па такой макрэчы?

— Як вы апынуліся ў гэтым раёне? — голас у мяне быў напалову строгі, напалову здзіўлены.

— Я з поезда. Вось еду па адрасе — дваццаць чацвёртая школа. А што? — устрывожылася яна.

Я прыглездзеўся да незнаёмкі. Ніштаватае дзяўчо, тварык светлы, гожы. Мяккі, грудны голас. Нічога, значыць, не ведае, куды зайшла, якая небяспека можа яе тут чакаць.

— І сам не ведаю, дзе яна, тая школа. Тут у нас турма, злева — могілкі, а ззаду кар'ер, дзе гліну здабываюць... Ну і месца ж вы сярод ночы выбралі...

— Што ж мне рабіць? — у голасе страх, роспач і адчай.

Ад чамаданаў смачна пахла прысмакамі — вэнджанай каўбасой, сырам. Я пацягнуў носам і ледзьве не асунуўся на зямлю. Але ўзяў сябе ў рукі.

— Пайшлі! — загадаў я амаль строга.

— Куды? — спытала недаверліва і са страхам. Яна глядзела на мяне ўмольна і з патаемнай надзеяй, заклінала не рабіць з ёю бяды.

— Школу шукаць.

Божачка! Што ж яна паклала ў іх такое — цэглу, волава?

— Як жа вы іх данеслі сюды?

— Не ведаю... А што рабіць?..

Ад голаду ў мяне дрыжэлі рукі і ногі. Больш не пытаўся ў яе ні пра што, баючыся напалохаць яшчэ больш. І кінуць яе сярод гэтай цёмнай і небяспечнай ночы таксама не мог — не дазваляў гонар.

— Куды мы ідзём? — у голасе незнаёмкі асцярожлівасць і абачлівасць. Яна валачэ другі чамадан, які я несці ўжо не мог, — мусіць, і яна заўважыла мой стан і баялася даручаць яго мне, — а мо і за злодзея прыняла.

— На суседняй вуліцы жывуць мае знаёмыя...

Кожны крок мне даваўся з вялікай цяжкасцю. Сто разоў, здаецца, я перакладаў з рукі ў руку ручку чамадана, каб хоць як аблегчыць пакуты.

Яшчэ прыйшлося трохі правалачыся па вуліцы. Я пакінуў дзяўчыну ля веснікаў, а сам пайшоў да акна гаспадароў.

— А хрэн яе ведае, дзе тая школа, — пазяхнуў Пятрэнка, рабочы з суседняга цэха нашага завода. — А навошта яна табе?

— Ды тут людзі пытаюцца...

Размову нашу дзяўчына чула і ўсё зразумела, стаяла, не ведаючы, што рабіць далей.

— От навязалася на вашую галаву... — вінавацілася ўжо яна, і я адчуваю, што ў яе мінуў страх, і што яна цяпер перажывае толькі за такую недарэчную сітуацыю.

Нам зноў трэба было пераходзіць чыгунку. Рэйкі, рэйкі, зноў рэйкі... Колькі ж іх будзе?

— Стой, хто ідзе? — пачуўся раптоўна строгі вокліч з цемры.

Я ж і забыўся, што тут яшчэ і ваенны аб'ект, што тут круглыя суткі ходзіць варта.

Да нас падышлі афіцэр і двое салдат.

— Что вы здесь делаете, граждане?

Секунд колькі замінка, і я адказваю першы:

— Мы шукаем дваццаць чацвёртую школу.

— Зачем вам она?

Гэтага ўжо я не ведаў. Таму і маўчаў.

— Там мой брат служыць, — азвалася дзяўчына.

«Чаго ж, дурніца, не сказала адразу? — пакрыўдзіўся я на яе. — Чаго хавалася? Столькі часу ўхайдохалі — я даўно б сны ўжо бачыў, паеўшы ў рэшце рэшт...»

— Как его фамилия? — афіцэр перайшоў ужо на спакойны лад размовы.

— Ласіцкі.

— Знаем такого. И очень хорошо знаем. Но он сейчас на гауптвахте. А до нее уже недалеко — пять минут ходьбы.

Нічога сабе — пяць хвілін. Яны ж мне здаліся гадзінамі.

Ледзьве даклыпаў да варот. Там ужо, асмялеўшы канчаткова, распараджалася дзяўчына. Распытала ў вартавога, ці ёсць на губе яе брат. Пацікавілася, ці не маглі б яго адпусціць на нейкі час — прыехала ад бацькоў, здалёку.

— Ладно, обождите, — вартавы злітаваўся над дзяўчынай.

Адчуваў, што мая роля ў гэтым начным спектаклі скончылася, і я дакрануўся да локця незнаёмкі:

— Шаноўная, даруйце, але мне пара.

— Выбачайце. Вялікі дзякуй вам, што памаглі. Не ведаю, што было б, калі не сустрэла вас...

— Няма за што. Добра тое, што добра канчаеццца. Я рады, што для вас усё скончылася добра. Бывайце! Шчасліва вам!

Яна глядзела на мяне, мерылася нешта сказаць, значна большае, акрамя падзякі, але, напэўна, на той момант не знайшла патрэбных слоў. А я не

мог больш стаяць на адным месцы, адчуваў, што вось-вось упаду ля яе ног беспрытомны...

Ішоў дахаты і нічога не чуў вакол. Мне хацелася есці і спаць, спаць і есці... Каб не холад і вогласць, заваліўся б куды пад плот і праспаў бы да раніцы.

Праз нейкі час ззаду пачуўся тупат ног — як быццам па дарозе скакаў конь. Я азірнуўся і падумаў, што за мной гоніцца нехта з начных рабаўнікоў. Але страху не адчуваў, хаця і ведаў, што з мяне ён нічога не возьме, — толькі кніжкі пад папружкай насіў з сабою. І адбівацца я ўжо не здолеў бы...

— Эй ты, хлопец, падаждзі, — да мяне падбег, запыхаўшыся, салдат — у цемры я не бачыў яго твару, але сілуэт выдаваў у ім высокага, шыракаплечага юнака. — Ты сястру прывёў да мяне?

— Можа, і я.

— Ты ізвіні, што так вышла. Сястра разгубілася са страху, а цяпер сядзіць і плача, кажа, што не па-людску з табой абышлася. Не саабразіла адразу аддзячыць. Вось сала і каўбаса дамашняя. Ад душы, і дзякуй табе.

Ён знайшоў маю руку і моцна пацiснуў:

— Ад Марычкі вялікі-вялікі дзякуй. І — ад мяне.

Так я даведаўся, што начную незнаёмку звалі Марычка. Ма-рыч-ка... Прыгожае імя.

Салдат зноў пабег назад — да сястры, а я, як галодны звер, зубамі ў каўбасу — і еў, еў, без хлеба, бо адчуваў, што, калі нічога не пакладу на зуб, то ўпаду сярод дарогі...

Прысеў на першую лаўку ля варот. З цяжкасцю жаваў пахкі наедак, душыўся слінаю, а пра сябе чамусьці паўтараў:

— Марыч-ка... Ма-рыч-ка-ааа...

## Арцём Сямёнавіч — ХТЗ

... — Толькі ты нас можаш выратаваць, — сказалі хлопцы, параіўшыся між сабой, прыняўшы адзіна правільнае (на іх погляд) рашэнне. На чале іх рады быў майстар цэха Грыцко Гудрыенка, — вясёлы, з агністым позіркам хлопец. — Толькі ты, Валодзя, можаш пазбавіць нас ад сораму і зрабіць з нас людзей. Толькі ты...

— У якую бяду вас укінула жыццё? — усміхаюся, думаючы, што хлопцы ніяк не могуць дастаць гарэлкі.

— Твой бацька ваяваў у партызанскім атрадзе?

— Ваяваў.

— А з кім ваяваў?

— Як з кім? З немцамі, вядома...

— Ды не, мы не пра тое. Хто ў яго сябры былі? Арцём Сямёнавіч, так?

— Дык і што з таго? — пацiскаю я плячыма, не разумею, да чаго хіляць мае сябрукі. — А я тут пры чым, хлопцы?

А яны рагочуць з маёй нездагадлівасці. Кожны з іх думаў, што я ведаю пра іх праблемы. Ну, а я ні ў зуб нагой, як кажуць. У мяне і сваіх праблем з коптурам.

— Валодзя, тут, братка, такая справа, — майстар цэха пасур'ёзнеў, пацёр даланёй падбароддзе. — Арцём Сямёнавіч — выкладчык інстытута. А ад яго, ну як бы гэта табе далікатней сказаць-растлумачыць, залежыць наш дальнейшы лёс як студэнтаў-завочнікаў. Таму мы просім цябе, не

не просім, проста ўмольваем, становячыся перад табой на калені, каб ты паехаў да яго з нашымі залікоўкамі, якіх мала-многа — дванаццаць штук, і папрасіў яго, каб ён падсунуў іх тым выкладчыкам, якія павінны нам паставіць патрэбныя адзнакі...

Я доўга абдумваў іх просьбу. Але ў маёй галаве ніяк не ўкладвалася, чаго яны хочуць.

— Галава можа трэснуць ад вашых загадак-рэбусаў, — кручу я галавой, як адмахваюся ўсё адно ад надакучлівых мух. — Вы даяце залікоўкі. А мне трэба ехаць да Арцёма, прасіць, каб выкладчыкі паставілі адзнакі? А вы застаяцеся на заводзе? Гэта ж вучоба, хлопцы! Ву-чо-ба! Эк-за-ме-ны!

— Во-во, экзамены! А мы пра што?

— Вы на што мяне штурхаеце? То ж злачынства.

— Ведаем, ведаем. Так-то яно так, але і не зусім так.

Яны стаялі перада мною як дубы — ніводнага з месца не зрушыш, нават бульдозерам.

— А з работай як?

— Ты на бюлетэні, — сказаў без усмешкі Грыцко. — Мая жонка выпіша табе бальнічны на два тыдні.

— А як...

— Не хвалюйся, і з тым усё добра будзе, — перабіў мяне майстар цэха, — мы ўсе склаліся, і ў агульнай суме выходзіць... некалькі тысяч. Кармі іх, паі, вадзі па рэстаранах, купай іх у шампанскім... Але твая задача — прывезці залікоўкі з адзнакамі. Зразумеў?

Я моўчкі сеў на металічную скрынку — аслаблі ногі, акурат як тады, калі праводзіў Марычку, ды яшчэ ў дадатак кружылася цяпер галава. Хлопцы не чапалі мяне, як усё роўна давалі час, каб я апамятаўся ад пачутага, прыйшоў да раўнавагі.

Арцёма Сямёнавіча я ведаў добра. Квадратны — што ў плячах, тое і ў рост. Вясёлы, таварыскі. Такім заўсёды памятаў яго. З бацькам хаўрусаваў да вайны. Разам падаліся ў партызанскі атрад. Потым разам ваявалі.

Пасля вайны ён часта заходзіў да нас, памагаў чым мог. Выкладаў у інстытуце.

— Хлопцы, вы ж мяне штурхаеце на рызыкоўны і злачынны шлях. Так і за краты нядоўга. А раптам якая прамашка ці недарэчнасць — напаю я іх, накармлю, а нешта возьме ды дасць асечку?.. Кім жа я буду перад вамі выглядаць?

Хлопцы пераглянуліся, улічылі і такі варыянт, таму адказалі проста і як даўно вырашанае:

— На тыя экзамены трэба патраціць процьму часу, а для завода дванаццаць чалавек — гэта ж амаль цэлы цэх. Колькі мы прадукцыі не зробім, га?

Я ж усё роўна працягваў вагацца і сумнявацца. Задума цікавая, хаця ж і дужа рызыкоўная. Антымаральная ў рэшце рэшт. Хацелася, само сабой, пабачыцца з Арцёмам, бо ён заўсёды быў рады сустрэчы са мною. Ці будзе толькі рады гэтай, нечаканай — і ў прыдачу яшчэ з калектыўным прашэннем?

— На Галгофу вы мяне адпраўляеце... Але — ладна, няхай будзе так, як вы хочаце. Думаю, што сухары вы мне насіць будзеце за краты, ці не так?

— Ні ў якім разе, — згадзіліся адразу сябры, замахалі радасна і адчайна рукамі, што не адпрэчыў, што згадзіўся ўзяцца за такую валаводзіну. — Мы будзем толькі спадзявацца, што ўсё атрымаецца.

— Калі ад'язджаць хоць?

— Заўтра. Вось і білет. У мяккім вагоне. Як сакратар абкама партыі будзеш ехаць. Як пан. Як кароль. Мы прыйдзем цябе праводзіць. Тады — да заўтра.

Я глыбака ўздыхнуў.

Грошы хлопцы прынеслі да вагона.

Адрас Арцёма Сямёнавіча я ведаў, але ніводнага разočку ў яго не быў. Як не быў і ў тым вялікім горадзе, але ў які даўно жадалася з'ездзіць. А тут і нагода такая. Ехаў жа я не экскурсантам, не турыстам, не простым валацугам, а з тайным і сакрэтным заданнем ад працоўнага савецкага калектыву.

Мы прыязджалі ў горад. Чамаданчык з грашыма ўвесь час быў пад галавой — замест падушкі, нават і зручней так было.

Час быў ранні, халодны. Не пойдзеш жа адразу на кватэру, яшчэ спяць людзі. Але і празяваць не хацелася — раптам пойдзе Арцём у інстытут рана. Тады, лічы, дзень пройдзе дарэмна. На працу да яго паказвацца не з рукі — можна сапсаваць усё.

Адшукаў дом, пад'езд, падняўся на пяты паверх, паглядзеў на патрэбныя дзверы. Але не асмельваўся націснуць кнопачку званка — была толькі сёмая гадзіна раніцы.

На пляцоўцы вялікае акно, і я прымасціўся на падаконніку, каб перачакаць якую гадзіну.

Праз нейкі час мяне пачало хіліць у сон, і я не пачуў, як грукнулі побач дзверы Арцёмавай кватэры. Парог пераступіў ён, Арцём. Яго можна было пазнаць здалёк — толькі мне падалося, што ён яшчэ больш пашырэў у плячах. На ім былі светлы плашч, шэры капялюш, у руцэ скураная папка.

Дзіўна, але ён аклікнуў мяне першы:

— Валодзя? Што ты тут робіш?

— Да вас.

Ён абняў мяне, сціснуў у абдымках — аж хруснулі косці, рады быў, што бачыць.

— Здарава! На працу тады я не пайду...

Мы прайшлі вузкім і доўгім калідорам. Ён прыклаў палец да губ, кіўнуў на дзверы, паказваючы, што там спала жонка.

— Мы пагамонім пакуль, — пасадзіў мяне за столік у кухні, сеў насупраць, усё яшчэ радасна паглядаў на мяне.

Арцём амаль не перамяніўся. Хіба трошкі сівізны дадалося.

— Як мама?

— Нічога. Але хварэе часта.

— Праведваеш яе?

— Зрэдку. Часта не выпадае — працы шмат ды і вучоба.

Арцём добразычліва ўсміхаецца, гаворыць:

— А ты — выліты бацька. І той гэтак жа губу закусваў, смяяўся. Добры чалавек быў твой бацька. За байцоў мог жыццё аддаць. Як і мы за яго.

Я ўспомніў, што ў маім чамаданчыку ляжала дзве пляшкі каньяку. Хлопцы дзеля першай сустрэчы запаслі. Калі паставіў на стол, Арцём Сямёнавіч пажвавеў, дастаў з халадзільніка парэзаную каўбасу.

— То ж галава пасля ўчарашняга гудзіць-разломваецца, а ты — лекар — тут як тут... Тады, за сустрэчу!

Арцём выліў паўшклянкі каньяку ў сябе адным махам, не скрывіўся нават, узяў скрылік каўбасы, прыкусіў. Твар увачавідкі палагаднеў, засвяціўся, зрабіўся спакойным.

— Ну і ўлагодзіў ты мяне, братка. Бог паслаў цябе да мяне.

Рукі ў Арцёма не выкладчыцкія, не інтэлігентныя, а шахцёрскія — пальцы кароткія, тоўстыя і ўчэпістыя. Ён зноў напоўніў шклянкі. Размова наша працягвалася, набывала роўны і стройны сэнс.

«Калі ж падступіцца да галоўнага»? — непакоіла думка, але я не спяшаўся, чакаў зручнага моманту

— Цягнікам ехаў?

— Ага. У пяць прыехаў.

— І столькі прасядзеў на падаконніку?

— Не хацелася будзіць.

— Дарэмна. Іншым разам не саромся, у любы час...

— Добра. Дзякую.

Я паналіваў у шклянкі. Няшмат. Арцём не пярэчыў, і мне боязна, што ён сп’янее і я не змагу сказаць пра залікоўкі. Але ён піў і рабіўся больш разважлівым і сур’ёзным. Мне ж нічога не заставалася, як чакаць развязкі. Цярпенне, і яшчэ раз цярпенне...

Паднялася жонка Арцёма — Аксана Гаўрылаўна. Пастукалася, ідучы да нас, заўсміхалася:

— Хто ж гэта ў нас у гасцях?

Я падняўся, глядзеў на гаспадыню, радаваўся, што яна прыязна аднеслася да нашага застолля.

— Ты, Валодзька? Як мама? Як табе жывецца? А ты зноў жлукціш? Галоўку лечыш? І гадоў не сароміцца.

Аксана казала та́к, як думаюць і гавораць амаль усе жынчыны. Тым больш, яна прызнавала мяне сваім, перад кім няма ніякіх сакрэтаў.

— Я выходжу, Аксана, а ён сядзіць на падаконніку... Вось вярнуўся і сядзім, гамонім...

— Бачу, што сядзіцё. І няблага, таксама бачу, сядзіцё. Валодзька, ты ж галодны... Мо што згатаваць?

Я адмовіўся, пастараўся пераканаць, што на стале добрая закуска. Гаварыў праўду.

Аксана Гаўрылаўна для сваіх гадоў выглядала маладжавай, ніводнай маршчынкі на твары. Загарэлая, рухавая, круглатварая — яна мне заўсёды падабалася, і я прыхільна ставіўся да яе.

У іх двое сыноў. І яны, мусіць, пажаніліся і раз’ехаліся. Арцём загадваў кафедрай, быў яшчэ і сакратром партыйнай арганізацыі інстытута.

Гаспадыня зрабіла сняданак, перакусіла на хуткую руку, запіла кавай, прамовіла:

— Вы тут без мяне ўпраўляйцеся. А я пабегла, з завочнікамі ў мяне процьма працы.

Аксана Гаўрылаўна выкладала эканоміку.

Мы засталіся адны...

А вечарам... Вечарам мы апынуліся ў рэстаране.

Арцём на добрым падпітку кідаў прагныя позіркі на дзяўчат і жанчын — доўга праводзіў іх пажадным поглядам. Я ўжо разумеў, што першы дзень прайшоў марна.

— Уладзімер, а хочаш сёння мы з табой у прыгожых дзяўчат заначуем, га?

— А што скажам Аксане Гаўрылаўне?

— Ёсць тысячы прычын, чаму мы сёння не можам начаваць дома.

Я марыў толькі выспацца, у вагоне ж не спаў, сцярог грошы.

— Табе, малодшаму, няёмка гаварыць... Але ладна, скажу. У партызанскім атрадзе за мяне жанчыны біліся. У поўным сэнсе гэтага слова. Прыходзілі да мяне са слязьмі: «Арцёмка, пабудзь мужам гадзінку, бо згараю ў агні, што і смерць нястрашная мне...» Чаргу ўстанавілі... За вечар па дзве, а то і па тры прыходзілі. Спачатку мне тое падабалася, пасля ўжо ўсе на адзін твар былі: яны згаралі на першай хвіліне, а я ніяк не мог дайсці да канца...

— А як з цяжарнасцю?

— Што? А-а... Так, некалькі зацяжаралі. Праўда. не ўсе. Адна з іх запала на ўсё жыццё — Надзеяй звалі. Бог уклаў у яе ўсё, што павінна мець жанчына: прыгажосць, магнетызм, сілу, унутраны агонь, пяшчоту... І Бог, мусіць, пакараў мяне за ўсё. Даўшы адчуць незямное шчасце, пазней адабраў... Я не магу адчуць яго так, як тады, з ёю...

Я маўчаў, не перабіваў. Адчуваў, што не гарэлка вінавата ў тым, што захацелася чалавеку выгаварыцца. Можа, мне, малодшаму, ён і мог расказаць такое. Чамусьці ўпэўнены, што пра такое ён не расказваў нікому. Пра другое мог, а пра гэта — не...

— А потым выклікае мяне да сябе камандзір Пятрэнка... «Твая, жарабец, работа? Адсячэш на калодцы сваю машыну...» І, раззлаваўшыся, крутануў вачыма, шавяльнуў вусамі, закрычаў яшчэ грамчэй: «Ды ты ведаеш хоць, што бывае за такое па ваенным часе?!» Я маўчаў, бо ведаў, што можа быць, калі двое-трое скажуць, што гэтая я зрабіў іх маці... «Ведаю, — кажу, — таварыш камандзір, — карайце, вінаваты...» Выгнаў, канечне ж, мяне камандзір з зямлянкі. А потым тыя ж жанчыны мяне на абардаж і ўзялі. Я хадзіў па лагеры, як шкілет.

— Цяжка вам прыйшлося, — шчыра шкадую я Арцёма і нават не ўсміхаюся. — Дык недзе ж бегаюць вашы сыны і дочкі, іх і не злічыць...

— Тое ўсё страшна і горка, дарагі Валодзька, — уздыхае Арцём, нахмурыўшыся. — Я не хачу ганіць жанчын, то не распуста ў іх гаварыла, куды там, есці не было чаго, галодныя хадзілі... Вайна... Э-э, што гэта я кінуўся ў філасофію кахання, даруй мне, старому дурню, не павінен я быў табе расказваць пра такое, не павінен... Давай яшчэ па адной, калі што ёсць яшчэ ў нас.

Ён выпівае разам са мной. Яго шыя налівaецца чырваннею, як падымае што важкае, прыкусвае рэштай біфштэкса, а потым нечакана пытаецца, гледзячы ўжо працверазелым позіркам мне ў вочы:

— Слухай, мы цэлы дзень з табою бавім час, я радуюся сустрэчы з табой, расказваю табе глупствы і не папытаюся: з-за чаго ты прыехаў да мяне?

Абрадаваўшыся, што выбіліся нечакана на тую патрэбную сцежку, усміхаюся, згодна ківаю галавой:

— Так, Арцём Сямёнавіч, прыехаў па пільнай патрэбе. Дванаццаць чалавек аддалі мне свае залікоўкі, папрасілі, каб паставілі выкладчыкі ў іх адзнакі.

— Чаго ж не з'явіліся самі?

— Калі ж яны пакінуць работу, то на заводзе будзе завал.

— Зразумеў, Уладзімер, зразумеў. Вось яно як атрымліваецца... Гм... Хм...

Арцём уздыхнуў, сашчапіў на стале пальцы ў адзін пудовы кулак, задумаўся. Не кінуўся абяцаць залатыя горы, як тое здараецца за чаркай, а шчыра прызнаўся:

— Задачку ты мне падсунуў. І колькі сабралі хлопцы — на што можна разлічваць?

Я назваў суму.

— Нямала. Думаю, што на харошы банкет хопіць.

— Дык, значыць, ёсць нейкая, хоць і маленькая, надзея?

— Надзея павінна быць заўсёды.

Я радаваўся, што ўсё так складна павярнулася, што Арцём сам вывеў на патрэбную сцежку. А ён жа яшчэ і партыйны сакратар пры гэтым... Білетам рызыкуе. Але я ведаў яшчэ і іншае — так займаліся завочна шмат якія студэнты: пакладзе завочнік у залікоўку дваццацьпятку — і спакойны за адзнаку... Потым, скончыўшы навуку, яны рухалі сваімі ведамі наш сацыялістычны прагрэс, будавалі наша светлае заўтра...

Банкет мы арганізавалі не ў рэстаране.

Арцём Сямёнавіч зняў у знаёмай жанчыны хату на ціхай вулачцы. Мне ж параіў набраць прысмакаў, мяса на рынку, гарэлкі і віна, каньяку і шампанскага...

Гаспадыня, маўклівая жанчына, з вялікай бародаўкай пад носам, унураная ў сябе, прыняла ўсё тое, што я прынёс, абыякава і спакойна. Але потым нарыхтавала такіх смачных страў, што ўсе здзіўляліся з яе кулінарнага таленту. Мы ўсё тое расставілі на доўгім стале. Арцём сказаў, што павінна прыйсці чалавек дзесяць-дванаццаць — выкладчыкаў і іх сяброў-сябровак.

Прыйшлі амаль аднachасова. Прыстойныя, культурныя і паважныя. Арцём паспяваў пагаварыць з кожным, перакінуцца словам, пахваліць прыгажосць адной і другой жанчыны, адказаць на жарт, кінуць рэпліку. Ён сапраўды рухаўся, як ХТЗ па кукурузным полі, і ўсе адхіляліся ад яго, як быццам баяліся, каб не збіў ненарокам, не прычавіў гусеніцамі...

Калі ўсё было гатова, Арцём скамандаваў усім сядаць за стол. Папрасіў, калі хто ўмее наліваць, каб напоўнілі шкалікі. Умелі, безумоўна, усе.

Спачатку маўкліва, нават засяроджана, з нейкай напружанасцю пачалося застолле. Ніхто не хацеў праявіць сябе з горшага боку, паказацца нявыхаваным ці прастакаватым. Жанчыны і дзяўчаты стрымлівалі сябе, паводзілі ціхмяна і толькі ўсміхаліся, калі ім падлівалі.

Весялосць разгаралася, дасягала свайго апагею. Я стараўся не паказваць сваёй заклапочанасці і трывогі, падпяваў, як мог, весяліўся. Нават гаварыў кампліменты сваёй суседцы, якая прыйшла невядома з кім, і хінулася да мяне, нечага чакала, зазіраючы шматзначна ў вочы.

Калі ж ХТЗ на час выпусціў са сваіх рук кіраванне банкетам, найперш падсеў да мяне, спытаў:

— Ну, як? Падабаецца кампанія?

— Вечар ідзе да канца, і залікоўкі ў чамаданчыку...

Ён ляпнуў мяне па плячы, зарагатаў:

— Не дрэйфі, Валодзька! Усё будзе добра.

Потым стараватая выкладчыца лезла цалавацца да хударлявага выкладчыка, клялася яму ў каханні, плакала, што ён не звяртае на яе аніякай увагі. Павісла нейкае дзяўчо і на шыі Арцёма, але ён адразу ж пераправіў яе свайму суседу па стале.

Пачыналася тое, што і павінна было адбыцца, калі людзі падагрэліся і страцілі пачуццё рэальнасці.

— А хочаш, я распрануся, і няхай усе паглядзяць, якое ў мяне прыгожае цела, якое ты не хочаш кахаць, — плакала немаладая выкладчыца, расшпільваючы кофтачку.

— Зіначка, мы бачылі цябе на пляжы! Пятровіч дурань, што не заўважае ўсяго гэтага, — прытуліў да сябе жанчыну Арцём. — Ён яшчэ пашкадуе пра тое...

— Во, чуеш, пень ты сухі, што Арцёмка кажа, — радавалася Зінаіда, што ў яе ёсць падтрымка.

Упала на падлогу міска, разбілася. Нехта зачапіўся за бутэльку, і яна грымотна пакацілася па падлозе.

Па ўсім было бачна, што прыспеў ужо час развітвацца. Я не разумеў, чаму Арцём зацягвае вечар? Перакананы быў, што з залікоўкамі ўжо нічога не выйдзе, і ўжо боязна аддаваць іх — што яны накрэмзаюць у такім стане?

Разыходзіліся мы далёка за поўнач.

Каля хаты дзяжурылі дзве легкавушкі, якіх я папярэдне наняў. Арцём усіх пасадзіў у машыны, і мы засталіся адны.

Сядзелі, маўчалі. ХТЗ няўцямна глядзеў сабе пад ногі, пра нешта думаў. Але, надзіва, быў зусім цвярозы — як і не піў нічога.

— Пайшлі дадому, — падняўся я.

— Ёсць у мяне адзін адрасок.

— Да жанчын? — мяне разбірала ўжо зло.

— Не, тут іншае...

Мы крочылі цёмнай вулачкай, а потым зайшлі ў ціхі дворык. ХТЗ загрукаў у дзверы сенцаў — раз, другі... Выйшаў заспаны гаспадар — у кальсонах, босы.

— Ты, Сямёнавіч?

— Я. Выбачай, Лёня, я тут з сябрам — на хвілінку. Ёсць што?

— Знойдзем.

На стол, каля якога мы прыселі, гаспадар паставіў праз колькі хвілін пляшку самагонкі і місу агуркоў.

«У нас жа застаўся там каньяк, віно і выдатная закусь, а ён тут самагонцы рады... Абсурд...»

Але хіба зразумееш ХТЗ, як і не ведаеш, якога коніка ён можа выкінуць праз хвіліну?

Я, як мог, утаймоўваў у сабе незадаволенасць і здзіўленне. Мне нічога не заставалася рабіць, як маўчаць, згаджацца ва ўсім з Арцёмам Сямёнавічам.

Ён наліў сабе поўную шклянку, але выпіў палову. Ікнуў, прыкусіў гурком. Маўчаў. Як быццам і не было мяне побач.

— Пакладзі на стол дзесятку, і пайшлі, — нечакана зноў перамяніў наш курс Арцём.

Мы выйшлі на бальшак, і, на нашае шчасце, з-за павароткі вырулiла таксі.

Спаць мы леглі толькі пад раніцу — пілі яшчэ і дома. Паспелі прысніцца мне хлопцы. Яны пасміхаліся з мяне, паказвалі ў мой бок пальцамі. А мне стала сорамна, не ведаў, куды і схавацца ад іх...

Жыў я ў Арцёма і два, і тры, і пяць дзён і начэй...

Мы іх правялі ў суцэльных папойках. Я ўжо аддаўся волі лёсу, не перажываў, не крыўдаваў ні на Арцёма, ні на хлопцаў.

Адной раніцай я пералічыў грошы. Падалося, што іх засталося мала. Другі раз пералічыў — тое ж самае. Яны, выходзіць, раставалі, як сакавіцкі снег пад сонцам.

Наступнай раніцай, пасля цяжкай і доўгай папойкі, таўхануў мяне Арцём пад бок:

— Давай твае залікоўкі. Сам жа пад'язджай да інстытута ў дванаццаць.

Мне цяжка адарваць галаву ад падушкі — балела, і нехта злы шпыраў пастаянна ржавым цвіком у патыліцу, — таўхане і перастане, таўхане і перастане... Каб хаця піў шмат, дык не, баяўся — і заваліць справу, і падарваць здароўе. А перажыванні далі пра сябе знаць, трывога пастаянна жыла ўва мне, тачыла душу.

Мяне схіліла на сон і я ледзьве не праспаў той час, пра які мне казаў ХТЗ.

Каля інстытута з'явіўся я амаль а палове першай.

Арцёма не было. Не паказаўся ён і праз гадзіну. Не было і праз тры, і чатыры...

«Накрылася наша афёра лісіным хвастом», — падумалася мне ўжо абыякава.

Я прыхінуўся спіной да дрэва, што тулілася да лаўкі, страціўшы канчаткова ўсялякую надзею на шчаслівае выбаўленне з дзікай сітуацыі. Сэрца маё адчувала пройгрыш. Мяне ахапіла дрымота.

— Усё, Валодзя, усё ўладжана!

Арцём трасе мяне за плечы, будзіць і не можа разбудзіць, крычыць на вуха:

— Прачніся, Валодзька! Чуеш? Вось усе твае залікоўкі.

Кручу галавой, атрасаю з сябе рэшткі сну, да мяне цяжка даходзіць сэнс таго, што чую, не веру, і ўсё тут...

— Во, усе да адной — дванаццаць. Я ж казаў, што ўсё будзе добра. Абмыем гэта?

— Не ўдалося, Арцём Сямёнавіч?

— Што не ўдалося, прачніся! Усё ўдалося!

На маім твары, мусіць, не было радасці.

— Мне б білет узяць. На самалёт.

Але на самалёт білетаў не было. Толькі на аўтобус.

Ура-ааа! Ура! Нарэшце я скінуў са сваіх плячэй шматонны груз! Не падвёў Арцём-ХТЗ, не падвёў! Малаток! Хай хлопцы цяпер радуюцца ліпавым адзнакам. Цікава толькі — ці будзе іх грызці за гэта сумленне?

— Не шкодзіла б і абмыць залікоўкі, — як глядзіш на гэта, Валодзя?

Арцём умольна паглядае на мяне, чакае, што адкажу. Дастаю кашалёк, пералічваю грошы, паказваючы, што нашае гулянне скончылася.

— Во што і засталося, — паказваю я.

— Дык і выдатна! — радуецца ХТЗ, згаджаецца на самае мінімальнае, — то ж на пляшку каньяку з закускаю. Ён, мусіць, не разумее мяне ці не чуе, — то ж апошняя дзесятачка, апошняя!

Адчуў я незвычайную лёгкасць толькі тады, як аўтобус выбраўся з горада і ўзяў хуткасць на шашы.

Адразу ж кінула ў сон, і я, ад гайданкі і цеплыні, ды яшчэ ад ранняга часу — не было яшчэ і сямі, хітаючы важкай галавой, праваліўся некуды ва ўтульнае бяздонне.

Заўважаў скрозь сон, што мяне кожным разам нехта адпіхвае ад сябе, гаворачы нешта крыўднае і абразлівае ў мой адрас. Калі ж зноў адчуў, што нечыя рука — настойліва і моцна — штурханула мяне пад бок, прачнуўся.

Побач сядзела дзяўчо са строгім тварам, грэбліва адвярнуўшыся ад мяне. І не глядзела ў мой бок. Я папрасіў прабачэння за сваю бязважкасць, нешта сказаў пра стому, што спаў мала.

— Вы б меней пілі, а то, як ад бражніка, ад вас нясе.

— Яшчэ раз даруйце — вінаваты...

Строгі і непрыступны твар. Востры носік, сцятыя паўнаватыя вусны. У голасе незадаволенасць, нават раздражнёнасць; каштанавыя косы з вялікімі кудзеркамі-завіткамі пераліваліся вясёлкай у промнях ранішняга сонца. Яна мружыла вейкі, хаваючыся ад іх.

«Сапсаваная дарога, — падумалася з горыччу, — і падсунуў мне Бог такое стварэнне... І спаць не дае, і словам не перакінешся... Кара Боская».

На прыпынках вадзіцель дазваляў пагуляць хвілін з дзесяць. Я саромеўся сваёй суседкі, адчуваў сябе перад ёю ніякавата. На нейкай станцыі купіў булачку і гарачай кавы — на большае ў мяне не было грошай.

Галава пасля кавы праяснілася, я ўпершыню парадаваўся, што скончыліся мае пакуты, што не насварылася, развітваючыся са мною, Арцёмава жонка, што ў чамаданчыку ляжала стопка сініх заліковак, што... Сабе ж — у які раз! — даў зарок і клятву: больш ніколі ў жыцці не згаджацца ні на якія афёры.

Я схіліў галаву, прымружыў вочы. Спаць ужо не хацелася, кінуўся ва ўспаміны. Чамусьці прымроілася Эма. Ведаў, што яна пасля заканчэння школы паехала ў Ленінград, паступіла вучыцца. Эма, Эма, ці ўспамінаеш ты калі мяне і тую ёлку, што я прынёс табе? Пэўна ж, не, бо не адказала на мае лісты, калі я даслаў ёй праз яе сяброўак...

І галодная ноч успомнілася, незнаёмка Марычка. Найбольш яе важкі, чамадан... Так і не зайшоў ніводнага разу да мяне яе брат, як абяцаў...

Я жыў у сваім часе, у сваім вымярэнні і ўжо рады быў, што побач са мною сядзіць сама маўклівасць, што ніхто мне не замінае думаць і ўспамінаць, хадзіць маімі сцежкамі і дарогамі, маімі пуцявінамі — ніхто мне не трэба, мне б пабыць аднаму і не згубіць той настрой, які апанаваў мяне.

Зноў прыпынак. Пятнаццаць хвілін мусіў стаяць аўтобус — час адстою. Я прагуляўся па скверы, пасядзеў на лаўцы, пахадзіў трошкі па вуліцы.

— Едзем колькі, а незнаёмыя. Дзіўна, праўда? — нечакана сказала спадарожніца.

Я пачаў сумнявацца ўжо, што гэта яна побач, пяць хвілін назад недатыкальніца і сама строгасць. Тая, ранейшая, дэманстравала пагарду і знявагу, голас звінеў металічна, а тут... А тут зусім іншы голас — мяккі і добразычлівы, погляд цёплы і даверлівы, — як і не яна побач, а зусім іншы чалавек...

Завязалася размова — ні аб чым і ні пра што. Куды, адкуль. Найбольш гаварыла суседка. Часцей і часцей заглядвала ў вочы, як чаго чакала пэўнага ад мяне — а што, я і сам не ведаў, нават і не здагадваўся.

— Дзіўна.

— Мяне Зінаідай завуць. А вас?

— Уладзімірам.

— У мяне брат — Валодзя.

На крутым павароце, калі аўтобус нахіліўся, Зіна ўскліknула ад спалоху і ўчапілася ў маю руку. Аўтобус выраўняўся, але яна не выпускала, сціскала маю руку мацней і мацней.

— Валодзя... — яна нахілілася да майго вуха і горача зашаптала: — Ты толькі не здзіўляйся і не палохайся таго, што я табе скажу... Праз паўгадзіны мой гарадок. Я еду да мамы. Давай сыдзем удваіх. Я хачу пабыць з табой. Мама ў мяне разумная, яна і словам не папракне мяне, ні поглядам. Яна схавае нас ад людскіх вачэй. Я пастараюся падараваць табе хвіліны шчасця, вось пабачыш. Я сама з сябе здзіўляюся, ніколі не рабіла гэтага, а цяпер не ведаю, што здарылася са мной сёння.

Я маўчаў. Не адхіляў руку, здзіўляўся пачутаму і не мог паверыць. То адпіхнула як апошняга прапойцу, а то пускае адразу ў сваё сэрца, не пытаючыся ні пра што...

Першае, што мне прыйшло на памяць, дванаццаць залiковак. Імі рызыкаваць я, безумоўна, не мог.

— Не ведаю, Зіна... Час падціскае — заўтра трэба быць зранння на працы. І так затрымка на паўмесяца выйшла.

— Прыдумаем што-небудзь. Ты ж можаш «захварэць». Захварэць каханнем.

— На такую хваробу бюлетэняў не даюць.

— Зробім табе бальнічны. Аднакласніца мая ў палікліпіцы працуе...

Маўчу, думаю, што яшчэ прыдумаць важкае і пэўнае.

— Я хацеў бы застацца. Нават вельмі. І не шкадаваў бы — веру ў тое. Але — работа.

— Хочаш, сёння ж пазвонім на завод. Ад нас размову закажам. Прашу, Валодзечка, вельмі прашу — не адпрэчвай мяне. Я ніколі ні да кога не прыставала, мяне і сорам паліць, сёння я як з глузду з'ехала, месца сабе не знаходжу. Застанься...

Па яе руцэ праходзілі хвалі біятокаў, яны, як па дроце электраэнергія, уваходзілі ў мяне, прымушалі закіпаць кроў.

Але я зноў пачаў раздумваць. Як падамся да яе — без кветак, без падарунка? Як выглядаць буду? Тым забулдыгам, якім падаўся напачатку? Няёмка... Няўжо меў рацыю ХТЗ, калі расказваў пра жанчын у партызанскім атрадзе? Во яно, тое праяўленне, і вайна ніякая непатрэбна.

Зінка зразумела маё маўчанне як згоду, паклала ўжо на плячо галаву, прашаптала:

— Дзякуй, Валодзька, дзякуй! Мы будзем з табою самыя шчаслівыя людзі на зямлі.

І мне стала хораша, паверылася нават, што ведаю яе даўно-даўно...

«А залікоўкі?» — зноў нехта з'едліва папытаўся ў мяне з-за пляча.

Калі ж спыніўся аўтобус у яе гарадку, да нас падышла жанчына, павіталася, узяла сумку у Зіны, стала воддалеч — не замінала.

— Мама, ідзі дадому, мы цябе дагонім.

— Не, Зінка, не магу, — запярэчыў я. — Хаця і ведаю, што раблю глупства. І што потым буду сябе праклінаць за нерашучасць і нязгоду.

Яна плакала і ўжо больш нічога не гаварыла, адчуўшы сэрцам сваё няшчасце.

— Божа, ці ёсць Ты на свеце, — пачала шаптаць, — зрабі мяне шчаслівай на адзін дзень і на ўсё жыццё. Валодзька глухі, ён не разумее, што я толькі ад яго магу нарадзіць сына, але ты ўсё разумееш, Ойча!..

Я ж адчуваў сябе каменнай і халоднай сцяной, якую ніхто не мог зрушыць з месца...

— Хоць пацалуй на развітанне...

А праз колькі хвілінаў аўтобус вёз мяне далей — у цемру, у ноч, у другі горад. На губах яшчэ была соль Зінчыных слёз. У вушах не аціхаў умольны шэпт, які так і не дайшоў да майго сэрца.

Не ведаў я тады адной жыццёвай мудрасці — ніколі нельга адпрэчваць жанчын, якія цябе пакахалі. Ніколі ў жыцці і ні пры якіх абставінах.

Бо за гэта карае Бог... Хаця ты і парушаеш адзін з Яго запаветаў. Вось і зразумей пасля гэтага Біблію...

Але ці трэба тое разумець? Можа, дастаткова яго толькі адчуваць, ведаць, што каханне існуе і можа ненарокам даткнуцца сваім крылом да твайго сэрца?

На канечную станцыю аўтобус прывёз нас каля дзесяці вечара.

Я стаў у хвост чаргі ў чыгуначную касу. За паўгадзіны быў каля касы, усунуў галаву ў акенца, папрасіў:

— Мне, калі ласка, адзін квіток да Бярдзічава. Купэ ці плацкарт...

— Пятнаццаць сорак.

Я хуценька сунуў руку ў задні кішэньку штаноў, каб дастаць свой «энзэ», але яна аказалася пустой.

«Не можа таго быць, — узмакрэў я ад хвалявання. — Я ж правяраў у аўтобусе, калі сядзеў з Зінай. Дзе яны падзеліся?

— Ну, што ты там капаешся?! — крычалі незадаволена ззаду.

— Вы будзеце браць білет? — глядзела на мяне касірка з нафарбаванымі вуснамі.

— Адкладзіце, калі ласка, мой квіток. Грошы не магу адшукаць.

— Трэба, грамадзянін, грошы даставаць загадзя.

Яшчэ і яшчэ раз пашнырыў ў задняй кішэньцы. Потым ва ўсіх, што меў. Зноў у задняй. Безвынікова.

«Укралі, — пеканула джалам думка, — і зусім нядаўна. Як стаяў у чарзе».

Я азірнуўся і па-сапраўднаму ўжо пашкадаваў, што адпрэчыў Зіну. Падумалася, што недзе ў гэты час пілі б з ёю шампанскае — яна б усё ўладзіла, зрабіла б сапраўднае свята. Яна ж упала мне ў ногі, а я... Так такому дурню і трэба.

Я быў у роспачы. Ехаў з такім выдатным настроем, і на табе, маеш на закусь... Не пойдзеш жа з працягнутай рукой прасіць па капейцы. А наступны поезд чакаўся толькі на наступны дзень — пад абед.

Я стаяў каля акна, паклаўшы рукі на чамаданчык. Яго ўжо бярог, каб не ўкралі, — галоўнае маё багацце, апраўдальны груз.

— Ці не вы гэта, Уладзімір? — вярнуў мяне да жыцця голас з глухой цемры.

Павярнуў галаву на голас, але нікога не пазнаў. Стаяла нейкая жанчына і пасміхалася.

— Хто вы?

— Няўжо не памятаеце, як я вас нагрузіла аднойчы ноччу важкім чамаданам?

— Божа мой, Марычка? — ледзьве не закрычаў ад радасці, кінуўся да яе, абняў як самага дарагога чалавека. — Вас мне Бог паслаў. Пазычце мне пятнаццаць рублёў і сорак капеек.

— Я не пазычу, я куплю білет.

— Адразу ж вышлю...

Касірка аддала мне мой білет, і мы пайшлі на перон. Стаялі, глядзелі адно аднаму ў вочы. Не ведалі, пра што гаварыць, але на языку трымцелі тысячы слоў... Потым я ўскочыў у вагон, а Марычка стаяла побач, каля прыступак. Радасна паглядала на мяне. Чамусьці ў вачах яе прачытаў радасць, а можа, і нешта большае.

— Мне трэба было табе шмат чаго сказаць, Валодзя.

— І мне таксама. Я часта думаў пра цябе, Марычка. Каб прыйшоў твой брат, то я ўзяў бы ў яго твой адрас.

— Ты напішы мне, Валодзя, добра?

— Абавязкова.

Цягнік пакрысе пачаў адыходзіць ад перона. Марычка ішла побач. Потым памахала рукой і засталася стаяць на месцы.

## Сустрэча

Так тады скончыліся мае прыгоды з залікоўкамі... І вось я еду дамоў, на сустрэчу з дзяцінствам. Мне так і не ўдалося заснуць, хаця пад раніцу я прылёг на сваю засцеленую дзяўчатамі полку.

Пачало развідняць, і я не вытрымаў, падняўся, пайшоў у прыбіральню і спаласнуў твар цёплай вадой — а хацелася халоднай, нават ледзяной, гэтая не бадзёрыла. Але ўсё роўна стала трошкі лепш.

Мы ўсё рвёмся наперад, баімся некуды спазніцца. Пэўна ж, меў рацыю прападобны Амросій, старац Опцінай Пустыні, калі казаў: «Хто мае кепскі лад сэрца, не павінен адчайвацца, таму што з дапамогаю Бога чалавек можа выправіць сваё сэрца. Толькі трэба ўважліва сачыць за сабою і заўсёды быць карысным бліжнім, часта адкрывацца старцу і тварыць пасільную міласціну. Гэтага, безумоўна, нельга стварыць адразу, але Гасподзь доўгацярплівы. Ён тады толькі спыняе жыццё чалавека, калі бачыць яго гатовым да пераходу ў вечнасць альбо тады, калі не бачыць аніякай надзеі на яго выпраўленне...»

Адкуль, адкуль толькі тое старцу было вядома? Адкуль ён чэрпаў мудрасць сваю, калі жыў адзін, адгароджаны ад цывільнага свету? Толькі ад неба, толькі — ад сонца і месяца...

Ці можна падскочыць вышэй самога сябе?

У мой горад мы прыехалі раніцай. Я загадзя сабраў сваю пасцель, склаў прасціны і аднёс праваднiцы. Сакваяж узяў з сабою, каб не вяртацца ў купэ.

Але праз нейкі час дзверы ў купэ прачыніліся і дзяўчаты падалі знак, што мне можна заходзіць. Я толькі павітаўся з імі. Яны пырснулі смехам і зноў сталі выглядаць бесклапотнымі і шчаслівымі. Падфарбавалі вусны, дадалі ружовасці на шчокі, прычапурыліся. У вачах — гарэзлівасць і ўпэўненасць у сваіх магчымасцях і сіле іх прыгажосці. Адна з іх пацікавілася:

— А куды вы, дзядзечка, едзеце?

— Далёка, дзяўчаткі. У сваё дзяцінства.

— Вазьміце нас з сабою.

— Вас жа тады не было — вы і ў праекце яшчэ не значыліся. Ды і цяжка там, холадна і галадна, вы не вытрываеце.

Дзяўчына засмяялася, паказаўшы белыя зубы:

— Учора вы з намі гаварылі на беларускай мове, а сёння на ўкраінскай. Хто ж вы — беларус? Украінец?

— Я грамадзянін сваёй краіны. А вы і не на беларускай, і не на рускай — на нейкай трасянцы. Хто ж вы?

— І мы таксама грамадзяне сваёй краіны. Толькі без роднай мовы. І ў нечым зайздросцім вам.

Мне спадабаліся словы дзяўчыны. Значыць, гэтак думалі і яе сяброўкі. А раз задумваюцца, то і парашаюць некалі свае рэбусы і галаваломкі.

— Што ж, жадаю вам поспехаў у вашых клопатах. Бывайце, прыгажунькі!

— І вам добрай сустрэчы з дзяцінствам.

Сонца купалася ў залатым вільчыку храма, а ягоны крыж зіхацеў у блакіце неба. Промні зыркага сонца аздобілі першы лісцепад.

Куды пайсці, з чаго пачаць сваё спатканне, калі ні сяброў ні знаёмых не засталося ў гэтым горадзе? А хто і быў, дык адрасоў іх не меў, сувязі даўно парваліся... А чаму б не з'ездзіць на родны завод? Вялікая афіша паведамляла, што ў клубе аб'яднання адбудзецца сустрэча выбаршчыкаў з кандыдатам у народныя дэпутаты дырэктарам Рыгорам Пятрэнкам. Пятрэнка? Грыцко?!? Ці не з тым Грыцком, якія выправіў мяне некалі з эмісарскім заданнем да Арцёма-ХТЗ?

Завод набыў другі профіль, таму майго цэха не было і ў паміне — памяшканне знеслі, а на яго месцы ўзвышаўся тэрмітны цэх. Таму праводзіць экскурсію па новых карпусах чамусьці не хацелася — то было не з таго часу, не адтуль...

Побач з прахадной вісела перадвыбарчая вялікая лістоўка-плакат — друкарская, з вялікім фота. Грыцко! Як узмужнеў! Шыракатвары, але што гэта — з лысінкай? І ён, і як быццам не ён. Губы яго, вочы... А што калі цяпер адразу накіравацца да яго ў кабінет, пацісну руку, абняцца... Але ці дапусціць да сябе, ці знойдзе для мяне час?

Сустрэча мелася адбыцца вечарам — а дваццатай гадзіне. Я ўзяў білет на аўтобус і паехаў у родны пасёлак. Туды, куды цягнула мяне штодзённа маё сэрца.

З аўтобуса сышоў трошкі раней, перад пасёлкам. Найперш зайшоў на могілкі. Пасядзеў каля магілкі мамы, у агароджы, якую сам вырабіў некалі на заводзе.

Памерла яна праз паўгода пасля таго, як я ездзіў з залікоўкамі да Арцёма.

Я сядзеў і маўчаў. З сабою ў мяне была пляшка «Каберне». Я памянуў маму.

Аднекуль прыйшоў да мяне сабака — шэры, стары. Стаў побач і маўкліва глядзеў на мяне разумнымі вачыма. Чый ён і адкуль?

«Вось і пабачыліся мы, мама, з табою. Пытаешся, што ў мяне новага? Нічога. Жыццё трошкі выраўнялася, а было ж... Ды ты і сама ведаеш усё...

Я ведаю, што ты дакарала мяне, што здарылася ў нас так з першай жонкай. Бо і папярэджвала не раз: «Глядзі, сынок, каб прыгажосць не засланіла дабрыню...» Я ж не разумеў нічога, быў сапраўды асьлеплены каханнем. Ты мне даруй, што рэдка наведваюся. Так я ўжо, мусіць, скроены, але пра цябе памятаю — кожны дзень памятаю...»

Сабака дачакаўся мяне, вільнуў хвастом, як даўняму знаёмаму. Я ўспомніў, што ў мяне з сабою быў бутэрброд — жонка паклала ў дарогу, каб перакусіў у вагоне. Хлеб з каўбасой сабака праглынуў умомант, і зноў паглядаў на мяне. Калі ж пагладзіў яго, ён скрушна заскавытаў, лізнуўшы маю руку.

Потым ён бег побач са мною, нюхаў аднячасова зямлю і сляды, пазначаў сваю тэрыторыю...

А ногі міжволі неслі мяне да ўскраіны, туды, дзе знаходзілася лясніцтва. Вось яны, тры елкі. Заімшэлыя, тоўстыя, пахкія. Няўжо і тады былі такія?

Сярэдняя з іх трошкі карацейшая, хаця і не вельмі. І колерам зверху іншая — ці то падсохла, ці іголкі свае абнаўляла...

Тры елкі, як тры жанчыны майго жыцця, з якімі знітаваў мяне лёс...

Эму ў разлік я не браў — то дзіцячае... Казка, якая светла ўспамінаецца час ад часу.

Дзве другія елкі... То мая першая і другая жонка.

Я ўздыхнуў, гладзячы сабаку па галаве, паглядаў на елкі і як быццам стараўся запомніць іх, захаваць у памяці. Мне так яскрава ўспаміналася тая зорная і марозная ноч пад Новы год... І Эма заспаная і радасная. І яе здзіўленыя вочы.

Казалі, што яна тройчы выходзіла замуж, але ні з адным мужам не нажыла дзяцей. Быццам матылёк лётала па жыцці, і шукала толькі салодкага жыцця. Не бачыў, ніводнага разу не бачыў Эму, і мне чамусьці не хацелася парушаць вобраз той прыгожай школьніцы з залатымі кудзеркамі і вялікімі, бы пераспелыя слівы-венгеркі, вачыма. Няхай яна такой і застанецца ў маёй памяці — па-дзіцячы непасрэднай, далёкай ад жорсткага жыцця, ад сваіх няўдач, памылак і расчараванняў...

На месцы нашага селішча пабудавалі камбінат бытавых паслуг, у якім вязалі кофты і світэры, шылі сукенкі і паліто.

А возера падалося мне нейкім малым, не тым, што некалі купаўся і лавіў у ім рыбу. Ці то яно зарасло травой і заплыло ілам за гэты час, а мо і было такім заўсёды, толькі ў дзяцінстве мне здавалася, што пераплысці яго мне не ўдасца ніколі...

А вось і хата Эмы — толькі перакрыта новым шыферам. Хто ў ёй цяпер жыве? Маці даўно няма, памерла. На год перажыла маю маму.

— Ну, што, Джым, пайшлі? — паклікаў я сабаку, даўшы мянушку. — Пара мне, Джым...

Ён правёў мяне да дзвярэй аўтобуса.

Як крануліся, нават бег нейкі час следам — аж за пасёлак..

Я глядзеў на яго праз шыбіну і думаў пра тое, што Джым паверыў мне, — бо прылашчыў яго. Тым самым падаў нейкую надзею. І — знік.

Няўжо Джым не верыў у чалавечую здраду? У маю — здраду?..

Народу ў клубе набілася шмат.

Зала вялізная, мо і тысячу змесціць. Я прымасціўся ў трэцім радзе, скраёчку.

Калі прайшло ад намечанага часу пачатку імпрэзы чвэрць гадзіны, калі людзі занялі ўсе месцы, нават паселі на прыстаўленыя крэслы, праз дзверы, ад мяне, да сцэны накіравалася некалькі чалавек. Яго, Грыцко, я пазнаў адразу. У белай кашулі, пры гальштуку. Шэры касцюм, пастава ўпэўненага ў сабе чалавека. І крочыў ён неяк адмыслова — цвёрда, быццам упячатваў у падлогу падэшвы бліскучых чаравікаў.

У целе лёгкасць, спружыністасць. З усмешкай паглядзеў у залу, павітаўся з усімі. Грыцко зірнуў на мяне, здалося, што ён вітаецца са мною асабіста.

Старшыня парткама адкрыў сход. Расказваў пра кандыдата ў народныя дэпутаты, расхвальваў яго, апавядаў пра нялёгкі жыццёвы шлях. Успамінаў той час, як ён быў рабочым, як начальнікам цэха вывеў калектыў у перадавыя. Гэта, значыць, і мяне. Што праўда, то праўда. Грыцко гаварыў нам так: «Хлопцы, пупы не рваць, яны для жонак спатрэбяцца. Працаваць так, як дыктуе сумленне. Гэта значыць: даць план, і да яго яшчэ трошкі. Але — каб ніводнай бракаванай дэталі. Бракароб сам, без заявы, павінен пакінуць брыгаду. Усім ясна?»

Мы ж хорам адказвалі: «І казе панятна...»

Зарплата ў нас была ніштаватая, і ўсе бачылі, што мы працавалі на злом галавы.

Потым выступаў дырэктар. Расказваў, колькі атрымалі рабочыя кватэр, колькі будзе ўведзена ў эксплуатацыю ў наступным годзе аб'ектаў бытавога прызначэння. Сапраўды, размах завода ў сацыяльна-бытавым плане быў унушальны.

Дырэктар чакаў пытанняў — стаяў за трыбунай, глядзеў у залу. Ён цяпер быў пад прыцэлам людскіх вачэй і эмоцый. Пытанні былі. І нямала. І едкія, і колкія, і добразычлівыя. Дырэктар спраўляўся адказваць на ўсе — не першы раз.

— Ёсць яшчэ пытанні? — прыўзняўся парткамавец, адчуваючы, што сустрэча прайшла як мае быць.

— Ёсць! — пацягнуў нехта мяне за язык — ці не сам д'ябал. — Грыцко Панасавіч, ёсць у мяне пытаннечка, невялічкае такое. Адкажыце, калі ласка, перавагу якой адукацыі вы аддаяце — завочнай ці стацыянарнай?

Дырэктар пільна паглядзеў на мяне, сышоў з трыбуны і са сцэны, пачаў спускаца па прыступках уніз. Я пайшоў насустрач. Паміж сцэнай і першым радам мы сустрэліся і абняліся. Глядзелі адзін аднаму ў вочы, радаваліся нечаканцы.

— Таварышы! Сябры мае! З Уладзімірам Васільевічам я працаваў некалі ў адным цэху, у адной брыгадзе. Потым нашы шляхі разышліся. Не бачыліся дваццаць чатыры гады. І вось нечаканая сустрэча.

Здаецца, наша спатканне аздобілі апладысменты, людзі ўсміхаліся, радуючыся за нас.

Толькі праз тры гадзіны завяршылася сустрэча выбаршчыкаў з дырэктарам. А я хоць на нейкі час адчуў сябе часцінкай гэтага вялікага, некалі майго, калектыву.

А вечарам мы з ім сядзелі ў мяне ў гасцінічным нумары — не захацеў я ехаць да Грыцко дадому, як ні ўгаворваў ён мяне. Мне не хацелася ламаць таго ўяўлення, на якое настроіўся, — сям'я збіла б усё, і ад сустрэчы атрымалася б нешта іншае, не тое, што жадалася.

Грыцко ўзмахнуў сваёй чароўнай палачкай — і я апынуўся ў люксавым нумары, дзе на стале стаялі дзве пляшкі армянскага каньяку, бутэрброды з ікрой, нарэзаная тоненькімі скрылікамі пастрама...

І мы акунуліся-нырнулі ва ўспаміны.

Мы купаліся ў іх, як у цёплым паўднёвым моры сярод лета. Успаміналі нашых хлопцаў. І Арцёма Сямёнавіча. Не стала яго зусім нядаўна — інфаркт. Добрым словам успаміналі заўсёды яго хлопцы. І мяне заадно.

— Дзяцей колькі маеш, Грыцко?

— Трое. Дзве дачкі і сын. А ў цябе?

— Два сыны. Лёшка і Андрэй.

— Быў я на вашым гомельскім заводзе год назад. Шкада, не ведаў, што ты там.

— Шкада, канечне.

Дзынкнулі чаркамі. Размова працягвалася, уваходзіла ў сваю галоўную, як кажуць, фазу. Мы і не заўважылі, калі ўдарылі куранты і загучэла мелодыя гімна. Ноч, як адна хвіліна, праляцела. Як адно імгненне...

Грыцко спахапіўся, зірнуў для перакананасці на свой гадзіннік, на мяне зіркануў:

— Прымаем рашэнне. Пад вечар я прыязджаю да цябе. Мы шмат чаго недагаварылі...

— Не ведаю, Грыцко.

Праз тры гадзіны я ўжо сядзеў у купэйным вагоне і, спустошаны трыма неспакойнымі днямі, безуважна глядзеў у акно. У купэ болей нікога не было, і я радаваўся гэтаму.

«Да-дому, да-дому, — выстуквалі колы пад вагонам. А потым чулася чамусьці: «Грыц-ко, Грыц-ко...»

Ён жа думаў, што я жыву з Аксанай.

## Аксана

З цябе і пачынаецца маё другое жыццё, калі развітаўся з юнацтвам.

Бачыш, нечакана во і да цябе звярнуўся, хаця ж думаў, што выкінуў са сваёй памяці. Але ты мне даруй ужо, выбачай, што парушаю нашую дамоўленасць і зноў гавару з табой. Цяпер ужо дакладна абяцаю — апошні раз.

Ты пацярпі мяне ўжо такога, пацярпі ўжо напаследак. У мяне хопіць сіл не назаляць табе, не вярэдзіць і свае, і твае раны...

Ты перамагла. А таму маеш перавагу перада мною. Ты маеш права, ты заслужыла яго — маўчаць. І я не папракну цябе ні ў чым, не буду дакараць. Ты можаш глядзець мне ў вочы, можаш адвярнуцца. Што хочаш рабі, і праўда будзе на тваім баку. То я, толькі я вінаваты ва ўсім, толькі на мне вялікі грэх, што так адбылося паміж намі.

Пасля дэмабілізацыі я паступіў вучыцца ў той інстытут, дзе выкладчыкам быў Арцём Сямёнавіч. Я не пайшоў да яго з просьбай, каб памог з паступленнем. Ён нават і не ведаў, што я паступаю туды.

Убачыў ён мяне толькі тады, калі я здаваў апошнія іспыты. Здаваў матэматыку. Не сказаць, каб і ведаў добра я гэты прадмет, але быў чамусьці ўпэўнены, што іспыт вытрымаю. І, на маё шчасце, папаўся лёгкі білет, і задачку я рашыў хутка, без памылак.

У той момант, як я заканчваў адказваць на апошняе пытанне білета, рашыўшы перад гэтым дадатковыя задачы, у аўдыторыю завітаў Арцём Сямёнавіч.

— Ты, Валодзя?

Я ўсміхнуўся.

— Як поспехі?

— Без троек паздаваў.

Потым мы гулялі з ім па горадзе. І ён не вытрымаў, папытаўся, гледзячы прама мне ў вочы:

— Чаму ж да мяне не звярнуўся за дапамогай?

— Ды не хацелася назаляць.

Гэта ўжо як намёк на маіх аболтусаў, якія камандзіравалі мяне некалі да яго.

— Ну, табе відней, — хмыкнуў ён і закусіў верхнюю губу.

Так і не ведаю, пакрыўдзіўся ён на мяне ці не за адказ, а мо і сапраўды зразумеў мой стан. Але сяброўства мы не парывалі — я часта бываў у яго дома, мяне ветліва і прыхільна прымала гаспадыня.

Не ведаў, што праз нейкі час маё шчасце падвоіцца.

Калі ўпершыню я ўбачыў цябе? Так, так, менавіта тады...

Спакойны, сонечны дзень, промні сонца пранізваюць першую пазалоту лісця. На душы ў мяне харошы настрой — у душы бесклапотнасць, задаволенасць. Бо я ведаю, што ў мяне будзе за жыццё ў бліжэйшыя пяць гадоў.

Я падымаюся па тратуары на галоўную вуліцу, крочу павольна, думаючы пра нешта сваё. І вось у той момант наперадзе, на ўзгорку, насупраць

светла-блакітнай царквы з высокімі залацістымі купаламі, ляціць дзяўчо. Так, так, менавіта ляціць, бо ад асфальту адсвечваліся промні, і таму не было бачна, як яе ногі краналіся зямлі. Яна, дзяўчына, у кароткай спаднічцы, з даўгімі косамі, што матляліся ад яе руху, сама глядзела некуды наперад — уверх, на вяршыні клёнаў...

Для мяне ў той жа момант усё перастала існаваць вакол — толькі яна, тая дзяўчына, дзяўчына-птушка, дзяўчына-прывід і казка. Белая блузачка з чырвонамі гарохамі. Я стаіў дыханне, спыніўся, каб лепей прыгледзецца да такога цуду. Але яна павярнула на мой бок вуліцы, на тратуар, па якім крочыў я... Я нават як след не паспеў разледзець яе — прабегла-праляцела матыльком паўз мяне, зірканула шчаслівымі вачмі ў мой бок, крутанула галавой... Папраўіла косы, што прыкрывалі твар, падаравала мне ўсмешку, што і не належала мне...

Мяне абдаў слабы ветрык з водарам не вядомых мне духоў.

Калі ж ачомаўся, калі зрабіў крок у твой бок, каб дагнаць, каб злавіць за крыло жар-птушку, яна растварылася ў натоўпе, злілася з людзьмі і стала адной шэрай масай. А мне падалося, што то быў нейкі дзівосны сон, праява, хаця ж яскрава ў памяці стаялі гарэзлівыя вочы, узнятая, з сумачкай бэжавага колеру, рука, цокат тоненькіх і высокіх абцасаў белых туфляў...

Я нібы звар'яцеў, сам сабе ўсміхаўся, радаваўся нечаму. Мяне цягнула ў той бок, куды яна падалася, — невядомая сіла штурхала мяне туды.

Тыдні і месяцы я жыў тым успамінам. Блукаў штодня па той вуліцы, дзе сустрэў яе, спадзяваўся, што зноў убачу, як і тады, — але дзівосначароўнага паўтарэння не адбылося.

Убачыў яе нечакана трошкі пазней і быў дужа здзіўлены.

Я пайшоў на завод да знаёмых хлопцаў і, калі гаварыў з Пятром Шукайлам, пачынаючым рабочым паэтам, праз яго плячо ўбачыў дзяўчыну ў блакітнай касынцы. «Яна? Няўжо — яна?..»

Ты амаль нічым не выдзялялася сярод усіх заводскіх дзяўчат. Але я ўжо зноў узнёсся над зямлёю — як і ты тады, як ўбачыў упершыню цябе.

Нешта казаў мне Пятро пра апошнія рыфмаваныя радкі, але я не чуў яго, думаў пра іншае. Скрозь сілу толькі пацікавіўся ў яго, як зваць дзяўчыну ў блакітнай касынцы. Ён абыякава глянуў у той бок, прамовіў:

— Аксана... Амаль год, як у нас працуе.

— Петрык, а як пазнаёміцца з ёю?

— Як? Бяры пляшку, ды пойдзем да яе ў інтэрнат. Яна з сяброўкай жыве — Тоняй.

— У інтэрнат? З пляшкай?

Ён гаварыў пра такія празаічныя рэчы, што мяне брала і здзіўленне, і зло: да цябе — з пляшкай?! Ты ж падалася мне незямной істотай, а тут так празаічна, так шэра...

— А што? Прыйдзем да іх і скажам: «А вось і мы, прымайце гасцей...» Ну, калі грошай няма, то пляшка за мной.

А што адбывалася далей, памятаю, як у сне. Паміма маёй волі, па нейчым іншым сцэнарыі, падзеі набывалі абароты і разгон. Пятро сустрэў мяне, як і абяцаў, і мы разам прыйшлі ў пакой да дзяўчат. Падалі па чарзе рукі. Я назваўся і, здаецца, моцна пачырванеў пры гэтым, баючыся зірнуць Аксане ў вочы. Яна ж рагатала, бачачы маю разгубленасць, і што я гавару неўпапад.

Нешта пачалі гаварыць пра выхадныя — хто куды паедзе ці пойдзе.

А потым Петрык узяў ды сказануў невядома чаму і для чаго:

— А Уладзіміру заўтра трэба да маці ехаць, бульбу дакапаць, ды во ніяк сабе памочніка не можа знайсці.

— Як гэта — не можа знайсці памочніка? — на тваім твары наіўнасць і здзіўленне. Глядзіш спачувальна на мяне, і следам за Петрыкам туды ж, у вір: — Валодзька, я ж магу капаць. Вазьмі мяне з сабою, га?

Я не паверыў пачутаму. Ты здзекавалася, канечне ж.

А я яшчэ больш здурнеў, кідаюся следам за імі ў вір, як мага спакойней прамаўляю:

— Ну, як ручкі не баішся запэцкаць, то паехалі.

— Во, і згаварыліся! — прыхільна і зацікаўлена ты глядзіш на мяне, і падалася мне зноў той, ранейшай, калі ўбачыў на вуліцы, калі ты свяцілася ўся патаемным і незямным святлом.

Адкуль у табе адбыліся такія рэзкія перамены? Чым сілкавалася тады твая энергія? Пра што ты думала тады, Аксана, пра што марыла? Ведама ж, бачыла, што закахаўся ў цябе, як апошні асталоп, і ты магла рабіць са мною што хацела — віць вяроўкі, загадваць і патрабаваць поўнага падпарадкавання, адабраць у мяне волю і самастойнасць.

Мне здавалася, што вы, па агульнай дамоўленасці, разыгрываеце мяне, што ўсё падстроена, што вось-вось не вытрымаеце і разрагочацеся ўголас, да слёз, а мне скажаце, паказваючы пальцамі: «Ну і здорава мы цябе ў лапці абулі, ці не так? Аксана — і раптам на бульбу? От ёлупень, у такі міф паверыў — як дзіця сядно маленькае. Ды ты прыгледзься, хто яна, — каралева! Ружа-кветка, сонейка, а ты што падумаў?..»

На маё вялікае здзіўленне, ты прыйшла раніцай да аўтобуснай станцыі, і мы ўзялі квіткі. Сядзелі ўпобачкі, а ў тваіх вачах ігралі-пераліваліся гарэзлівыя агеньчыкі, пэўна, радавалася, што здзівіла мяне сваім прыходам і згодаю разам ехаць да маці. Я і сапраўды быў агаломшаны і тваім з'яўленнем, і тым, што твой гарачы бок побач.

— Далёка да твайго пасёлка? — запыталася ты весела.

— Ды не.

— А не гаваркі ты хлапец, толькі пад чаркай язык развязваецца? — паварочваешся ты да мяне, але не пасміхаешся, бачу добразычлівы дакор.

— Нечакана неяк усё атрымалася, Аксана. Пятро падбіў. Ляпнуў першае, што прыйшло ў галаву. Цяпер перажываю, хвалююся, як яно ўсё будзе.

— Ты сказаў «нечакана»? Але ж ты прыйшоў да нас з пэўнай мэтай?

— Ды не, не так... Убачыў цябе задоўга да гэтага. У цэнтры горада ўбачыў. У белай блузцы з гарохамі. Ты была шчаслівая ў тыя хвіліны — ты ляцела, а не ішла па зямлі...

— У белай блузцы? — ты здзіўлена перапытваеш і яшчэ пільней глядзіш на мяне. — Не памятаю... І была шчаслівая?

Маці была надта здзіўлена нашым прыездам. Нічога ж не гаварыў, не папярэджваў. Сама ж ведала, што я далёка трымаўся ад дзяўчат, а тут знянацку з дзяўчынаю прыехаў, з'явіўся на парозе, як вялікоднае яечка свяціўся.

— Добры дзень вам! — павіталася ты з парога, усміхалася, старалася спадабацца, распранулася, павесіла на вешалку куртачку, апраўдвалася: — Валодзька кажа, што бульбу пара капаць?

— Навошта ж так? Гасцям рады, а памагаць... Там і бульбы тае засталося — суседка памагла.

Маці падаіла карову і як ведала, чым пачаставаць дзяўчыну — наліла поўную конаўку свежага цёплага малака. Аксана засмяялася, прымаючы ад мамы кубак, прамовіла:

— Не працавала, а аплата ўжо прапанавана.

Потым мы выбраліся на агарод. Працавала Аксана не разгінаючыся, гаварыла найбольш з маці, расказвала пра сябе, распытвала сама. Працавала яна ў пальчатках, на нагах чырвоныя гумовыя боцікі, касынка завязана на галаве, каб не рассыпаліся косы, — і я зноў не пазнаваў яе.

Ты згадзілася і пераначаваць — у выхадны клопатаў не было. Мы гулялі вечарам па пасёлку. Здалёк я бачыў тры елкі, але пра іх нічога не сказаў ёй. А што можна было расказаць?

На развітанне маці паставіла на стол пляшку віна. І мы ўсе выпілі па шкаліку. Ты заружовілася, за дзень нават загарэла пад нашым сонцам, папрыгажэла яшчэ больш. Я назіркам цікаваў за маці — як яна адносіцца да цябе, якія пачуцці ты ў яе выклікаеш. Але маці нічым не выдавала сябе.

Калі ад'язджалі з табой, развітваліся каля аўтобуснага прыпынку — каля клуба, затрымала мяне на хвілінку, шапнула на вуха:

— Ой, не ведаю, Валодзька, што і сказаць табе. Прыгожая дужа дзяўчына.

— Мама, яна добрая і шчырая.

— Не памыліся, сынок, узваж усё добра. Узваж.

Не паверыў тады я маці, не пачуў яе трывогі, не прыслухаўся да яе папярэджання. Быў я сляпы і глухі на той час — утапіўся ў каханні, у сваіх шчаслівых пачуццях.

Эх, Аксана, Аксана! Ты ўцягнула мяне незаўважна ў сваё чароўнае кола-вір — і пайшоў на дно, як той камень, кінуты ў раку, а ўсё думаў, слепа верыў, што лячу насустрач свайму шчасцю.

— Уладзімер, я не люблю дзяцей, — прызналася ты, калі мы пабраліся. Я ж зразумеў тваё прызнанне як жарт. Хаця жарт з разраду жорсткіх і бесчалавечных.

— Чаму ж пра тое раней не сказала? — перапытаў я, сціскаючы цябе, узмакрэлую і сцішаную, у сваіх абдымках, — грудзі цвёрдыя і вострыя, як пікі, білі мяне пякучымі біятокамі.

— Не ведаю, не надавала таму значэння, — лашчылася ты да мяне, і здавалася такой безабароннай і пяшчотнай, што ў мяне прачыналася ўжо шкадаванне да цябе.

Але ў той жа час я ні да гэтага, ні пасля не адчуваў такой горычы і палыннай гаркаты ў сваёй душы, як з табой, Аксана.

Шэсць гадоў жылі мы з табой у райскай краіне...

Шэсць гадоў жылі мы з табою, як у пекле...

Мы лёталі з табою, як нябесныя стварэнні і вечарамі і ноччу, кормам для нас з'яўлялася каханне, якога, верылі мы і спадзяваліся, хопіць нам на некалькі стагоддзяў.

Адчуваў з неймаверным болем, што нешта не так дзеецца ў маім жыцці. Сябры ходзяць са сваімі сынамі ў лазню, хвошчуцца венікамі, атрымліваючы асалоду ад пахкіх венікаў і яднання з дзецьмі, — і ад іх сыходзіла такая чалавечая цеплыня і шчасце, што добрая зайздрасць пранізвала маё сэрца і з горыччу думалася: «Чаму, чаму са мною няма нікога побач? Не сын, дык дачушка, каб сядзела ў мяне на каленях, і я расказваў бы ёй самыя прыгожыя казкі, і спяваў бы на ноч самыя лепшыя калыханкі, якія сам і прыдумваў бы, сам укладваў яе спаць...»

Аднойчы спытаў у цябе даўно выпакутаванае:

— Няўжо, Аксана, табе не хочацца, каб сын ці дачка называлі цябе мамай? А мяне — татам?

Ты нейкі час маўчыш, як быццам я спытаўся ў цябе пра нешта агіднае і недазволенае, шморгаеш носам — ці то пачынаеш румзаць, ці імітуеш насмарк, а адказваеш коратка і з нейкім зацятым злом:

— Не!.. Не — і хопіць пра гэта!

Твае словы (у які раз!) апяклі мяне сваёй жорсткасцю. Як, як гэта можна Жанчыне адмовіцца ад падоранага Богам шчасця — быць Маці, быць прадаўжальніцай роду чалавечага, крыніцай усяго прыгожага, шчаслівага, пяшчотнага, любові і дабрыні?..

Шэсць гадоў шчасця, а пасля два гады — пакут і пекла...

Аднойчы ноччу ў парыве істэрычнага плачу, адчуўшы ўва мне вялікую перамену — холаду і абякавасці да цябе, — папрасіла як бы вінавата і даўно абдумаўшы:

— Валодзечка! Даруй, што я паслухалася цябе і стала тваёй жонкай. Акрамя няшчасця, я табе нічога не прынесла. Пакінь мяне, дурную бабу, незразумела з якога цеста і злепленую.

— Ды мо яшчэ наладзіцца ў нас, павінна наладзіцца, — пачынаю я ўжо і шкадаваць цябе, радуючыся, што ты над нечым пачала задумвацца, значыць, і табе нешта не падабаецца ў нашым жыцці.

— Не, Валодзечка, не, — уздыхаеш ты і плачаш. — Бачу, як ты пакутуеш, перажываеш, што ты толькі муж, а не бацька. На тваім твары кожны дзень пячатка болю і крыўды... Кідай мяне, пакуль не позна, кідай...

— Падумай, Аксана, падумай, — слаба прашу я цябе, сам не верачы ў перамены.

— У нас з табою адзінае выйсце, каб застацца людзьмі: гэта мірна разысціся.

Перад вачыма стаяла Марычка. Чуў яе мяккі і пяшчотны голас. Ён заўсёды саграваў мяне ў цяжкія хвіліны. Ад болю ратавала яна і цяпер. Незадоўга да размовы з табою паслаў ёй ліст. Не ўтойваў нічога, усё расказваў пра сябе. Пра сваю памылку, пра сваю бяду. Не плакаўся, але прызнаўся, што натварыў шмат глупстваў. Дзякаваў, што памятае мяне, не забывае, намякнуў, што добра было б пабачыцца...

Неўзабаве мы развяліся. Ціха, мірна, без скандалу. Нават шампанскае выпілі.

Праз тры дні я адбіў тэлеграму Марычцы. Напісаў так: «Усё рашылася. Я клічу цябе з сынам. Чакаю. Валодзя».

Кожны дзень чакаў адказу ці прыезду жанчыны, не знаходзіў месца.

Марудна паўзлі тыдні, потым месяцы... Я стаміўся чакаць.

А пасля на працы мне прапанавалі пуцёўку.

Старшыня прафкама Віктар Панкраценка — калабок з бліскучай лысінай, вясёлы і дабрачы чалавек, сказаў мне, хітаючы галавой:

— Ты мне не гавары, я ведаю, што ў цябе робіцца на душы. Дык ось, паслухай мяне. Здароўе — даражэй за ўсё. Выдзяляю табе шчаслівую пуцёўку.

Вось з тае пуцёўкі, як прарочыў прафбог, і пачалася новая паласа ў маім жыцці. Яно крута ўзяло кірунак у адваротны бок. На ўсе сто восемдзесят, як кажуць...

У высакагорным Дамбаі я сустрэў Веру.

## Вера

Пасля доўгіх пераходаў і экскурсій у нас выдаўся выхадны, і моладзь наладзіла танцы. Бесклапотнасць і весялосць, адкрытасць і таварыскасць — усё спрыяла добраму адпачынку. І праз колькі дзён здзіўляўся, што могуць здарацца ў жыцці непаразуменні і непаладкі, слёзы і крыўды, нават разводы...

— Вы не пойдзеце ў даліну Нарзана? — спытала ў мяне Вера, з якой танцаваў, якая і запрасіла мяне на танец, адарвала мяне ад задумлівага настрою.

— Пайду. Вы мяне запрашаеце?

— Вы мяне запрасіце.

Яна выглядала ці то задумлівай, ці то разважлівай, усміхалася ў меру, хаця ж часта жартавала і любіла слухаць, калі жартавалі іншыя. Да мяне яна адносілася, як і да ўсіх.

Напрыканцы нашага адпачынку на мяне зноў нагарнулася маркота ад думак пра заўтрашні дзень. Папрасіў прагуляцца на колькі хвілін. Згадзілася. Сказаў напрамую:

— Вера, выходзь за мяне замуж!

Яна ўсміхнулася, паціснула плячыма, паглядзела ў вочы — ці не жартую. Нешта ўбачыла ў маім позірку, нешта адчула і зразумела, амаль сур'ёзна адказала:

— Ну, калі ты так настойваеш...

Праз месяц я паклікаў Аксану на нашае вяселле.

Верка не здзівілася — ёй я расказаў пра ўсё, і выглядала тое жартоўна, нават як анекдот — былая жонка жэніць свайго былога мужа.

У разгар вяселля, калі госці жадалі толькі танцаваць, былая жонка запрасіла мяне на вальс. Шапнула весела:

— Твой выбар адабраю. Дабра і шчасця вам.

У яе вачах я не заўважыў ні скрухі, ні затоенай крыўды.

Да канца вяселля яна недабыла.

## Парадоксы жыцця

Праляцела-прашмыгнула колькі гадоў.

Праз нейкі час у мяне нарадзіліся Лёшка, потым Андрэй. Занёс мяне лёс у Кіеў. Ды не ўтрымаўся, рашыў давесці да канца гісторыю, распачатую з Марычкай. Не ведаю чаму, але неймаверна захацелася пабачыцца, бо ў маёй душы сядзела недаўменне такога раптоўнага разрыву ў той момант, калі, здавалася, усё так прыгожа наладжвалася...

Хіба толькі мог у яе змяніцца дамашні адрас — мо пераехала куды, мо памяняла кватэру на лепшую. А так неадрыўна сядзеў у памяці просты адрас: вуліца Караленкі, 2-22.

З клопатамі я справіўся хутка і меў два дні ў запасе. Выправіўся ў той горад, дзе жыла Марычка. Прыехаў туды праз тры гадзіны, пад вечар. Адшукаў без цяжкасцей вуліцу, потым дом, пад'езд. Падняўся на трэці паверх. Націснуў чырвоную кнопачку званка і з заміраннем сэрца чакаў — а хто ж адкрые дзверы? А калі ён, муж, то што скажу? Што пераблытаў кватэры ці прызнацца адразу, што да яе ў госці прыехаў, як да даўняй знаёмай...

Клацнуў замок, расчыніліся дзверы — на парозе стаяла жанчына. Няўжо — Марычка? Пастарэла, асунулася, і следу не засталося ад былой прыгажосці, у вачах сум і стома.

— Ты?! Божачка, адкуль ты з'явіўся? — яна расплакалася і кінулася мне на шыю. Доўга не адпускала. А потым адышла ад мяне, прачыніла дзверы. — Праходзь, чаго ж мы на пляцоўцы сталі?

— Ты адна дома?

— Адна. Муж на дзяжурстве — будзе толькі заўтра. Праходзь. Божачка, якая нечаканасць!

Марычка згатавала вячэру, паставіла на стол пляшку каньяку.

Выпілі, разгаварыліся. Нешта ныла ўсярэдзіне, і нешта падказвала, каб пільней прыгледзеўся да сітуацыі, а я зазіраў ёй у вочы, шукаў тую пяшчоту да сябе, якой яна мяне адорвала некалі. Не адчуў у яе голасе нічога, не заўважыў, як заусёды, яе болю, быў глухі і няўдзячны. Пень, інакш і не скажаш пра мяне такога...

І неяк неўпрыкмет заўважыў на кніжным серванце фота ў траўрным абрамленні. Юнак з нейкімі да болю знаёмымі абрысамі твару. Маё сэрца працяў кароткі і рэзкі боль, быццам тое тычылася непасрэдна мяне.

— У цябе гора?

Яна дала волю слязам, і не рады ўжо быў, што завітаў да яе ў такі момант. Я, як мог, супакойваў яе, хаця ведаў, што ніхто ў свеце не зможа ёй дапамагчы.

Я схапіў яе за руку, як ратаваўся ад нечага страшнага і немінучага, здавалася, вось-вось на мяне абрынецца нейкі цяжкі груз і раздушыць, а я не змагу ўцячы ад яго, схавацца.

Маўчым, баючыся прамовіць слова. Думкамі перамаўляліся між сабой.

— Што з ім адбылося, Марычка?

— Афганістан... Падарваўся на міне. Нічога не засталося... Труну прыслалі цынкавую, апячатаную. Пахавала я яго, але потым сябры яго прыходзілі да мяне, расказалі пра ўсё...

«А мне? Няўжо Бог і мяне так карае за маю нерашучасць і дурную разважлівасць. Я, як той каравачнік, які прыкідвае, гадае, каб не прайграць, беручы за зношанае ашмоцце капейкі...»

Мы доўга маўчалі, думаючы пра адно і тое ж.

Праз год у маім жыцці адбылася невялічкая падзея.

Рэдкалегія маёй газеты прызнала мяне пераможцам у конкурсе нарысаў. А ўручаць каштоўныя падарункі і граматы рашылі чамусьці ў «Праўдзе». Мо хіба для саліднасці?

Перапіска з Аксанай у нас не перапынялася, я ведаў яе маскоўскі адрас — выйшла замуж і пераехала з мужам у сталіцу.

Пасля цырымоніі, якая доўжылася да абеду, я пазваніў сваёй былой жонцы. Яна абрадавалася, пачуўшы мой голас і, даведаўшыся, што я непадалёку ад яе, прапанавала прыехаць у парк Горкага.

Яна ўжо сядзела на лаўцы, убачыла мяне і кінулася насустрач.

— Добры дзень, Уладзімер! Як я рада цябе бачыць! — яе вочы лучыліся жаноцкім шчасцем. Яна неяк памажнела, акруглілася, стала прывабнай.

Я расказаў.

— О, віншую. Прыемны поспех. Ты выбіваешся на дарогу, пра якую даўно марыў. А я не верыла некалі, прызнацца, у цябе, лічыла твой занятак нейкай забаўкай.

Калі нагаварыліся ўдосталь, Аксана і папыталася ў мяне:

— Ты не зазлуеш, калі я табе ў нечым прызнаюся яшчэ?

— Не, не зазлую.

— Ніколечкі-ніколечкі?

— Тады я табе адкрыю невялічкую тайну, якую я хавала ад цябе. Я — маці! Чуеш — ма-ці!

— Як жа гэта? Ты ж...

— Так атрымалася, Валодзечка. Не ведаю і сама, як тое выйшла. Можа, інстынкт прачнуўся, а мо што іншае...

— Дык чаму ж у нас з табой...

— Не трэба пра тое, Уладзімер Васільевіч. Такі нам лёс, значыць, выпаў.

«Нічога сабе — «лёс выпаў», — мяне пачынала разбіраць зло. — «Ведзьма ты ўсё ж, Аксана, гадзюка, — падумаў я. — Пра сябе ўсё жыццё думала, пра сябе...»

— Дык ты ж хоць ведаеш, хто ты пасля ўсяго гэтага?

— Ведаю, ведаю. Усё, што ні скажаш, падыходзіць для мяне. Ты ж даў слова, што злавацца не будзеш.

— Усё роўна ты нехарошы чалавек, мая былая жонка.

— Так, на вялікі жаль.

— І шкада, што была мне за жонку.

Больш я ёй не сказаў нічога і моўчкі пасунуўся па алеі, не аглядваючыся, адчуваючы на сваёй спіне зневажальную ўсмешку і пагарду над маімі пачуццямі.

Мне нават чулася, як яна рагатала мне ўслед і настаўляла «рожкі», паказваючы, які я дурны. Азірнуцца баяўся, каб не пацвердзіліся мае здагадкі.

І я назаўсёды пахаваў у сваёй памяці Аксану, сваю былую жонку. Як на сметнік выкінуў непатрэбную прыгожую цацку.

Стала сорамна, што столькі гадоў пісаў ёй, падбіраў для яе прыгожыя і прачулыя словы, стараючыся не пакрыўдзіць, падбадзёрыць яе, каб не сцерці той німб-арэол над яе галавой, які выдумаў, які прывідна лучыўся столькі гадоў...

Толькі цяпер я зразумеў, успомніў, што не да канца пачуў я свайго настаўніка гісторыі, які раіў мне ніколі не адступаць ад задуманага.

Ён пакінуў яшчэ адзін вельмі важны, калі не галоўны наказ: «Перад тым, як нешта рабіць, падумай, узваж сотню разоў, ці патрэбна табе тое, а потым толькі ідзі напралом — і ты пераможаш». А я тое і рабіў, што ўзважваў.

Тады я не адчуў і галоўнай сваёй бяды.

Існаваў вялікі і магутны Савецкі Саюз. У ім паводле вялікіх тэарэтыкаў вось-вось павінны былі сцерціся грані паміж нацыямі. Бо мацавалі мы ўсе гады дружбу паміж народамі. Так лічыла і магутная, самая мудрая, якая заўсёды з народам і для народа, якая была яго сумленнем.

І вось здарылася так, што імперыі не стала. Кожная рэспубліка зрабілася самастойнай дзяржавай.

Я пачаў пісаць для беларускай газеты, але пісаў для яе толькі на расейскай мове — беларускай, якая стала дзяржаўнай у суверэннай краіне, дасканала я не валодаў, хаця разумеў.

Праз нейкі час украінскую мову пачаў забываць, хаця некалі пісаў і на ёй. Рускую як след не асвоіў, бо адчуваў, што слоўнікавы запас хаця і дастатковы, але я не ўлавіў галоўнага — мелодыю, свабодную імправізацыю. Вышэй газетнай мовы не падняўся, пра што вельмі шкадую...

І вось што мяне турбуе ўвесь час: як гэта я магу быць адарваным ад Украіны і Расеі? Мы ж браты-суседзі.

Аднойчы ўявіў сабе, што я чыстакроўны беларус. І што ж? Крыўда ўзяла мяне, што столькі гадоў імперыя акупавала землі Беларусі, што прыніжала яе, што ўвогуле адмаўляліся называць беларусаў беларусамі, а толькі «жителями Северо-Западного края…» Крыўдна стала за Рэспубліку Беларусь, за яе забытую пакаленнямі гісторыю...

Хто ж тады я — не ўкраінец, не расеец, а ці беларус?

І аднойчы, калі прасвятленне наступіла ў галаве, апамятаўся, з сынамі пагаварыў. Добра, што хоць у пашпарце яны запісаліся беларусамі — па маці.

— Сынкі мае! — кажу ім. — Лёшка і Андрусь! Няхай ваш бацька манкурт — без нацыі і мовы, вы ж хаця не адцурайцеся сваёй радзімы. Вучыце мову і звычаі беларусаў, і я буду разам з вамі вучыць.

— Не хвалюйся, бацька, — супакоілі. — У школе мы вывучаем мову, вучымся гаварыць, хаця і настаўнікаў адвучылі ад гэтага, а вось з табой, бачыш, гаворым. Мы будзем беларусамі...

Спакайней стала ў мяне на душы. Адхлынуў ад сэрца неспакой. На сыноў спадзяванне. На іх розум. На іх адданасць сваёй радзіме, бо яны нарадзіліся на Гомельскай зямлі...

Як мне хочацца на нейкай вялікай бяседзе беларускай крыкнуць:

— Браткі-беларусы! Хаця ж ўва мне цячэ хахляцкая кроў, але я даўно стаў беларусам. Павіншуйце мяне з такой падзеяй!

І буду я лічыцца шчаслівым чалавекам пасля таго.

Ці не праўда, скажыце, мне, дарагія?

... — Пасажыр, прачніцеся, — асцярожна дакрануўся да пляча праваднiца. — Праз паўгадзіны прыедзем у Гомель.

Я зірнуў у акно: праз шыбы цадзілася ранішняе святло. Па шкле сцякалі дажджавыя змейкі. Значыць, у Гомелі ідзе дождж. То добра, вельмі добра, калі цябе з далёкага дзяцінства сустракае дождж.

На душы лёгка і прыемна. Нараджалася ўпэўненасць у сабе, у заўтрашнім дні. З плячэй упаў нябачны груз, і дыхалася мне прасторна і вольна.

Ці не хлопцы прыйшлі мяне сустракаць — Лёшка і Андрусь? Здаецца, што іх курткі заўважыў у шэрай імжэчы. Адкуль уведалі, што гэтым часам вяртаюся дадому?

Зірнуў на гадзіннік — поезд прыбываў на станцыю без спазнення — хвіліна ў хвіліну.

Дзень добры, Гомель!

***Піцунда, Дом творчасці, 1991 г.***





**Ганад ЧАРКАЗЯН**

# ЧАРГАВІ

* * *

Чыноўнік імчыць у раскошным аўто.
Ахоўнік дубінку ўздымае: «Ты хто?!»
Адказваю, сам зразумеўшы наўздзіў:
«Я той, хто ўсіх вас аплаціў».

* * *

Прысніўся сон — і збудзецца наяве.
Як часта так здараецца ў жыцці...
А цуд — інакшай быць праяве:
У сон з зямным цяжарам увайсці.

* * *

Клічу ў надзеі, працягваю рукі:
Сябра мой верны, пастой, не знікай,
Словам суцеш у хвіліну разлукі,
Каб не спалоніў мне сэрца адчай.

---

***Чарказян Ганад Бадрыевіч*** *нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсе Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность», «Цвет доброты», «Пространство и время», «Караваны гор», «Чаргаві», «Плач», «Дом дождя», «Тоска по дому», кнігі прозы «Шамдзін», «Камни печали», раман «Опередить смерть» і інш., кнігі для дзяцей «Пумпур у калясцы», «Казкі дзеда Ганада».*

* * *

Яны даўно за небасхілам вечнасці —
Купала, Багдановіч, Колас.
Нібыта крылы вольнасці і вернасці,
Іх вершы і сумлення голас.

* * *

Сцяжынка і ў дождж, і ў пагоду
Спыняецца ля агароджы.
Сягоння не твой дзень зыходу —
Пакуль ты звычайны прахожы.

* * *

Я чакаў чалавека, хоць сцюжа і вецер.
Ну, а ён піў віно і жадаў весяліцца.
А калі дзень схіліўся пад вечар,
Ён прыйшоў... пахмяліцца.

* * *

Як пра белага бычка, казка пра суседа.
З'елі разам трацячка. Скончана бяседа.
Саслабеў ты, захілеў ці знялі з пасады,
А сусед павесялеў — ён таму і рады.

* * *

Жанчына — прыгажосць, цяпло, каханне,
Мужчынскім сэрцам суцяшэнне.
Згадзіўся з першым свет дазвання.
З другім? — задача без рашэння.

* * *

У думках зноў стары валун.
Цяпер ён дзесьці на чужыне.
Я не трывожуся: ілгун
Не прападзе, нідзе не згіне.

* * *

Зямля становіцца радней, бліжэй,
Прыцягвае. А сэнс жыцця знікае.
На шалях розуму ацэняць — і вышэй
Цябе, пушынку, вечнасць пагукае.

* * *

Вершаплёт, як прыжыўся ў балоце-нізіне?
Лёд нарос, прыкарэў, быццам скура старая.

Ты забыў сэнс жыцця: чалавек — на вяршыні
Азарае свет Божы, хаця і згарае.

* * *

Старажытны Тураў. Шмат гасцей.
Сонца па-над Прыпяццю ірдзее.
Крыж каменны тут з зямлі расце,
Абуджаецца ў душы надзея.

* * *

Дзень кароткі пражыты, апеты,
Летуценні начы пачынаюць свой рух.
Мне трывожна за сябра-паэта...
Хоць самому крычы: ратавальны дай круг!

* * *

Возера святое Свіцязь
Пад аховай продкаў і дубровы.
Бачу: у грудзёх з сякерай віцязь...
Варвары прыходзілі па дровы.

* * *

Сонца жартуе, цені гартуе,
Кожны лісток на змярканні дрыжыць.
Ісціну ведай, помні святую:
Нам без святла і цяпла не пражыць.

* * *

Гарчэй падману — толькі слёзы здрады.
Руйнуецца да праху чалавек.
А мне даўно вядома гэта праўда:
Жыў — і згубіў сваю зямлю навек.

* * *

Цвітуць сады — асыплюцца пялёсткі.
Пасля разліву ў русла вернецца рака.
Патрэбна людзям існасць, а не лёсткі, —
Ці літасць ворага, ці сябрава рука.

* * *

Твар у падушку — слёзы параз.
Колькі ні плач, а не будзе спатолі.
Вось яно, гора, вось і адказ:
Адзін — ты не воін у полі.

* * *

Цярплівасць і вера трымаюць, як стрыжань,
Нас, грэшных, пасланых на гэту зямлю:
Каб прахам не стаў, не рассыпаўся, выжыў,
Уславіў свет Божы і ўсё, што люблю.

* * *

Не з металу чалавек — з жывое плоці,
З болю, з нерваў, а яшчэ з крыві.
За памылкі і сумненні плоцім.
Рэжа сэрца ржа, а ты — жыві!

* * *

Ёсць розум — вернасць аценіць.
Ды не чакайце апраўдання здрадзе.
Нягодніку дарую, так і быць,
Калі раней, чым я, памрэ папраўдзе.

* * *

Мне ў радасць словамі засеяць чысты ліст,
У добрай кнігі мудрасці вучыцца.
Жадаю ўсім, хто стомлены ці нігіліст,
Да сонечных сусвеццяў далучыцца.

* * *

Маці і бацька... У небе начным
Свецяць дзве яркія зорачкі сыну.
Жорсткі наш лёс — адлятаць па адным...
Хто згледзіць шлях мой, і дзе я спачыну?

* * *

Адыходжу. Позірк развітальны
На тваёй усмешцы застаецца.
Час мінае, замыкае тайны.
Ад чаго ж трывожней сэрца б’ецца?

* * *

Скакун найлепшы, як страла, імчыць.
Якая грацыя, палёт высокі!
Але нягоднік у сядле сядзіць,
Якога конь узносіць пад аблокі.

* * *

Я ведаю сваю загану:
Даверыцца, адкрыцца і згарэць.

Маўчанне — золата. Ратуе ад падману.
Не ў радасць з гэткай мудрасцю старэць.

* * *

Ты рыцар гонару. І рады
За праўду з гідрай страшнай біцца.
Людское подласці і здрады,
Аднак і рыцар сам баіцца.

* * *

Не люблю нягодніка, пагарджаю хлусам.
Перад срэбрам сівізны, горды, пакланюся.
Жыў я па законе, як вучылі продкі.
Дзе сябры? Дзе гоні? Шлях зямны кароткі.

* * *

Сапраўдны цуд і дасканаласць — матылёк.
Прырода ў час вышэйшага натхнення
Яго стварала. А цяпер здалёк
Ляціць ён на агонь самаспалення.

* * *

Жывём і марым аб прынцэсе, прынцы.
Вось з'явяцца — і перайначыцца наш лёс.
Пад зоркамі спакойна, валадарыць прынцып:
Ты тое атрымаў, што ў сэрцы сваім нёс.

* * *

Якім ён будзе, Страшны суд?
Я так стараўся жыць бязгрэшна.
Ад звону змеі гінуць тут.
А зло спраўляе баль няспешна.

* * *

Вера ў чалавека не цяжар,
А давер — магутная зарука.
Калі лёс агністы, — сэрца жар
Асвятляе дзецям шлях і ўнукам.

* * *

Ад гадоў пражытых боль у сэрцы,
Ломіць спіну. І стагнаць нягожа.
Ясных зорак бляск з вачэй не сцерці, —
Дык хвала Табе і дзякуй, Божа!

* * *

Пражыць свой век у барацьбе за праўду.
Гарыць агонь тваіх вялікіх перамог.
А да яго імкнуць — пагрэцца рады —
Хто пры жыцці цкаваў, цярпець цябе не мог.

* * *

Вось чалавек, што ганарыцца лёсам.
Ён пры пасадзе, ён вялікі чын.
Пазбаўце крэсла — застанецца з носам:
Хто быў усім, той стаў нічым.

* * *

Навошта зневажаць свінню,
Што па-свінячы рохкае і рые лычам?
Жывёліну за гэта не віню.
Ёсць свінні з чалавечым, брат, абліччам.

* * *

Інтэр'ер і водар кабінета
Пад і ад — гаспадара.
Хто больш значны з іх? Пра гэта
Не пытайце, не прыйшла пара.

* * *

Клопаты сябра — на сэрцы маім.
Дык легкадум я ці не?
Хто нясе груз, што пасланы двaім,
Лёсам адзначаны будзе ўдвайне.

* * *

Людзі на мяжы адчаю.
Колькі гора, катастроф і слёз...
Я любоў, як птушку, прыручаю —
І мяняю высакосны лёс.

* * *

У нябесным лазурку ніводнай хмурынкі.
Свеціць сонца. Спакойна і радасна мне.
Хто нябачнай рукою трывогі жарынкі
Сее ў свеце, а потым пажары пажне?

* * *

Дагарае зорачка эпохі.
Між людзей — нібы агнёў паміж.

Броўка — спеўны, Быкаў — строгі.
Барадуліну дальш несці крыж.

* * *

Беларусь, край слёз, нябёс, пакут,
Ты дазволь мне сынам называцца.
Калі дзень шчаслівым быў я тут, —
Ад цябе навек не адарвацца.

* * *

Кажуць мудрацы: быць мне ў трывозе
За жыццё, за лёс, палёт планет.
Чалавек! Валун ты пры дарозе.
А ў адказе хто за Божы свет?

* * *

Мана і здрада — зброя слабака.
А хочацца ўпадобіцца герою.
І ён у ход сваю пускае зброю,
І б'е без жалю подлая рука.

* * *

Каму суддзя хто — дык вядома Богу.
І вечар апускаецца раней, чым змрок.
Да вечнасці выводзяць на дарогу
Не ўзнагароды, а сумлення крок.

* * *

Назваў чалавека скацінай...
Даруйце, кароўка і конь,
Абразіў вас горкай хвілінай.
Пра тое не думае ён.

* * *

Шукаеш у кішэні нейкі цуд?
На лепшае надзея адляцела?
Не дакарай сябе, няма іх тут, —
Эпоха, як Сахара, апусцела.

* * *

Каго лёс падорыць, з тым і зазімую.
Памяць завіхурыла зіма.
Па жывых пакуль нікольні не сумую,
Мне баліць па тых, каго няма.

* * *

Мой дружа лепшы, прабачай.
Што ў свеце даражэй даверу?
Скупы, пяшчоту пазычай
І праганяй адчай за дзверы.

* * *

Пакорліва ў тваіх далонях астывае
Маё гарачае дыханне і цяпло.
Як моцна помніцца, чаго нам не хапае,
Як нам сумуецца па тым, што адышло.

* * *

Даражэюць ежа і адзежа.
Людзі ж іх купляюць — трэба жыць.
Птушка дробная ў халодны снежань,
У галодную зіму ляціць.

* * *

Сам-насам з сабою — з нас кожны арол.
На людзях — птах іншы, а трон — частакол.
Навошта арлам над цяснінай кружыць, —
На грэшнай зямлі ў кветках падаль ляжыць?

* * *

Дзялілі мірна крошкі голуб з вераб'ём,
Якія ім жанчына падсыпала.
Каб выжыць, трэба згода — гэтак мала!
Калі ж мы коршака ў сабе заб'ём?

* * *

«Дзе ты, мой чмелік? Я вяну, мне млосна», —
Юная ружа на ветры шаптала.
Ружы было ўдосталь сонечна, росна...
Дзумкання чмеліка ёй не хапала.

* * *

Пасля дажджу — у сонца новы круг,
Пасля зімы — рунь юная ў палях.
Я не люблю аднабаковы рух,
Ён мне нагадвае апошні шлях.

* * *

Пра што мы марылі, чаго жадалі —
Вятры задзьмулі ў глыб стагоддзяў.

Зноў аб каханні і свабодзе
Пяюць, як мы раней да іх спявалі.

* * *

Чайка кружыць з песняй над вадою.
Мірна дыхае марская роўнядзь.
Чайка, мы падобныя з табою.
Толькі хвалі розныя нас помняць.

* * *

Што плакаць? Лёс не перайначыш.
Расстраціў сілы, каб дастойна жыць.
Дзе бераг твой? Што сам ты значыш?
Скрозь дождж вяршыня горная імжыць.

* * *

Трывога ў сэрцы. Мусіць, час, пара...
Сваё прайшоў, адпрацаваў, пражыў.
Чакае ў дымцы сонечнай гара.
Змяніўся свет, якім ты даражыў.

* * *

Недзе спазніўся, нябога.
Некуды ўжо не паспееш.
Кожнаму — свой лёс ад Бога.
Дзякуеш — і разумнееш.

* * *

Знасіліся дарогі і масты.
Мы пракладалі іх, душу ўкладалі.
Працяг жыцця... Якія далі!
Нашчадкі нас ацэняць, а не ты.

* * *

Радок за радком — і старонка жыцця
Шчаслівага або пустога.
Дзень скончыўся, ноч забыцця...
Як шмат было ў ім дарагога!

* * *

Лісце, пялёсткі, плады, лістабой.
Год на зыходзе, пражыты табой.
Хтось з вышыні, недасяжны, глядзіць,
Як па рахунках ты будзеш плаціць.

* * *

Зноў дом стары пафарбаваў,
Зноў дрэва пасадзіў...
А мудры лёс патрабаваў,
Каб сына нарадзіў.

* * *

Патанаю ў сіняй глыбіні,
У вачах-азёрах.
Не ратуй мяне і не віні —
Выплыву на зорах.

* * *

Захварэць на адзіноту — гора.
Не знайшлі ад адзіноты лекі
Авіцэна, рымляне і грэкі.
Выжывеш — пра моцны дух гавораць.

* * *

Мёртвы — не мёртвы, жывы — не жывы.
Кажаш, зямное бяссмерце?
Вось далай-лама з бяссмерцем на «вы»,
Верце не верце...

* * *

Кружыць Зямля вакол Сонца здаля.
Плацяць адны, а балююць — другія.
Лёсу сумленна акрэсліў кругі я:
Шчасце — пражыць са свайго мазаля.

* * *

У добры час араў і сеяў,
Касіў пагодай сенажаць,
Шчаслівец ніву будзе жаць.
А хтось на вецер лёс развеяў.

* * *

Дамы ў тумане, быццам караблі.
Дай ветразі — яны б і паплылі.
У караблёў адвечнае прызванне:
З бяздоння — нашых душ выратаванне.

* * *

Нас гартуе спакон веку права,
Робіць двухаблічнымі, двухжыльнымі.

Асцярожна, чалавек, — дзяржава!
Грамадзяне, будзьце пільнымі!

* * *

Божы свет прыгожы і бязмежны.
Ноч цямней — ярчэй ірдзеюць зоры.
Людзі, мы пясчынкі толькі ў моры...
Цар прыроды, да чаго ты смешны!

* * *

Працавітаму — павага і багацце, —
Навучаў людзей закону колісь Бог.
Непарадак, браце, сёння ў нашай хаце:
Гаспадар бяспраўны, жулік перамог.

* * *

А каханне не бывае
Старадаўнім ці сучасным.
Хто кахае, пэўна знае:
Ці ўзаемным, ці няшчасным.

* * *

Наіўным зробіць чалавека дабрыня,
Але затое і падорыць крылы,
Каб жыць, тварыць хапіла ўдосталь сілы —
І будзе Божы свет яму радня.

* * *

Беларусь — горды край на зямлі,
За тваю чысціню і свабоду
Колькі продкі крыві пралілі...
Хай пануюць любоў тут і згода!

* * *

Ён лёсу свайго гаспадар,
І крок яго ўпэўнены, цвёрды.
Адкрыты, прыветлівы твар.
За сябра я рады і горды.

* * *

Сэрцам чуць небяспеку,
Нервы душы агаліць...
Добраму чалавеку
І зубрава рана баліць.

* * *

Адкуль удушлівы туман?
Усё вышэй слупочак ртутны.
Хлусня, крывота і падман
Навіслі, быццам смог атрутны.

* * *

У багатай кватэры сабака
Плача ноч напралёт, небарака.
Не пашчасціла... У казіно
Гаспадар зарабляе *майно*.

* * *

Узводзім катэджы. Платы і драты.
Наш вектар на вечнасць — не збочце.
Ніяк не пазбавіць людзей слепаты...
Славуты мудрэц жыў у бочцы.

* * *

Сяброў у ворагаў ператварае зайздрасць.
Ёй пакалечана грамадства палавіна.
Каб прыгажэй, ярчэй была жыцця карціна,
Хай поспех бліжняга нам стане ўсім у радасць.

* * *

Двух узростаў падабенства —
Старасць і маленства.
Тая ж слабасць і залежнасць —
Пэўна, непазбежнасць.

* * *

Кожны па-свойму дзівак,
Вызначыў так Задыяк:
Хтосьці планету ратуе,
Смелы — заўжды пратэстуе.

* * *

Зацвітае куст агністы руж,
Чырванеюць гордыя вяргіні.
Любіш кветкі — не зрывай, не руш:
Прыгажосць без кораня загіне.

* * *

Ці ёсць жыццё па смерці? Які там дабрабыт?
Ніхто аб тым не сведчыць, як зазірне ў нябыт.
«Той свет, як наскі, браце!» — даволі толькі ўсклікнуць —
Зямныя ўсе багацці з планеты ўмомант знікнуць.

* * *

Мільён пытанняў у мяне,
Ні на адно адказу.
А два ўсяго — «так» або «не»
Мне ведаць бы адразу.

* * *

А шлях зямны пад сілу скалалазу:
Жыццё пражыць — не поле перайсці.
Вяршыні пакараем час ад часу,
І трэба ўмець прыгожа з іх сысці.

* * *

Услаўце рукі майстра, творцы,
Найдасканалы інструмент,
Іх талент — лепшы аргумент.
Але ж ёсць рукі і забойцы...

* * *

А вожык строгі і калючы.
Ваўкі разумна разважаюць
Не звязвацца з малым рашучым...
Баяцца, значыць, паважаюць.

* * *

Пастаўце чалавецтву помнік
На ростанях «між пеклам — раем».
Касмічны здзівіцца паломнік,
Як ад жарсцей мы тут згараем.

* * *

Лета бабіна — сінь тваіх вачэй.
Кветкі познія саладзей, ярчэй.
П'юць чмялі нектар, твайго лета дар.
А зіма дыхне снегам нам у твар.

* * *

Гасподзь адзіны на ўсе радзіны,
На ўсе народы, на ўсе дзяржавы.
Найміласэрны, у промнях славы,
Зямлю ратуе Гасподзь адзіны.

***Пераклад з курдскай Алы Канапелькі.***







Алесь БАДАК

# ТЭОРЫЯ ВІНАВАТАСЦІ

***Апавяданне***

Ён заходзіў сюды па некалькі разоў на тыдзень. Зрэдку ў абед, а часцей па дарозе з працы, і заказваў бакал чырвонага віна, звычайна іспанскага, «Don Garcia» альбо «Baron Simon». Ён заўсёды з'яўляўся тут адзін, ведаючы, што смак віна лепш праяўляецца ў цішыні. Як і тое, што смак віна ў многім залежыць ад таго, хто яго налівае. Таму ён прыходзіў абавязкова ў Таццяніну змену, выбіраў незаняты столік, і праз хвіліну-другую Таццяна сама, хоць гэта і не было прадугледжана правіламі абслугоўвання бістро «Вясна», прыносіла яму бакал і адкаркаваную пляшку, моўчкі, але з прыемнай усмешкай напаўняла бакал.

Ён сачыў за яе рухамі, і пакуль яна ішла — да яго ці назад за стойку, — таксама не адпускаў яе позіркам, але не тым, пра які гавораць, што ён можа распрануць любую жанчыну, а тым, які праходзіць чалавека наскрозь і бачыць, што адбываецца ў таго за спіной.

Ён не хацеў, каб яна думала, што ён прыходзіць сюды з-за яе, гэта было б не зусім праўдай. Ён прыходзіў да сваіх успамінаў, у якіх не было яе, але была вельмі да яе падобная дзяўчынка Наташа, яго аднакласніца і яго першае каханне. Тое, што даўно забылася, тут раптам ажывала, напаўняла залу даўнімі гукамі, ператвараючы яе то ў які школьны кабінет, то ў домік піянерскага лагера...

Неяк, задумаўшыся, доўга трымаючы ў руцэ бакал з віном, ён раптам адчуў, што рука пачынае гэтак жа стамляцца, як там, на ўзлеску, куды іх, васьмікласнікаў, з усяго раёна прывезлі для ўдзелу ў традыцыйных спартыўных гульнях «Зарніца»; а як толькі ўсе выстраіліся ў адну шарэнгу, заімжэў дробны дождж, і Наташа раскрыла парасон і какетліва спытала:

---

*__Бадак Алесь (Аляксандр Мікалаевіч)__ нарадзіўся ў 1966 годзе ў в. Туркі Ляхавіцкага раёна.*

*Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1990). Працаваў у Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў, у рэдакцыях часопісаў «Бярозка» і «Полымя». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Будзень», «За ценем самотнага сонца», «Маланкавы посах», кніг для дзяцей «Верабей з рагаткай», «Маленькі чалавек у вялікім свеце», «Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў» і інш.*

«Ты не хочаш яго патрымаць?» І ён трымаў, ледзь датыкаючыся рукой да яе пляча, і яму вельмі хацелася пакласці руку, якая, да таго ж, стала ўжо дзеравянець, на плячо, але ён так і не зрабіў гэтага. Іншым разам, калі Таццяна стаяла каля яго століка і налівала віно ў бакал, ён раптам успомніў Наташу ў белай блузцы, у якой яна была ў піянерскім лагеры, куды іх прывезлі на пачатку лета рыхтаваць лагер да адкрыцця новага сезона. Ён упершыню бачыў яе не ў школьнай форме, якая, нібы заспакаяльныя лекі, дзейнічала на юныя хлапечыя арганізмы. І гэта была не звычайная блузка, а злёгку празрыстая, і хоць яму пад ёй адкрылася толькі тое, што дзяўчаткі звычайна пачынаюць насіць у сярэдніх класах, ён раптам адчуў, як становіцца цяжка дыхаць.

Вядома, яго памяць не кожны раз была такой шчодрай, але ён умеў задавальненне ад каротакай шчодрасці расцягваць на доўгі час.

Па дарозе ён заўсёды купляў свежую газету, усё роўна якую, і тут, у бістро, маленькімі глыткамі адпіваючы з бакала віно, чытаў усё без разбору, а нярэдка проста бяздумна глядзеў на літары, што, нібы частаколам, адгароджвалі ад яго навакольны свет, і калі сёння праз гэтую агароджу прарваўся гучны голас, што громам прагучаў над ім, ён уздрыгнуў ад нечаканасці і рэзка ўскінуў галаву.

— Што пішуць?

Гэта быў Валодзя Ткачук, радыёжурналіст, голас якога амаль штодня можна пачуць, настроіўшы свой прыёмнік на адну са сталічных FM-станцый.

— Здароў, Вадзім! Даўно цябе не бачыў.

Ён сеў побач, заняўшы месца справа ад яго, і пашукаў вачыма Таццяну.

— Графінчык каньяку, дзве шакаладкі і дзве порцыі чаго-небудзь мяснога, — нібы перад мікрафонам, паніжаным голасам, напружыўшы звязкі, сказаў ён, калі яна падышла.

Міжволі Вадзім пашкадаваў яго: звярнуць чыю-небудзь увагу на тое, што ён гэта ён, радыйная знакамітасць, Валодзя мог толькі сваім голасам, які, на яго няшчасце, быў высакаватым (на радыё больш за ўсё цэняцца барытоны), і ўвогуле, не такім ужо і прыемным.

— У нас каньяк толькі «Gloria», — папярэдзіла Таццяна.

Валодзя хітнуў галавой:

— Не праблема.

— Я збіраўся сыходзіць, — сказаў Вадзім, хоць яшчэ хвіліну таму гэта была б няпраўда.

— Пабудзь, — у Валодзевым голасе пачулася просьба, сутнасць якой раскрылася толькі тады, калі на століку з'явіўся каньяк, кілішкі, шакалад і мясныя салаты. — Я пазаўчора цешчу пахаваў.

Гэта была адна з тых фраз, якія на большасць з нас дзейнічаюць безадказна. Гэта нібы амаль тое ж, што дапамагчы чалавеку з пахаваннем. Калі Валодзя наліваў кілішкі, графін з каньяком нагадваў пясочны гадзіннік, з якога выцякае час, і калі ім заставалася сядзець у бістро прыкладна палову графіна, Вадзім ужо ведаў пра цешчыну хваробу, пра яе пахаванне столькі, колькі ў падобнай сітуацыі мог успрымаць ягоны мозг, пакуль, перагружаны непатрэбнай яму інфармацыяй, не пераключыўся на газетную паласу.

— Што чытаеш?

— Аказваецца, апраўданы вадзіцель тралейбуса, таго самага, які токам ударыў дзяўчыну, калі яна заходзіла ў салон, — адказаў Вадзім, не адрываючы вачэй ад газеты.

— Вадзіцель апраўданы, тралейбус, як і раней, выходзіць на лінію. Калі б ты слухаў мае перадачы, то ведаў бы пра гэта яшчэ ўчора.

— А ты не сказаў учора, што ўсё ж было б справядліва хоць як пакараць таго вадзіцеля, а заадно і яго начальства?

— За што? — здзівіўся Ткачук.

— Чалавека ледзь не забіла, а ты пытаеш: за што?

— Калі разважаць прымітыўна, ты недзе маеш рацыю, а ўвогуле, твае прэтэнзіі — банальнае праяўленне агульначалавечай слабасці, якая заключаецца ў жаданні перакласці адказнасць на іншых. Школьнікам чалавек ускладае адказнасць за свае веды на зусім чужых яму людзей, настаўнікаў. Яшчэ здаровым ён ведае, што, калі захварэе, то звернецца да доктара, на якога ўскладзе ўсю адказнасць за сваё здароўе. Ён пакорліва падпарадкоўваецца яму, ведаючы, як часта ставяцца няправільныя дыягназы, а галоўнае, не задумваючыся, што кожны доктар, у лепшым выпадку, толькі ўзнаўляе ранейшыя функцыі арганізма, але не робіць нас здаравейшымі, чым мы былі да хваробы. А што, па-твойму, жаніцьба, як не жаданне ўскласці адказнасць за сябе на іншага чалавека? Галоўнае, што напачатку аб'ядноўвае ўсе сямейныя пары, гэта імкненне ўскласці на мужа ці жонку адказнасць за рэгулярнае палавое задавальненне. А далей ужо залежыць ад характару.

— А як жа каханне? — крыва пасміхнуўся Вадзім.

— Самі па сабе каханне і жаніцьба — рэчы дастаткова розныя і могуць абыходзіцца адно без аднаго.

Ён паглядзеў у акно.

— Мы пераклалі частку адказнасці за сябе на звычайную жалязяку пад назвай светлафор, не задумваючыся, што без яго аварый у свеце было б значна менш... Карацей, адваротны бок евангельскага «ўзлюбі бліжняга свайго, як самога сябе», не што іншае, як праява эгаізму.

— А ты не падумаў пра тое, што, калі б не светлафоры, на дарогах пачалася б анархія.

— Анархія, — нечакана пагадзіўся Валодзя. — А чаму? Таму што кожны па звычцы частку адказнасці за сябе перакладзе на іншага, спадзеючыся, што іншы вадзіцель саступіць яму дарогу, а пешаход не стане кідацца праз дарогу перад яго носам. Хоць тэарэтычна, чым большая небяспека, тым большая ў чалавека павінна быць адказнасць. На практыцы ж атрымліваецца наадварот. Значыць, кожная дарожная ахвяра павінна вінаваціць, у першую чаргу, сябе.

— Але ў чым віна той дзяўчыны, якую тралейбус ледзь не забіў токам?!.

— Калі ты не хочаш, каб у цябе трапіла маланка, падчас навальніцы адключы хоць бы свой мабільнік. Яна магла і не ведаць, што кожны год у Беларусі ў аўтамабільных аварыях гіне больш за тысячу чалавек, аднак не цяжка здагадацца, што транспарт — прычына бяспекі на дарогах, а ў тралейбусы, да таго ж, падаецца ток, што само па сабе павінна перасцерагаць.

— Але мноства людзей да яе ў той жа дзень заходзілі ў гэты злашчасны тралейбус — і нічога з імі не здаралася.

— Тысяча людзей штодня пераходзіць дарогу ў адным і тым жа месцы, а тысяча першага машына калечыць альбо забівае. Сто чалавек па тонкім лёдзе пяройдзе рэчку, а сто першы праваліцца пад яго і патоне. Кожны выбірае сам, чым для яго з'яўляецца жыццё: латарэяй ці гульнёй у шахматы, дзе самыя важныя фігуры — ты і твая смерць. Гульня, сэнс якой

для цябе — не выйграць партыю, а толькі адцягнуць паражэнне, уменне зрабіць як мага больш хадоў... Даражэнькая, можна цябе? — паклікаў ён Таццяну і заказаў яшчэ па пяцьдзесят грам каньяку. Праводзячы яе позіркам за стойку, Валодзя сказаў: — Вось паглядзі на гэтую дзяўчыну. У яе ёсць усё ці, прынамсі, амаль ўсё, каб здымацца ў кіно, весці якую-небудзь забаўляльную тэлеперадачу ці спяваць на эстрадзе. Але яна працуе барменам у звычайным бістро, мае далёка не самую вялікую зарплату. А калі, да таго ж, недачэпа — з ёю вельмі строга паводзіць сябе бос, які ў іншым жыцці, дзе яна была б артысткай ці фотамадэллю, каб дамагчыся яе прыхільнасці, не пашкадаваў бы ніякіх грошай. Хіба не яе віна, што яна тут, а не там, у іншым жыцці?

— Ты хочаш падагнаць шчасце пад агульны стандарт, але гэта тое ж самае, што зрабіць універсальны ключ, які б адчыняў усе дзверы. Магчыма, у яе жыцці мала радасці, але чаму ты ўпэўнены, што сваё сапраўднае шчасце яна можа знайсці на грахоўнай сцэне, а не ў святым манастыры?

— Не скажы!

Пракіслая, нібы тыдзень таму купленае малако, усмешка з’явілася на Валодзевых вуснах, і ён нечакана заявіў:

— А мы гэта можам праверыць!

Вадзім насцярожыўся. Ён не хацеў, каб Таццяна падумала, што яны ўдзельнічаюць у гэтым спектаклі ўдвух, і, калі яна падышла да іх століка, уставіўся ў акно.

— Скажыце, можна заказаць на вечар вашу залу?

— Можна.

Яна сказала, колькі гэта прыкладна будзе каштаваць, ці можна самому заказчыку скласці меню. Перадаплата? Пяцьдзесят працэнтаў. Не, заявак на гэты месяц пакуль не было: лета, усе ўцякаюць з Мінска — хто на курорт, хто на дачу. А ўвогуле, лепш пагаварыць з дырэктарам. Праўда, сёння яго ўжо не будзе.

— Ваш голас варты іншага прымянення.

— Што?

— У вас незвычайны, рэдкі тэмбр голасу. Вам ніхто не казаў пра гэта?

Яна паціснула плячыма і насцярожана ўсміхнулася краем вуснаў: калі гэта была спроба заляцання, то даволі дзіўная, нават для добра падвыпіўшага наведвальніка.

— Ён у вас радыйны, разумееце?

Яна не разумела.

— Я працую на радыё. Вы, напэўна, не слухаеце маё шоу? Ну, не важна. Хоць тады мне і складаней будзе пераканаць вас у тым, што... Разумееце, я рыхтую новы праект, і мне патрэбна партнёрша з голасам, які б прымусіў таго, хто ўтаропіцца вачыма ў радыёпрыёмнік, думаць, што ён глядзіць тэлевізар.

Гэта было ў яго характары: не грэбаваць ніякімі метадамі, каб дамагчыся свайго. Яны разам заканчвалі журфак, і Валодзя быў ідэальным прыкладам таго, што калі ў юнацтве ў чалавеку благога больш, чым добрага, то і ў сорак ён не стане анёлам.

Таццяна па-ранейшаму адказвала дзяжурнай усмешкай, але цяпер на яе вуснах з’явілася зацікаўленасць, першая прыкмета таго, што ў банальную бязглуздзіцу пачынаюць верыць.

Краем вока Вадзім убачыў маладую пару, якая зайшла ў залу, і ў яго пасвятлела на душы. Насцярожанасць, з якой хлопец падсунуў да сябе

меню, выдавала ў ім чалавека, у якога сёння ў кішэнях прасторна, хоць танцуй. Вадзім у думках асудзіў яго: зрабіць ураджанне на сваю спадарожніцу можна нават нікчэмнай сумай, калі правільна яе патраціць. Лепш купіць самае дарагое марожанае ў магазіне, што прапануе вам яго не менш, чым дзесяць найменняў, якія адчувальна адрозніваюцца адно ад аднаго коштам, чым заказаць у бістро звычайную катлету і, шукаючы вачыма вольны столік, чуць, як у цябе за спіной нехта заказвае кальмары фры альбо цялячую печань з вінаградам. Але зараз Вадзіму вельмі трэба было, каб гэты хлапчук заказаў хоць што-небудзь, ён сам з радасцю заплаціў бы і за яго, і за прыціхлую кірпатую дзяўчыну, хутчэй за ўсё, студэнтку першага ці другога курса, з твару якой яшчэ не сцерлася мілая правінцыйнасць. Хлопец нібы пачуў яго просьбу і пасля кароткай размовы са сваёй спадарожніцай стаў круціць галавою, шукаючы таго, каму можна зрабіць заказ.

Пік асалоды ад кавы па-венску, ды яшчэ прыгатаванай Таццянай, наступіць адразу пасля таго, як кава будзе дапіта, але маладая парачка наўрад ці яго адчуе, падумаў Вадзім. Пах блінцоў з грыбамі не дасць дзівоснаму водару гэтага напою ўзняцца над кубачкам, а без яго кава не вартая і паловы таго кошту, які за яе патрабуюць.

Вадзім паглядзеў на Таццяну, якая, стоячы да іх спіной, папраўляла на паліцах пляшкі з дарагімі вінамі і, здаецца, не збіралася вяртацца да іхняга століка, і яму раптам захацелася што-небудзь заказаць для маладой пары, каб кампенсаваць розніцу ў кошце паміж кавай па-венску і звычайнай кавай, у якую тая ператварылася побач з блінчыкамі з грыбамі. Але тут ён пачуў голас, які цяпер менш за ўсё хацеў бы пачуць.

— Стары, усё ідзе па плану! — напаўшэптам задаволена сказаў Валодзя. — Сачы за мной і вучыся!

Ён устаў з-за століка і, з цяжкасцю перастаўляючы непаслухмяныя ногі, накіраваўся да стойкі.

Таццяна адчула спіной яго набліжэнне і, павярнуўшыся да Валодзі тварам, паслала насустрач дзяжурную ўсмешку. Але на краёчках яе вуснаў зноў з'явілася зацікаўленасць...

Вадзім падумаў, што самае лепшае зараз — гэта ўстаць, спаслацца на тэрміновую справу і сысці. Аднак ён застаўся на месцы, стрымліваючы злосць.

Нарэшце, хвілін праз дзесяць, Валодзя вярнуўся.

— Зараз яна патэлефануе нейкай Жанне, і калі тая пагодзіцца падмяніць яе, мы едзем да мяне на праслухоўванне.

— На што-о-о?

— Дарэчы, я сказаў, што ты пішаш музыку. Разумееш, паэты ў прадстаўнікоў гэтага пакалення ўжо не каціруюцца. На вечарыне паслухаць, аўтограф узяць — калі ласка. А на большае... Прабач, канечне.

— А як жа твая жонка?

— Што — жонка? А-а, яна вернецца паслязаўтра.

На гэты раз прыступ злосці быў такі моцны, што Вадзім ледзь утрымаўся, каб не ўскочыць і не схапіць Валодзю за грудзі.

Таццяну маглі замяніць толькі праз паўгадзіны. Была палавіна на восьмую.

— У дваццаць ноль ноль за гэтым акном будзе стаяць таксі, якое, магчыма, назаўсёды адвязе вас, даражэнькая, у свет, які зусім не падобны на той, у якім вы жылі раней, — сказаў Валодзя.

Вадзім устаў.

— Ты куды? Прыспічыла?

Вадзім кіўнуў.

— А вось я магу выпіць два літры піва, і...

Вадзім выйшаў на вуліцу. Больш за ўсё яму цяпер не хацелася ехаць дадому.

Заняты сваімі думкамі, якія, змяняючы адна адну, з'яўляліся і знікалі з яго памяці амаль адначасова, ён прайшоў па праспекце тры кварталы, звярнуў направа, на вуліцу з аднабаковым рухам, на чарговым скрыжаванні яшчэ раз звярнуў направа і ў восем вечара зноў апынуўся каля бістро «Вясна».

— А мы думалі, ты кінуў нас і паехаў дадому, — расчаравана сказаў Валодзя.

Каля броўкі стаяла жоўтае таксі.

— Ну што, паехалі?

Валодзя жыў у двухпакаёвай кватэры ў адным з прэстыжных раёнаў горада.

— Паслухай, — сказаў Валодзя, калі яны ўдвух з Вадзімам выйшлі на балкон пакурыць, — па-мойму, я ўжо даказаў табе, што ў сённяшняй нашай спрэчцы я перамог. А дабыча, як вядома, заўсёды дастаецца пераможцу. Лады?

Калі яны вярнуліся ў залу, Таццяна сядзела на канапе перад раскладным абедзенным столікам, сервіроўка якога ўказвала на дастатак у гэтай кватэры. Вадзім сеў побач з ёй, а Валодзю давялося падкаціць да століка крэсла.

— Я думаю, віно павінен разліваць прафесіянал, — Валодзя кінуў на Таццяну выразны позірк.

— Любая праца, не звязаная з непасрэдным выкананнем прафесійных абавязкаў, забівае ў жанчыне жанчыну, — сказаў Вадзім і сам разліў віно па бакалах. — За што вып'ем?

— За знаёмства, — прапанаваў Валодзя.

— Ну, мы з Таццянай знаёмыя роўна сем месяцаў. А гэта... гэта сустрэч дваццаць, не менш.

— І кожная сустрэча адбывалася ў не самым горшым бістро горада, — засмяялася Таццяна. — Як рамантычна!

Яе словы і смех акрылілі яго. Ён не хацеў быць пераможаным; не таму, што зачапілі яго мужчынскае самалюбства. Пад пагрозай разбурэння апынуўся свет, які ён на працягу апошніх сямі месяцаў будаваў не толькі са сваіх успамінаў пра першае каханне, але і з фантазій, уяўных працягаў даўніх гісторый.

— Але ты, Танечка, магчыма, і не ведаеш, што перад табой сапраўдны паэт... Так сказаць, апошні з магікан, — сказаў Валодзя.

У яе вачах з'явілася цікаўнасць.

— Чаму апошні з магікан?

— Таму што гэтая прафесія вымірае з-за сваёй незапатрабаванасці.

— Ну чаму, я...

— А вось ты спытай у нашага паэта, якім тыражом выйшаў яго апошні зборнік?

— Якім? — Таццяна зірнула на Вадзіма.

— Пяцьсот экземпляраў, — задаволена адказаў Ткачук. — З іх палова яшчэ доўга будзе пыліцца ў кнігарнях. Хоць паэт ён прафесійны, член, як яны сябе называюць, Саюза пісьменнікаў.

— Я аднаго свайго чытача не прамяняю і на тысячу тваіх слухачоў.

— Дзіва што, кожны з іх у цябе, як вялікая рэдкасць, на вагу золата.

Іх слоўная баталія станавілася ўсё больш жорсткай, але ні Вадзім, ні Валодзя не хацелі, каб Таццяна была сведкай іх сваркі.

Напружана ўсміхаючыся, мужчыны выйшлі на кухню.

— Можа, хопіць вылузвацца?

— Ды пайшоў ты!

— Сам пайшоў. Паказаць, дзе дзверы?

— Калі і пайду, дык не адзін...

Ва ўяўленні пераважнай большасці людзей, а большасць, як вядома, памыляецца досыць рэдка, прадстаўнікі творчых прафесій, і сярод іх найперш пісьменнікі, біцца не ўмеюць, звычайна імкнуцца пазбягаць боек, а калі гэта немагчыма, рэдка выходзяць з іх пераможцамі. Існуе нават тэорыя, выведзеная ці то псіхолагамі, ці то медыкамі, згодна з якой, чым больш рука трымае аўтаручку ці аловак, тым горш яна пасля сціскаецца ў кулак, а ўдар, адпаведна, атрымліваецца слабейшы (калі гэта праўда, то трэба спадзявацца, што масавая замена пісьменнікамі ў апошнія гады аўтаручак на камп’ютэры неўзабаве вырашыць гэтую праблему).

Як бы там ні было, але Вадзім таксама не ўмеў біцца. Ён наогул не ўяўляў, што калі-небудзь у яго жыцці дойдзе да бойкі. За тыя долі секунды, пакуль Валодзя размахнуўся і накіраваў проста ў яго твар свой кулак, Вадзім яшчэ паспеў падумаць, што вось і яму трэба прайсці *праз гэта*, але не спалохаўся, што, відавочна, яго і ўратавала. Ён паспеў ухіліцца ад удару і ў той жа момант аберуч схапіў Валодзю за горла з усіх сіл, з палёгкай адчуваючы, што злосць, якая перапаўняла яго, гатовая разарваць на часткі, нарэшце знайшла выйсце.

— Пусці! — хрыпеў Валодзя, ужо лежачы на падлозе. — Вар’ят! Задушыш!

— У мяне ёсць акалічнасці, які змякчаюць маю віну, паколькі кожны ва ўсім, што з ім ні здарыцца, у першую чаргу, павінен вінаваціць сябе. Гэта твая тэорыя, ці не так?!

Ён сціскаў яго горла ўсё мацней, шукаючы пальцамі супраціўленне ім, але ўжо не знаходзіў, і толькі немы крык за спіной прымусіў Вадзіма ўздрыгнуць і абмякнуць усім целам, як ад моцнага ўдару.

Падняўшыся з калень, ён паглядзеў на Таццяну і нібы не пазнаў яе. Перад ім стаяла спалоханая жанчына гадоў трыццаці, якая адносілася да таго тыпу жанчын, што прыцягваюць не прыгажосцю, а ярка выражанай сексапільнасцю, ад якой мужчыны вар’яцеюць куды больш, чым ад халоднай, непрыступнай пекнаты. Аднак за гэтую звышпрыцягальнасць нярэдка даводзіцца расплачвацца раннім завяданнем. І на яе твары ўжо адчувалася ледзь улоўнае дыханне восені скрозь жар спякотнага лета. Вадзім глядзеў на яе твар і бачыў, як з яго сыходзіць, нібы сцякае ў раннія маршчынкі над верхняй губой, падабенства з той, каго ён заўсёды ўяўляў сабе, гледзячы на яе. І ён толькі цяпер, упершыню, падумаў, што ў той, *іншай*, яго аднакласніцы, якой ужо даўно не трыццаць, амаль сорак, і якую ён ні разу не бачыў пасля выпускнога, напэўна, на твары гэтых здрадніцкіх прыкмет завядання яшчэ больш, ён, магчыма, нават адразу ўжо і не пазнаў бы яе.

Усё гэта пранеслася ў яго галаве з неверагоднай хуткасцю, як смерч, разбураючы рэшткі таго прыгожага свету, які ён з такой любасцю пабудаваў у сваім уяўленні. І раптам замест шкадавання ён адчуў у сабе палёгку:

палёгку ад таго, што ўсё скончылася. Не важна, што *так*. У гэтым нават былі свае плюсы. Цяпер у яго не было ні шансаў, ні жадання пачынаць усё спачатку, нанава адбудоўваючы той свой уяўны свет. Ён быў бы іншым, быў вартай жалю копіяй таго, першага, сапраўднага свету. А гэта павінна было некалі скончыцца. Сем месяцаў фантазій абясплодзілі ягонае ўяўленне, а ўспаміны дзяцінства сталі паўтарацца, не выманьваючы з глыбіняў памяці нічога новага, з-за чаго страцілі сваю свежасць і прыцягальнасць, як старое кіно на DVD-дыску, які мы па некалькі разоў на тыдзень загружаем у відэапрайгравальнік. Ён разумеў, што, як у добрым рамане ці апавяданні, у яго гісторыі з частым наведваннем бістро «Вясна» павінна быць нейкае развіццё, як разумеў і тое, што яно можа быць звязана толькі з ёй, Таццянай, з іхнімі адносінамі. Вадзім не хацеў гэтага не таму, што баяўся здрадзіць сваёй жонцы, а таму, што гэта была б ужо іншая, і самая банальная, гісторыя, у якой Таццяна таксама была б толькі копіяй той мілай дзяўчынкі-школьніцы з яго далёкага дзяцінства. І скарыстацца ёй — тое ж самае, што павесіць дома копію славутай карціны і хацець атрымліваць ад яе задавальненне: нават атрымліваючы яго, усё роўна кожны раз будзеш адчуваць яе штучнасць.

«Ва ўсім, што ні здараецца, трэба, у першую чаргу, вінаваціць самога сябе», — падумаў ён, і яму чамусьці ад гэтага стала нават весела і лёгка. Ён падміргнуў Таццяне, з твару якой яшчэ не сышлі страх і разгубленасць, і спакойна, як чалавек, што выканаў цяжкую, але важную работу, накіраваўся да выхаду.







Іван СТАДОЛЬНІК

# АПАВЯДАННІ

## Іконка

У мяне ёсць кот — чорны, як вугаль, толькі вочы, бы свечкі, гарадь. Малады, і вялікі свавольнік. Што дзе ні пакладу, абавязкова скіне, а то можа нават дастаць лапай са стэлажа кнігу і заштурхнуць куды-небудзь у цяжкадаступнае месца. І толькі адну рэч за два з гакам гады ніколі не зачапіў.

У маім пакоі на падаконніку стаіць маленькая іконка Божай Маці — падарунак маёй нябожчыцы мамы, якую яна даўным-даўно купіла ў царкве. У час душэўнай скрухі ці нейкіх жыццёвых непаладак я станаўлюся на калені перад іконкай, хрышчуся, моўлю некалькі слоў пацераў, якія захавала памяць яшчэ з дзяцінства, прашу ў Божай Маці дапамогі, і заўсёды ў маім жыцці робіцца нешта лепшае.

Дык вось гэтую іконку, як я ўжо напомніў, кот ні разу не скінуў. Варта мне пакласці на падаконнік гадзіннік, запалкі ці пачак папярос, як яны неўзабаве апынуцца на падлозе, а потым яшчэ недзе пад шафай ці канапай. Чамусьці кот асабліва не любіць, калі на падаконніку ляжыць пачак цыгарэт ці папярос. Мусіць, і сапраўды, гэта д'ябальскае зелле. Я некалькі разоў спецыяльна клаў што-небудзь на падаконнік, як ката не было ў пакоі. І калі кот з'яўляўся, то хутка заўважаў нелады на падаконніку і скідаў усё, што там было, вядома, апроч іконкі.

Мне здаецца, што іконка яму спрыяе. Леташняй вясной кот сядзеў на фортцы ў кухні, што вельмі часта любіць рабіць. І калі жонка адчыніла дзверы ў тамбур, каб вынесці смецце, ката скразняком выкінула, лічы, выстраліла з дзевятага паверха. Жонка ўся здранцвела. Бо ўжо не было снегу і кот мог калі не забіцца, дык пакалечыцца. Калі спусцілася ўніз, выйшла паглядзець: кот ляжаў пад сцяной дома, на асфальтавым бардзюры.

— Усё! Забіўся! — ціха ўскрыкнула жонка.

---

*Стадольнік Іван Канстанцінавіч нарадзіўся ў 1941 г. у вёсцы Янкі Докшыцкага раёна на Віцебшчыне. У 1959 г. скончыў Докшыцкую СШ. Працаваў на асваенні цаліны ў Казахстане, потым скончыў Полацкае медвучылішча, працаваў у Мосарскай сельскай бальніцы Глыбоцкага раёна, вучыўся завочна на факультэце журналістыкі БДУ. З 1967 г. працаваў у рэспубліканскім друку. Сябра СП Беларусі з 1980 г.*

*Аўтар зборнікаў апавяданняў «Хачу табе шчасця», сатыры і гумару «Як тут не смяяцца», «Лістапад на пачатку лета».*

І тут коцік падняў галоўку і кінуўся ёй насустрач. Жывы і здаровы, нібы нічога і не здарылася.

Цяпер я ніколі нічога не кладу на падаконнік, мусіць, тут святое месца.

## Пячатка

Да канца дваццатага стагоддзя заставалася трыццаць пяць гадоў.

…Гэтай ноччу Івану Садоўніку — не спалася. Увесь час была нейкая мітрэнга, а то і трывога ці проста рабілася мулкай пасцель. Ён то ўключаў магнітафон, каб паслухаць музыку, то браўся чытаць кнігі. У каторы раз перачытваў апавяданні Івана Буніна «Лёгкае дыханне» і «Сонечны ўдар». Але не дапамагала і гэта.

Нешта не на жарт трывожыла і трывожыла яго. Іван абводзіў вачыма свой спальны пакой, сцены, вокны, бібліятэку, нібыта бачыў іх упершыню. І раптам у вачах навярнуліся слёзы — так яму, аматару чытання, зрабілася шкада да невыноснасці адной рэдкай-рэдкай кнігі — рамана Мікалая Аляксеевіча Някрасава «Мёртвае возера». Чамусьці гэтую кнігу, наколькі Іван адсочваў, больш не перавыдавалі.

Раман гэты ўкралі ў Івана гадоў сорак пяць таму, разам са шматлікімі кнігамі. Укралі выпівохі, проста дзеля таго, каб здаць як макулатуру і купіць нейкую бутэльку віна-чарніла.

І вось успамін пра «Мёртвае возера» зусім збіў Івана з панталыку. Ён не знаходзіў сабе месца. Здавалася, што нехта сочыць за ім. І Іван зноў пачаў аглядаць пакой, і ўвесь час позірк чамусьці чапляўся за верх трыльяжа.

І, о Божа! На яго, як жывая, глядзела кніга «Мёртвае возера». Іван спачатку падумаў, што гэта галюцынацыя, і хуценька працёр вочы, перажагнаўся. Але кніга глядзелася яшчэ больш выяўна і нібыта гарэзліва прасілася да яго.

Іван падхапіўся з пасцелі і, хістаючыся, як п'яны пайшоў да трыльяжа, зазірнуў за яго. Добра, што паспеў ухапіцца за яго, а так бы рухнуў, ударыўшыся галавой аб пісьмовы стол. Як потым выявілася, раман «Мёртвае возера», дапамагаючы пераязджаць Івану Садоўніку на новую кватэру і складваючы рэчы, знайшлі дочкі. Але яны не ведалі, што гэта адна з любімых бацькавых кніжак і проста паклалі яе на не вельмі бачнае месца.

Крыху ачомаўшыся, Іван дастаў кнігу і як без памяці рынуўся на ложак, адразу ж пачаў гартаць яе.

І раптам на калені вывалілася з кнігі паперка. Садоўнік падняў яе і пачаў чытаць:

«Просьба.

Таварыш брыгадзір! Вельмі Вас прашу даць каня хворай Пачкоўскай Адэльфіне Фядосаўне, каб яна прывезла сабе на зіму дроў.

І подпіс:

«Выконваючы абавязкі галоўнага ўрача Мосарскай участковай бальніцы Іван Канстанцінавіч Садоўнік. 22 лістапада 1963 года».

А ў самым нізе стаяла пячатка. Надта ж рэзка акрэсленая. Іван вельмі клапаціўся пра яе, бо ведаў, што ад яе залежыць многае. Кожны дзень чысціў, абціраў спіртам, а падушачку для пячаткі насычаў фарбай з гліцэрынам.

Гэтая паперка-просьба навеяла Івану ўспаміны пра яго былое доктарства.

Гэта была не першая паперка-просьба да брыгадзіра, а то і да старшыні калгаса, але хутчэй за ўсё і апошняя, бо Іван неўзабаве з'ехаў у горад.

Першая паперка з’явілася зусім нечакана і нават камічна.

Прыходзіць неяк на прыём да Івана-доктара бабулька. І тут жа становіцца перад ім на калені і пачынае прасіць:

— Дактарок, міленькі, Богам прашу, дайце справачку, каб брыгадзір выдзяліў мне каня, дроў прывезці. А то хутка зіма, а ў мяне ні палена. Толькі абавязкова пастаў пячатку, бо ён вельмі баіцца пячаткі.

Іван быў у непаразуменні. Доўга думаў, што можа даць гэтая даведка бабулі? Гэтая бальнічная пячатка, якая ніякай дзяржаўнай правамоцнасці не мае, хіба толькі для зацвярджэння лістка непрацаздольнасці ці некаторых уліковых рэцэптаў. І Іван, улічыўшы слёзы бабулькі, як бы жартам даў паперку-просьбу, замацаваўшы яе пячаткай.

І, о цуд! Праз тыдзень да Івана прыходзіць бабуля, тая ж самая і адразу зноў бухаецца перад ім на калені з прыгаворваннем:

— Дактарок, залаценькі! Хай Божачка дае табе здароўечка, доўгіх гадочкаў. У мяне па тваёй ласцы і дабрыні ўжо ёсць дровы. Па тваёй паперцы брыгадзір даў і каня, і нават чалавека, каб памог нагрузіць на балоце карчоў. Дзякуй, родненькі, дзякуй, міленькі, дактарок!..

І старая, як нечага спалохаўшыся, тут жа ўсхапілася з каленяў і праказала:

— Ай, дактарок, міленькі, даражэнькі. Я во, табе яечак прынесла. Свежанькія, свежанькія. У мяне аж чатыры курачкі ёсць, і дзякуй Богу, ледзь не кожны дзень нясуцца.

І бабуля, пацалаваўшы Івану рукі, працягнула яму палатняны мяшэчак, дзе былі яйкі.

— Дактарок, вазьмі. Там іх, яечак, аж цэлы дзесятак. Вазьмі! Богам прашу, вазьмі!

І толькі слёзы, якія градам каціліся з бясколерных выцвілых вачэй бабулі, прымусілі Івана згадзіцца з гэтым прымусам-просьбай, каб аддаць каму з санітарак, бо сам ён харчаваўся ў гаспадыні на кватэры.

... Цяпер, чытаючы даведку, Іван успомніў Пачкоўскую і многіх іншых хворых, якім некалі выдаваў даведкі.

З лёгкай рукі той першай бабулі бальнічная пячатка набыла нечаканую сілу.

Уручаючы паперку, дзе ён, Іван Садоўнік, выконваючы абавязкі галоўнага ўрача, прасіў начальства даць тым ці тым хворым каня, а то і некалькі сотак сенакосу, і круглай пячаткай на паперцы падмацоўваў просьбу, і яна заўсёды дапамагала, як нейкі цудадзейны сродак.

...Чытаючы гэту даведку, Іван Садоўнік успомніў, што Пачкоўскай ён даў першы экземпляр даведкі-просьбы, а тая, што ў яго ў руках, копія, і ён паклаў яе ў «Мёртвае возера» і забыўся пра гэта.

Цяпер былы доктар Іван Садоўнік пераканаўся, што мёртвых азёраў не бывае. Ён глыбока-глыбока ўпэўнены, што і «Мёртвае возера» можа даць такі жывы ўспамін.





## Эдуард СКОБЕЛЕЎ

# Падарунак з мінулага

*У маіх асабістых архівах захавалася мноства пісьмаў, кніг і нават артыкулаў з дарчымі надпісамі. Шчодрымі, трэба сказаць, надпісамі. У тым ліку і тых вядомых сягоння людзей, з якімі нас размежавала палітычная гісторыя СССР і Беларусі...*

*Я не вінавачу тут літаратараў, — гэта час і падзеі бесперапынна шматавалі цела еднасці нашага духу, бо нас ніколі не жадалі дапусціць да кандыцыі спелай нацыі, якая ўсведамляе сваю гістарычную каштоўнасць і не толькі не абавязана камусьці, аднак і супрацьстаіць у нейкай ступені ўсім у сэнсе вернасці сваёй беларускай супольнасці, славянскай культуры і агульнарускай традыцыі.*

*Усё гэта я прамаўляю толькі таму, што менавіта такую рэдкую фігуру беларускага літаратара знайшоў у Васілю Вітку.*

*Інтэлігентны, паважны, ён не ганяўся за рублём і ў той жа час глыбока разумеў, наколькі бясконцы шлях да сапраўднай класікі, хоць сам уваходзіў у абойму самых масцітых пісьменнікаў савецкай пары.*

*Ён заўсёды цаніў жыццё свайго духу, бо ўсур'ёз цікавіўся жыццём духу сваіх сучаснікаў.*

*Пераклады маіх даўніх вершаў Васіль Вітка зрабіў самастойна — без просьбаў і намёкаў з майго боку. І быў настолькі сціплы, што, зрабіўшы мне шчодры падарунак, ніводнага разу не абмовіўся аб іх лёсе да апошніх дзён жыцця.*

*Я перад ім вінаваты, бо згубіў было пераклады, а потым і забыўся аб іх зусім на ўхабах уласнага шляху.*

*Аднак тым больш радасней, што пераклады знайшліся і, галоўнае, знайшліся людзі, якім не абыякава тое, што рабіў наш старэйшы сатаварыш.*

***Эдуард Скобелеў***

---

***Скобелеў Эдуард Марцінавіч*** *нарадзіўся 8 снежня 1935 года ў Мінску. Скончыў заходні факультэт Маскоўскага інстытута міжнародных адносін (1959). Працаваў у Міністэрстве замежных спраў СССР і Беларусі, у апараце ЦК КПБ, у міжнародным цэнтры Акадэміі кіравання пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Беларускім інстытуце інфармацыі і прагнозу пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Цяпер — галоўны рэдактар Информационного бюллетеня Администрации Президента Республики Беларусь.*

*Піша на рускай мове. Аўтар паэтычных зборнікаў «Дорога», «Капли дождя», «Вечерние тени», «Земные долги», «Мой дом», «Славянские сутры», кнігі «Венки сонетов», кніг аповесцей «Чудо любви», «Выпускники», «Кристина», «Сегодня исповедь моя», раманаў «Шаги за твоей стеной», «Маятник надежды», «Мирослав — князь дреговичский», «Катастрофа», «Свидетель. Записки капитана Тимкова», «Беглец», «Прыжок дьявола», «Гефсиманский сад», «Пересечение параллельных» і інш., кніг для дзяцей.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1998), прэміі «За духоўнае адраджэнне» (2005).*

# НАСТРОІ

* * *

Паміж асфальтнай цаліны
Зялёныя ўжо купінкі відны.
Хто прабіваецца праз жорсткія пласты?
Карэньчыкі жыцця і першыя лісты,
Рвуць на шматкі апошні лёд і снег —
Салют вясне!

* * *

Хто пеўніка малога навучыў
Падскочыць, крылцамі махнуць
І крыкнуць: ку-ку-рэ-ку?

Напэўна, той, хто і цябе, дзяўчынка,
Калі, пяском напоўніўшы вядзерца,
Ты жменьку мне насустрач сыпанула,

Як тая весялуха маладая,
Што, напаіўшы хлопца каля студні,
Вадой апырскала яму чупрыну.

Хто навучыў?
Вядома, шчасце.

* * *

Падкралася знянацку сонца,
Цябе за плечы абхапіла.
Куды глядзеў твой абаронца? —
Яно мне вочы асляпіла.

* * *

Колькі раз было выпіта мора
І насыпаны новыя горы,
Яшчэ большыя нават за тыя,
Што ўздымаюць вяршыні крутыя.

Колькі раз паўтараліся словы,
Ні адно ўжо, здаецца, не нова,
А крануліся вуснаў тваіх —
Першы раз заугчалі для нас, для дваіх!

* * *

Завёў цвыркун на вечнасць свой гадзіннік
І пільна, і надзейна нас вартуе,
І голас твой, і смех, і той адзіны

Шчаслівы міг, хвіліну тую
У незабыўным вольным полі.
Чаго яшчэ жадаць ад вечнасці?
Даволі.

* * *

Напэўна, страшна я грашу,
Не даючы табе спакою.
Я шчасця ўсё ў цябе прашу —
Якое яно, любая, якое?

* * *

Судзіце за радасць — яна ўсім адкрыта,
Яе не магу я схаваць.
Хаваю адзін толькі боль перажыты,
Што мог бы мяне апраўдаць.

* * *

Калі б не верыў, што зраблю,
А ўжо зрабіў, што мог,
У тую ж хвілю на зямлю
Упаў бы з неба бог.

* * *

Мудрэц сказаў: вось вам маё вучэнне,
Трымайцеся вы правілаў маіх.
Як мала мудрасці нам на дваіх —
Трымаемся мы толькі выключэнняў.

* * *

На наша шчасце, сонца — не філосаф,
Ва ўласную заўсёды верыць сілу.
Засумнявалася б — не замігцелі б росы,
Не ўстала б і само з-за небасхілу.

* * *

Навошта, любая, такія слёзы,
Хіба табе якое гора мроіцца?
— Не мроіцца, — сказала мне бяроза, —
Частую ўласным сокам я забойцу.

І хоць бы ўдзячнасці славечка,
Такая смага разабрала:
За кадзяй кадзь мяняе пад насечкай
І не ўпатоліцца — ўсё мала, мала!..

* * *

Ад сустрэч, ад слоў няпэўных —
Толькі болю горкі след.
Я лічыў цябе царэўнай,
Хоць і быў падманным свет,

Свет маёй шчаслівай казкі,
Дзе жывуць яшчэ й цяпер
Побач з ласкай — абавязкі,
І сумненне, і давер...

* * *

Дробязі час раскралі,
Мяне ж вінавацяць у страце.
За гэта і пакаралі,
Што не стаяў на варце.

* * *

— Калі на ўласны хлеб я перайду? —
Чаляднік запытаўся ў майстра.
— Ніколі, — адказаў настаўнік.
— Чаму? — ад нечаканасці сумеўся вучань.
— Таму, што хочаш лёгкага ты хлеба.

* * *

Сходнімі днямі,
Перад сабой несучы сваю мару,
Шчаслівa, ціха
Сказала будучая парадзіха:
— Ён будзе паэтам...

І выбліснулі агнямі
На матчыным твары
Яшчэ нешпазнаныя тайны сусвету.

* * *

І страчана нямнога,
Пара прывыкнуць быццам,
Хоць не шкада нічога,
А не магу забыцца.

Застаўся толькі попел
Былой спагады нейчай.
Мне ад яе не цёпла,
Хоць і гарыць агеньчык.

***Пераклад з рускай Васіля Віткі.***





**Іван ШАМЯКІН**

# З ДЗЁННІКАЎ

**7 верасня 2001 года**

4-га прыехаў у горад. Кірычэнка чакаў, што нас, юбіляраў (Беларускі камітэт міру. — **А.Ш.**), прымуць у СМ. Дзе там! Каму патрэбен Камітэт міру? А дарэмна. Сусветны міратворчы рух у 60—70-я гг. усё ж стрымліваў экстрэмістаў і нават войны, разрастанне рэгіянальных у кантынентальныя, а то і сусветныя.

Учора, 6-га верасня, Беларускаму камітэту міру споўнілася 50 гадоў. У савецкі час такія юбілеі шырока адзначаліся. А цяпер... Камітэт — 2 штатныя супрацоўнікі: Кірычэнка Іван — старшыня, а галоўны бухгалтар — Тамара Вікенцьеўна. У мяне тытул — ого! — ганаровы прэзідэнт руху прыхільнікаў міру. Прэзідэнт паветра.

Кірычэнка ўсё ж малайчына! Знайшоў спонсараў, правёў юбілейнае пасяджэнне прэзідыума (пашыранае — 50 чалавек). Засядалі ў Доме друку, у Кутавога Барыса Аляксандравіча. Там у яго пабудаваны палац. Адкрываў пасяджэнне я. Іван зрабіў даклад. Віншаванні ад абласцей, нават з падарункамі. І — самае галоўнае — СМ праявіў увагу: узнагародзіў Камітэт Ганаровай граматай Савета Міністраў. А потым — урачысты абед. Зноў сказалі многа слоў, выпілі, закусілі. І я грамаў сто пяцьдзесят глынуў.

Трымаюся, але хаджу цяжка. На дачу паеду заўтра. Заўтра дзень нараджэння Сашы, а 12-га — 10 год, як яго няма. Сэрца баліць і цяпер. Як сем гадоў вытрымала Маша. Вось так: з юбілею заўтра паеду на могілкі. Пакланюся магілам: сынавай і маці яго, яны побач. Баюся, што хлопцы мае — Алёша і Дзіма, якім я падараваў машыны, не змогуць паехаць: будуць працаваць.

Не хочацца на дачу. Сумна мне там. Тут хоць Ванечка цешыць мяне. А там — праблемы... і страх.

**10 верасня 2001 года**

Ура! Бліскучая перамога Лукашэнкі! Учора ўвечары пачуў першыя вынікі і ад радасці нават чарку выпіў.

Слухаў сёння прэс-канферэнцыю. Малайчына Прэзідэнт! Нават амерыканскія назіральнікі віншавалі яго.

Добры нумар адмачыў Ваня — мой любімы 4-гадовы ўнук (расказаў Сяргей па тэлефоне). Прыйшлі яны ўсёй сям'ёй на ўчастак. А Ваня каля стала камісіі на поўны голас абвясціў:

— Мы прыйшлі галасаваць за Лукашэнку!

Рассмяшыў большасць, пэўна, тых, хто прыйшоў з такім жа намерам.

**12 верасня 2001 года**

Я не любіў Амерыку. Не толькі яе палітыку — жаданне кіраваць усім светам, не толькі іх алігархаў, якія трымалі свет далярамі, паперкамі, якія нічым не забяспечаны.

Мы і ўсе іншыя куплялі за іх нафту, алмазы, золата. Але я не любіў і амерыканцаў, якія пляскалі, калі ракеты і бомбы пáдалі на Югаславію, на Ірак.

Учарашні тэракт ашаламіў мяне, спалохаў, і я пранікся спачуваннем да тысяч ахвяр, іх блізкіх. Ніхто, нават з галівудаўскіх фантастаў, мабыць, не падумаў, што помста можа ўпасці з іх жа, амерыканскіх, самалётаў.

Кроў стыне ад думкі, што падобнае можа абрынуцца на Мінск, Маскву, Кіеў, Рым, Лондан. Ці такую жахлівую помсту зарабіла толькі Амерыка?

Якая, аднак, арганізацыя! У адзін дзень захапіць столькі амерыканскіх самалётаў (называлася лічба 8). Колькі ж трэба камікадзэ? Дзе іх узяць? Спецыяльна рыхтавалі? Можна падрыхтаваць столькі самазабойцаў? З хрысціян, цывілізаваных людзей немагчыма! З мусульман? Японцаў? А колькі трэба грошай на падрыхтоўку такіх актаў? Хто іх меў? Арабы: Бен Ладэн. Прамільгнула паведамленне, што чацвёрты самалёт, нібыта збіты знішчальнікамі, ішоў на атамную станцыю. О Божа! Вялікая і магутная краіна была б па сутнасці знішчана. Узрыў некалькіх рэактараў станцыі — дзесяткі Чарнобыляў, радыяцыя накрыла б паўкантынента. Во што даў прагрэс! І гэта можа адбыцца, калі Амерыка (ЗША) памкнецца адпомсціць арганізатарам учарашняга тэракта. Непазбежна ланцуговая рэакцыя. Але ж і не пакараць такіх забойцаў нельга! Што ж рабіць? Як спыніць гэтае глабальнае вар'яцтва, якое можа прывесці да сусветнай катастрофы.

Да болю за блізкіх дадаўся боль за далёкіх амерыканцаў. Яны так радаваліся за сваё жыццё (служачыя Міжнароднага гандлёвага цэнтра — багатыя людзі) — і такая смерць. Шчаслівы, хто загінуў адразу, як толькі рухнулі гэтыя 400-метровыя вежы, а калі хтось і дагэтуль пад абломкамі, ранены. Калі могуць разабраць такую гару друзу?!

Паніка на фінансавым рынку. Учора ўвечары Таццяна прадала свае 100 долараў, якія я даў ёй, каб паставіла зубы. Аддаў Машы і Дзіме свае долары, сёння яны купілі рублі. Кажуць, многія куплялі рублі — ім больш веры, чым усемагутнаму долару.

Боль за людзей. Але і Амерыкі стала шкада. Навучыць яе палітыкаў такая помста? Не! Дзень хмарны, ветраны, халодны. Сёння сумны і наш дзень: дзесяць гадоў, як памёр Саша. Сынок наш дарагі. 8-га, у суботу — дзень яго нараджэння, было б чалавеку 51. Ездзілі на могілкі, пакланіліся яго магіле і магіле маці яго. Баліць душа. Ад усяго баліць. Малю Ісуса Хрыста даць здароўе маім дзецям і ўнукам. <...>

Закручваю сюжэт пра «высокага» хабарніка. Зраблю? Няма ўпэўненасці: цяжка пішу, цяжка хаджу.

Памілуй мяне, Госпадзі, дай здароўя, сілу жыць, пісаць! — мая адзіная малітва за сябе.

**17 верасня 2001 года**

І ўсё ж менш як за тыдзень напісаў навелу «Начных успамінаў» — 16-ю. Гэта сапраўды такі начныя ўспаміны. Калі ў бяссонне напружыць памяць, можна ўспомніць шмат цікавага і з маленства, з юнацтва, з настаўніцкага жыцця і з пісьменніцкага; за 26 гадоў кіраўніцтва СП чаго толькі не было. Улетку напісаў тры навелы: «Літэрны паёк», «Каго падсасюрыць»,



«Незвычайны чытач» (у чарнавіку другая назва). І вось «Высокі кіраўнік» — пра Шауру — як ён распякаў мяне за прыезд у Мінск Вяршыгары. Эпізод — аснова, я пачаў пісаць — напісаў партрэт галоўнага ідыёлага. Можа, і назва лепшая «Галоўны ідыёлаг» ці, можа, «Гарманіст» (Шаура іграў на гармоніку, і гэта было прадметам бяскрыўдных «шпілек» у яго адрас збоку пісьменнікаў, мастакоў). На чарзе — «Юбілей» (пра 50-годдзе П. Броўкі) і далей — «Сябры», як Асіпенка, Пашкевіч Нічыпар і Юрэвіч шчыравалі, каб мне не прысудзілі Дзяржаўную прэмію СССР за аповесць «Гандлярка і паэт». Факт гэты нікому не вядомы. Я нікому не расказваў, нават Андрэю Макаёнку: ён не стрымаўся б, разнёс бы маё абурэнне па рэдакцыях, хоць сам ён абураўся, калі прачытаў у «Литгазете» інфармацыю пра пасяджэнне камісіі па беларускай літаратуры ў СП СССР. Але ён вінаваціў масквічоў, Чакоўскага. Сварыцца мне з крыкуном Асіпенкам ці «шэрым кардыналам» крытыкі Н. Пашкевічам — сабе нашкодзіць. Н.Пашкевіч рэдка выступаў у прэсе (гультай!), але з яго разумнымі прафесійнымі ацэнкамі лічыліся і некаторыя крытыкі, маладыя пісалі з яго слоў. Калі няма сваіх думак, чаму не ўзяць «застольныя»! Н. Пашкевіч выказваў іх пад чаркай, Бярозкін — у любым стане, з крыўляннем, уедлівасцю, з яўным намерам: бярыце і пішыце. Не любіў Броўку, але напісаў пра яго кнігу з высокімі ацэнкамі творчасці. А ў пэўных кампаніях (Кіслік і інш.) здзекаваўся з тых радкоў, якія ў кнізе хваліў.

Яшчэ адзін «начны ўспамін», але пра Бярозкіна я пісаць не буду.

Цёплы дзень. Сяджу з адчыненымі дзвярамі на балкон. Сонца слепіць. У садзе амаль не відаць яшчэ прыкмет восені. Яблыні зялёныя. Ападаюць яблыкі: мабыць, паўтоны выкінулі ў лес — пагнілі. Марнатраўства. Маладыя як не бачаць гэтага! Гультаі! Я баюся нахіляцца: часам з'яўляецца боль у скроні, нядобры знак. Збірае яблыкі Вольга Філатаўна. Але куды іх дзець, летнія, такую процьму? А галоўнае — руплівай гаспадыні, Вользе Філатаўне, — 87! Пазаўчора пазбірала яблыкі, папыласосіла ў доме і ўчора моцна спалохала мяне — так дрэнна адчувала сябе. А сёння раніцой падала мне снеданне.

**23 верасня 2001 года**

Пісаў у дзённік, гуляў, вячэраў. Сеў глядзець тэлевізар — і без дай прычыны пачалося галавакружэнне, якога раней не было, хіба пасля аперацыі. За сцяну трымаўся, ідучы з веранды ў пакой. Спалохаўся: няўжо канец? Паспрабаваў выклікаць «хуткую дапамогу» з бальніцы лечкамісіі — яны адмовіліся: на дачы не ездзяць. Памірай, дзед!

Пазваніў у горад Сяргею. Ён прыляцеў на машыне праз паўгадзіны. Мінут праз 45 быў на гарадской кватэры. Выклікаў «хуткую». З'явілася. Намералі ціск 200/110. Крыз. Зрабілі ўколы, унутравенны і ўнутрамышачны. Снатворнае пабаяўся прымаць і таму спаў трывожна. У аўторак наведалася ўчастковая Сасава Вера Ал. Яна напалохала яшчэ больш: парушэнне мазгавога кровазвароту. Выклікала неўрапатолага. З'явілася Амбразевіч толькі ў пятніцу. За столькі дзён мяне ўжо маглі і пахаваць. На шчасце, у сераду—пятніцу адчуваў сябе лепш. Але сядзеў дома, гуляць баяўся. Планаваў учора — не пайшоў. Думаў сёння прайсці ажно да бальніцы, але пахаладала, а я забыўся на дачы плашч. Не апранаць жа паліто пры +15.

Не пішу, амаль не чытаю, гляджу ТБ. Дарэмна, відаць, раблю сябе хворым. Трэба актыўнічаць, пакуль на нагах. Трэба прадоўжыць «Начныя ўспаміны». Няхай будзе ў маёй спадчыне і такі жанр, хоць даўно напісаны «Карэнні і галіны» — тое ж.

27-га агульны сход НАН. Будзе сённяшняе самаадчуванне — паеду. Пытанне: «Аб праекце канцэпцыі рэфармавання сістэмы арганізацыі акадэмічнай навукі, навукі ВНУ і галіновай навукі...» Глабальна. А эфект ад гэтых рэформ?

**25 верасня 2001 года**

Памёр Мікалай Матукоўскі, яму 72. Смерць людзей, якіх блізка ведаў, пачынае палохаць. Мы маглі б быць сябрамі. Бадай, былі імі. Калі ён ішоў у драматургію, то зблізіўся з Андрэем Макаёнкам, часта прыязджаў да яго на дачу. Карэспандэнт «Известий», ён быў дасведчаны больш, чым мы, дэпутаты Вярхоўнага Савета.

Але потым, калі я пасля смерці Андрэя напісаў пра яго цэлую аповесць «Тайна драмы» (дарэмна я пасля памяняў назву на «Аповесць пра сябра»), Матукоўскі на партсходзе ў СП злосна выступіў супраць аповесці, вінавацячы мяне ва ўсіх смяротных грахах: парушыў прынцыпы савецкага жыцця, чалавечай маралі і г.д. Гэта з-за негатыўнага апісання Любы (другой жонкі Андрэя) і добрых слоў пра Лену (першую жонку). Пасля да мяне дайшло: аповесць тую асуджалі тыя, у каго былі другія жонкі; вось так: крытыку рабілі жонкі.

Само выступленне Матукоўскага мяне мала кранула б, каб не надзвычайныя абставіны. У бальніцы мне, абследуючы, прадзіравілі кішку, затым зрабілі аперацыю. Я ляжаў у бальніцы, не ўстаючы з ложка, стан быў вельмі цяжкі. А на другі ж дзень пасля партсходу ці то мае «сябры», ці то яго, Матукоўскага, аднадумцы, у бальніцы расказалі мне пра «сенсацыйнае» выступленне ўчарашняга сябра, «парадавалі», памаглі ачуняць.

Аповесць прачыталі ўсе ўрачы бальніцы 4-га ўпраўлення (лечкамісіі): у гэтай бальніцы памёр Андрэй Макаёнак, і ў гэтай жа бальніцы працавала ўрачом яго другая жонка Люба. І ў тыя ж дні яна, урач, легла ў стацыянар (студзень 1984 г.; Андрэй памёр 16 лістапада 1982 г.). І я не адразу здагадаўся, чаму загадчыца аддзялення Чарнова Раіса Рыгораўна сама прапанавала Марыі Філатаўне начаваць са мной у палаце.

Вось такая была драма.

У мінулым годзе мы з Мікалаем Ягоравічам Матукоўскім лячыліся разам у Гарадзішчы. Ён з жонкай. Людміла гадоў на 20 маладзейшая, гойсала на веласіпедзе. Стаялі неяк у гурце (Сяргей Грахоўскі, нехта з журналістаў), і Матукоўскі папрасіў: «Падарыце сюжэт для п'есы». Мне зразумела

гэтая трагедыя — няма сюжэта, хоць у 81 год я ўжо асабліва не перажываю: пішу «Начныя ўспаміны».

Больш за тыдзень не вылазіў на вуліцу: спачатку баяўся галавакружэння. Планаваў выйсці ўчора: пагуляў з Ванечкам у хованкі — зачасціла сэрца. Старая балалайка! Думаў ноччу: сёння днём абавязкова пайду гуляць. Рэзка пахаладала: учора +16, сёння +8, вецер. «Под старость жизнь такая гадость». А Матукоўскі... Вечная памяць яму.

**29 верасня 2001 года**

Не мог заснуць да чатырох, лёгшы ў гадзіну. Думкі не давалі. Змрочныя яны, мае начныя думкі, акрамя ўспамінаў. Гэта думкі асуджанага на смерць. 40—30 гадоў назад іх і блізка не было, думалася толькі пра жыццё, пра творчасць, радаваўся жыццю. Нават 10 год назад яны з'явіліся толькі пасля смерці Сашы. А пасля смерці Машы яны пачалі нарастаць, што снежны ком.

Дзіўна, што дзеці мае гэтага не разумеюць, стану майго душэўнага. <...>

**4 кастрычніка 2001 года**

<...> Гаварыў па тэлефоне з Вольгай Філатаўнай. Яна з Лінай і Маша з мужам жывуць яшчэ на дачы. Во чалавек! 87 гадоў. Дрэнна чуе. А клопат які! Як адрамантаваць на Таццянінай верандзе дах, ускапаць агарод. Малю: не капайце зямлю толькі вы, арганізуйце маладых! Чакай, кінуцца маладыя! Яна гэта ведае. Таму і клапоціцца. А што на тым гародзе вырастае? Яблыні разрасліся, усё зацяняюць. Яблыні пасаджаны ў 1957 годзе. А высякаць шкада: Маша так любіла іх. Садоўніца ў высокім сэнсе гэтага слова! Чаму дзеці не перанялі яе характар? І ўнукі. <...>

Чытаю «Библейские рассказы для детей», выдадзеныя ў Галандыі на рускай мове. Не адарвацца. Умеюць прапагандаваць веру хрысціянскую!

**6 кастрычніка 2001 года**

Доўга чытаў «Свободные новости». О, свабодныя! Ад каго? Ад гаспадара Атрошчанкі? У мінулых нумарах ён наракаў на гал. рэдактара Уліцёнка. Але Уліцёнак падпісвае газету. Памірыліся? Палавіна нумара — перажоўванне выбараў. Грыб, Ганчарык, Працька, Коктыш, Карбалевіч, Марыніч і інш. Занудства і стар'ё.

Да юбілею Гілевіча (70 год) — Шаравар: «Ніл Сымонавіч, на вас надзея». Ах, Божа мой. Прарок Майсей. Гілевіч выведзе краіну!... І смех, і грэх. Сябе можа ўладзіць.

**14 кастрычніка 2001 года**

Сёння Ванечку чатыры годзікі.

Унучак мой дарагі, радасць мая найбольшая ў маёй сумнай старасці.

Дарагі Ваня! Дарагі Іван Сяргеевіч! Як я цябе люблю! Як люблю! Цяпер ты гэтага яшчэ не ўсведамляеш, хоць абдымаеш маму, тату, дзеда і кажаш: «Я так цябе люблю!» Разумнічак. Светлая галоўка. Пакатаем машынкі на стале, і ты кажаш: «Дзед, спасибо за игру». Кранаеш да слёз. Малайчына!

Калі ты падрасцеш і навучышся чытаць, ты прачытаеш мае кнігі (я напісаў іх многа) і зразумееш, што дзед твой многа і шчыра працаваў і прынёс дзецям, унукам і многім мільёнам людзей нямала радасных гадзін — калі яны чыталі кнігі.

Шкада, што жыццё кароткае, і наўрад ці я буду з табой, калі ты будзеш чытаць кнігі мае і дзённікі. А чытаць ты любіш ужо цяпер. У цябе цэлая свая бібліятэка. І гэта мяне радуе.

Дарагі Ванечка! Расці здаровенькі, разумненькі, вясёленькі. Няхай табе, тваім маме і тату заўсёды свеціць сонца чалавечага шчасця!

...Сяргей, добры кулінар, падрыхтаваў шыкоўны ўрачысты абед. Павінен на ім быць хросны бацька Юрый Дзяргай з жонкай і сынам і Калпаковы, у якіх Сяргей хрысціў меншую дачку Надзю.

Прагуляўся. Два дні не выходзіў. Палохае нечаканы боль у левай скроні, як стрэл. Ці не там сядзіць тая куля, якая... О Божа! Даруй мне грэшныя думкі. Небыццё страшыць. Ці ёсць яно, другое жыццё? Чытаю Біблію. Учора скончыў чытаць кнігу «Доктрина Библии в простом разъяснении» англічаніна Памсбата. Доказаў мала. Трэба проста верыць. Буду верыць!

**15 кастрычніка 2001 года**

Учора, калі сядзелі за сталом на Ванечкавых імянінах, пазваніў Мікола Мятліцкі: памёр Максім Лужанін. Не дажыў да поўных 92 год два тыдні (нарадзіўся 2 лістапада 1909 года). Дай Бог, як кажуць, кожнаму, так. Але мне стала сумна. У Л. Талстога стары граф Растоў плакаў над труной Андрэя Балконскага таму, што думаў пра сваю смерць. Ад гэтага і мне сумна. У чэрвені-ліпені мы разам ляжалі ў бальніцы, у суседніх палатах. Хадзіў Максім толькі да туалета, трымаючыся, з ложка ўставаў сам. Але што мяне здзіўляла і захапляла — яго памяць. Я ведаў некалі на памяць нямала вершаў Паўлюка Труса (праз усю вайну пранёс яго кнігу), С. Ясеніна, Купалы. Цяпер амаль нічога не помню. А Лужанін чытаў на памяць свае даваенныя, ваенныя вершы. І не толькі свае — Коласа, Чарота, Таўбіна.



*З С. Александровічам.*

Якія ў нас былі адносіны? Ды, бадай, сяброўскія. З Андрэем Макаёнкам ён сябраваў шчыра. Андрэя любіла Яўгенія Эдгардаўна (жонка М. Лужаніна): дачы іх былі за сто метраў адна ад адной. І мы часта пілі каньяк на верандзе ў Лужаніных. Яго эрудыцыя заварожвала. І дасціпнасць, жартоўнасць, амаль такая, як у Андрэя.

Біяграфія яго была складаная, і, бадай, не ўсё ён расказваў нам. Яму пашанцавала ў адным: рэпрэсіравалі ў 1933 годзе, калі яшчэ мала каго расстрэльвалі; Максіма саслалі ў Сібір. А ў 1935 годзе ён ужо быў у Маскве, працаваў у выдавецтве. Прызваны на пачатку вайны ў армію, вучыўся ў пяхотным вучылішчы. Пра ўдзел у Сталінградскай бітве я не чуў ад яго. А пра работу ў Маскоўскай ваеннай камендатуры чуў.

Пасля вайны ён быў сакратаром у Коласа. Некаторыя калегі нашы, асабліва крытыкі і паэты, папракалі яго: маўляў, падказваў Коласу пэўныя характарыстыкі, ацэнкі. Пра каго канкрэтна — не помню ўжо. Мы з Андрэем асабліва зблізіліся з Лужаніным, калі ён быў у 1967—71 гг. галоўным рэдактарам сцэнарнай калегіі кінастудыі, а мы членамі гэтай калегіі. Мастацкі густ у Максіма быў бездакорны, аспрэчыць яго было немагчыма: палеміст выдатны.

Пенсіянеры, мы не часта сустракаліся, хоць жылі ў суседніх дамах. Нас звязваў Аляксей Слесарэнка: ён заходзіў да Лужаніна і пасля яго да мяне. Апошнія гады перазвоньваліся часцей, але ні ён у мяне, ні я ў яго ў кватэрах не гасцявалі. Не любілі хадзіць, як Слесарэнка.

Больш за 30 гадоў назад (здаецца, на XXV сесіі ААН) у Нью-Йорку ў Максіма здарыўся інфаркт. Ляжаў у амерыканскім шпіталі. Супрацоўнікі пасольства стагналі: дорага абыходзіцца яго лячэнне. Няправільна амерыканскія дактары паставілі дыягназ ці добра вылечылі — столькі пасля гэтага Бог даў яму пражыць.

Вечная табе памяць, дарагі Максім! Нямнога засталося старэйшых за мяне на некалькі год (на год-два яшчэ ёсць): Ігнат Дуброўскі (96 год), Сяргей Грахоўскі (88 год). Хто яшчэ? Дай Бог вам здароўя, дарагія сябры! Нялёгкае жыццё мы пражылі. Але жывём! І не апошнія ў літаратуры!

Хоць будучыня беларускай літаратуры мяне трывожыць. «Пошукі прытулку» (наклад 3 тыс. экз.) дагэтуль прадаюць. А было па 100—200 тысяч, па мільёне і нават па два («Роман-газета»), і купіць было немагчыма. ТБ, Інтэрнет і іншыя навінкі выціскаюць кнігу. Сумна. Не! Думаю, кніга будзе жыць!

**20 кастрычніка 2001 года**

Дні тры адчуваў сябе пагана: галава чыгуном налітая. Яўна ціск. Ад чаго ўзняўся? Ад кавы? Люблю каву. Гурман. Сёння не піў каву — лягчэй. Выйшаў пагуляць, холадна. Баюся зімы.

Можна прывыкнуць да думкі аб непазбежнасці смерці? Можна. Але ад гэтага не робіцца лягчэй.На дачы стала дрэнна Вользе Філатаўне — спалохаўся. Ёй 12 студзеня будзе 87. Але баюся і яе смерці. Перажываю за ўсіх. Як вытрымае маё сэрца?

Многа чытаю. Учора раптам узяўся за Булгакава. Прачытаў п'есу пра Пушкіна. Цікава. П'ес Булгакава раней не чытаў. Узяўся за раман аб жыцці Мальера. І ў сто дваццаты раз пытаю сябе: а навошта мне гэта? У маладосці трэба было. Але ў маладосці не было гэтых кніг. Ніякіх не было да 1949 года — да пераезду ў Мінск. А пасля прагна пісаў свае — не было часу.

Прэзідэнтам НАН Лукашэнка назначыў Мясніковіча. Спачатку я разгубіўся, а потым сур'ёзна падумаў: а можа, у наш час і патрэбны такі адмі-

ністратар — усе яго ведаюць, усіх ён ведае. І ўсё ведае — усе спружыны палітыкі. Кажуць, у Польшчы так: прэзідэнт акадэміі навук — не акадэмік, вучоны сакратар — акадэмік. Дай Бог, каб нам, старым, не стала горш. Іван Навуменка, саветнік, засмучаны.

**23 кастрычніка 2001 года**

Колькасць адмоўных эмоцый расце. Мабыць, Лужанін пражыў 92 гады таму, што не меў дзяцей і ўнукаў, ніхто ў старасці не падкідваў яму праблем.

Яшчэ адна цікавая сітуацыя.

У сакавіку гэтага года «Советская Белоруссия» надрукавала пастанову СМ Саюзнай дзяржавы і палажэнне «Аб прэміях Саюзнай дзяржавы за творы літаратуры і мастацтва». Я не прачытаў яе. І за паўгода ніхто не сказаў мне пра такую прэмію. Не прыдалі значэння?

Пачуў пра прэмію тыдні два назад, калі сакратарыят СП вылучыў Алеся Жука. Пашкадаваў, што прайшло міма мяне, але што зробіш... Але сябры мае Мікола Мятліцкі і Ул.Ліпскі сказалі: «А чаму не вылучыцца Вам, Іван Пятровіч?» А як? А хто зможа вылучыць?

А ўчора пазваніў міністр культуры Леанід Гуляка: «Вас вылучае Нацыянальная бібліятэка, потым мы на калегіі, падтрымае СП». Адкуль ён ведае, што падтрымае? Не падтрымае мой родны Саюз! А што будуць вылучаць? Трэба «Вялікую княгіню». Яна надрукавана на рускай мове (у перакладзе Сяргея) у «Роман-газете» ў 1998 годзе. Можа, пазваніць дырэктару бібліятэкі? Таксама эмоцыі. І, напэўна, дарэмныя: прэміі не дадуць. А будзеш, як дурань, чакаць.

**30 кастрычніка 2001 года**

Мяне ўсё ж вылучылі на гэтую прэмію. Бібліятэка, Міністэрства культуры. І, безумоўна, сутыкнулі лбамі з Алесем Жуком, якога вылучыў СП. Не трэба мне гэтага — сутычка з малодшымі. Не аб прэміях я павінен думаць! А галоўнае — нерэальна ўсё гэта. На тры прэміі толькі ў нас вунь колькі: я, Пташук, Дудараў, Елізар'еў, яшчэ нехта. А колькі будзе рускіх! Хоць чым чорт не жартуе. Беларусі могуць даць з трох адну прэмію, і яна будзе па літаратуры.

Маё афармленне на прэмію праходзіць неяк дзіўна: кніг ніхто не спытаў, а, я ўпэўнены, «Роман-газеты» няма і ў Ленінцы. <…>

Закончыў учора найбольшую навелу з цыкла «Начныя ўспаміны». Назваў незвычайна: «Ох, бабы!» — аб маёй турпаездцы ў Югаславію ў 1956 годзе кіраўніком групы, у якой было 2/3 жанчын, і як яны, гэтыя бабы, мяне даводзілі: адна адкрыта набівалася ў палюбоўніцы, другая на ўсю ноч знікла з чарнагорцам, трэцяя напілася на дэгустацыі вінаў. Ніколі яшчэ не пісаў такіх жанчын. Ідэалізаваў іх. Чаму ўзлаваўся раптам? Успомніў, што з-за такіх «турыстак» адмовіўся ад паездкі ў Францыю. Мала я ездзіў. І самае дзіўнае: акрамя паездкі з Машай па Дунаі і акрамя паездкі ў Балгарыю, нічога астатняе з паездак не прынесла ніякага задавальнення: ні Нью-Йорк (там я захварэў), ні ГДР (таксама захварэў), ні Бельгія (там ледзь не загнуўся, дурань). Пісьменніцкія паездкі ў Польшчу, Чэхаславакію — пустата і марная трата часу. Аб іх варта напісаць у «Начных успамінах».

Гуляў з Ванечкам у хованкі. Хітрue хлопчык, але да замілавання наіўна. Найбольшая і адзіная радасць — мой унучак. У яго штук 50 машынак (усе нясуць) і цэлая шафа кніжак. Ваня кампенсаваў маё галоднае на харч, на цацкі і на кнігі маленства. Ужо больш як год Ваня на прагулцы з мамай



*З П. Панчанкам.*

абавязкова заходзіць у кнігарню і не выходзяць без кнігі: сам выбірае і нясе ў касу. Прадаўцы яго ведаюць, радасна вітаюць: «Ваня прыйшоў».

Атрымаў «ЛіМ». Памёр Адольф Варановіч. Шкада. Здольны празаік. Але піў многа, ад жыццёвай неўладкаванасці: развёўся з першай жонкай, выгналі другая, трэцяя жанчыны і начаваў у рэдакцыі «Полымя». Як некалі сапраўдны талент Мікола Лупсякоў. Але ў Міколы ў галаве сядзелі франтавыя асколкі.

Любáя смерць мяне палохае.

**5 лістапада 2001 года**

Калі ўлетку ляжаў у бальніцы, у суседняй палаце ляжаў Лужанін. Выйшаў ён у туалет, трымаючыся за сцяну, а сусед яго сказаў мне: «Многа спіць». Кажуць, у заключэнні аб смерці напісалі прычыну: старасць. Я таксама многа сплю. Сёння — сорамна пісаць! — прачнуўся ў тры гадзіны дня. Жах! Лёг у дзве гадзіны ночы. Не чуў Ваню: Алеся паехала на працу, а Сяргей у спальні чытаў Ваню кнігу. Ваня — кніжнік. Каб я меў адну дзесятую яго кніг — не ў яго ўзросце — у школьным! Якая ў мяне была прага да кніг!

У суботу тры гадзіны слухалі канцэрт Мікалая Баскава. Яму — 25 усяго! Голас боскі. Унікальны голас. Можа стаць гонарам Расіі. Але калі не будзе разменьвацца на эстраду. (Мае маладыя — Алеся і Сяргей — настроены скептычна ў адносінах да Баскава). Але пад заслону на сцэну вылезла старая нахабніца Пугачова. Пляваццца хочацца, калі бачу яе, тым больш слухаю.

«Комсомолка» напісала, што за ўдзел у «Славянскім базары» ёй адвалілі сто тысяч долараў. Хто? За што? Што пасядзела ў журы, праспявала тры песні і паказала свае старыя тоўстыя ляжкі? Звар'яцелі нашы кіраўнікі? Сто тысяч! Не ўкладваецца ў галаве! Ды за такія расходы судзіць трэба! Народ-

ны пісьменнік піша раман тры гады, яму адвальваюць ажно (ах!) чатырыста тысяч беларускіх рублёў! Колькі гэта долараў? 400.000:1.500=270 долараў. Мне столькі заплацілі за «Пошукі прытулку»! Вось тут і жыві!

Пазваніў Вяч.Стома. Кажа, што ён у экспертным савеце па прэміях Саюзнай дзяржавы. «Сваю кнігу я зняў, буду адстойваць вашу». Дзівосы. З 500 членаў СП Стома — галоўны эксперт, аўтар адной кнігі нарысаў аб жывёлах і рыбах, за якую ён атрымліваў розныя прэміі. Прабіцца ўмее. Хто яго мог увесці ў экспертны савет, які будзе вырашаць лёс найвышэйшай прэміі?

Іван Навуменка адзываецца аб ім, Стоме, цалкам негатыўна. А мяне Стома чамусьці лічыць сваім сябрам. Вольга Іпатава сінее, калі чуе яго імя. Ён быў старшынёй рэвізійнай камісіі СП і Літфонда. У Маскве запраста заходзіць да Міхалкова, Бондарава, Ганічава, Аляксеева. Хоць на Аляксеева ён у крыўдзе. Пасля прыезду на мой юбілей Аляксееў, відаць, зразумеў месца Стомы ў СП Беларусі. А мяне ён забаўляе сваёй думкай пра сябе. Паслухаць яго — першы пісьменнік СНД. Што, каб ён меў такі творчы багаж, як у мяне? Можна ўявіць, куды ён прабіўся б! Характар! Тып для рамана! Каб я сустрэў Вячаслава Іосіфавіча гадоў 20 назад. Увекавечыў бы!

**7 лістапада 2001 года**

84-я гадавіна Рэвалюцыі, якая сапраўды патрэсла свет і змяніла яго. Але плады нашай Рэвалюцыі пажалі іншыя: паразумнелі спалоханыя капіталісты, рабочы клас заходніх краін без рэвалюцыі — пагрозай яе — заваяваў сабе чалавечае жыццё. А наш народ па-чалавечы, без раскошы, але ўсё ж з многімі дабрабытамі, галоўнае — з вучобай дзяцей, гадоў 20—25 перад «перабудовай». Перабудаваліся! Зладзеі беразоўскія і ельцыны хапнулі народнае дабро. «Белавежскую тройку» трэба прыкаваць да ганебнага слупа. У нас хоць не хапнулі вялікія заводы: трактарны, аўтамабільны, нафтаперапрацоўчыя, хоць акцыянерныя таварыствы ў мяне выклікаюць вялікае сумненне — крадуць. А хабарніцтва стала законам жыцця чыноўнікаў. Каго злавілі? Дробязь. Камедыя! І няма Макаёнка...

Спаганілі вялікае свята. Французы Дзень узяцця Бастыліі адзначаюць як найпершае нацыянальнае свята, а ў Бастыліі было ўсяго 7 вязняў. Будзем мы так адзначаць дзень найвялікшай у гісторыі рэвалюцыі? У Маскве



*Народныя пісьменнікі (злева направа): Іван Шамякін, Кандрат Крапіва, Максім Танк, Пімен Панчанка і Міхась Лынькоў. 1966.*

тысяч дзесяць сабралася. Усяго! Зюганаў выступаў. Ціха. Дождж ідзе. Дзе Чыкін, Калякін? Гаўнюкі, а не лідэры.

Мне пазваніў адзін Янка Сіпакоў. Я — Савіцкаму, Навуменку, Пашкову, мастаку Кірылаву, ведаю яго светапогляд. Пазваніў Раманаву, а той паехаў на паляванне. Зайздросціць можна. Але неразумна: пасля мікраінфаркту.

Крыўдна. І за сваіх родных. І за народ. Нельга забывацца на такое свята!

Хітры Ельцын зрабіў гэты дзень «Днем примирения и согласия». Каго з кім? Лукашэнка (дзякуй яму) звярнуўся з прывітаннем: «Дарагія суайчыннікі! 7 лістапада Рэспубліка Беларусь адзначае чарговую гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі, дзякуючы якой набыла рэальную дзяржаўнасць». Народ набыў дзяржаўнасць! Слушна сказана: «Аднак з цягам часу больш ясна разумеем, што гэта быў усвядомлены выбар пакаленняў, якія прайшлі праз цяжкасці і войны, магутны парыў мільёнаў людзей да пабудовы справядлівага грамадства». Але, на жаль, не пабудавалі. І далі прайдзісветам разбурыць падмурак дома, які павольна ўзводзілі. Павольна, бо нам не давалі: вайна гарачая, вайна халодная, якія забралі максімум чалавечых і матэрыяльных рэсурсаў.

«Вопыт 1917 года навучыў нас...» — у прывітанні. На жаль, не навучыў. Каб навучыў, не разбурылі б мы таго, што збудавалі, — Вялікай дзяржавы.

І сёння толькі можна выгукнуць неўміручы лозунг: «Няхай жыве Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя!»

***Падрыхтавала да друку Алеся Шамякіна.***

***Працяг будзе.***







# СЯРГЕЙ ДЗЯРГАЙ
## (1907—1980)

Згадваю яго па той, не так ужо і блізкай па часе, нарадзе-семінары, што ладзіў часопіс «Вожык» для сваіх «свежых» літаратурных сіл. Шчыравала цёплая сонечная восень 1962 года, і ў Каралішчавіцкім лесе ўсё ззяла і пералівалася барвамі, гарэла золатам бярозавага жаўталісту, усё яшчэ дыхала мяккім і варажбітным водарам адыходзячага бабінага лета. Маладым нагам лёгка хадзілася па каранiстых, прысыпаных прысохлым лісцем сцяжынах, і сама дрымотная цішыня, здавалася, радавалася нашай вясёлай хадзе, бо ў такт нашым крокам гучалі і яшчэ нейкія вясёлыя словы. Дзівам трапіў я на тую нараду, бо гумарыст з мяне быў аніякі. Спрабаваў нешта там рыфмаваць, але і сам смяяўся з бездапаможнасці сваіх гумарыстычных намераў.

Добра памятаю, што ў той восеньскі дзень ад'езду чагосьці швэндаўся ў калідоры Саюза пісьменнікаў па вуліцы Энгельса. І, відаць, нечым прыглянуўся галоўнаму рэдактару «Вожыка» Паўлу Кавалёву.

— Паедзем, хлопча, вучыцца пісаць гумар! — прапанаваў ён.

— Дык я ж гумару не пішу...

— Будзеш пісаць! — падахвоціў Павел Нічыпаравіч.

І паехалі. Там, у Каралішчавічах, вядома ж, было каго паслухаць і ў каго павучыцца. Той маладой памяццю запомніў я і яго, не надта гаваркога, як здалося, але ветлівага, лагоднага, з абавязковым прыўсмехам на вуснах і любімым муштуком з цыгаркаю. Сяргей Сцяпанавіч Дзяргай — вось хто гэта быў, хто мне дужа спадабаўся. І вершы мае ён пахваліў, як цяпер разумею, авансам. І нават адзін надрукаваў потым у той самай «Бібліятэцы «Вожыка». Кнізе далі назву «Працяг знаёмства». Гэта камусьці тое друкаванне было працягам, а мне, зялёнаму, — самы пачатак, хай і не зусім удалы, але радасны. Любіў ён, падтрымліваў моладзь, як зразумеў я потым. Гэта ён заўважыў маладых і таленавітых хлопцаў-студэнтаў Я. Сіпакова, Р. Барадуліна і Б. Сачанку і прыхіліў у «Вожыку». І як жа ўдала яны саспулкаваліся тады пад псеўданімам «Сібарсач».

Тады, у шасцідзесятыя, паэзія С. Дзяргая яшчэ як гучала! Наогул гэта быў залаты час паэзіі. Хрушчоўская «адліга» надала моцы паэтычнаму слову, яно шырока заяўляла пра сябе са старонак газет і часопісаў, з радыёперадач, са сцэн ды стадыёнаў. У яго ж паэзіі было сваё, адметнае гучанне, з нейкай нязмушанай спасылкай на час, з абноўленай свежай рытмікай, з філасофскай заглыбленасцю ў з'явы і падзеі часу.

Заўсёды, пішучы пра паэтаў, мы шукаем у іх творчасці нейкіх праграмных вершаў. Сваё праграмнае С. Дзяргай, магчыма, напісаў і пазнавата, недзе на пачатку шасцідзесятых. У вершы «Мая мэта» чытаем:

Асушыць —
дзе яшчэ забалочана,
Даплаціць —
дзе ячшэ недаплочана,
Там прайсці —
дзе было недазволена,
Дасаліць —
дзе было недасолена.
І разбавіць —
дзе перасалоджана,
Распагодзіць —
дзе нераспагоджана,
Развяселіць усё,
што засмучана.
І злучыць,
што калісьці разлучана,
І апець
ўсё яшчэ неапетае...
Вось такую
паставіў мэту я.

«Апець ўсё яшчэ неапетае» — мэта для аднаго творцы не такая і простая, нават немагчымая. Гэту задачу паэт хутчэй за ўсё ставіў перад усёй нашай паэзіяй. Наогул аб месцы мастака ў жыцці, аб сутнасці самога мастацтва С. Дзяргай разважае шмат дзе ў вершах. А прызначэнне самога мастацтва ён бачыць вось у чым:

Каб соль не страціла
Уласцівую ёй солкасць,
А песня — гукаў
Трапяткіх і кволых,
Вясёлка — колераў,
Каханне — шчырасці,
А чалавек — душы сваёй
Вялікай, несмяротнай —
На свеце існуе
Мастацтва.

Варта зазначыць, што сваё паэтычнае «Я» паэт шукаў доўга і пакутліва, добра дбаючы і пра эмацыянальнае напаўненне радка, і глыбіню думкі, і тую ж адметнасць самой формы. Дзяргаўёскі верш, які ніколі не адпрэчваў традыцыйна-народнага, звыклых фальклорных вобразаў, смела ўбіраў у сябе больш сучасныя, імкліва-гукавыя рытмы, добра агучваўся дакладнаю рыфмаю. Аўтар не пераставаў здзіўляць чытача і свежымі, яшчэ нерушнымі, словамі, ён смела звяртаўся да таго ж верлібра. Часта форму верша і яго інтанацыю падказвала сама тэма. Прыкладам можа быць верш «Трое ўначы». Не думаю, што гэта нейкі эксперымент паэта. Хоць хто яму можа ў гэтым адмовіць? Кожны аўтар мусіць шукаць, як у сэнсе формы, так і зместу. Горш, калі ён ідзе ўжо даўно пракладзеным следам. У згаданым вершы шмат энергетыкі ад сэрца, шчымлівай засяроджанасці, адчування самой трагічнасці:

По правую руку ішла
Мужнасць,
Па левую, крыху адстаючы, —
Страх.
Ноч
прыслухоўвалася да нашых крокаў.
Ноч
углядалася ў нас цьмянымі бельмамі.
Ішлі...
Баяліся наступіць на якую гадзюку.
А яны —
таіліся,
варушыліся,
сычэлі...

Малюнак з часоў вайны. Ці не ўзята гэта з самой біяграфіі паэта? Так дакладна і гадзіннікавы механізм цяжка выверыць. Тут і рытм кроку добра адчуваецца: ён то запаволены, з прыслухоўваннем і заміраннем сэрца, то страхавата прыспешаны. А далей пачалі крочыць самі словы «zurück» і «halt», і мы слыхам сваім адчулі ўстрывожанае чалавечае дыханне. Яго перадаюць неаднаразовым паўторам тыя ж два нямецкія словы, пададзеныя і рытмічнай структурай, і нават графічным малюнкам. Не будзем забывацца пра тое, што графічны малюнак радка ў паэзіі таксама выконвае немалаважную ролю. Многія наватары гэтым яшчэ як карысталіся! Але паэзія — гэта заўсёды сплаў. І перавага толькі нечага аднаго з усіх яе складнікаў тоіць у сабе пагрозу крызіснасці. Сапраўднаму майстру такое не пагражае. Пра гэта заўсёды памятаў С. Дзяргай. У сваіх пошуках ён быў заўсёды арганічны.

Недзе зусім блізка па гучанні з вышэйзгаданым творам стаіць і «Патруль». Зноў жа — крокі, зноў жа — хада, і ўсё як быццам агучана рэхам праз тое ж біццё сэрца.

Гэта толькі адна старонка з паэтычных набыткаў паэта. У іншых было і шмат іншага, — і весялейшага, і змрачнейшага. Не проста так сабе прамовілася аднойчы:

...Ува мне і маўчыць і крычыць
І праклятае і святое.

Не спяшаючыся, спакваля працаваў у паэзіі С. Дзяргай. Першая яго кніга «Вачыма будучыні» выйшла з друку толькі ў 1953 годзе, хоць друкавацца пачаў за тры гады да вайны. Другі зборнік «Крэмень аб крэмень» прыйшоў да чытача ў 1958-м. Ну а самай значнай, этапнай кнігай трэба лічыць «Чатыры стыхіі» (1962). Яна мела шырокі розгалас у літаратурным асяроддзі, яе не абмінала доўгі час увагай крытыка. Кніга неўзабаве была адзначана Літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы, тады самай высокай узнагародай рэспублікі.

Назву зборніку даў аднайменны вершаваны цыкл, на які паэта натхнілі палотны французскага мастака Франсуа Рэнье: «Паветра», «Вада», «Агонь» і «Зямля». Калі мастацкае адштурхоўваецца ад таго ж мастацкага, атрымліваецца часам вельмі дзіўны і нечаканы па сваім эмацыянальным накале сплаў. Так было і на гэты раз. Спрадвечнае і жыццёвае, пяшчотна падсвечанае пачуццём таго ж кахання, набыло такую выразную філасофскую абгрунтаванасць, нібы, сапраўды, у адным выбуховым уздыху

сышліся і паядналіся ўсе чатыры найгалоўныя жыццёвыя стыхіі. Задума паэта была беспамылкова рэалізаванай.

Кніга «Чатыры стыхіі», выдатны водгук на яе самой грамадскасці акрылілі паэта, усцешылі яго сапраўдным натхненнем. Не будзем забывацца, што паэт тады працаваў у часопісе «Вожык», а таму не цураўся і гумару. Побач з пранікнёнай лірыкай, вершамі шырокага грамадзянскага гучання, з-пад яго пяра з'яўляюцца і гумарыстычныя творы: байкі, мініяцюры.

Крытыка наша мала пісала пра паэмы С. Дзяргая. А іх я налічыў каля дзесятка. З усіх хацелася б выдзеліць «На шашы энтузіястаў», дзе вельмі арганічна, нават стылёва аўтар наблізіўся да творчасці вялікага Пушкіна.

Жаданне сцвердзіць сябе ў жанры паэмы не пакідала, відаць, ніводнага паэта. Аднак не кожнаму тое было пад сілу. Перачытваючы радкі паэмы С. Дзяргая «На ласкавым хлебе», адразу захопішся вобразным лірычным апісаннем сядзібы:

Хата з малёваным пеўнікам,
З ганкам, падобным да кліраса,
Колядным пісаным пернікам
Побач царквы прытулілася.
Бэзам абсаджана дворышча,
Тынам з бярвенняў аточана,
Пахне антонаўкай хараша
Садам занятая ўзбочына...

Дайце гэтаму малюнку добры заключны радок — і не трэба лепшага верша. Але ўсё разлічана на паэму. І далей яно запатрабавала апісальнага, нават празаічнага рыфмавання. Значыць, задума паэмы не надта стасавалася да тэмпераменту таленту С. Дзяргая. Выйграваў ён у добра скандэнсаваным праз думку паэтычным матэрыяле, лаканічна выстраеным у арыгінальную форму з элементамі народнага ды песеннага жанру.

...Лагодны чалавек з кавенькай ды муштуком прываблівае сваёй гасціннасцю. У яго цеснай мінскай кватэры вельмі ўтульна пачуваліся маладзейшыя паэты, чыталі свае смелыя, а то і наіўныя вершы, а болей слухалі яго, інтэлігентнага, далікатнага, сяброўскага. А пра сябе чалавек расказваў вельмі мала, амаль нічога не расказваў.

Алег Лойка тыя далёкія сустрэчы прыгадвае так: «Гаварылі мы заўсёды пра паэзію, і вечары ніколі не доўжыліся. Не, гэта не быў падрыў аўтарытэту літкансультацыі пры Саюзе пісьменнікаў. Гэта ў сілу духоўнай неабходнасці кожнага з нас Вы да канца выслухоўвалі, літаратурныя навінкі з намі абгаворвалі. Усё было цікава. Галоўнае — без навязвання нам свае волі, без катэгарычнасці, як роўны з роўным, хоць роўнасці не было: сутыкаліся складанага жыццёвага вопыту чалавек і наіўныя падлеткі, майстра слова і пачынаючыя».

Усе размовы, як бачым, зводзіліся толькі да творчасці. І нідзе ні слова не казаў ён пра свой уласны лёс. А там было столькі цяжкага, нават трагічнага. Усё жыццё за ім неадступна хадзіла яго хвароба. Тады, у 1927 годзе, з-за яе ён мусіў нават пакінуць вучобу. Праз многа гадоў яна зноў нагадае пра сябе і будзе больш бязлітаснай — прыкуе да ложка.

А як сябе пачуваць чалавеку, якога раптам аб'явілі ворагам народа? Недзе ў сярэдзіне 30-х гадоў яго нават арыштавалі і прыгаварылі да трох гадоў зняволення. Але спахапіліся, што беспадстаўна, адмянілі той прысуд. І ён паехаў у вёску і жыў у брата. Дзе там было да вершаў! Добра, што

ліха абмінула. Ды не, не абмінула. У 1939 годзе пра яго нечакана ўспомнілі. І апынуўся ён у высылцы, у Казахстане.

У 1941 годзе ён вярнуўся ўрэшце на радзіму, пасяліўся ў прыгарадзе Гомеля Нова-Беліцы. А тут пачалася вайна. І ён бярэ на сябе яшчэ непасільныя змагарныя абавязкі: трымае сувязь з партызанамі, распаўсюджвае літаратуру, хавае ўзрыўчатку. Сядзіць, як кажуць, на парахавой бочцы. Потым у вершы «Акупацыя» пра гэта скажацца так:

Жыцця — не было,
Але не было і смерці.
Быў — дух,ператвораны ў полымя.

Ён жыў, і змагаўся, і, як справядліва зазначае А. Марціновіч, «на лёс не скардзіўся ніколі». Толькі аднойчы, асэнсоўваючы ўсё пражытае, ён з адчайным уздыхам прамовіць такое:

Ох, жыццё, жыццё!
Як ты мяне вярэдзіла,
Шкуматала,
Трапала,
Кідала;
Якія пасткі на маім шляху ставіла!..

І, будучы цяжка хворым, да самай смерці ён не застанецца без сяброў, без тых жа размоў пра паэзію, пра тое, што пісалася і друкавалася. Быў у паэта клопат пра вершаванае слова, пра яго заўтрашні дзень. І жыццё сваё, хоць і нялёгкае, нават пакутлівае, ён пражыў годна, пакінуўшы нам, як прыклад, і шчырую паэзію разам з запрашэннем у яе: «Прыходзьце, людзі добрыя, прыходзьце! Стукайце ў дзверы маёй хаты». Дзверы яго паэзіі нават не зачыняліся, яны шырока разнасцежаны для нас і нашчадкаў.

***Прадмова і падрыхтоўка тэкстаў***
***Казіміра Камейшы.***

## РОДНАЯ МОВА

Гук слова роднага, з якім ад першых дзён
Мяне ў калысцы маці калыхала...
Пах хлеба жытняга... Яму й цяпер жадзён,
Бо хлеба мне ў дзяцінстве не хапала...
І цяжка мне суцішыць і стрымаць
Пачуцці, расчуленне, хваляванне!
Цябе, Радзіма, буду апяваць,
Пакуль аж не ўздыхну я ў раз астанні.
Дождж дробны, буйны, пад якім я мок,
Зямельку, па якой хадзіў я босы,
І хаты, і над хатамі дымок,
Пахмурыя ці ясныя нябёсы,
Глыбокія, бяздонныя віры
І ручаі з празрысаю вадзіцай,
Ссівелыя, калматыя бары,
Што жоўтаю цярушаць гліцай,

Прасцяг палёў, што шчэццю ніў прарос,
Шляхі, дзе часам гразка й пескавата,
І цела белае негаманкіх бяроз,
Ружовае ад полымя заката, —
Усё ў табе мне дужасць прыдае,
Не зганю й дробязі, усё ў табе хвалю я,
Твая бяда і радасці твае,
Твой лёс мяне трывожыць і хвалюе.
Гук слова роднага... Ды гэта ж ты і ёсць.
Пах хлеба жытняга...
То ж Беларусь — Айчына,
А я — твой сын, ад косці тваёй косць,
Кроў ад крыві тваёй, мая Айчына.

*1957*

## ВОСЕНЬ

Мінаючы зялёную ялінку,
Апёкшы клёна кволую далонь,
З сука на сук, з галінкі на галінку
Перасмыкае восеньскі агонь.

Ужо тарчаць аленнімі рагамі
Аголеныя вераснем сукі,
Каля ракі чуваць над берагамі
Сухі, трывожны шолах асакі.

Сягодня дзень быў зябкі,
непагодны —
На́ плашчык мой, захутайся ямчэй...
Заўжды баюся я вачэй халодных
І вераснёвых здрадлівых начэй...

Апошні час мне холадна, Марыя.
Хай верасень у гэтым вінават.
Зрабіўся нейкі кволы без пары я,
Не разумею,
разумею шмат...

Маўчыш... нібы ля попелу сівога,
Прадзьмутага вятрамі навылёт,
Ты спадзяешся абагрэць, нябога,
Сваю руку, халодную як лёд.

Мінаючы зялёную ялінку,
Апёкшы клёна кволую далонь,
З сука на сук, з галінкі на галінку
Перасмыкае восеньскі агонь.

*1957*

## СІНЯЯ БЕЗДАНЬ

Гляджу я ў бездань сінюю начы,
Раздзёртую ламанай бліскавіцай...
Якія тут патрэбны тлумачы?
Я авалодаў сёння таямніцай.

Ты ля мяне... і ў гэтым сэнс жыцця.
Ты ля мяне... і мудры я, павер мне:
Не высею на вецер забыцця
Дум запаветных, мыслі сваёй зерне.

Ты ля мяне — я ўсё магу як ёсць...
Ты ля мяне — я малады і дужы.

Цвіце, не адцвітае маладосць,
Красуе, не зважаючы на сцюжы.

І ты, адным-адзіная мая,
Кахаеш гэтак жа — без роздуму, вагання,
Як шчыра сам цябе кахаю я.
І то не прывід, а само каханне.

Дайшлі з табой да радасці вянца.
Згубіць адно аднога — небяспечна.
Як персцень без пачатку і канца,
Так мы — адно, суцэльнае, навечна.

*1957*

## ЧАТЫРЫ СТЫХІІ

### Паветра

Глянь, паветра... такое празрыстае,
Прамяністае,
                    лёгкаіскрыстае,
Ледзь ружовае, ледзь залатое,
То спакойнае,
                    то трапяткое;
Тонкім водарам, пахамі мклівымі
За вятрамі бруіцца гуллівымі.
І чаму ад смяротных затоена,
На якіх яно зёлках настоена?
Глянь, паветра...
                    Яно такое!..
Не знайсці параўнання — якое...
Як і ты, з той жа пражы сатканае,
Дарагая мая, каханая.
Мая весняя песня ўрачыстая,
Светлым-светлая, чыстая, чыстая!
Ці не з мары?..
                    Пазнаў. Тая самая —
Шчырым-шчырая, нібы сляза мая.
Без цябе — ўсё навокал цьмянае,
Нецікавае і нежаданае.
Дакрануцца б ледзь-ледзь,
                    асцярожна...
Мне пра гэта і марыць няможна.
Паглядзець на цябе
                    хоць бы мельгам...
Ды паветра ж празрыстае — нельга.
Як смуга у блакіце, жаданне
Ледзь народзіцца — тут і растане.
Як смуга у блакіце,
                    жаданне...

## Вада

Развяжаю. Стаю над ракою.
Вунь той бераг — падаць рукою!
Але трапіць туды не проста, —
Ані чоўна няма, ні моста.
Хіба ўраз з галавой акунуцца
Ды на беразе тым апынуцца!
Рызыкнуць? А як раптам патонею?
Гэта ж справа мая, не староння.
Залюляе на хвалях і, мабыць,
У бяздонне віроў завабіць.
— Месца плыткае тут ці глыбокае?
Ты не скажаш мне, зеленавокая?
Што глядзіш на мяне абыякава,
Як на кожнага, як на ўсялякага?
Прыімруж свае вочы русалчаны...
Мой спакой, мая воля згвалчаны.
Ды чаго ад цябе дачакаешся,
Калі думаеш толькі, а каешся!
Слова кінь, і надзея ўваскрэсне...
Ты маўчыш... І маўчанне, — як песня,
Але ў ёй ні маны і ні шчырасці —
З гэтай песні пачуццю не вырасці.

Гладзь вады ўтаймаваная, ціхая,
Халаджавай спакусаю дыхае.
Гладзь вады ўтаймаваная, ціхая...

## Агонь

Ці мінула хвіліна, другая?..
А ці час супыніўся навечна?..
Я глядзеў, як агонь шугае,
І стаяў, хоць было небяспечна;
Я сябе падбадзёрваў — выстаю
Гэту немарасць, замець іскрыстую;
Мне тады безразважна здалося:
Усё у полымі гэтым злілося.
Але раптам над вогненнай багнаю
Саламандру я ўгледзеў прагную.
У яе па агністаму джалу
Беглі кроплі жадання і шалу.
І тады здрыгануўся я ўпотай
Усёй сваёй чалавечай істотай.
Як агонь... Ты якраз такая ж:
Зблізу — паліш, здалёк — апякаеш.
Нестрыманая і апантаная,
І жаданая і нежаданая,
Да цябе — у агні і ў полымі —
Не падыдзеш з пачуццямі кволымі:

Апячэш... і мясціну балючую
Не загоіш вадою гаючаю.

Ледзьве ж згасне агонь ненажэры —
Папялок застанецца... шэры.
Ледзьве згасне агонь ненажэры...

## Зямля

Таямніца зямлі — вялікая.
А сама... да чаго ж яна простая!
Да жыцця нас уладна клікае —
Падзе зерне ў яе і прарастае.
І тады, як наш розум стрывожаны,
А пачуцці, як коні, стрыножаны,
Калі ласкі, спакою жадаем —
Да грудзей мы яе прыпадаем.
Светлым-светлая ранняя раніца...
Цемра, ноч навальнічная, хмарная...
О зямля, ты жыцця абранніца,
Буйным плодам яго цяжарная.
Як сустрэцца, дзяўчо, нам пашчасціла?
Чым і як ты наўкола ўсё засціла?
Хіба тым, што, як я, ты зямная ж?
Што ўзрасла не пад райскаю пальмай,
Што нічога, як ёсць, не пытаеш —
Разумееш і радасць і жаль мой.
Сэрца прагне і розум дзярзае,
Бо са мною ты ўся дарэшты,
Узнімуся — і твар твой ззяе,
Упаду я — і не адштурхнеш ты.

Ці не ты заспакоіш, родная,
Пачуццё маё вечна галоднае!
Ці не ты заспакоіш, родная...

*1959*

## ЦЕНІ

Чалавек па белым свеце ходзіць,
А за чалавекам — цень, і дзень пры дні
Аніяк збавення не знаходзіць
Чалавек ад чорнае радні.

Скрозь і ўсюды — цені, цені, цені,
Чорныя, як першародны грэх.
Здзейсніць бы жаданні ўсе, хаценні,
Каб было ўсё белае, як снег.

Нешта вымысляеш ты, паэце,
З’ява цень — звычайная удзень:
Не было б святла на белым свеце,
Дык адкуль узяўся б і той цень?!.

Здзейсніць твае мары немагчыма.
Хіба сонца хочаш пагасіць?
Глянь на ўсё інакшымі вачыма,
Здолей зразумець і ацаніць.

Толькі як належыць ацаніць іх —
Справы, і пачуцці, і людзей.
Наша сонца сёння — у зеніце,
Значыцца, і цені карацей.

***1972***

* * *

Прыходзьце, людзі добрыя, прыходзьце!
Стукайце ў дзверы маёй хаты.
Мацней, мацней стукайце,
Калі я не адразу пачую вас.
І я адчыняю вам,
З радасцю адчыню вам.

Прыходзьце, мыслі добрыя, прыходзьце!
Стукайце ў мой мозг.
Не бойцеся зблудзіць у яго лабірынтах.
Для вас заўсёды знойдзецца ў ім
Утульная каморка.

Прыходзьце, пачуцці добрыя, прыходзьце!
Стукайце ў маё сэрца.
Я не пераблытаю стуку сэрца
З вашым стукам.
Націскайце на ўсе яго клапаны.
І маё сэрца адкрыецца вам.

Стукайце,
Стукайце,
Стукайце!..
Пакуль я магу адчыніць вам...

***1973***





## *ШКОЛЬНЫ ФАКУЛЬТАТЫЎ*

### Алесь АСІПЕНКА



Жыццёвы і творчы шлях Аляксандра Харытонавіча Асіпенкі ў многім тыповы для беларускага савецкага пісьменніка. Ён нарадзіўся 7 верасня 1919 года ў вёсцы Пушкары Віцебскага раёна Віцебскай вобласці. Як і большасць беларускіх пісьменнікаў, Асіпенка паходзіў з сялянскага асяроддзя.

Пасля заканчэння школы здольны юнак паступіў на гістарычны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута, пасля працаваў настаўнікам на Віцебшчыне. Але пачалася вайна, і будучы пісьменнік пайшоў у партызаны. Стаў памочнікам камісара атрада па рабоце з камсамольцамі, але быў паранены, і ў снежні 1942 года яго адправілі за лінію фронту. У 1943 годзе ён накіроўваецца на камсамольскую работу ў Магілёўскую вобласць.

Алесь Асіпенка быў узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны І і ІІ ступені, «Знак пашаны», двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалямі.

З 1944 года А. Асіпенка працуе ў газеце «Чырвоная змена» спачатку літсупрацоўнікам, карэспандэнтам, пазней загадчыкам аддзела, а з 1952 года — рэдактарам.

У 1955 годзе Алесь Асіпенка, хоць меў ужо даволі сталы ўзрост, завочна скончыў Мінскі педагагічны інстытут. З 1953 па 1972 год ён працуе ў часопісе «Маладосць»: спачатку загадчыкам аддзела, пасля адказным сакратаром, намеснікам галоўнага рэдактара і нарэшце — галоўным рэдактарам. У 1972 годзе пераходзіць на кінастудыю «Беларусьфільм», дзе працуе галоўным рэдактарам сцэнарнага аддзела да 1976 года. А з 1976 па 1980 год узначальвае штотыднёвік «Літаратура і мастацтва».

Пачаткам пісьменніцкага шляху Алеся Асіпенкі можна лічыць 1945 год, калі ў друку з'яўляецца яго першае апавяданне. Але першая кніга празаіка «Лёд растае» ўбачыць свет толькі ў 1958 годзе. Пасля будуць «Подых кветак і працы» (1960), «Дарога ў даль» (1962), «Крокі» (1971), «Парогі» (1973), «Абжыты кут» (1964), «Жыта» (1968), «Канец бабінага лета» (1975), «Два дні і дзве ночы» (1977), «Пяцёра адважных» (1985).

Адметнымі рысамі творчасці Алеся Асіпенкі была ўвага да сюжэта, пабудаванага на вострым канфлікце. Вялікую ўвагу аўтар надаваў тэмам, якія былі найбольш значнымі для сучаснікаў. Вопыт напісання кінасцэнарыяў дапамог яму

лёгка канструяваць сюжэты і выбудоўваць ясную і лагічную кампазіцыю ва ўсіх жанравых празаічных формах.

Алеся Асіпенку можна лічыць адным з яркіх прадстаўнікоў літаратуры сацыялістычнага рэалізму. Гэта была нарматыўная эстэтыка, але яе нельга разумець спрошчана: у пасляваенныя гады пісьменнікі шмат эксперыментавалі ў галіне формы. Аднак усё ж рэалістычны метад быў галоўны, аўтары імкнуліся праўдзіва адлюстроўваць рэчаіснасць. А яна настолькі ўскладнілася, што давала шмат тэм для паказу. А галоўнае, пісьменнікі на кожным кроку сустракалі яркіх, неардынарных асоб. Дастаткова паглядзець на самога Алеся Асіпенку: якое ў яго было багатае на падзеі жыццё. Назіраючы за сучаснікамі, савецкая літаратура пакінула нямала добра распрацаваных адметных вобразаў.

Акрамя кніг апавяданняў і аповесцей, у Алеся Асіпенкі выйшлі і раманы: «Вогненны азімут» (1966), «Святыя грэшнікі» (1988), «Непрыкаяны маладзік» (1974, пасля, у 1982 — поўнае выданне).

Серафім Андраюк у кнізе «Жыць чалавекам» так характарызуе лепшы, на нашу думку, асіпенкаўскі раман «Непрыкаяны маладзік»: «Раман гэты — цікавая вяха ў творчасці пісьменніка. Асіпенка, захаваўшы лепшыя якасці сваіх ранейшых твораў пра сучаснасць: цікавасць да вострых надзённых грамадскіх праблем, успрыняцце жыцця ў вострых драматычных калізіях і сутычках, — імкнецца даць шырокі ахоп рэчаіснасці не такіх ужо далёкіх ад сённяшняга дня часоў. Праўда, зазначым адразу, што не заўсёды шырыні адпавядае належная глыбіня. Некаторыя важныя грамадскія і асабістыя праблемы закранаюцца, а то і вырашаюцца неяк лёгка, як бы між іншым».

Верагодна, справа ў тым, што Алесь Асіпенка быў у першую чаргу майстрам невялікай формы — апавядання і аповесці.

У той жа кнізе Серафім Андраюк адзначае: «Непрыкаяны маладзік» у першую чаргу вылучаецца моцным грамадзянскім выкрывальным пафасам. Ён, гэты выкрывальны зарад, нясе ў сабе сацыяльны і маральны змест твора, надае яму сучаснае гучанне. Хваробу мяшчанства, бюракратызму, абывацельства пісьменнік паказвае ў розных яе праяўленнях, аналізуе ўважліва і ўсебакова».




*На радзіме Івана Мележа.*



*З супрацоўнікамі і аўтарамі газеты «Літаратура і мастацтва».*

Многія з тых праблем, якія ўздымаюцца ў творчасці Алеся Асіпенкі, не губляюць сваёй актуальнасці і сёння. На фоне мінулай, савецкай, эпохі дзейнічаюць праўдзівыя характары — яркія, драматычныя. Нашых сучаснікаў можа шмат што захапіць у творах сацыялістычнага рэалізму. Безумоўна, маладых чытачоў не будуць асабліва цікавіць вытворчыя аспекты грамадскага жыцця, пафас будаўніцтва новага ладу, характэрныя для савецкай літаратуры. Цяпер на першы план выходзяць маральна-этычныя праблемы, складаныя перапляценні чалавечых стасункаў. Найбольш цікавымі становяцца пэўныя чалавечыя тыпы або паводзіны чалавека, уцягнутага ў цяжкавырашальны канфлікт, ці чалавека, перад якім стаіць выбар. Усё гэта якраз прысутнічае ў творчасці А. Асіпенкі.

«Перадаючы асобныя факты, падзеі, сітуацыі, Асіпенка пераканаўча і праўдзіва паказаў атмасферу жыцця, якая нараджае бюракратызм, мяшчанства, — піша Серафім Андраюк. — Мы бачым, што мешчанін, абывацель незалежна ад рангу і пасады, свае асабістыя, дробнаспажывецкія інтарэсы ставіць вышэй за ўсё. Чалавек нібы пачынае круціцца вакол сябе і часта проста закручваецца ў прамым і пераносным сэнсе».

Інакш кажучы, калі мы хочам зразумець вытокі некаторых сучасных негатыўных з'яў, варта пазнаёміцца з творамі папярэднікаў, якія ў цэлым пераканаўча і праўдзіва паказалі глебу, на якой узрастаюць хцівасць, прагнасць, пошасць і абыякавасць. Але паказалі нямала і добрых, працалюбівых, сціплых людзей. І вось гэтым асабліва каштоўная савецкая літаратура, якую мы ў значнай ступені яшчэ недаацэньваем.

***Пра Алеся Асіпенку пісалі:***

Андраюк С. Жыць чалавекам. Мінск: «Мастацкая літаратура», 1983.

# НЯРОЎНАЙ ДАРОГАЙ

### *Урывак з аповесці*

### 1

Апошнім шчаслівым днём яго бесклапотнага дзяцінства было шостае снежня — маміны імяніны. А далей і неяк адразу пачалося юнацтва, а з ім паласа незразумелага смутку і недарэчных учынкаў.

Маміны імяніны Вадзім любіў з даўніх часоў. Падабалася прачнуцца на дасвецці; дастаць з патаемнага месца падарунак, загадзя куплены бацькам; на дыбачках прайсці ў спальню, хаваючы за спіной рукі з пакункам; пакласці яго на маміны грудзі паверх коўдры; пажадаць маці шчасця і здароўя. Мама рабіла выгляд, быццам толькі што прачнулася; яна смешна моргала доўгімі выгнутымі вейкамі, паспешліва працірала вочы маленькай зграбнай рукой, усцешна дзівілася Вадзімаваму прыходу. Заўважыўшы пакунак, яна прыўзнімалася на локці, абхоплівала Вадзіма за шыю, некалькі разоў моцна цалавала ў шчокі, лоб. Ад мамы пахла бэзам і ласкавай цеплынёй.

Напярэдадні таго памятнага дня Вадзім з бацькам збегалі ў ГУМ, купілі маленькі васьмігранны гадзіннік — падарунак ад бацькі — і незвычайнай прыгажосці, на думку Вадзіма, завушніцы: на тонкіх нітачках празрыстыя, як слёзы, каменьчыкі.

Было гэта пад вечар. Бралася на мароз. Ахутанае чырванню сонца садзілася за скверам. Дзьмуў не моцны, але вельмі пранізлівы вецер. Ён гнаў па асфальце дробны пыл, снег няпрошаным госцем забіраўся пад паліто, у рукавы. Спрабуючы ўцячы ад гэтага калючага ветру, людзі спяшаліся, быццам беглі навыперадкі. Не адставалі ад іх і Вадзім з бацькам, абодва спорна крочылі і маўчалі.

За гарадскім паркам, на мосце, ім сустрэлася жанчына ў футры. Яна мінула іх, потым аклікнула бацьку. Ён павярнуўся і, як здалося Вадзіму, спачатку разгубіўся, а потым узрадаваўся, відаць, пазнаўшы незнаёмую. Яны прывіталіся і змоўклі.

Бацька нялоўка, нават сарамліва ўзяў Вадзіма за плечы, сказаў:

— Мой... — падумаў і дадаў: — Вадзім.

Жанчына дапытліва паглядзела на Вадзіма.

— Адразу відаць, што твой, — прыязна ўсміхнулася яна.

— Падобны?

— Вось такім, як ён, я і помніла цябе...

Бацька з сарамлівай разгубленасцю глянуў на Вадзіма. Яна перахапіла гэты позірк, запыталася:

— Не забыўся, як мы спрачаліся ў нас, калі жылі на Ветранай вуліцы?

На бацькавым ілбе прабеглі два глыбокія раўчукі маршчын.

— Даўно гэта было.

— А я ўсё тое помню, — горача вымавіла жанчына.

— І я, — з нейкім асаблівым сэнсам сказаў бацька.

— Дурныя мы тады былі. Але лепшыя, чым цяпер.

Бацька здзіўлена ўзняў вочы.

— Гэта я жартую,— зноў усміхнулася жанчына.

Бацька глянуў на Вадзіма, жанчына ледзь схіліла галаву. Вадзім здзівіўся — яны разумеюць адно аднаго з паўслова.

— Я пра цябе чула.

— Я таксама, — адказаў бацька.

Жанчына паглядзела на бацьку і зноў усміхнулася краямі падмаляваных пунсовых вуснаў. У яе быў маленькі акуратны рот, прыпухлыя губы, прамы, трохі падоўгі нос, тонкія бровы і ледзь раскосыя вочы. Сама яна здавалася маленькай і зграбнай, як прыбраная лялька.

— Хто яна, тата? — запытаўся Вадзім, як толькі бацька развітаўся. Размова яму здалася дзіўнай і нават шматзначнай. Яму хацелася ўсё ведаць пра гэтую жанчыну, але бацька адказаў коратка і не зусім зразумела:

— Так... Адна знаёмая. — Ён крыху памаўчаў і, адчуваючы, што Вадзім незадаволены адказам, дадаў: — Мы з ёй калісьці разам вучыліся.

Бацька пацёр пальчаткамі вусны, крактануў ад холаду, падагнаў Вадзіма:

— Прыбаў кроку, а то адмарозіш нос.

Назаўтра Вадзім падарыў маці завушніцы, і яна, прымяраючы іх перад люстэркам, некалькі разоў абняла сына.

Увечары пачалі збірацца госці. Яны прыносілі падарункі, жанчыны цалаваліся, абдымалі адна адну, стараючыся, аднак, не пакамячыць шыкоўных плацццяў, мужчыны віталіся, а некаторыя цалавалі маміну руку з шырокім залатым пярсцёнкам.

На стале сярод мноства закусак і бутэлек на вялізнай талерцы ў выглядзе вінаграднага ліста ўзвышаўся торт з вензелем «ТК». Вакол яго гарэлі свечкі. Іх было сорак — столькі гадоў мама пражыла на свеце. Госці захапляліся тортам і свечкамі, але Вадзіму здавалася, што гаварылі яны няшчыра.

За сталом хутка зрабілася шумна. Свечкі патушылі, бо яны перашкаджалі браць закускі, ды і пахла ад іх гарам і воскам. Як і даўней, спявалі хорам «Лучынушку», «Кацюшу» і чамусьці «Кірпічыкі», пэўна, таму, што на імянінах прысутнічаў дырэктар цагельнага завода, чалавек зайздроснай весялосці і знаўца дасціпных жартаў.

Пасля застолля маці і дырэктар завода станцавалі «рускага». Яна, лёгка прытупваючы, адступала перад ім, абмахвалася хустачкай, какетліва прыўзнімала агаленыя плечы, а ён, як той певень, спаважна хадзіў вакол яе, выбіваў нагамі дробную чачотку, пахлопваў рукамі па грудзях і каленях, глядзеў на яе хцівым позіркам і ўвесь час стараўся дакрануцца, хоць локцем, да яе поўных, высокіх грудзей.

Выбегшы на кухню, каб напіцца, Вадзім пачуў, як бацька злосна сказаў маці:

— Ты хоць бы трымала сябе прыстойна.

Маці хацела абняць бацьку, але ўбачыла Вадзіма, крыкнула:

— Табе чаго трэба? Марш адсюль.

— Я толькі напіцца...

Напіўшыся, ён памалу пайшоў да гасцей. Чуў, як маці апраўдваецца.

— Табе, Толя, заўсёды здаецца.

І адказ бацькі:

— Агоркла гэтае тваё...

Пазней Вадзім забраўся за шафу. Сядзеў там на канапе з Маяй, дачкой Сцяпана Захаравіча, даўняга знаёмага іх дома. Яны былі равеснікі, але за апошні час Мая папрыгажэла, а ён усе яшчэ заставаўся нялоўкім хлапчуком. На іх ніхто не звяртаў увагі, і абаім было добра. Сядзелі, прытуліўшыся адно да другога, напаўголаса гаварылі пра князёўну Мэры, пра Пячорына, бо абое нядаўна прачыталі «Герой нашага часу». Мая з дзіцячай шчырасцю і нейкай мілай дзявочай зграбнасцю клала сваю вузкую руку на яго плячо, заглядала ў Вадзімавы вочы. Вадзім адчуваў сябе побач з ёю сталейшым. Яму вельмі хацелася, каб вось зараз здарылася што-небудзь незвычайнае, наляцелі б, напрыклад, піраты і захапілі б усіх гасцей у палон. Тады ён вызываў бы Маю з няволі.

Захапіўшыся думкамі, Вадзім некалькі разоў неўпапад адказваў на пытанні Маі. Яна, здзіўленая такой няўважлівасцю, паглядзела на яго, потым закінула назад коратка падстрыжаную галаву і зарагатала.

У яе была белая шыя, на якой трапятала блакітная жылка. Вадзіму раптам нясцерпна захацелася дакрануцца вуснамі да гэтай трапяткой жылкі. Ён разумеў, што потым будзе сорамна, што Мая можа пакрыўдзіцца, але нічога не мог зрабіць з сабой. Мая раптам абарвала смех.

— Ты такі смешны, калі задумаешся. Вочы ўтароплены, а рот раскрыты. І пра што ты думаеш?

Ён пасаромеўся сказаць, што ўвесь час думае пра яе і пра сябе, уяўляючы Маю кволай, слабенькай, а сябе — рашучым і моцным.

— А ведаеш, калі ты задумваешся, у цябе тады нешта дурнаватае на твары напісана, — з таварыскай прыязнасцю сказала яна, і Вадзім ніяк не мог вырашыць, крыўдаваць яму на Маю ці не.

Пазней, адбіраючы ў Маі паперку з першым сваім вершам, які ён з тыдзень назад напісаў, ён неяк неспадзявана дакрануўся да Маінай шчакі вуснамі. Абаім зрабілася няёмка. Яны змоўклі, баючыся сустрэцца вачамі.

Вадзім пайшоў праводзіць гасцей, упершыню як дарослы. Мая ішла поруч з маці і не звяртала на яго ніякай увагі. Ён ужо каяўся, што выйшаў з дому.

Падышоў аўтобус. Усе зайшлі ў яго і адтуль махалі рукамі. Вадзім глядзеў з-за бацькавай спіны на Маю і думаў, што толькі яму аднаму належыць лёгкае ківанне вузкай дзявочай рукі. Ён таксама нясмела, нават сарамліва, паківаў Маі. Яна ўсміхнулася яму, хоць глядзела зусім не ў яго бок.

Аўтобус пайшоў, і пякучы смутак агарнуў Вадзімаву душу, быццам нешта беззваротна прапала.

То было дзяцінства.

## 2

Вадзім па-ранейшаму хадзіў у школу, вучыў урокі, пісаў кантрольныя, атрымліваў заўвагі, бегаў на перапынках па калідоры: здавалася, нішто не змянілася з таго дня. Але жыла ў ягоным сэрцы нейкая незразумелая туга.

Хацелася пабачыць Маю. Яна жыла далёка, і Вадзім не ведаў, як з ёю спаткацца. Падпільнаваць ля школы, выбегчы адкуль-небудзь з-за вугла, калі яна будзе ісці з таварышкамі? На жаль, яна таксама вучыцца ў першую змену. Каб сустрэцца, трэба ўцякаць з урокаў. На гэта не хапала смеласці.

Можна было б пайсці дамоў. Яму даводзілася некалькі разоў быць у Маі, але цяпер Вадзіму здавалася, што Захар Сцяпанавіч, і асабліва маці, дагадаюцца, чаго ён прыйшоў да іх. Гэтая сарамлівасць рабіла яго бязвольным.

Мабыць, ад гэтай крыўднай незадаволенасці сабой ён стаў дзёрзкім, і калі настаўнікі рабілі яму заўвагі, не маўчаў, як раней, а спрачаўся, апусціўшы ўніз вочы, сагнуўшы набок галаву. Было ў яго паставе нешта новае, упартае.

Аднаго разу Вадзім усё ж адважыўся зайсці да Маі.

Дзверы адчыніла маці. Яна не здзівілася, калі ўбачыла Вадзіма, але яму здалося, быццам яна глядзіць сёння на яго інакш, чым раней.

— Мая, — гукнула яна, — хадзі сюды.

Мая выбегла з лінейкай і рэйсфедэрам у руцэ. Спынілася, здзіўленая, разгубленая, з лёгкай дзявочай чырванню на твары. Яна была вельмі прыгожая ад гэтай збянтэжанасці. Вадзім разумеў, што трэба зараз жа растлумачыць прычыну свайго раптоўнага прыходу, але язык чамусьці адмовіўся павярушыцца. Нарэшце хлопец саўладаў з сабой.

— Я да цябе за білетамі па геаграфіі, — сказаў ён і пачырванеў, раптам зразумеўшы, што прычыну ён прыдумаў няўдалую.

— А ў мяне білетаў няма, — сказала Мая, адрэзаўшы гэтым шлях да далейшай размовы.

— Можа, у тваіх таварышак ёсць білеты? — спытала маці.

— Ёсць у Тані.

— Збегай і прынясі, — загадала яна.

Пакуль Мая бегала па білеты, Вадзім сядзеў у зале, гартаў стары часопіс без пачатку і канца.

Маі доўга не было. Потым яна прыйшла, прынесла білеты, крыху пасядзела, але раптам успомніла, што ёй трэба ісці ў кіно з аднакласнікамі. Вадзім неахвотна прыўзняўся. Мая накінула шубку, павязала хустку і адразу зрабілася дарослай.

Увайшла маці, спыталася:

— Куды ты, Мая? — І, пачуўшы, што дачка хоча ісці ў кіно, прапанавала: — Вазьміце і Вадзіма з сабою.

Калі выйшлі на вуліцу, Вадзім сказаў Маі:

— Добрая ў цябе маці!

У кіно пайшлі ўпецярых: тры дзяўчыны і два хлопцы. Новы Вадзімаў сябар быў пацешны: нізенькі, тоўсценькі, блізарукі, з доўгімі белымі валасамі і ружовымі шчокамі. Ён нечым нагадваў дзяўчынку. І звалі яго дзіўна — Леля.

Дзяўчаты абыходзіліся з ім па-свойску: жартаўліва бралі пад рукі, скублі з усіх бакоў, а ён паварочваў круглую галаву ва ўсе бакі, бяскрыўдна пазіраў праз вялікія акуляры і рабіў сур'ёзны выраз твару.

Затое з Вадзімам дзяўчаты абыходзіліся холадна, хоць і падкрэслена ветліва: гаварылі з ім на «вы», а калі выпадкова штурхалі, дык прасілі прабачэння.

Пасля кіно яны рашылі прайсціся. Дзяўчаты, узяўшыся пад рукі, дробна тэпалі ў нагу, хлопцы на флангах вымервалі па-мужчынску важкія крокі. Ісці стараліся нялюднымі вуліцамі: на цэнтральнай баяліся сустрэцца з настаўнікамі.

Гарэлі рэдкія ліхтары. Яны адкідвалі пяць карабацістых няроўных ценяў. Цені то вагаліся наперадзе, то цягнуліся ззаду, потым зноў выпікалі з-пад самых ног. У завулку ля парку ліхтароў зусім не было, таму завулак здаваўся мёртвы. Яны адразу ж перайшлі на брук, бо вузенькі тратуар не мог умясціць іх шарэнгу. Размова адразу спынілася. Ішлі, слухалі ў марознай цішыні дробны перастук дзявочых абцасаў і гулкі крок хлапечых туфляў.

У адным з дамоў дзверы ў сенцы былі прыадчынены. На бруку ляжала нешырокая жаўтаватая паласа святла. Праходзячы каля дома, Вадзім выпадкова заглянуў у сенцы і жахнуўся. Там стаяў бацька. У яго былі апушчаны рукі і нізка нахілена галава. Ён уявіўся Вадзіму няшчасным. Побач з ім стаяла тая жанчына, якую яны ў дзень імянін сустрэлі на мосце. Яна трымала бацьку за барты паліто, зграбна перагнуўшыся, неяк знізу і збоку глядзела ў бацькаў твар і нешта горача гаварыла. Бацька рашуча варухнуў плячамі, быццам хацеў страсянуць з сябе які цяжар, паклаў ёй руку на плячо. Яка выпрасталася, усміхнулася яму і паклала сваю галаву на яго грудзі.

Вадзім не пайшоў праводзіць Маю, як думаў раней, а пабег дамоў адразу, як толькі выйшлі з завулка. Яму здалося, што Мая таксама ўсё бачыла і, прыйшоўшы дамоў, раскажа пра гэта маці і бацьку. Вадзіму то раптам хацелася вярнуцца ў той цёмны завулак, нагаварыць бацьку злосных слоў, то ён роспачліва махаў рукой — усё скончана. Потым, ужо ля самага дому, калі крыху звыкся з непрыемнымі думкамі, ён супакоіў сябе цвярозай развагай: нічога не здарылася. Бацька проста зайшоў у госці да сваёй студэнткі.

У Вадзіма адлегла ад сэрца. «Вось зараз прыйду дамоў, — рашуча падумаў ён, — і раскажу маці ўсё, што ўбачыў».

Ён бегма ўзыходзіў па лесвіцы, пераскакваючы цераз прыступкі. Раптам перад яго вачамі зноў паўстала згорбленая, з апушчанымі рукамі постаць бацькі. Непрыемна кальнула думка: не хацеў ісці да нас...» Але Вадзіму было сорамна за свае думкі, і ён вырашыў, што нічога не скажа маці.

Маці вышывала.

— Бацьку не страчаў? — спыталася яна ў Вадзіма.

— Не, — схлусіў ён і хутчэй лёг у пасцель.

Бацька прыйшоў следам.

— Ты яшчэ не спіш? — запытаўся ён, быццам не бачыў, што маці чакае яго.

— Дзе ты быў? — у сваю чаргу спыталася яна.

Вадзім аж прыўзняўся. Вось зараз бацька скажа, што быў у гасцях, і ўсё стане на сваё месца.

— Сход зацягнуўся, — ленавата буркнуў ён і пазяхнуў.

Вадзім бухнуўся галавой у падушку, невымоўная крыўда апякла балюча, нясцерпна.

## 3

Бацька пакінуў іх перад самым маем. Вадзім быў у школе, калі ён забраў свае рэчы (тыя, што аддала маці), перасяліўся ў завулак за паркам.

Было гэта для Вадзіма нечаканасцю, бо пасля таго выпадку зімой у сям'і па-ранейшаму панавалі лад і згода. І вось прывід той ночы вярнуўся, увасобіўся ў самотную пустэчу кватэры, у апусцелы столік, на якім стаяў радыёпрыёмнік; — прэмія бацьку, у непаліняглы квадрат на сцяне, дзе вісеў бацькаў партрэт у шырокай багетавай рамцы.

Увесь вечар маці сядзела маўклівая і панурая, адзінока перажываючы сваё гора. Вадзіму вельмі хацелася сказаць ёй ласкавае слова, але ён не ведаў яго.

Пасля вячэры маці абы-як прыбрала са стала, потым доўга сядзела, перагортваючы тоўсты альбом, выцягвала некаторыя бацькавы здымкі і рвала іх на шматкі. Яе вочы, раней такія жывыя, патухлі, доўгія выгнутыя вейкі зрабіліся рэдкімі, відаць, ад слёз, вусны краталіся, быццам яна хацела што сказаць і не магла адважыцца.

У тую ноч ён доўга не мог заснуць. Яму было крыўдна і сорамна. Ён нават крыху паплакаў, цішком.

У школе Вадзіму здалося, што ўсе ведаюць пра яго гора, паглядаюць на яго з асаблівай цікавасцю, быццам не яго бацька, а сам ён зрабіў нешта недаравальна ганебнае, брыдкае. У час вялікага перапынку да яго падбег кірпаносы, смяшлівы хлапчук. Ён спыніўся перад Вадзімам, здзекліва ўсміхнуўся, прыставіў да носа растапыраныя пальцы, узбрыкнуў надзіва кароткімі нагамі і запеў: «А я нешта ведаю, ведаю, ведаю...» Што ён такое ведае, хлапчук не паслеў сказаць, бо, нібы мячык, адляцеў да сцяны, стукнуўшыся круглай стрыжанай галавой аб столік, на якім стаяў акварыум. Столік завагаўся, акварыум упаў на падлогу.

Іх абодвух прывялі ў настаўніцкую. У малога на лбе ўвачавідкі вырастаў здаравенны сіні гузак. Хлопчык не плакаў, толькі чмыхаў носам і, прыкладаючы да гузака пяць капеек, час ад часу кідаў насцярожаны позірк на настаўнікаў. Вадзім стаяў пануры, глядзеў на ўсіх калючымі, сярдзітымі вачамі.

Яго адправілі дамоў па бацьку. Ён доўга стаяў пад дзвярамі, не адважваючыся зайсці ў кватэру. Баяўся маці. Але яна нічога не заўважыла, відаць, прыгнечаная сваімі думкамі. Наліваючы яму есці, яна сказала дрыжачым голасам:

— Апошнія грошы праядаем... Трэба ж быць такім нягоднікам, пакінуў усяго пяцьсот рублёў. Ну, ды я яго правучу. Выганяць з работы — тады паскача.

Вадзім упершыню заўважыў, што ў маці тонкія, дрыготкія вусны, якія хваравіта крывяцца, перакошваючы твар. Яму стала шкада маці, хоць ён заўсёды больш любіў бацьку. Ад маці яму часта даставалася.

— Мама, — папрасіў ён нясмела, — не трэба ісці. Сорамна.

— А што мы есці, па-твойму, будзем? Транты прададзім, а далей што? Табе сорамна, а яму нас кідаць не сорамна? Не, я яму дакажу...

Яна ўвесь вечар, упершыню, як памятае Вадзім, сядзела за пісьмовым сталом, пісала скаргу. А Вадзім ляжаў у пасцелі і, наморшчыўшы лоб, думаў. Якоганебудзь разумнага рашэння ён не знайшоў.

Прачнуўся ён рана. На двары ліў дождж. У лужынах плавалі вялізныя бурбалкі, уздоўж тратуара бегла мутная вада. Вадзім крыху пастаяў у пад'ездзе, потым выйшаў на дождж.

Яшчэ здалёк ля школы ён заўважыў панурую, у плашчы, постаць бацькі. «Пазванілі, відаць, на работу», — непрыемна кальнула думка. Вадзім пайшоў памалу, абдумваючы, як лепш сказаць пра тое, што здарылася.

І раптам успомніў, што бацька цяпер нейкім недарэчным чынам не бацька ўжо і здарылася ўсё ад таго, што ён іх кінуў. Вадзім уздрыгнуў, калі пачуў бацькаў голас, і адразу спыніўся.

— Добры дзень, Вадзім, — паўтарыў бацька.

— Добры дзень,— прашаптаў Вадзім і сам здзівіўся: такі кволы, расслаблены голас.

— Станем вось сюды. Тут няма дажджу, — бацька моцна абняў Вадзіма за плечы, павёў. Яны схаваліся пад арку варот .–– Мне, брат, трэба з табой сур'ёзна пагаварыць. Ты ўжо не малы, я ў твае гады самастойна зарабляў хлеб. Пастарайся выслухаць тое, што я табе скажу.

«Аб чым гэта ён? Сварыўся б, дык ужо адразу», — думаў Вадзім.

— Пераходзь, брат, да мяне. Так будзе лепш.

Вадзім адразу натапырыўся, гатовы на любыя далейшыя словы бацькі адказаць цвёрдай адмовай. Ён выкручваўся з-пад бацькавай рукі, некалькі разоў хацеў нешта калючае сказаць бацьку, але не хапала сілы вымавіць прыдуманыя словы.

— Цяпер табе цяжка ўсё зразумець. І наогул, не твая, брат, справа. Вырасцеш, разбярэшся, — прадаўжаў бацька, і Вадзім слухаў яго, нібы праз сон. — Я хачу, каб ты чалавекам быў. У мяне табе зручней будзе. Валянціна Аркадзьеўна дапаможа табе, калі што якое... Яна добрая, пабачыш.

Вадзім адчуваў, што яшчэ некалькі такіх слоў — і ён заплача. У горле засеў горкі камяк крыўды.

Пад аркай дзьмуў сыры, золкі скразняк, ён пранізваў наскрозь. Шэрае нізкае неба глядзела непрыветліва, сумна. Бацька зноў паспрабаваў пакласці руку на яго плячо, але Вадзім адхіліўся.

— Нічога мне вашага не трэба, — сказаў ён.

Ён хацеў дадаць яшчэ, што і сам бацька з яго новай жонкай яму цяпер непатрэбны, але рвануўся і пабег. Салёная кропля слязы трапіла па шчацэ ў рот. Вадзім рукавом выцер вочы, паглядзеў навокал: ці не бачыў хто-небудзь? А дождж усё ліў і ліў, як з вядра...

У школе Вадзім першай сустрэў загадчыцу навучальнай часткі.

— Дзе бацька? Чаму без яго прыйшоў? — запыталася яна.

— Яго няма.

— Як няма? Ты што мне выдумляеш! Зараз жа ідзі па бацьку.

Вадзім засоп, упарта выгнуў шыю, рашуча пайшоў у клас. Яна ўхапілася за яго парфтель, паўтарала:

— Без бацькі не пушчу на заняткі, не пушчу.

Вадзім, так здалося яму, злёгку пацягнуў партфель, прыціснуты завучам да грудзей, і адразу ўбачыў, як карункавы каўнерык у настаўніцы абарванымі ніткамі папоўз услед за партфелем.

— Ты яшчэ хуліганіць? Ах, вось як!

Вадзім убачыў, што здарылася нешта, яшчэ больш небяспечнае, горшае, і кінуўся ўжо не ў клас, а наўцёкі.

***Падрыхтоўка да друку У. Марука.***



# СУЧАСНЫ ЛІТАРАТУРНЫ ПРАЦЭС: ПІСЬМЕННІК І ЖЫЦЦЁ

***11 мая 2006 года ў Нацыянальнай акадэміі навук адбылася Рэспубліканская навуковая канферэнцыя «Сучасны літаратурны працэс: пісьменнік і жыццё». Канферэнцыя была прысвечана юбілею Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН — 75-годдзю з дня яго заснавання.***

***У канферэнцыі ўдзельнічалі як прадстаўнікі Інстытута літаратуры, так і вядучыя навукоўцы з розных ВНУ рэспублікі. Тут можна было пачуць карыфеяў беларускай навукі — акадэміка У. В. Гніламёдава, член-карэспандэнтаў НАН М. І. Мушынскага, С. С. Лаўшука, дактароў філалагічных навук М. А. Тычыну, Т. Я. Камароўскую, В. П. Жураўлёва, М. І. Мішчанчука, Т. І. Шамякіну. Але асаблівасцю канферэнцыі стала шырокае прадстаўніцтва на ёй маладых даследчыкаў — навукоўцаў Інстытута літаратуры і выкладчыкаў, аспірантаў, настаўнікаў, літаратараў.***

***Было прачытана каля шасцідзесяці дакладаў, і кожны з іх меў у пэўным сэнсе слова эксклюзіўны характар: адкрываў новы напрамак даследавання творчасці таго ці іншага аўтара, новую методыку або своеасабліва трактаваў даўно вядомыя тэксты.***

***Канферэнцыя паказала сталасць беларускай літаратуразнаўчай навукі, яе ўменне не толькі вырашаць складаныя тэарэтычныя праблемы, але і выходзіць — праз літаратуру — на праблемы сацыяльныя, палітычныя, маральна-этычныя.***

***Часопіс «Полымя» прапануе чытачу артыкулы дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы доктара філалагічных навук В. А. Максімовіча, доктара філалагічных навук Т. І. Шамякінай, доктара філалагічных навук В. П. Жураўлёва, доктара філалагічных навук, член-карэспандэнта НАН Беларусі С. С. Лаўшука, кандыдата філалагічных навук Л. М. Гарэлік, падрыхтаваныя па матэрыялах канферэнцыі.***

**Валеры МАКСІМОВІЧ**

## НОВАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ СІТУАЦЫЯ: ЗМЕНЫ І АНТЫЗМЕНЫ

Беларускай літаратуразнаўчай навукай за шматгадовы перыяд свайго існавання пройдзены вялікі шлях, назапашаны значны вопыт даследавання літаратуры як мастацтва слова. Літаральна за апошнія два дзесяцігоддзі адбыўся значны якасны зрух у галіне літаратуразнаўчых даследаванняў, што выявілася ў кардынальнай пераацэнцы фактаў, імёнаў, твораў, аб'ектыўнай ацэнцы творчасці пісьменнікаў, найважнейшых, у тым ліку класічных, помнікаў літаратуры, прасочаны асноўныя заканамернасці літаратурнага працэсу на працягу яго гістарычнага развіцця і станаўлення. Але літаратура і навука аб ёй — працэс жывы, рухомы, у нетрах якога адбываецца перманентная перагрупоўка, пераструктурызацыя, звязаная ў тым ліку і з накапленнем «масы». А гэта дае ўпэўненасць у тым, што ў нас заўсёды маецца рэзерв, патэнцыяльная магчымасць адкрыць невядомыя ракурсы, выйсці на новыя даследчыцкія рубяжы, падняцца на новы ўзровень асэнсаван-

ня матэрыялу. Больш таго, дасягнутае і здзейсненае пераконвае: прыспеў час выбудаваць аналітычную, філасофскую карціну літаратурнага працэсу, стварыць мадэль «філасофіі літаратуры». І гэта — найперш задача тэарэтыкаў. Пакуль жа адчуваецца недахоп свежых ідэй і тэорый з іх прагназуючай функцыяй, якія б адэкватна выяўлялі стан грамадскай свядомасці і давалі магчымасць аб'ектыўна, з пераканаўчай тэарэтычнай абгрунтаванасцю, ацэньваць эстэтычныя з'явы і літаратурныя факты. Патрэбна выпрацаваць сістэмна-канцэптуальны падыход, пераадолець існуючую эклектыку канцэпцый з іх разбуральнай, дэструктыўнай матрыцай, асабліва што тычыцца разгляду постмадэрнісцкіх штудый.

Што маецца на ўвазе?

Пачну з напаміну. Адной з найгалоўнейшых задач гуманітарнай навукі, у тым ліку і навукі пра літаратуру, як вядома, з'яўляецца клопат пра чалавечую душу, культываванне ўпэўненасці ў невычэрпнасці і унікальнасці магчымасцей, закладзеных у чалавеку Богам і прыродай. Літаратура і мастацтва на працягу доўгіх вякоў імкнуліся знайсці тую дзейсную інтэлектуальную, духоўную сілу, якая б указала шлях да ўнутранага прасвятлення, прывяла да паслаблення канфліктнасці і канфрантацыі ў любых іх праявах і дазволіла прыйсці да згоды і ўзаемаразумення паміж людзьмі. Пры выбары шляхоў вырашэння складаных жыццёвых задач мастацкае слова заклікана дапамагчы захаваць стрыжнявую ўнутраную канстантнасць, устойлівасць і ўпэў-ненасць у паспяховым пераадоленні магчымых цяжкасцей і перашкод. У дадзеным выпадку менавіта крытычны падыход, «крытычны розум», па словах В. Жураўлёва, «могуць быць для чалавека вельмі дзейсным, сур'ёзным сродкам і гарантам самаабароны ад розных выпадковасцей і найперш — ад моцнага негатыўнага ўплыву на яго замаскіраванай, закамуфліраванай і загрыміраванай у формы дабрыні і праўды падманлівай ілюзорнай ідэі, што тоіць у сабе для слаба падрыхтаванай свядомасці і залішне даверлівай, наіўнай душы вялікую небяспеку лёгка прымаць «на веру... шаблон пустых слоў, пустыя выразы, чужыя формы думак і чужы змест іх».

На вялікі жаль, ва ўмовах узрастання сістэмнага крызісу, праявы якога — ва ўзмацненні светапогляднага эгацэнтрызму, у аднамернай і адназначнай нігілістычнай інтэрпрэтацыі акаляючага свету, у ваяўнічым адмаўленні традыцыйных сістэм каштоўнасцей адэптамі так званай Новай Літаратурнай Сітуацыі, — літаратура і навука пра яе аказаліся ў няпростым становішчы.

У гэтай сувязі варта прызнаць, што вялікая небяспека трапіць у хітра расстаўленыя сеткі літаратурнай «смакоўніцы» тоіцца ў некантраляваным працэсе камерцыялізацыі літаратуры з яе папулісцкай арыентацыяй, у перанасычанасці кніжнага рынку таннай прадукцыяй постмадэрнісцкага «пакрою»[1], якая не прызнае любыя эстэтычныя і этычныя табу і спрыяе ператварэнню самой сябе ў крыніцу разбэшчвання душ праз навязванне паталогіі і дэградацыі. Сітуацыя татальнага культурнага менеджменту і маркетынгу, якая вылучаецца ўсепаглынальным нівеліраваннем прыроды эстэтычнага і мастацкага пры адначасовым навязванні «махровай» эстэтыкі, дае падставы гаварыць пра адсутнасць маральнасці і духоўнасці ў адносінах да падобнага роду опусаў[2]. Беручыся за іх навуковае прэпа-

[1] У размове пра постмадэрнізм упарта мусіруецца думка пра унікальнасць і універсалізм паняцця. Сцвярджаецца, што яно ўключае ў сабе самы розны корпус тэкстаў, ідэй, з'яў. Стракатасць і множнасць фармулёвак прыводзіць да таго, што сам тэрмін страчвае сэнсавую і тэрміналагічную дакладнасць, пэўнасць. Больш таго, гэтыя фармулёўкі часам узаемавыключальныя, няпоўныя, а то і адкрыта надуманыя, тэндэнцыйныя. У выніку аднесенасць твораў да постмадэрнісцкай парадыгмы адбываецца на падставе асобных, па сутнасці, выпадковых, дыскрэтных, далёка не самых важных і асноваасутнасных рысаў і падабенстваў.

[2] Вядомы рускі літаратуразнавец, былы дырэктар Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага Ф. Ф. Кузняцоў у адным з інтэрв'ю заявіў, што сапраўдную літаратуру згубіла постмадэрнісцкая літаратурная мода, таму што сутнасць постмадэрнізму — у прынцыповым адмаўленні ад сапраўдных чалавечых каштоўнасцей.

рыраванне, мы павінны быць максімальна аб'ектыўнымі і максімальна строгімі ў сваіх ацэнках, высновах, у расстаноўцы акцэнтаў. Нават з улікам неадназначнасці і шматмернасці працэсаў, якія адбываюцца ў грамадстве, не варта забывацца пра тое, што літаратуразнаўца, нароўні з літаратарам, мастаком-творцам істотна ўплывае на грамадскую свядомасць, на ідэйна-эстэтычны ўзровень чытача і заклікана стаяць на варце грамадскага слугавання праўдзе, сумленнасці, духоўнасці; яго прафесійны абавязак — ацэньваць сумніўныя псеўдамастацкія штукарствы самай высокай меркай патрабавальнасці, выпрабоўваць на адпаведнасць высокім крытэрыям мастацкасці і маральнасці, без чаго мастацтва, літаратура не могуць у поўнай меры і ступені выканаць сваё высокае прызначэнне.

У сённяшніх умовах літаратура, як гэта ні трывіяльна гучыць, вызначаецца сваёй ангажаванасцю. Для літаратара надзвычай важнае значэнне набывае момант дэкларавання ўласных поглядаў, адкрытае пазіцыяніраванне сваіх маральных і ідэйных установак, свайго ўнутранага кодэкса, светаадчування і светаразумення, сваіх прыхільнасцей і захапленняў, сімпатый і антыпатый. Літаратура тым і становіцца бліжэй да чалавека, што імкнецца найперш спасцігнуць яго, чалавека, унутраныя рухавікі — запыты-жаданні, — улавіць душэўную настроенасць, зазірнуць у самыя аддаленыя, схаваныя ад вачэй непасвячоных, закуткі яго асобасна-аўтаномнай субстанцыі.

Згаданы інтарэс, і гэта варта прызнаць, знаходзіцца ў полі зроку постмадэрнісцкай (і каляпостмадэрнісцкай) літаратуры, якая бярэ за мэту атрымаць з «чалавечага матэрыялу» сваю карысць шляхам узбуйнення зацікаўленага, перадусім перыферыйнага, ценевага, ракурсу мастацка-псіхалагічнага даследавання. Падобную літаратуру прыцягвае нестандартны, «альтэрнатыўны» тып асобы і яе паводзін, калі, абраўшы пазіцыю пабочнага назіральніка, статыста, можна абсалютна камфортна пачуваць сябе «культурным абарыгенам», вольным ад усякага этычнага выбару, душэўных пакут (у тым ліку і пакут сумлення), грамадзянскага і проста чыста чалавечага абавязку, быць падкрэслена раўнадушным, а то і абсалютна глухім да пачуццяў светлых і высокіх. Наўмысная сканцэнтраванасць увагі на анамальнасцях, унутраным памежжы не можа быць расцэнена толькі і выключна толькі як цынічны выклік шэрай і нуднай паўсядзённасці, як гульня ў нігілізм, «хвароба росту», поза або бравада. Абраная пазіцыя прадыктавана свядомым выбарам, мае адмыслова прадуманую і ўзважаную бескампрамісную светапоглядную матывацыю, «філасофію», пранізаную духам адмаўлення і пададзеную ў знешне прыгожай упакоўцы. Гэта праяўляецца ў суцэльным ігнараванні маральных запаветаў, маральнага імператыву, непасрэдных — здаровых — стасункаў з жыццём, ва ўцёках у свет хваравіта-скажоных мрояў, ілюзій —вычварных аскепкаў свету рэальнага, «жывога». Зрэшты, апошняга для постмадэрнісцкай свядомасці не існуе, бо ён пазбаўлены сэнсу, дыялектычнай узаемаабумоўленасці і заканамернасці. Хаатызм, неўпарадкаванасць, выпадковасць, часовасць для постмадэрнісцкага канона — знакавая сутнасць жыцця. Урыўкавыя і калейдаскапічна зменлівыя эпізоды і фрагменты жыцця, брутальна і нонканфармістычна заангажаваныя хваравітай свядомасцю постмадэрніскага «героя», не дазваляюць асэнсаваць і проста прыняць свет як нешта цэльнае, зладжанае, гарманічнае. Адваротны — непрывабны, схаваны ад цікаўных вачэй — бок жыцця, рэлятывізм каштоўнасных установак і этычных норм становіцца ўсёпаглынальным, абсалютным і суздром перакрывае шляхі да адэкватнага рэагавання і адэкватных паводзін. Уседазволенасць — найперш у плане ўнутранай разбэшчанасці — становіцца гіпертрафаванай самамэтай, самазададзенасцю для аўтара і яго альтэрнатыўнага героя. Ёсць падставы дапусціць, што апошняе — водгук і заканамерны працяг бесперарыўнай барацьбы за вызваленне чалавека ад усяго чалавечага, як бы прызвычайванне яго да нізкага, дзікунскага, першабытнага, агрэсіўна-бунтоўнага.

Як ні круці, нельга пагадзіцца са сцвярджэннем, што ўсе гэтыя праявы можна кваліфікаваць як бунт адзіночкі, які пакутуе не «хваробай цела», а «хваробай розуму», і што праявы гэтага бунту абумоўлены «ментальнай» паталогіяй, наў-

прост звязанай са станам грамадства, з экзістэнцыяй асобы ў варунках зрушанага, дэфармаванага свету. Думаецца, падобнае сцвярджэнне — своеасаблівы постмадэрнісцкі «ход канём».

У нечым блізкі сімптом — «хвароба розуму» — быў усебакова даследаваны і апісаны ў рускай класічнай літаратуры XIX ст. Але паміж па-постмадэрнісцку афарбаваным «сімптомам» хваробы, з аднаго боку, грыбаедаўскім «Горам ад розуму» і лермантаўскім «Героем нашага часу» — з другога, дыстанцыя, як кажуць, аграмаднага памеру. Бо ў першым выпадку «ўзбуджальнікам» хваробы стаў цынізм, у другім — сумленне. У постмадэрнісцкай транскрыпцыі, згодна з устаноўкай на дэструкцыйнае адмаўленне традыцыйных літаратурных каштоўнасцей і ўяўленняў і ў адпаведнасці з прынцыпам татальнай антынамічнасці, згаданыя назвы гучалі б як «Гора ад вялікага (звыш)розуму» і «Антыгерой нашага антычасу». Творы Грыбаедава і Лермантава — творы глыбокіх мастацкіх абагульненняў, сацыяльна-філасофскай аналітыкі. Паднятыя ў іх субстанцыяльныя, сацыяльна-філасофскія праблемы мелі для свайго часу і зараз маюць бясспрэчную, як кажуць, непераходзячую духоўную і эстэтычную каштоўнасць. Калі развіваць думку ў рэчышчы характарыстычна-светапоглядных супастаўленняў і аналогій, заўважым, што постмадэрнісцкі герой заангажаваны ў антыідэал, у той час як той жа аддланы «мечтательному идеалу» (А. І. Герцэн) Чацкі Грыбаедава — максімаліст, рамантык, які, бачачы вакол сябе гнюснасць і мярзотнасць, не скараецца, а горача адстойвае ідэалы праўды, дабра і ісціны. Той жа Пячорын, «лішні чалавек», пры ўсім сваім эгацэнтрызме, індывідуалізме і скептычных адносінах да, здавалася б, надзейна ўсталяваных маральных каштоўнасцей, вылучаецца надзвычайнай унутранай актыўнасцю, інтэнсіўнасцю пачуццяў ці, на сённяшні манер, унутранай крэатыўнасцю. «Лішнія героі» класічнай літаратуры (далучым сюды і пушкінскага Анегіна) з улікам усіх нюансаў і дэталяў усё ж застаюцца натурамі моцнымі, прагнучымі паўнаты і цэльнасці жыцця. У іх дамінуе стваральны пачатак, нягледзячы на наяўнасць вялікай гамы супярэчлівых пачуццяў і жаданняў. У адрозненне ад постмадэрнісцкіх маргіналаў яны не пачуваюць сябе «богачалавекамі», здольнымі пераступіць маральныя дабрачыннасці. Унутраная запраграмаванасць іх дзеянняў і ўчынкаў мае пазітыўную, адухоўленую скіраванасць.

Свет пазбаўлены ўсялякага сэнсу і лагічнай сувязі рэчаў — вось адпачатны пункт постмадэрнісцкага рыгарызму. У жыццёвым бязладдзі, у складаных перыпетыях гіпертрафаванага свету, у няўцешных пошуках пастаянна знікаючага ад яго сэнсу чалавек не здольны адшукаць пункт апоры. Загнаны воляю абставін у цёмны лабірынт безнадзейнасці і неабароненасці, апошні больш прыпадабняецца да істоты, пазбаўленай унутранага стрыжня, а таму «бясформеннай», «аморфнай». Яму абсалютна супрацьпаказана чужая і незразумелая актыўнадзейсная жыццёвая пазіцыя. Хаця гэта ніколькі не перашкаджае яму пакідаць за сабой права на абранасць, выключнасць. Адрокшыся ад асновасутнаснай сістэмы пазітыўных прынцыпаў і прыняўшы за пункт адліку волю выпадковасці, герой постмадэрнісцкага тэкста пачынае зацята разбураць бар'еры ўмоўнасцяў. У добраахвотным унутраным пустэльніцтве ў якасці нейкай духоўнай кампенсацыі ён сімулюе дзеянне, учынак, выдаючы сябе за пратаганіста свайго ўласнага выдуманага свету, больш таго, адчувае сябе «чалавекабогам», здольным пераступіць хрысціянскія запаведзі і нацешыцца зманлівай асалодай згубнага амаралізму. І нават з папраўкай на тое, што постмадэрнісцкі герой жыве ў іншы час, іншую эпоху з яе дыктатам глабалізацыі, прадчуваннем касмічнага апакаліпсісу, надзвычай ускладненымі сувязямі чалавека і грамадства, палітыкі і маралі, дзяржавы і асобы, ці можна дарэшты рэабілітаваць тып паводзін і лад мыслення *такога* героя? Ці можна выхаваць на прыкладзе яго жыццёвых нормаў і ўстановак маральна здаровага чалавека, які не будзе жыць у свеце сімуляцый і сімулякраў, люстраных адбіткаў і галюцынацый-сноў?

Дэструктыўнасць — у розных формах і праявах — дамінуючы прынцып постмадэрна, якой бы нацыянальнай літаратуры гэта ні тычылася. Таму ніяк

нельга пагадзіцца са сцвярджэннем Г. Кісліцынай, пададзеным у кнізе «Новая літаратурная сітуацыя: змена культурнай парадыгмы», што падобная дэструктыўнасць «разбурала не «нацыянальную духоўную скарбніцу», а скамянелыя мадэлі мыслення, сцвярджаючы больш шырокі погляд на жыццё з яго новым дэцэнтрыраваным абліччам» і што «класічная літаратура пазбаўлялася права на выяўленне ісціны». Жахнуцца можна, дапусціўшы — нават гіпатэтычна — думку пра скамянелую мадэль мыслення таго ж Купалы! Калі ўжо замахвацца на святое святых — на Прарокаў нацыі, на Будзіцеляў нацыі, — то пра што можна наогул гаварыць? Не трэба, шаноўныя, займацца самападманам і фальсіфікацыяй, не трэба абяляць і рэабілітаваць мёртванароджанае або псеўданароджанае, бессаромна пры тым ганьбячы тое, што сапраўды мае неацэнную, велізарную — сакральную — нацыянальную і гістарычную каштоўнасць і значнасць.

Прыгожы літаратуразнаўчы эўфемізм «змена культурнай парадыгмы» вельмі ж ужо сугучны з банальным «змена караула» і з гістарычна-алюзійным, бальшавіцка-пагрозлівым «караул устал». Чым выклікана падобная змена? Аказваецца, «прышэсцем» «другога закона тэрмадынамікі», міфам пра канцовасць свету і г. д. Але нагнятанне страху, апакаліпсічнага псіхозу, а разам пашырэнне культу брутальнасці, «чарнухі», — ці зможа гэта прымусіць чалавецтва (і асобнага чалавека) «перайсці на новы ўзровень свядомасці»? Нягледзячы ні на што, адэпты «апакаліптычных страшылак» стаяць на сваім: нашэсце «глабальнай змены» — немінучае. У гэтым іх пераконваюць «імпартовыя» працы Н. Геаргеску-Рогена «Энергія і эканамічны міф», Д. і Д. Медоўз «Межы росту», Т. Куна «Структура навуковых рэвалюцый». Але, «ничтоже сумняшеся», дазволім сабе запытацца: ці не ёсць «навуковае» прадказанне і спрагназаванне перманентных выбухаў і рэвалюцый адной з праяў глабалісцкай экспансіі, хітраватай формай замбіравання свядомасці, завуаліраванай ідэалагічнай «фішкай» (кажучы маладзёжным жаргонам), мэта якіх — спарадзіць масавы псіхоз, скепсіс, выклікаць панічнае адчуванне краху, пачуццё адчаю, адчужанасці, варажнечы і давесці да духоўнай амнезіі. Тут міжволі ўзнікае асацыяцыя з «траянскім канём» — ідэалагічнай дыверсіяй, закліканай расчалавечыць асобу, навязаць яму жывёльныя інстынкты, прывіць апатыю і абыякавасць да жыцця. Ды ўжо зараз даводзіцца канстатаваць: «эгаізм і душэўная глухата набываюць такія маштабы, што чалавек усё больш варожа адносіцца да бацькоў, да сям'і, да ўласных дзяцей (калі яны з'яўляюцца), да ўсіх людзей і тым больш да краіны, у якой жыве» (Э. Скобелеў «Этыка для антычасу»). Горкая, але, на вялікі жаль, у многім справядлівая ісціна гучыць у наступных словах Эдуарда Скобелева: «Прыгледзьцеся больш уважліва, асабліва да моладзі, «вкусившей» Інтэрнета і таблетак экстазі: яны ўжо не жывуць, яны функцыянуюць як механізмы, не зведваючы аніякіх стойкіх прыхільнасцей. Яны без хістанняў пакінуць сябра ў бядзе, уступяць напракат «каханую», заморацць голадам бацькоў, застануцца жыць у той краіне, дзе ёсць магчымасць атрымаць тоўстыя «бабкі». Страшны і жудасны дыягназ, імя якому — выраджэнне, распад. Вусцішнымі, шакіруючымі сваімі «откровениями», падаюцца вытрымкі з кнігі былога дырэктара ЦРУ Аллена Даллеса (1893—1969) «Рассуждения о реализации американской послевоенной доктрины против СССР» (1945): «Окончится война, все как-то утрясется, устроится. И мы бросим все, что имеем, — все золото, всю материальную мощь на оболванивание и одурачивание людей!

Человеческий мозг, сознание людей способны к изменению. Посеяв там хаос, мы незаметно подменим их ценности на фальшивые и заставим их в эти фальшивые ценности верить. Как? Мы найдем своих единомышленников, своих союзников в самой России.

Эпизод за эпизодом будет разыгрываться грандиозная по своему масштабу трагедия гибели самого непокорного на земле народа, необратимого окончательного угасания его самосознания. Из литературы и искусства, например, мы постепенно вытравим их социальную сущность, отучим художников, отобьем у них охоту

заниматься изображением, исследованием тех процессов, которые происходят в глубинах народных масс. Литература, театры, кино — все будет изображать и прославлять самые низменные человеческие чувства. Мы будем всячески поддерживать так называемых художников, которые станут насаждать и вдалбливать в человеческое сознание культ секса, насилия, садизма, предательства — словом, всякой безнравственности. В управлении государством мы создадим хаос и неразбериху.

Мы будем незаметно, но активно и постоянно способствовать самодурству чиновников, взяточников, беспринципности. Бюрократизм и волокита будут возводиться в добродетель. Честность и порядочность будут осмеиваться и станут никому не нужны, превратятся в пережиток прошлого. Хамство и наглость, ложь и обман, пьянство и наркомания, животный страх друг перед другом и беззастенчивость, предательство, национализм и вражду народов, прежде всего вражду и ненависть к русскому народу — все это мы будем ловко и незаметно культивировать, все это расцветет махровым цветом.

И лишь немногие, очень немногие будут догадываться или даже понимать, что происходит. Но таких людей мы поставим в беспомощное положение, превратим в посмешище, найдем способ их оболгать и объявить отбросами общества. Будем вырывать духовные корни, опошлять и уничтожать основы народной нравственности. Мы будем расшатывать таким образом поколение за поколением. Будем браться за людей с детских, юношеских лет, главную ставку всегда будем делать на молодежь, станем разлагать, развращать, растлевать ее. Мы сделаем из них циников, пошляков, космополитов. Вот так это сделаем».

Падобныя заявы павінны мабілізаваць культурную грамадскасць, інтэлігенцыю, прадстаўнікоў Праваслаўнай Царквы, дзеячаў навукі, адукацыі і культуры. Нельга не пагадзіцца з В. Жураўлёвым, які ў сваёй працы «Актуальнасць традыцыі: Якуб Колас у пісьменніцкім асяродку» адзначаў, што «менавіта інтэлігенцыя заклікана генерыраваць прадуктыўныя духоўна-творчыя ідэі жыцця і прыняць самы чынны ўдзел у выпрацоўцы важнейшых састаўных частак механізма нацыянальнай ідэі і канцэптуальна дзейснай метадалогіі самастойнага крытычнага мыслення, не падуладнага хісткай, няўстойлівай і вельмі зменлівай у сваіх сімпатыях і антыпатыях кан'юнктуры бягучай рэальнасці».

Жыццё пераконвае: прыспеў час стварэння прыярытэтнай доўгатэрміновай Дзяржаўнай праграмы, у якой была б выпрацавана стратэгічная лінія па падрыхтоўцы і выданняў класічнага нацыянальнага прыгожага пісьменства, усяго лепшага, створанага на працягу гістарычнага развіцця літаратуры, перадусім — літаратуры высокай мастацкай якасці і сацыяльнай значнасці. Паспяховае ажыццяўленне гэтага праекта будзе мець велізарнае культурна-асветніцкае, грамадска-прапагандысцкае значэнне, адкрые магчымасць шырока выкарыстоўваць знакавыя мастацкія дасягненні ў практыцы школ і ВНУ, фарміраваць эстэтычныя густы, ідэалы, маральныя і патрыятычныя асновы чытача. Нацыя толькі тады будзе годна самапачуваць сябе ў свеце, калі паруліцца беражліва захоўваць свой культурны генафонд, мэтанакіравана і рашуча весці курс на захаванне і зберажэнне сваіх духоўных вышынь, сваёй спадчыны, свайго нацыянальнага здабытку. Нароўні з Бібліяй, на кніжных паліцах прыватных бібліятэк хацелася б бачыць тамы, якія складаюць залаты фонд нашай айчыннай літаратуры. І ажыццявіць гэты маштабны праект мы павінны дзеля сучасных і будучых пакаленняў, дзеля захавання чалавечага духу, чалавечнасці — у самым высокім значэнні гэтых слоў. Асаблівае месца ў гэтым высакародным праекце павінны заняць творы класікаў беларускай літаратуры, што пазначылі магістральныя кірункі станаўлення айчыннай літаратуры, выявілі яе непаўторнае аблічча, ідэйна-мастацкае, жанравае, стылявое наватарства, эстэтычную каштоўнасць.

У гэтай сувязі архіважнай справай падаецца высокапрафесійнае асвятленне бягучага літаратурнага працэсу. Публікацыі ў сродках масавай інфармацыі не павінны станавіцца трыбунай звядзення рахункаў, спекулятыўнага прад'яўлення амбітных прэтэнзій, дэманстрацыі ваяўнічага нігілізму, адстойвання вузкакампа-

ратыўных інтарэсаў. Патрэбны спакойны, узважаны, аб'ектыўны аналіз і падыход да кожнай з'явы мастацтва, акрэсленне актуальных праблем развіцця літаратуры ў цеснай сувязі з сучаснасцю, з днём сённяшнім. У стадыі свайго складвання, фарміравання — новы падыход, новы погляд на сучасны літаратурны працэс, пераацэнка з сучасных светапоглядных і метадалагічных пазіцый літаратуры ранейшага і сённяшняга часу.

Літаратурнай крытыцы трэба надаць новае гучанне. Гаворачы пра ролю і значэнне крытыкі ў фарміраванні грамадскай свядомасці часу, Ю. Бондараў падкрэсліваў, што яна — «не сацыяльнае дактрынёрства, не славесны вампір, не дабрадзейная п'яўка, неабходная для здароўя пісьменніка, а гэта жанр літаратурны ў квадраце, сродак выхавання густу, гэта значыць пачуцця праўды і прыгажосці. Сам жа крытык — гэта пісьменнік «злучальнай зоны», будаўнік мастоў, заканадаўца меркаванняў, з якімі чытач мае права згаджацца ці не згаджацца» (Лит. газ. 1986. 2 июля).

Крытыка — гэта адна з формаў інтэпрэтацыйна-ацэначнага літаратуразнаўчага аналізу. Гэта значыць, прадметам аналізу і ацэнкі крытыкі становяцца не апрыёрна вызначаныя сацыяльныя праблемы часу, а эстэтычна і этычна ацэнены твор мастацтва, яго месца і роля ў літаратурным працэсе. І важна не збіцца на публіцыстычную рыторыку, звычайны трафарэтны папулізм, канстатацыю банальнага, агульнавядомага, павярхоўную апісальнасць, чым, на жаль, часта грашыць наша крытыка. Ісці за пісьменнікам, за яго трактоўкай жыцця і герояў нашмат лягчэй, чым паспрабаваць падступіцца да заглыбленага, аналітычнага асэнсавання праблематыкі твора і таго жыццёвага матэрыялу, які пакладзены ў яго аснову.

Цэласнасць мастацкага твора можа быць выяўлена ў складанай сістэме ўзаемасувязей з актуальнымі сацыяльнымі, духоўнымі, маральнымі праблемамі часу. У сённяшняй няпростай сітуацыі, якая склалася на літаратурным рынку, творцу важна прытрымлівацца *пазітыўнай* эстэтычнай праграмы, тых высокіх эстэтычных ідэалаў, якія выпрацоўваліся на працягу шматгадовай гісторыі, сцвярджаць самакаштоўнасць і годнасць асобы, зарыентаванай на агульначалавечыя, гуманістычныя каштоўнасці, на жыватворныя традыцыі нацыянальнай культуры. Без гэтага базіснага ядра літаратура як форма грамадскай свядомасці і як від мастацтва не зможа паўнавартасна рэалізаваць адну са сваіх галоўных місій — далучаць да сферы духоўнага і прыгожага, фарміраваць жыццёвыя перакананні, маральныя погляды і прынцыпы, актыўна-дзейсныя — творчыя — адносіны да жыцця.



**Таццяна ШАМЯКІНА**

# ПАЛІТЫЧНЫЯ МІФЫ ХХ СТАГОДДЗЯ ВА ЎСПРЫНЯЦЦІ ПІСЬМЕННІКАЎ-ФРАНТАВІКОЎ

Адно з першых маіх выразных дзіцячых успамінаў — дзень абвяшчэння пра смерць Сталіна. Сакавік 1953 года. Мне пяць гадоў.

Жылі мы ў самым цэнтры Мінска — на праспекце (тады быў толькі адзін праспект) Сталіна, у доме, дзе сёння знаходзіцца кнігарня. Нашу кватэру ў фактычным сутарэнні ніколі не наведвала сонца. Вокны, размешчаныя каля самай зямлі, глядзелі на клуб імя Дзяржынскага. Здаецца, тады яго ўжо дабудавалі, бо я цьмяна памятаю чорна-чырвоныя доўгія палотнішчы на будынку, у якім пазней праходзілі розныя грамадскія мерапрыемствы.

Я бачыла, што адбылося нешта незвычайнае. Але бацьку не было часу смуткаваць. Ён нешта арганізоўваў, пастаянна некаму тэлефанаваў, падоўгу размаўляў, потым з дому пабег. Маці і мая старэйшая сястра Ліна, якой тады было

12 гадоў, угаварыўшы мяне аддаць ім каляровыя стужкі для валасоў, ледзь не адзіную на той час маю каштоўнасць, перавязалі імі вазоны і панеслі на плошчу (сёння — Кастрычніцкую) да помніка Сталіну. Вось адтуль яны ўжо вярнуліся ў нейкім вельмі незразумелым для мяне стане. Высветлілася, што да помніка стаяла агромністая чарга, у экзальтаваным натоўпе некаторыя жанчыны трацілі прытомнасць, чуваць былі галашэнні, стогны, ускрыкі: «Як мы цяпер будзем жыць?!» Мая эмацыянальная, тады зусім маладая маці паддалася агульнаму настрою. Але вечарам разам з бацькам прыйшоў яго лепшы сябра Андрэй Макаёнак — узбуджаны, але не самотны. Ён з хваляваннем, з надзеяй чакаў перамен, спадзяваўся на іх, унушаў і маім родным веру ў непазбежную лепшую будучыню.

Размоў дарослых у тыя дні я, натуральна, не памятаю. Але ў далейшым, прычым па нарастаючай, пра эпоху Сталіна ў нашым доме гаварылі часта. Пастаянныя размовы пра палітыку, пад акампанемент якіх я расла, сталі, як ні дзіўна, добрай антыатрутай супраць сучасных палітычных міфаў і далі магчымасць ацаніць размовы, што я чула ад пісьменнікаў, ужо з вышыні нашага часу і найноўшых навуковых ведаў.

Назіранні за сучасным станам масавай свядомасці прыводзяць да высновы, што простыя людзі стаміліся ад шматлікіх параджэнняў хаосу, разбуральнага дзеяння СМІ, ад аднабаковай ацэнкі нашай гісторыі, яе фальсіфікацыі. Тым больш навукоўцам неабходна паглядзець на мінулае ва ўсёй яго складанасці і неадназначнасці, з улікам шматлікіх фактараў і канкрэтнасцю падыходаў. Скажам, у Еўропе не ацэньваюць Варфаламееўскую ноч з пункту гледжання цяперашняга Еўрасаюза. Акрамя таго, варта пераходзіць ужо ад літаратуразнаўчай публіцыстыкі з яе залішняй палітычнай эмацыянальнасцю да сапраўднай навукі. Ды варта ўжо і ацаніць аб'ектыўна як савецкі час, так і буржуазную рэвалюцыю 1991 года. Справядліва піша рускі пісьменнік, галоўны рэдактар «Литературной газеты», Юрый Палякоў: «Мы, сённяшнія, увогуле не маем ні маральнага, ні гістарычнага права судзіць савецкую эпоху, таму што пераробка 90-х гадоў была неапраўдана жорсткая, нанесла... народу непапраўныя, страшныя эканамічныя, маральныя, ды і колькасныя страты. Іншых бачных вынікаў, акрамя вузкага кола людзей, што вырваліся за кошт астатніх на еўрапейскі ўзровень, гэтая пераробка пакуль не дала». Сёння ў грамадстве адчуваецца імкненне да салідарызацыі; у нетрах народа спее думка, што выжыць можна толькі грамадою, што не ўсё вымяраецца грашыма, хоць і ўпарта прывучалі да гэтага на працягу апошніх пятнаццаці гадоў; узнікае інтуітыўнае ўсведамленне неабходнасці нацыянальнага аб'яднання пад сцягам нейкай глабальнай стваральнай ідэі. Але перашкаджаюць гэтаму дэструктыўныя міфы, ва ўладзе якіх знаходзіцца нават эліта грамадства.

Не сакрэт, што кожная ідэалогія — на самай справе міфалогія, якая мае стрыжнем нейкую навуковую канцэпцыю. Пад міфам я разумею сацыяльна значнае вераванне. Для архаічнай свядомасці рэальнасць міфа абсалютная. Палітычны міф у сучасным грамадстве таксама ўсведамляецца як рэальнасць, але ўжо не з той упэўненасцю і глыбінёй, як у выпадку архаічнага міфа. Структура палітычнага міфа складаная: ён, па-першае, абавязкова заснаваны на нейкім архетыпе; па-другое, уключае ў сябе змест канкрэтнага сацыяльнага вопыту, таму і ствараецца ўражанне, што ён народжаны рэальнасцю, хоць на самой справе штучна ўтвораны. І, акрамя таго, палітычны міф уключае сістэму іншасказальных вобразаў. Палітычным міфам я называю не пэўны сюжэт, а хутчэй ідэю-перажыванне, асаблівую, як пісаў А. Ф. Лосеў, «абстрагаванасць рэчаў у інтуітыўную сферу».

Палітычны міф прыстасоўвае нейкі станоўчы культурны міф, што дапамагае народу выжыць, да палітычных мэт. Ён заўсёды грунтуецца на пэўнай філасофскай ці навуковай ідэі і, бясспрэчна, першапачаткова некім прыдумляецца. Найбольш разумныя людзі і ў савецкім, і ў сённяшнім грамадстве гэтую штучнасць міфа ці, хутчэй, ідэалагемы, добра разумелі. Хоць гэта не азначае, што яны яго заўсёды і ва ўсім адвяргалі. Палітычны міф часам мабілізуе народ на значныя стваральныя задачы. Даследчыкі адзначаюць, што «маса заўсёды знаходзіцца

пад уздзеяннем палітычнага міфа, прынятага ёю за рэальнасць... Міф у палітыцы робіцца шыфрам сацыяльнага праекта» (А. Кольеў).

Савецкая ідэалогія, як і кожная іншая, уяўляла сабою збор адпаведных міфаў. Яе міфалагізм найбольш разумныя людзі эпохі, якімі з'яўляліся, безумоўна, і пісьменнікі, адчувалі заўсёды. Але неабходна ўлічыць некаторыя істотныя моманты. Пісьменнікі ваеннага прызыву — А. Кулакоўскі, П. Панчанка, А. Куляшоў, А. Макаёнак, І. Шамякін, І. Мележ, І. Навуменка, А.Пысін, А. Савіцкі — па-першае, сфарміраваліся ўнутры гэтага міфа, з'яўляючыся па сутнасці першым поўнасцю савецкім пакаленнем, па-другое, змест іх жыццёвага вопыту непасрэдна міф пацвярджаў: савецкая краіна перамагла ў самай жорсткай, кашмарнай з усіх войнаў у гісторыі, надзвычай хутка аднавіла разбураную гаспадарку, ажыццявіла касмічны праект; значыць — рабілі выснову людзі той эпохі — сацыяльны лад такой краіны найбольш справядлівы і правільны.

Сам факт абсалютнага панавання таго ці іншага міфа ў пэўны перыяд часу не гарантуе яго пазітыўнай накіраванасці, але ў гісторыі нярэдка здаралася так, што лжэміф авалодваў розумамі мільёнаў і вёў іх за сабою. Напрыклад, дактрына Гітлера ў Германіі. Але ж бясконца жыць ва ўладзе палітычнага лжэміфа немагчыма. Ён непазбежна развенчваецца, калі архетыповая сітуацыя (у дадзеным выпадку Другая сусветная вайна) ускрывае супярэчнасці дадзенага міфа адносна вопыту продкаў, культурнай парадыгмы, што існуе ў грамадскай свядомасці нават па-за яе воляй.

Савецкія пісьменнікі, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, рэзка негатыўна ставіліся да ідэяў нацызму: здаровая народная аснова, нацыянальная культура дазволілі ім адчуць крывавасць фашысцкай дактрыны і адхіснуцца ад яе. Хоць Я. Брыль, напрыклад, у рамане «Птушкі і гнёзды» паказвае ўплывовасць падобных ідэй на нетрывалыя душы. Але яго герой Алесь Руневіч насуперак неспрыяльным жыццёвым абставінам упэўнены: «Мой свет — мая вера, надзея, любоў — са мною». Гэтыя словы, што і выкладаюць, па сутнасці, «культурную парадыгму», або «нацыянальны міф», маглі б стаць жыццёвым крэда для ўсяго пакалення беларускіх пісьменнікаў-франтавікоў.

Такім чынам, да ідэй фашызму савецкія пісьменнікі ставіліся рэзка адмоўна. Больш сур'ёзнай гаворкі патрабуе стаўленне беларускіх пісьменнікаў ваеннага пакалення да савецкіх міфаў.

Адзін з найбольш вядомых даследчыкаў міфа М. Эліадэ паказаў суаднесенасць марксісцкай ідэалогіі з адным з архетыповых міфаў свету — пра Залаты век, які існуе ў пачатку і ў канцы гісторыі, а таксама з міфам пра асаблівую ролю Месіі-Выратавальніка. Савецкія людзі даволі працяглы час знаходзіліся ў сферы дзейнасці гэтага міфа. Але будучыя пісьменнікі — людзі дапытлівыя і разумныя — не маглі не бачыць і шматлікія заганы існуючага ладу, глупствы ва ўпраўленні ваеннымі аперацыямі, бяздушша прадстаўнікоў бюракратыі ў адносінах да простых людзей у тыле.

Пакаленне пераможцаў увогуле інакш глядзела на жыццё, чым пісьменнікі даваеннага часу. Творцы, што ўліліся ў склад Саюза беларускіх савецкіх пісьменнікаў пасля фронту, былі сацыяльна ўпэўнены ў сабе, у сваёй праўдзе: яны прызвычаіліся да ініцыятывы, да самастойнага прыняцця рашэнняў у сітуацыях самых неспрыяльных і незвычайных. Ужо хоць бы па гэтай прычыне іх нельга назваць ахвярамі сталінскага міфа: яны кожны па-свойму, адпаведна свайму надзвычай багатаму, нягледзячы на маладосць, жыццёваму вопыту, глядзелі на свет і ўмелі бачыць у ім розныя бакі — інакш бы не сталі пісьменнікамі. Шмат хто з гэтых людзей стаў антысталіністам, але далёка не заўсёды антысаветчыкам (хоць было і такое). Гэта сур'ёзныя людзі, якія ведалі адносна сябе, што яны — **пераможцы**, што сваю галоўную справу ў жыцці яны зрабілі годна: ажыццявілі сваё жыццёвае прызначэнне і выратавалі свет ад самай рэакцыйнай сілы ў гісторыі. Менавіта сваёй жыццёвай пазіцыяй, сваёй самастойнасцю яны паставілі ўлады перад неабходнасцю кардынальна змяніць палітычную міфалогію. Гэта вылілася

ў вядомым дакладзе М. С. Хрушчова «Пра культ асобы і яго наступствы» на XX з'ездзе КПСС у 1956 годзе.

Вызваленне з-пад улады ідэалагічных хімераў пад уплывам драматычных жыццёвых абставін самі пісьменнікі ўвасаблялі ў творчасці, укладалі ўласныя духоўныя імкненні ў сваіх герояў. У аповесці «Агонь і снег» , напісанай І. Шамякіным у 1958 годзе, паказана, як Пятро Шапятовіч, галоўны герой твора, які заўсёды верыў партыйным лозунгам, пастулатам дзяржаўнай прапаганды (як і сам пісьменнік), паступова змяняе свае ідэалагічныя погляды. Стваральнікі акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX ст.» пішуць адносна Шапятовіча: «Аўтар імкнецца пазначыць новыя маральныя арыенціры для свайго героя, больш рэалістычныя. Ускладняе ён і адносіны героя да жыцця, «прапусціўшы» яго праз кроў і боль, свой і чужы, праз уласную драму і трагедыю ўсяго народа, праз страты, ...праз каханне і здраду. У выніку рэалістычны пачатак пры абмалёўцы вобраза Пятра Шапятовіча значна пашыраецца».

Яшчэ больш паглыбіўся рэалізм у аповесці «Мост» (1963), што распавядала пра пасляваенную рэчаіснасць. Характэрна, што пралікі бюракратыі таго часу ўскрывае аналітычнае вока Пятра Шапятовіча, намнога пасталеўшага і шмат паразумнеўшага, — а гэта «alter ego» аўтара.

Аб'ектыўна І. Шамякін паказвае выспяванне антысталініста ў вобразе свайго любімага героя.

Выключна пранікнёны быў і позірк А. Макаёнка. Алесь Яскевіч піша пра драматурга: «Сатырык яшчэ тады, у пасляваеннай рэчаіснасці, дакладна намацаў тыя трэшчыны ў сацыялістычным будаўніцтве з яго паказным і непазбежна шаблонным кіраўніцтвам, што, пашыраючыся, выявілі вялікія застойныя з'явы ў эканоміцы і сацыяльным жыцці краіны. На сённяшні розум можна толькі падзівіцца адарванасці ад жыцця стылю партыйна-гаспадарчага кіраўніцтва...»

Удала паказаў і А. Кулакоўскі, таксама пісьменнік-франтавік, у сваёй дылогіі «Расстаёмся ненадоўга» (1951—54) і «Сустрэчы на ростанях» (1959—1961) немагчымасць укласці аб'ектыўную ісціну ў межы загадаў, інструкцый і распараджэнняў. Той жа ідэяй было прасякнута яго апавяданне «Незабыўнае рэха», у якім сакратар райкома камсамола Лупіновіч — знешне ўзор клапатлівага кіраўніка — на самай справе ўсяго толькі імітатар актыўнасці, тыповы прадстаўнік каманднa-адміністратыўнай сістэмы, з тых, хто нічым рэальна не займаўся, а менавіта толькі сімуляваў дзейнасць. А ў выдатнейшай аповесці «Нявестка» (1956) А. Кулакоўскі, як піша С. Андраюк, «здолеў разгледзець надзвычай важную, у чымсьці нават карэнную прычыну, якая тармазіла, стрымлівала развіццё нашай сельскай гаспадаркі, а нярэдка і падрывала яе фундаментальныя жыццёвыя сілы. Ён даў магчымасць адчуць і пранікнуцца ўсведамленнем, што без належнага гуманістычнага павароту да чалавечай душы нельга разлічваць на эфектыўны паварот і ў практычных сферах жыцця».

Можна сказаць, што дэсталінізацыя, якая, паводле сцвярджэння афіцыйнай савецкай 60-х гг., ды і цяперашняй расійскай прапаганды, пачалася з вядомага даклада М. С. Хрушчова, на самай справе існавала раней, узнікла яшчэ ў першыя дні вайны, пасля паражэнняў 1941—42 гг. А затым, асэнсаваная ў мастацкіх вобразах, аформілася і канцэптуальна. (А. Фурсов. Номенклатурные сатурналии // Лит. газета, № 7-8, 22-28.02.2006.)

Такім чынам, ужо існавала сіла, хоць бы ў асобе пісьменнікаў-франтавікоў, уціск якой знізу і вымусіў наменклатуру пайсці на «развянчанне культу» зверху. XX з'езд і «новы курс» кампартыі разам з маскоўскай інтэлігенцыяй гэтую нізавую дэсталінізацыю накіравалі ў бяспечнае для сябе рэчышча ліберальных паслабленняў. Але гэта не было рэальнай дэмакратызацыяй.

Галоўнай няпраўдай XX з'езда, як піша дырэктар Інстытута рускай гісторыі А. Фурсаў, з'яўляецца тое, што менавіта ён стаў пачаткам дэсталінізацыі. На самай справе існаваў рух з народнай глыбіні. І лепшым сведчаннем таму з'яўляюцца дасягненні пісьменнікаў. Напрыклад, сапраўдная знаходка І. Шамякіна — створаны ім вобраз Бародкі ў рамане «Крыніцы», які пісаўся да XX з'езда (1953—1956). У гэтым

вобразе выкрываецца не толькі «бюракратычны прынцып кіравання», а ўласна сам тып наменклатуршчыка, партыйнага кіраўніка ў стадыі пераўтварэння наменклатуры ў квазіклас, клас для сябе. У многіх сэнсах Бародка з яго заганнымі метадамі кіравання сельскай гаспадаркай — сам Хрушчоў, які канчаткова загубіў вёску. Але Хрушчоў і ўсё яго акружэнне здолелі адвесці гнеў народа ад сябе і сканцэнтравалі гэты гнеў на адной асобе. Развянчанне сталінізму было хітрай маскіроўкай: Хрушчоў дзякуючы ёй і рабіўся барацьбітом за справядлівасць, і здымаў з сябе адказнасць за ўдзел у рэпрэсіях. Акрамя таго, барацьба з «культам асобы» праводзілася хрушчоўскай групоўкай ва ўмовах парушэння Статута КПСС: даклад не быў абмеркаваны на з'ездзе, не стаў прадметам агульнапартыйнай дыскусіі. Нязначная меншасць цэкоўскай бюракратыі прышчапіла сваю волю велізарнай большасці партыйцаў.

Такім чынам, міф сталінізму быў заменены іншым міфам — развянчаннем сталінізму. Карэнная перамена веравання заўсёды суправаджаецца дэманізацыяй папярэдняй канфесіі... Гэта аксіёма. Адначасова, пачынаючы з XX з'езда, вядзе сваё паходжанне іншы палітычны міф — пра дэмакратызацыю грамадскага жыцця. Нарадзіўшыся як перажыванне «адлігі», ён ажывае ў перыяд перабудовы, набывае, як кожны рэлігійны культ, сваю дагматыку — паняційны і сімвалічны апарат — у 1990—1991 гг.; пазней жа уніфікуецца, робіцца пошасцю, пераўтвараецца ў руцінную рыторыку ўжо ў 90-я гады; у далейшым разбіваецца на даволі бляклыя міфасюжэты асобных партый і грамадскіх дзеячаў. Расчэплены міф дэмакратыі, як і савецкі міф у брэжнеўскую эпоху, сёння проста нецікавы, таму што пазбаўлены сюжэта і сімволікі, і яго мабілізуючая сіла ўжо заканчваецца, як бы яе ні імкнуліся рэанімаваць з дапамогай пастаяннага згадвання злачынстваў Сталіна, ГУЛАГа, шляхам проста фенаменальна магутнага тэлевізійнага прэсінгу на мазгі гледачоў.

Немагчыма ў поўнай меры прасачыць рэакцыю пісьменнікаў-франтавікоў на даклад М. С. Хрушчова? Але ўсё ж згадаю, што пасля таго, як даклад зачыталі на закрытым партыйным сходзе ў СП БССР, пісьменнікі-ветэраны былі ашаломлены, але нельга сказаць, што тут жа, без агаворак, прынялі лінію партыі. Я памятаю спрэчкі ў доме І. Шамякіна, якія не перапыняліся літаральна на працягу месяцаў, ды і пазней сябры-пісьменнікі вярталіся не раз да з'езда і даклада Хрушчова. Уплыў матэрыялаў даклада, спрэчак і расповедаў адзін аднаму пра розныя жыццёвыя выпадкі шмат што вызначыў у творчым развіцці пісьменнікаў-франтавікоў, зрабілі іх раскаванымі ў творчасці. Праўда, расчараванне ў самім Хрушчове, скажам, у Шамякіна і яго сяброў адбылося даволі хутка, яшчэ ў час уладарання Мікіты Сяргеевіча.

У дэмакратычнай прэсе і па сёння славяць хрушчоўскую «адлігу». Тут справа складана. Выключную атмасферу таго часу — і майго любімага часу — у поўнай меры не даносіць ні адзін твор. Для пісьменнікаў ваеннага пакалення гэта быў, бадай, самы шчаслівы перыяд у жыцці. Ва ўсім адчуваўся пад'ём і развіццё, людзі аптымістычна глядзелі на свет. Але ці заслуга тут Хрушчова?

Відаць, агульная эмацыянальная атмасфера вызначалася тым энтузіязмам, які дакаціўся на хвалі радасці ад Перамогі да 50-х і нават да 60-х гадоў. На здзіўленне хуткае аднаўленне краіны даравала надзею на лепшае жыццё і ў будучым. Сёння можна смяяцца над гэтым, але і сапраўды верылі, што праз дваццаць гадоў, як абвясціў М. Хрушчоў, будзем жыць калі не ў камунізме, то ў багатай і шчаслівай краіне, у адноўленым свеце. Ды і як можна смяяцца над верай?! А ў пачатку 90-х гадоў ужо не камуністы, а дэмакраты ўнушалі веру ў ледзь не імгненны рывок у капіталістычны рай. Вось дзеянне сацыяльных міфаў, якое намнога ўзмацняецца дзякуючы масмедыйнай прапагандзе. А тады, з сярэдзіны 50-х гадоў да сярэдзіны 60-х, СССР меў усе магчымасці развівацца няўхільна і магутна. (У дужках адзначу, што шмат якія працэсы ў грамадстве разглядаю не толькі з палітычнага пункту гледжання, але і пад знакам цывілізацыйнай парадыгмы. І тое, што называюць «хрушчоўскай адлігай», лічу вышэйшым пунктам у развіцці тэхнакратычнай цывілізацыі, якая ў аднолькавай ступені ўласцівая як сацыялі-

стычным краінам, так і капіталістычным. Вышэйшы пункт у развіцці цывілізацыі і вызначыў адпаведную грамадскаю атмасферу. Прайшоўшы тады кропку біфуркацыі, развіццё цывілізацыі пайшло ў іншы, чым можна было разлічваць, бок).

Гаворачы пра «адлігу», неабходна мець на ўвазе навукова-тэхнічную рэвалюцыю, новыя тэхналогіі. Ашаламляльныя адкрыцці ХХ стагоддзя рэальна ўвайшлі ў жыццё, і мы сталі шырока карыстацца імі менавіта ў тыя гады. А пазней навукова-тэхнічны прагрэс замарудзіўся, у апошнія ж пятнаццаць гадоў фундаментальных адкрыццяў фактычна і не было. Тут можна запярэчыць: а камп'ютэры, а мабільная сувязь, а спадарожнікавае тэлебачанне? На самай справе, развіваліся менавіта сродкі інфармацыі, а не іншыя сферы. А адкрыцці, на аснове якіх развіліся гэтыя тэхналогіі, былі зроблены значна раней.

Яшчэ са школьных гадоў я прызвычаілася чытаць шматлікія навукова-папулярныя часопісы: «Наука и жизнь», «Знание — сила», «Техника — молодежи», «Вокруг света», «Юный натуралист» і інш. І цудоўна памятаю фенаменальныя навуковыя распрацоўкі тых гадоў. Таму надзеі на нейкія якасныя прарывы ў тыя гады былі далёка небеспадстаўныя. Скажу хоць бы пра тыя, што мне бліжэй — у галіне адукацыі: гіпнатэхніка; навучанне ў сне; хуткачытанне; метады, якія дазвалялі авалодаць замежнай мовай за два тыдні; прыёмы самаканцэнтрацыі, што нашмат рассоўвалі межы чалавечых магчымасцей, і іншае. Усе цуды можна было ажыццявіць. Але развіццё, паўтараюся, пайшло па іншым шляху. Ужо ў 70-я гады вера ў фантастычнае будучае патухае, у 80-я гады і зусім замяняецца скепсісам. А ў 50—60-я гады мы на самай справе жылі чаканнямі.

Сёння, шукаючы палітычныя вытокі развалу СССР — самай важнай падзеі другой паловы ХХ стагоддзя, — неабходна пастаянна памятаць пра даклад М. С. Хрушчова. Яго ўчынак ацанілі па-рознаму. У размовах пісьменнікаў імя Сталіна гучала гэтак жа часта, як і імя Хрушчова. Былыя франтавікі да таго часу паспелі ўжо з'ездзіць — і не раз — за мяжу. Яны бачылі выключную павагу да савецкіх людзей ва ўсіх замежных краінах, асабліва Трэцяга свету. Яны ганарыліся магутнасцю СССР і звязвалі гэтую магутнасць з імем Сталіна. Яны і прымалі і не прымалі ацэнку Сталіна Хрушчовым. Мастакоўскім чуццём найбольш таленавітыя з іх, напрыклад, А. Макаёнак, адчувалі зман афіцыйнай ідэалогіі, якая раптам змяніла вектар на 180 градусаў. Андрэй Ягоравіч супраціўляўся гэтаму імкненню паўплываць на яго мазгі, выключна эмацыянальна ўспрыняў змену міфа. З другога боку, вярнуліся ўжо з Сібіры і Далёкага Усходу рэпрэсіраваныя ў 30-я гады пісьменнікі. Янка Скрыган, напрыклад, стаў суседам Я. Брыля, І. Мележа і І. Шамякіна ў доме па вуліцы К. Маркса, 36, шмат расказваў пра лагеры. Такім чынам, не верыць Хрушчову адносна ГУЛАГа пісьменнікі не маглі. Аднак ад украінскіх і рускіх сяброў яны ведалі пра значную ролю самога Хрушчова ў рэпрэсіях. Ды і далейшыя падзеі прыносілі расчараванне ў Хрушчове. Я памятаю не проста крытыку, а дасціпныя здзекі з валюнтарысцкіх ідэй кіраўніка краіны: адносна саўнаргасаў, кукурузы, мастакоў-мадэрністаў і інш.

У сваіх развагах аб гісторыі ХХ стагоддзя І. Шамякін, які перажыў шмат каго са сваіх сяброў, ужо ў канцы жыцця, пры ўсёй сваёй выключна станоўчай ацэнцы даклада Хрушчова, вымушаны быў згадзіцца, што разумнай стратэгіі не было, што энергія народа, так магутна выкарыстаная для аднаўлення краіны пасля вайны, пачала рассейвацца ў прасторы, прападала дарма. Праўда, Шамякін усё ж больш памылак прыпісваў Брэжневу, чым Хрушчову.

Пасля 2000 года я прынесла Шамякіну кнігу рускага пісьменніка Юрыя Мухіна «Убийство Сталина и Берии», дзе Хрушчоў абвінавачваўся (прычым доказна — Мухін адрозніваецца жалезнай логікай і шмат прыводзіць дакументаў) у ліквідацыі названых у загалоўку асобаў. Мы з бацькам абмяркоўвалі кнігу, і пісьменнік у цэлым паставіўся да яе скептычна, сказаў, што версій забойства Сталіна ён на працягу свайго жыцця чуў каля дзясяці. Якая з іх праўдзівая — мы ніколі не даведаемся. У той жа час на мой аргумент, што ў дадзенай версіі найбольш распрацаваны, так бы мовіць, кантэкст, ён са мною згадзіўся. І ў гэтым

увесь Шамякін: спрэчак ён не любіў і, каб не крыўдзіць суразмоўцу, часта згаджаўся з ім або рабіў выгляд, што згаджаецца. Хутчэй, апошняе. У яго на ўсё быў свой погляд і нават дзённіку ён яго не заўсёды давяраў.

Мяркую, што ў ацэнцы асобы і дзейнасці Сталіна Шамякін, застаючыся ў цэлым на пазіцыях хрушчоўскага даклада, пастаянна вагаўся. Гэта менавіта той феномен, ацэньваць які можна толькі з вышыні часу, бо Сталін — не проста асоба, а, так бы мовіць, гістарычная катэгорыя. Я ведаю, што Шамякін пакутліва разважаў пра сталінскую эпоху, узважваў на шалях Вялікую Перамогу і рэпрэсіі, уласную Сталінскую прэмію і парушэнні законнасці, стварэнне магутнай краіны і пакуты сяброў... У сваім дзённіку Шамякін імкнецца ўспомніць, колькі рэпрэсіраваных было ў іх вялікім сяле Карма. Маці памятала, што ў канцы 20-х гадоў у яе роднай Церусе — таксама вёсцы двароў на 200 — раскулачылі і выслалі чатырох чалавек — млынароў. Бацька называе прыкладна такую ж лічбу. Пра рэпрэсіраваных у 1937 годзе яны ўвогуле нічога не памяталі. Няхай нават абое ўжо вучыліся ў Гомелі, але пра землякоў павінны былі ведаць. Хутчэй, рэпрэсіраваных і не было. Але не было ў вёсцы. Некаторыя бацькавы калегі распавядалі пра тое, што рабілася ў Мінску ў 1937 годзе: як арыштоўвалі цэлыя райкомы, як людзі скакалі з вокнаў, страляліся. Усё гэта выклікала ў Шамякіна востры душэўны боль. Але прыходзілася яму чуць і нешта супрацьлеглае: што быў і шпіянаж, і тэракты, і ўсе гучныя працэсы справядлівыя, а ў правінцыі, да якой адносілася і Беларусь, дзеянні наменклатуры, як жаданне выслужыцца, сталі падставай нечуваных катаванняў: у нейкі момант падзеі набылі характар снегавой лавіны, якую цяжка спыніць. Парадаксальна прызнанне Шамякіна, што, як ні дзіўна, ідэалогія мацней дзейнічала ў хрушчоўскую і брэжнеўскую эпохі, чым у сталінскую: ці дзякуючы ўжо дастаткова развітым СМІ, ці таму, што чалавек ён стаў ужо дзяржаўны і вымушаны быў суадносіць сваю дзейнасць з патрабаваннямі партыі, а на самай справе — наменклатуры, што аднолькавая ва ўсе часы.

Адпачываў ад сваёй ролі Шамякін толькі ў размовах з сябрамі, асабліва з Андрэем Макаёнкам. У таго на ўсё быў свой погляд, свая арыгінальная думка — безапеляцыйная. Скажу шчыра: пра многае, што адкрылася падчас перабудовы, пра што трубілі тагачасныя СМІ, я чула ў бацькоўскім доме яшчэ ў 60—70-я гады і таму назірала масмедыйную вакханалію з іроніяй, але і з жудасцю. Ужо тое, што прадбачанні пісьменнікаў у многім спраўдзіліся, дазваляе ацаніць глыбіню іх аналітычнай думкі. І я веру менавіта ім — сябрам бацькі, ветэранам, а не пустагаловым, феерычна бяздарным журналістам, тым больш не буржуазнаму, наскрозь масаваму, расійскаму ТВ, пад уплывам якога, на жаль, знаходзіцца і беларуская эліта. Дарэчы, Андрэй Ягоравіч, у адрозненне ад майго бацькі, не баяўся выказваць крытычныя заўвагі пры дзецях і неаднаразова даказваў Шамякіну, што праўдай нас ідэалагічна не сапсуеш. Больш таго, сёння я бачу, што часта ён гаварыў менавіта для нас...

Хрушчова сябры асуджалі, клалі яго, можна сказаць, на лапаткі, перабіралі яго памылкі, абураліся яго неадукаванасцю, некампетэнтнасцю, нізкай культурай, хамствам. Іх не прывабліваў нават яго своеасаблівы рамантызм, абумоўлены дзіўным часам, у які яму выпала кіраваць самай вялікай імперыяй у свеце. Падобна на тое, што сябры-франтавікі бачылі ў ім сатанінскую хітрасць, выкрутлівасць і таленавітую гульню пад наіўнага. Менавіта ад Андрэя Ягоравіча ў той час, калі вакол лямантавалі пра культ асобы Сталіна, я ўпершыню пачула пра новы культ — самога Хрушчова. Цікава, што гэты культ жыве да нашага часу...

З другога боку, калі на кастрычніцкім пленуме 1964 года Хрушчова так выбухова «скінулі», у нас дома пісьменнікі абмяркоўвалі, хто ж на самай справе кіруе дзяржавай, хто «стаяў» за Хрушчовым і якія сілы «стаяць» за Брэжневым. Я вельмі добра памятаю, што і Кулакоўскі, і Макаёнак, і Шамякін лічылі тады Брэжнева надзвычай слабым іграком і нікчэмнай асобай.

Такім чынам, пісьменнікі-франтавікі жылі вельмі складана ўнутры палітычных міфаў, супярэчліва ставіліся да іх. Якраз гэтую складанасць і неабходна вывучаць, а не навешваць ярлыкі. Скажам, дактрыну марксізму і ў цэлым

камуністычную ідэалогію ўсе пісьменнікі-франтавікі адзназначна ўспрымалі як міфалогію, як нешта непазбежнае, накшталт клімату, з чым неабходна зміръщца. А вось міф Сталіна і супрацьлеглы яму міф хрушчоўскай дэсталінізацыі яны ўспрымалі літаральна з раздзіраннем уласнай душы. Заўсёды неабходна памятаць, што менавіта яны — пераможцы фашызму — пачалі крытыкаваць рэжым, выкрываць «партыйную дэмакратыю» яшчэ да XX з'езда. Развенчаная знізу наменклатура спалохалася і накіравала крытыку на адну асобу, сама ж пазбегла пакарання.

Аднак законы мастацкай творчасці больш складаныя, чым дзейнасць ідэалагем у грамадстве. Мову міфа не варта разумець літаральна, як і мову казкі. Міф крочыць больш пакручастымі шляхамі, чым распаўсюджваюцца тыя ці іншыя ідэі. Сярод беларускіх пісьменнікаў не было свайго А. Салжаніцына, які б стварыў кнігу, падобную «Архіпелагу ГУЛАГу». Але беларускія пісьменнікі ў поўнай меры выкарысталі атмасферу, спароджаную не столькі развянчаннем культу (бо ўжо стварыўся новы культ), колькі інерцыяй пачуцця Перамогі і радасцю ад аднаўлення краіны. Яны выказаліся шчыра і адкрыта пра нашу гісторыю і сучаснасць і стварылі мастацкія творы, якія і сёння складаюць гонар беларускай літаратуры.

І зноў пра асабістае. Пра што гаворка? Пра тое, што невыносна цяжка жыць сярод замбіраванай эліты, якая перамяніла марксісцкі міф на ліберальны, а па сутнасці такі ж вульгарна-сацыялагічны, і ўпэўнена, што сама выпрацавала ўласную ідэалогію, такую прагрэсіўную і пры гэтым такую патрыятычную. Пакутліва адчуваць тэрор — ды толькі не ўладаў, а свайго ўласнага акружэння, тэрор асяроддзя, калі нават універсітэцкія прафесары гавораць цэлымі фразамі з ганебнага лексікону Познера і Сванідзе. Хіба не ясна, што свет ў XXI стагоддзі не чорна-белы, што гісторыя ішла па вельмі пакручастых сцежках, што лепшыя беларускія пісьменнікі — гонар нацыі — таксама былі людзьмі надзвычай складанымі, бо прайшлі па гэтых сцежках — у адрозненне ад сучасных, што так любяць крытыкаваць «камунякаў»! І ўжо варта пачаць вывучаць гісторыю ва ўсіх нюансах, без абрыдлых штампаў — ці то расійскіх, ці то польскіх. Варта ўжо ведаць хоць бы статыстыку савецкіх часоў і параўнаць з цяперашняй, варта пачаць думаць і аналізаваць. Толькі тады мы пачнём зжываць дэструктыўныя палітычныя міфы.



**Сцяпан ЛАЎШУК**

## ЗМЕНА ВЫЯЎЛЕНЧЫХ РАКУРСАЎ: СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ДРАМАТУРГІЯ АБ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЕ

Выступаючы роўна два гады назад на падобнай рэспубліканскай навуковай канферэнцыі, я параўнаў творчае здзяйсненне ў сучаснай беларускай драматургіі з піянерскім кастром менавіта ў той стадыі яго правядзення, калі ўзнікала патрэба падсілкаваць агмень. З вялікім энтузіязмам нявопытная піянерыя завальвала жвавае дагэтуль полымя сырым лапнікам, карчамі, усялякім друзам (чытай — самымі рознымі экзатычнымі відамі п'ес), так што ўзнікала трывога, ці праб'ецца наогул агонь з-пад цяжару гэтых напластаванняў. Ды — нічога! Грунтавы жар (традыцыі) здольны на вельмі многае, жывучасць іх фенаменальная. Гэтае параўнанне справядлівае і ў дачыненні да п'ес, прысвечаных падзеям Вялікай Айчыннай вайны. І тут таксама назносілі шмат самага рознага «друзу», хто-ніхто нават спрабаваў прытушыць, прыдушыць агмень.

Сапраўды, на парубежжы XX і XXI стагоддзяў адносіны да асэнсавання гераікі мінулай вайны істотна змяніліся. Прынамсі, творы на ваенную тэматыку страцілі былую прыцягальнасць. Гэты факт, натуральна, не можа не выклікаць пэўнага здзіўлення. Агульнавядомая ісціна: подзвіг нашага народа ў Вялікай Айчыннай вайне прынёс яму міжнароднае прызнанне, рэалізаванае (сярод іншага) у членстве-заснавальніцтве Арганізацыі Аб'яднаных Нацый; высокі мастацкі ўзровень адлюстравання гэтага подзвігу беларускай літаратурай забяспечыў ёй небывалую рэйтынгавую падвышку ў сусветным літаратурным супольніцтве. Здавалася, гэты залатаносны выяўленчы пласт трэба было б усямерна даглядаць ды пеставаць. Аднак напрыканцы XX стагоддзя, калі ў атмасферы так званай сацыяльна-палітычнай перабудовы краіну захліснула плынь усемагчымых рэформ, у літаратуры распачаўся пакутлівы працэс творчых пераарыентацый. Само сабою зразумела, што такім часам надзвычайна ўзрастае небяспека памыліцца ў выбары творчых прыярытэтаў, падмануцца ў сваіх спадзяваннях, паколькі многае робіцца па эмацыянальных пазывах, з ігнараваннем аб'ектыўных прадумоў развіцця. Добра пра такі стан гаварыў геніяльны творца эпохі Адраджэння Леанарда да Вінчы:

«Не вопыт, бацька ўсіх мастацтваў і навук, ашуквае людзей, а ўяўленне, якое абяцае ім тое, чаго вопыт даць не можа. Нявінны вопыт, але нашы мітуслівыя і безразважныя жаданні злачынныя. Адрозніваючы ману ад ісціны, вопыт вучыць імкнуцца да магчымага і не спадзявацца, па няведанні, на тое, чаго дасягнуць нельга, каб не давялося, падмануўшыся ў надзеі, прыйсці ў адчай». (Цыт. па: Мережковский Д. С. Воскресшие боги Леднардо да Винчи.)

«Ад якой спадчыны мы адмаўляемся?» — пад такім дэвізам у пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў многіх краінах былога Савецкага Саюза прайшлі досыць гарачыя дыскусіі. І што ж? Гэтыя дыскусіі лішні раз пацвердзілі, што гарачлівасць — не лепшы саюзнік здаровай разважлівасці. Вельмі часта не хапала многім палемістам цвярозай ацэнкі як сацыяльна-палітычнай, так і культуралагічна-творчай сітуацыі ў краіне, таму постсавецкая прастора паступова пачала ператварацца ў антысавецкую — з усімі непазбежнымі пры тым наступствамі. Менавіта таму асабліва ўзмоцнена-зласлівым, абструкцыянісцкім нападкам падвергнуўся метад сацыялістычнага рэалізму, які нібыта паставіў развіццё савецкай літаратуры па-за рэчышчам сусветнага літаратурнага працэсу. «Вотум недаверу» атрымалі некаторыя ідэйна-тэматычныя напрамкі айчыннай літаратуры, у тым ліку звязаныя з асэнсаваннем гісторыка-рэвалюцыйнай і ваенна-патрыятычнай праблематыкі. Здавалася б, «перабудовачныя» працэсы занялі не так і многа часу, аднак мы добра адчулі іх негатыўныя вынікі. Перш за ўсё кінулася ў вочы, што нашы пісьменнікі не захавалі навык глыбокага, па-мастацку яркага паказу падзей Вялікай Айчыннай вайны. Зрэшты, было б вельмі дзіўна, каб гэтага не адбылося, паколькі ваенная тэматыка страціла ранейшую прывабнасць для нашых творцаў (жыць у грамадстве і быць свабодным ад яго палітычнай атмасферы — нельга). Сутыкнуліся мы і з тым, што ў поглядах на вайну, у разуменні яе патрыятычных, маральна-этычных урокаў бытуе вялікі разнабой. Вядома, адзінай праўды пра Вялікую Айчынную вайну не існавала ніколі. Вайна ў мемуарах маршала і генерала — гэта адно. Палявыя камандзіры прэзентавалі істотна іншую «карцінку». Праўда вайны штабная... Праўда акопная... Пісьменнікі франтавога пакалення... Пакаленне філалагічнага... Кожнаму «апавядальніку» здавалася, нібыта менавіта яму і толькі яму давялося пабачыць *сапраўдную* вайну. І самае цікавае заключалася ў тым, што прэтэнзіі кожнага з іх мелі пэўныя падставы. Як мае падставы прэтэндаваць на поўны давер кожны апавядальнік, які назіраў канкрэтны бой, дапусцім, з сырой траншэі, камфартабельнага бліндажа ці з гарышча вясковай хаты: ракурсная рэцэпцыя пэўнага аб'екта зусім не горшая за панарамную. Калі б гэта было не так, дык нам давялося б адмовіцца ад усякага праяўлення жанрававыяўленчай шматстайнасці. Праўда, тут патрэбна адна агаворка: часам у паказе падзей Вялікай Айчыннай вайны вольна ці нявольна праяўлялася ангажаванасць рознага кшталту, і тады замест паўнакроўнага жыццёвага верагоднаснага матэры-

ялу ў творах «манціраваліся» павярхоўныя схемы. На шчасце, такое здаралася адносна нячаста (не дарма ж менавіта творамі пра Вялікую Айчынную вайну беларуская літаратура заваявала вялікі аўтарытэт на міжнароднай арэне). Зрэшты, у нашы задачы не ўваходзіць падрабязны аналіз усіх праяў сацыяльна-палітычных заангажаванасцей у літаратуры. Хочацца толькі падкрэсліць, што ўсе яны былі абумоўлены не столькі аб'ектыўнымі, колькі суб'ектыўнымі прычынамі. І яшчэ: да сярэдзіны 80-х гадоў ХХ стагоддзя ўвесь спектр сыходжанняў-разыходжанняў змяшчаўся на агульных восях каардынат, застаючыся кангеніяльным па ўнутранай сутнасці і кансалідуюча-выхаваўчым па сваім уздзеянні. Дысанансы пачаліся, дакладней, яскрава выявіліся напрыканцы мінулага стагоддзя, калі, хай сабе і не на поўны голас, але дастаткова настойліва і патрабавальна заявілі пра свае прэтэнзіі на гістарычную годнасць тыя, хто ў час вайны супрацьстаяў патрыётам, абаронцам Айчыны. Былыя паліцэйскія, байцы Арміі Краёвай, калабаранты самага align рознага кшталту ў сродках масавай інфармацыі (і не толькі апазіцыйных) сталі выстаўляцца героямі і пакутнікамі. Затое партызаны называліся арганізаванымі (менавіта так іх называла гебельсаўская прапаганда) бандытамі, якія рабавалі і тэрарызавалі цывільнае насельніцтва. Я невыпадкова ўзгадаў аднаго з «патэраў» фашыстоўскай прапаганды: пераважная большасць неаінтэрпрэтатараў гісторыі Вялікай Айчыннай вайны добрасумленна (не, хутчэй нядобрасумленна, у фармаце пазаддзя) паўтаралі пастулаты гэтай прапаганды. Самае прыкрае заключалася ў тым, што ніхто з іх не абцяжарваў сябе пошукамі аргументаў, не імкнуўся абаперціся на надзейны грунт гістарычнай праўды. Час ад часу іх лавілі за руку, як гэта зрабіў былы партызан і падпольшчык Н. Пашкевіч з аўтарам артыкула «Партызаны правакавалі акупантаў…» Я. Шыраевым, указаўшы на грубыя падтасоўкі фактаў, элементарнае няведанне гісторыі партызанскага руху, на цынічную прадузятасць ацэнак дзейнасці змагароў з акупантамі. Ніякага маральнага ўпыну не было на гэтых гора-рэвізіяністаў. Вось і аказвалася, што гаўляйтэр Вільгельм Кубэ не крывавы кат беларускага народа, а шчыры змагар за адраджэнне і росквіт Беларусі, што карныя эсэсаўскія дывізіі займаліся прафілактыкай партызанскіх правапарушэнняў, а не татальным генацыдам. Само сабою зразумела, што ў такой абстаноўцы імпэтнай цягі да асэнсавання падзей Вялікай Айчыннай вайны чакаць не даводзілася: у «традыцыяністаў» новыя ідэі толькі выспявалі, а «рэвізіяністаў» не дужа прыхільна ўспрымала грамадскасць. Ці азначае сказанае, што ваенная тэматыка гэтым часам цалкам ігнаравалася пісьменнікамі? Не і не! Бо гэта супярэчыла б аб'ектыўным законам творчага працэсу, атрыбутыўнымі ўласцівасцямі якіх з'яўляюцца інерцыйнасць і ўгрунтаванасць на традыцыях. Засмучала іншае — адсутнасць значных творчых набыткаў. Прынамсі ні проза, ні паэзія не маглі пахваліцца ранейшай вышынёй мастацкага асэнсавання падзей мінулай вайны. Асабліва ж бедны плён дала менавіта драматургічная ніва. Не, п'есы на ваенную тэматыку пры ўсім пры тым з'яўляліся. І да мяне, даследчыка драматургічных жанраў, яны «сцякаліся» па самых разнастайных рэчышчах, так што нават без тых сарака чатырох п'ес, якія паступілі на Рэспубліканскі конкурс, які пад дэвізам «Дзень Перамогі» праходзіў з 1 кастрычніка 2003 года па 25 красавіка 2004 года, сёе-тое пад рукамі было. Засмучалі не колькасныя (хоць яны таксама ўнушальна не выглядалі), а менавіта якасныя паказчыкі. Адразу кідалася ў вочы, што беларускія драматургі страцілі навык стварэння паўнавартасных п'ес на ваенную тэму. Прычыны? А яны — розныя. Розныя як па значнасці, так і па працягласці свайго ўздзеяння. І ўсё ж адну з іх хочацца вылучыць асабліва. Гэта — дэгераізацыя. Патрэбна правесці спецыяльную навуковую канферэнцыю, прысвечаную гэтай надзвычай няпростай эстэтыка-палітычнай з'яве, полівалентнай па сваіх практычных праявах. Тое, што дэгераізацыя з'яўлялася дзейсным сродкам ідэалагічнай барацьбы, сакрэтам ні для каго не з'яўлялася. Відавочнай была і яе дэструктыўная сутнасць. Яўна хітравалі апалагеты дэгераізацыі, калі сцвярджалі, што выступаюць толькі *супраць* паэтызацыі *вайны*. Якая паэтызацыя вайны? У якую нармальную галаву прыйдзе думка паэтызаваць

самае жахлівае, непамысна-жорсткае і неразумнае з'явішча ў гісторыі чалавецтва? А вось подзвіг на вайне, праявы асабістай мужнасці, высокага гераізму — зусім іншая справа. Гэтую ісціну добра ўсведамлялі беларускія драматургі, пачынальнікі асэнсавання героікі Вялікай Айчыннай вайны. Сярод іх перш за ўсё варта назваць Кандрата Крапіву, які ўражліва раскрываў аспекты асабістай адказнасці чалавека ў трагічных абставінах ваеннага часу. Высокія маральныя імператывы, уласцівыя многім «ваенным» п'есам, гучалі цалкам натуральна, паколькі драматургі (у большасці выпадкаў, прынамсі) вельмі адказна адносіліся да асэнсавання героікі вайны. Невыпадкова ж Кастусь Губарэвіч сваю гераічную драму, прысвечаную абаронцам Брэсцкай крэпасці, перапрацоўваў каля дзесяці разоў (гэта адлюстравалася нават у назвах варыянтаў — «Цытадэль славы», «Брэсцкая крэпасць», «Людзі і камені» і г. д.). А як доўга падступаўся да ваеннай тэмы Андрэй Макаёнак? Менавіта высокая мастакоўская адказнасць абумовіла грандыёзны поспех яго трагікамедыі «Трыбунал», у якой эксперыментальна-смела спалучаны самыя разнастайныя, часам нават супрацьлеглыя па сваёй сутнасці сродкі мастацкай выразнасці, калі гіпербала дапаўнялася літотай, нізкае і агіднае арганічна суседнічала з узвышаным і высакародным, а перапляценне трагічна-жудаснага з гарэзліва-камічным надавала дзеі непаўторны каларыт. Зрэшты, п'есы на ваенную тэму, як правіла, уваходзілі ў творчы актыў кожнага драматурга: «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона, «Юныя мсціўцы» А. Гутковіча і У. Хазанскага, «Марат Казей» В. Зуба, «Шпачок» А. Махнача, «Пад шыфрам «Зорачка» В. Луксы, «Радавыя» А. Дударава і многія іншыя. Менавіта з гэтымі творамі звязаны ўражлівыя дасягненні беларускай драматургіі ў раскрыцці сапраўднага, а не дэманстратыўна-паказнога гераізму савецкіх людзей, у распрацоўцы праблемы гераічнага характару.

Аднак жа вернемся да «ваенных» п'ес постмакаёнкаўскага, скажам так, часу. Першае, што адразу ж кідаецца ў вочы і трывожыць, — гэта адсутнасць пераемнасці паміж творчымі пакаленнямі. Я выдатна ўсведамляю, што ні асаблівасці мастацкіх падыходаў, ні глыбіня эстэтычнага спасціжэння аб'ектаў рэчаіснасці наўпрост, непасрэдна не карэлююць з узростам творцаў. І тым не менш факт застаецца фактам — для літаратараў апошняга «прызыву» героіка Вялікай Айчыннай вайны сталася рэччу ў сабе, яна іх не хвалюе, не прыцягвае, не натхняе. Тут ужо даводзіцца здзіўляцца не столькі таму, што нікому з маладзейшых драматургаў не спадарожнічаў поспех (пра які поспех можна гаварыць пры такіх адносінах!), колькі таму, што яны хоць як-ніяк ды звяртаюць увагу на падзеі мінулай вайны. Той вайны, на якой менавіта маладыя салдаты найчасцей здзяйснялі цуды гераізму.

Другой асаблівасцю гэтага перыяду з'яўляецца прыкметная палітызацыя творчасці, у выніку чаго на свет прабілася хай сабе і не дужа багатая, але нахрапіста-прэтэнцыёзная плынь п'ес, у якіх «па-новаму» адкрываецца ход Вялікай Айчыннай вайны. Па-першае, гэта, аказваецца, было проціборства дзвюх абсалютна аднолькавых бесчалавечных ідэалогій — фашызму і камунізму. Па-другое, ніякага народнага парывання абараніць Айчыну ад карычневай чумы не было, а былі заградатрады, СМЕРШы, бяздарнасць, дурнота і жорсткасць франтавых камандзіраў. Ніякіх праяў чалавечнасці. Паўсюль — зверствы, зверствы і яшчэ раз зверствы. І амаль не даходзіць да ўсведамлення аўтараў-рэвізіяністаў, што пры такой раскладцы сюжэтнага «пасьянса» нельга дасягнуць хоць бы якой пераканаўчасці: лішак чарнаты (ды яшчэ калі гэта разыходзіцца з гістарычнай праўдай) забівае мастацкі твор. І трэба помніць, што вялікія перамогі застрашаным людам не здзяйсняюцца.

Нарэшце, варта адзначыць і яшчэ адну асаблівасць сучаснай драматургічнай творчасці. Гэта — шчодрае выкарыстанне містычных, віртуальных, рэлігійна-цудадзейных гісторый. Паказальна, што гэты пласт п'ес, ірацыянальнасць якіх абумоўлена самой аўтарскай задумай, вызначаецца большай — у мастацкім плане — праўдападобнасцю, верагоднасцю, чым «дакументальныя» творы пры-

хільнікаў «новай праўды» аб вайне. Больш таго, п'есы, заснаваныя на паданнях ваеннай пары (у форме народных балад яны ў вялікай колькасці бытавалі і бытуюць літаральна ва ўсіх рэгіёнах Беларусі), увогуле прэтэндуюць на пэўны рэалізм. Як прыклад, можна згадаць драму М. Шэлехава «Яма» (2004), у якой паказваецца гісторыя цудоўнага (перад карнікамі з'явілася Багародзіца-заступніца) выратавання ад расстрэлу жыхароў адной з вёсак на Брэстчыне падчас Вялікай Айчыннай вайны. Аўтар назваў гэту п'есу народнай драмай, арыентуючы чытачоў на адпаведнае ўспрыняцце сюжэта, акцэнтуючы ўвагу менавіта на рэальнасці, нявыдуманасці падзей.

Што ж датычыць А. Паповай, дык яе пры напісанні драмы «Бліндаж» (2004) клопат аб праўдзе факта турбаваў вельмі мала. Праўды ж мастацкай яна дасягае ўмелым спалучэннем рэальных і віртуальных сутнасцей. Напярэдадні 60-годдзя перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне ў нашым грамадстве вялося нямала дыскусій аб гераізме, патрыятызме, вытоках подзвігу. Часцей за ўсё аргументацыя грашыла залішняй абстрактнасцю. А. Папова паспрабавала прыўзняцца над рознымі пазіцыямі і трактоўкамі. У прамым і пераносным значэнні. Члены парашутнага клуба «Крылы» Павел і Марына, выконваючы вучэбны скачок, трапілі ў нестандартную сітуацыю. Па-першае, яны прызямліліся ў нейкім дзіўным (прынамсі, на карце яго не было) ляску. Па-другое, Марына зачапілася парашутам за дрэва, заблыталася ў стропах, ледзь вызвалілася ад іх, пашкодзіўшы пры гэтым нагу. Далей — болей. Спрабуючы выбавіцца з лесу, маладыя спартсмены праваліліся ў бліндаж часоў Вялікай Айчыннай вайны. Бліндаж, у якім час ці то закансерваваўся, ці то спыніўся: у ім вось ужо шэсцьдзесят гадоў лейтэнант Прохараў, сяржант і радыст абараняюць ад немцаў высотку, чакаюць падмогі. З меланхалічнай настойлівасцю спрабуе звязацца радыст з камандаваннем: «Днепр! Днепр! Я — Дзвіна! Днепр! Днепр! Я — Дзвіна!». У псіхалагічным плане гэта ўспрымаецца як безнадзейная спроба наладзіць мост духоўнай камунікацыі паміж маладым пакаленнем тых і нашых часоў. «Днепр! Днепр! Я — Дзвіна!». Не можа магутны Славуціч прыйсці на дапамогу Дзвіне — да розных марскіх басейнаў адносяцца яны. Зрэшты, не могуць сённяшнія Павел і Марына зразумець равеснікаў з далёкіх ваенных гадоў. Не таму, што яны належалі да розных маральных, ментальна-ідэалагічных «басейнаў». Прычына ў іншым: істотна змяніўся сацыяльна-палітычны клімат у краіне, калі пад уплывам глабалізацыі адбылася дэфармацыя аксіялагічных крытэрыяў, пераарыентацыя экзістэнцыяльных крытэрыяў. Вось і атрымліваецца, што ў іх поглядзе на насельнікаў бліндажа побач з цалкам натуральным захапленнем суседнічаюць ці то шкадаванне, ці то сумненне ў адпаведнасці, сувымернасці такой ахвяры з рэаліямі будучыні. Так, гэтыя чыстыя, высакародныя юнакі аддалі свае жыцці ў імя свабоды Радзімы, дзеля дабра і справядлівасці. Дажыць бы ім да нашых дзён — і многае ў сучасным побыце іх збянтэжыла б і расчаравала. У калядныя маразы немаўлятка пакінулі на вуліцы… Ветэрана вайны катавалі падонкі з-за адсутнасці грошай… Таленавітая моладзь з'язджае за мяжу… Выкрыта банда, якая складалася з супрацоўнікаў міліцыі, і г. д. Можна, вядома, даводзіць, што ў параўнанні з фашызмам гэтае зло — дробязнае. Але можна зразумець і ветэрана-палкоўніка, які адмовіўся ад падобнай «каліброўкі» зла. Прыведзены спагадлівай Марынай да бліндажа, каля якога вайна яшчэ не закончылася, ён, замест чаканага дазволу на дэмабілізацыю, аддае безапеляцыйны загад: «Стаяць!».

Не цяжка здагадацца, што такі загад шакіраваў Марыну. Не, яна не адносілася да той моладзі, якая лічыла, што лепш было б прайграць Вялікую Айчынную вайну — сёння беларусы жылі б нашмат заможней, папівалі б баварскае піва. Разам з тым яна дастаткова прагматычная, таму з пэўным скепсісам успрымае праявы безагляднага альтруізму, патрыятызму, самаахвярнасці і самаадрачэння. Наўрад ці яна і на яе падобныя разумелі глыбінную абумоўленасць сакраментальнага пытання былых франтавікоў: «За што ваявалі?!». Менавіта гэта абумоўленасць, а не душэўная жорсткасць палкоўніка прадыктавала загад «Стаяць!».

Тое самае можна сказаць і пра апошняе жыццёвае рашэнне 82-гадовага Сяргея Васільевіча, галоўнага героя трагікамедыі В. Паніна «Я так і зрабіў» (2004). Яму, гераічнаму воіну Вялікай Айчыннай вайны, выдатнаму працаўніку на мірнай ніве, было што ўспомніць. І ўсё часцей і часцей у гэтыя ўспаміны (жыццёвыя нягоды апошняга часу таму прычынай) пачаў прыходзіць аднапалчанін і сябра Сцяпан, які загінуў у далёкім 1944 годзе. Прыходзіў не проста так, а з прапановай вярнуцца ў маладосць. Сяргей Васільевіч так і зрабіў. Вярнуўся, каб разам з франтавым пабрацімам загінуць пры вызваленні горада Мінска.

Адной з істотных асаблівасцей адлюстравання ваеннай тэматыкі з'яўляецца тое, што ў многіх творах падзеі ваеннага часу, як такія, адсутнічаюць, рэалізуючыся ў дзеі на ўзроўні рэмінесцэнцый памяці. Любяць таксама драматургі карыстацца «спарышовай» структурай арганізацыі дзеі: пачатак яе адносіцца да ваеннага часу, а завяршэнне — да сённяшняга; паміж імі перакідваюцца лагічныя масткі (нярэдка, дарэчы будзе сказаць, вельмі хісткія). «Такая доўгая навальніца» (2003) С. Бартохавай можа лічыцца тыповым узорам падобных твораў. У ім першае знаёмства з персанажамі (а гэта семнаццацігадовы Саша з Гомеля, дзевятнаццацігадовыя Таня з Мінска і Курт з Лейпцыга, якіх навальніца загнала ў напаўразбураны дом невялікага беларускага гарадка) адносіцца да трагічных дзён 1943 года. І толькі праз пяцьдзесят пяць гадоў пісьменніца зноў збірае сваіх герояў, каб падвесці пэўныя вынікі іх жыццёвых лёсаў. А яны аказаліся вельмі рознымі. Таня засталася адзінокай, працавала бібліятэкарам, дажывае жыццё ў беднасці. Не пашанцавала і Сашу. Працаваў інжынерам, абодва яго сыны ваявалі ў Афганістане, адзін загінуў там, а другі, вярнуўшыся наркаманам, павесіўся. Таму і апусціўся Саша, таму і папівае. Затое ў Курта поўны ажур. Паспяховы архітэктар, ён адбудоўваў родны Лейпцыг. І сын у яго заможны. Менавіта на сынавым грузавіку з гуманітарнай дапамогай прыязджае Курт у Мінск, каб праз столькі гадоў наладзіць пры дапамозе мясцовага тэлебачання сустрэчу, якая не прынесла нікому з іх асаблівай радасці. Праўда, у абсягах аўтарскай задумы ёй надавалася вялікае значэнне, бо павінна была сэнсава раскрыць змест эпіграфа да п'есы «Нет срока давности у боли». Павінна была, але не раскрыла. Больш таго, у фінальных сцэнах твора боль ваеннага часу неяк затушаваўся, калі не адышоў на задні план. Затое на поўны голас загучала тэма гістарычнай несправядлівасці, у выніку якой з'явіўся алагічны дыспарытэт жыццёвага ўзроўню пераможцаў і пераможаных у Вялікай Айчыннай вайне.

Дарэчы, гэтая тэма ў некаторых п'есах набыла проста-такі мазахісцкі кшталт; і цяжка бывае паверыць, што іх аўтары выхоўваліся на патрыятычных традыцыях ранейшай айчыннай літаратуры.

А яны, гэтыя традыцыі, пастаянна даказваюць сваю трывучасць і плённасць: найбольшага поспеху дасягалі менавіта тыя п'есы, якія былі створаны ў іх выяўленчых рэчышчах — «Ты помніш, Алёша» А. Дударава, «Калодзеж» А. Дзялендзіка і інш. Драма А. Дударава прысвечана падзеям гераічнай абароны Магілёва летам 1941 года. Вялікі вопыт супрацоўніцтва з тэатрам падказаў драматургу, што пры паказе праяў гераізму не трэба скупіцца на высокія словы. Гэта з аднаго боку. А з другога, ніколі не варта забываць, што подзвіг здзяйснялі жывыя, зямныя людзі, плоцева і псіхічна арыентаваныя прыродай на мірнае, а не батальнае існаванне.

Глыбокі пласт падзейна-фактычнага і маральна-этычнага матэрыялу ўзняў А. Дзялендзік у драме «Калодзеж». Узнаўляючы гістарычную праўду аб партызанскім руху на Беларусі, драматург перш за ўсё давяраецца ўласнай памяці — памяці юнага ардынарца легендарнага арганізатара антыфашысцкага супраціўлення на акупаванай Беларусі В. І. Казлова. І каму, як не яму, аспрэчваць паклёпніцкія выпады супраць партызан, паказваць і даказваць, што яны — у пераважнай сваёй большасці — былі сапраўднымі героямі, людзьмі чыстых і высакародных памкненняў. Пафаснасць п'есы «Калодзеж» стрымана-годная, ніякай крыклівасці, ні ценю напышлівасці. Тое самае можна сказаць і пра гераіку: яна паўстае ў някідкім вобліку суровых партызанскіх будняў, самаахвярная веліч подзвігу лясных

салдат выяўляецца праз канкрэтны ўчынак. Менавіта гэта дапамагло драматургу пры абмалёўцы вобразаў персанажаў быць асабліва дакладным, пераканаўчым. Непаўторным, індывідуалізавана-выразным абліччам надзелены ў п'есе камбрыг Савіч, начальнік штаба Белы, разведчык Сашка, дзед Герасім, падрыўнік Тумілові, радыстка Ніна і інш. Але прынцыповай мастацкай удачай з'яўляецца вобраз дванаццацігадовага партызана Антона. Фашысты загубілі ўсю яго сям'ю. Хлапчука таксама, як у пашчу смерці, кінулі ў калодзеж, адкуль ён цудам выратаваўся. Такія выпрабаванні зруйнавалі псіхіку дзіцяці. Кожную ноч ён зноў і зноў у кашмарным сне перажываў нядаўнія жахі. Цалкам зразумелая прага помсты набыла ў яго душы хваравіта-пасіянарны характар, што і падштурхоўвала Антона на безразважныя ўчынкі, якія таілі ў сабе смяротную небяспеку для сяброў-партызан. Так што ў рэаліях ваеннага ліхалецця выжыць, а тым больш вярнуцца да нармальнага псіхічнага стану магчымасцей практычна не было. І калі ў хлапчука з'явіліся ўсё ж пэўныя шанцы, дык толькі таму, што апекаваўся па-сапраўднаму спагадлівымі людзьмі. І яшчэ. Быў у Антона надзвычайны талент мастака, які даваў надзею, што ён здолее знайсці душэўную раўнавагу пры дапамозе творчасці.

У нашы задачы не ўваходзілі футуралагічныя прагнозы. А між тым без асаблівай боязі памыліцца можна сцвярджаць, што пакуль на свеце будзе заставацца хоць адзін беларус, цікавасць да подзвігу нашага народа ў Вялікай Айчыннай вайне не страціцца. І адпаведна: пакуль на свеце будзе заставацца хоць адзін беларускі пісьменнік, ваенная тэматыка не страціць сваёй актуальнасці, запатрабаванасці. Ракурсы асвятлення яе, падыходы да асэнсавання подзвігу народа будуць перманентна мяняцца, але нязменнай застанецца ўдзячная памяць нашчадкаў аб тых, хто абараніў Айчыну ад карычневай чумы.



## Васіль ЖУРАЎЛЁЎ

# ЭСКІЗЫ І ВОБРАЗЫ ЧАСУ

Пачаць хацелася б з разважанняў вядомага англійскага пісьменніка С. Маэма пра ўзаемаадносіны чалавека з часам, з тым часам, у якім ён жыве, і часам, у прамежку якога чалавек знаходзіцца — мінулым і будучыняй. Пісьменнік лічыць незайздросным і нават смешным лёс таго чалавека, які фізічна трапляе ў іншы, новы ці ў чымсьці абноўлены час, а духоўна завязнуў у ранейшым. «Здараецца, што чалавек зажыўся, і з часу, у якім яму належала асаблівае месца, трапіў у чужы час — тады гэта адна з самых забаўных сцэн чалавечай камедыі». Не менш камічнымі ўспрымаюцца, на яго погляд, і людзі, якія нагадваюць «бойких факельщиков», што гучна і зневажальна імкнуцца выцесніць папярэдняе, нічога не ўзяўшы з яго набыткаў і дасягненняў.

Было б, канечне, паспешлівым ды і несправядлівым ставіць безыменнага персанажа апавядання Івана Стадольніка «Было і такое» (Полымя, 2005, № 11) у негатыўны ацэначны рад толькі таму, што ён псіхалагічна цалкам застаўся ў ранейшым, ваенным часе, хоць шмат гадоў пражыў у новым. Падчас вайны гэты чалавек быў, можна сказаць, на пярэднім плане тагачаснай суровай рэчаіснасці: партызаніў, узначальваў групу мінёраў-падрыўнікоў і неаднойчы глядзеў у вочы смерці. Усё гэта даволі важкія і сур'ёзныя пазітыўныя характарыстычныя аргументы, як і сама разгорнутая мастацкая дэталь: ордэнскія планкі «на цёмна-шэрым пінжаку» гэтага, ужо старога, ссівелага і згорбленага чалавека. Разам з тым многае ў яго словах і ацэнках насцярожвае і нават палохае безапеляцыйнай катэгарычнасцю вывадаў і меркаванняў, якія ён зусім не супроць быў бы рэалізаваць у канкрэтных дзеяннях.

Яму, напрыклад, здаецца, што ў тым, ужо далёкім ваенным часе, жыхары вёскі Янкі рабілі нешта рэзка супрацьлеглае суровым законам і патрабаванням вайны, калі іншы раз, каб «уратаваць вёску» і яе людзей ад немінучай гібелі, паказвалі немцам пастаўленыя партызанамі-падрыўнікамі на дарозе да вёскі міны.

Ён добра памятае пра загад нямецкага каменданта, паводле якога кожная вёска адразу ж падпадала пад вызначэнне «бандыцкай» і падлягала неадкладнаму знішчэнню «разам з людзьмі», калі паблізу яе на міне падарвецца хоць адна машына ці будзе забіты хоць адзін салдат. Прыгадвае гэты чалавек і нейкую канкрэтную вёску Шунёўку, спаленую, як ён гаворыць, «з-за нашай міны». Нягледзячы на ўсе гэтыя цяжкія трагедыйныя факты, якія занатавала яго памяць і якія, здавалася б, на саліднай дыстанцыі часу павінны былі б ускалыхнуць яго душу і вывесці з-пад уціску аднамернага погляду на вельмі складаную жыццёвую праблему, ён поўнасцю застаецца ў ранейшым часе. А гэты час, як мы цяпер ведаем, нярэдка залішне рэзка і жорстка падзяляў людзей на ворагаў і сяброў, на сваіх і чужых. Ды і як інакш расцэньваць хоць бы такія яго, злосна прамоўленыя словы ў размове з жыхаром той жа вёскі Янкі, што ў ваенныя гады спрабавала выжыць і ўратавацца, часта спадзеючыся на ўласныя сілы: «Усе вашы янкоўцы — здраднікі! Я потым дачуўся, што яны паказалі немцам, дзе мы ставім міны. Шкада, што позна дачуўся. А то б іх усіх перакасіў з аўтамата. І праклятыя Янкі спаліў бы датла».

Гэта кароткае апавяданне з'яўляецца ўсяго толькі своеасаблівым эскізам, пункцірным накідам складанай і мнагапланавай маральна-этычнай і сацыяльна-псіхалагічнай праблемы. Аўтар, відаць, і не ставіў тут мэту псіхалагічна разгарнуць галоўную сюжэтную лінію твора. Такія складаныя праблемы патрабуюць усё ж шырэйшай і больш свабоднай эпічнай жанравай прасторы. Аднак пытанне тут аўтару ўдалося паставіць. І пытанне няпростае: ці мае чалавек права пры ўсіх яго немалых заслугах перад сваім часам браць на сябе нейкую абсалютызаваную функцыю прававернага суддзі і пракурора ў іншым часе?

Падобныя пытанні востра паўстаюць сёння ў нашай літаратуры невыпадкова: многія з іх прадыктаваны і актуалізаваны самім працэсам грамадскага жыцця, якое шмат у чым знаходзіцца ўсё яшчэ на пераходнай стадыі свайго развіцця. У такія перыяды альтэрнатыўнасць і паліфанізм думак нярэдка набываюць завострана палемічны характар нязгоды, якая ў шэрагу выпадкаў тэндэнцыйна абыходзіць і выключае магчымасць кампрамісаў і ўзаемаўзгодненых падыходаў да вырашэння тых або іншых складаных пытанняў. І гэта, вядома, не на карысць ні грамадству, ні асобнаму чалавеку.

Па-свойму цікава і арыгінальна ўвасабляе ў сабе такую ідэю рамантычная драма «Бліндаж» вядомай рускамоўнай пісьменніцы А. Паповай, якая, відаць, не без уплыву шэкспіраўскага «Гамлета» пабуджае нашага сучасніка глыбей задумацца над тым, наколькі *гэта* сур'ёзная і балючая драма ў жыцці народа, калі на крутых паваротах яго гісторыі дзесьці рвуцца, парушаюцца ці паслабляюцца важныя звенні часавай сувязі. У творы сутыкаюцца два погляды, дзве маральна-этычныя і светапоглядныя канцэпцыі — людзей вайны, ваеннага пакалення і маладых людзей — нашых сучаснікаў.

Сімпатыі аўтара, як можна меркаваць, больш адкрыта скіраваны ўбок першых, што, нягледзячы на пэўныя праявы кансерватызму ў сваіх меркаваннях пра бягучы час нашай рэальнасці, з'яўляюцца натурамі цэльнымі, і самае галоўнае — не схільнымі лёгка паддавацца на прыцягальную сілу прагматызму і лёгка расставацца з духоўным набыткам ранейшага часу. На думку аднаго з персанажаў гэтай групы людзей, у агульнай скарбонцы вялікага гістарычнага часу мінулае, сучаснае і будучае не знікаюць бясследна і суіснуюць «*уперамешку* і ўсё тут захоўваецца, як грошы ў банку».

А вось маладая гераіня драмы «Бліндаж», спартсменка Марына, успрымае і трактуе *навізну* часу зусім па-іншаму, замыкаючы свой галоўны жыццёвы інтарэс у жорсткія межы прагматызму. Паслухаем яе самую, калі яна характарызуе сябе намнога мудрэйшай і разумнейшай за сваіх папярэднікаў, што быццам бы безна-

дзейна «завязлі» ў старым часе: «Вы тут завязлі, а нам якая справа? У нас ужо ўсё другое… Мы ўсё іншае любім! Мы музыку другую любім! Усё іншае! Мы — іншыя, мы — сябе любім, мы для сябе жывем! Для сябе! Мы хочам добра жыць… І на ўсіх астатніх нам напляваць! На ўсе вашы Іспаніі, на ўсе вашы Гернікі!»

Пісьменнік тут яўна завастрае і дзесьці гіпербалізуе саму з'яву нязгоды і палемічнасці паміж пакаленнямі, паміж старым і новым часам. Аднак гэты літаратурны прыём у дадзеным выпадку сябе апраўдвае. Аўтар, вядома, не мае нічога супраць жаданняў і імкненняў тых маладых людзей, якія імкнуцца жыць добра, прыгожа, са смакам. Мы прайшлі ўжо той сумны і малапрадуктыўны этап нашай гісторыі, калі сацыяльны статус бедняка нярэдка лічыўся асноўным і нават важнейшым крытэрыем у вызначэнні пазітыўнай характарыстыкі чалавека. Аднак ці магчыма трапіць у гэты новы і светлы час, маючы адно толькі палкае жаданне ўвайсці ў яго, не прыклаўшы напружаных намаганняў у яго пабудове і выяўляючы негатыўнае стаўленне да яго духоўна-інтэлектуальных асноў? Такое пытанне вынікае з падтэксту твора, а іншы раз яно набывае і адкрытую публіцыстычную форму і адрасуецца не толькі чытачам і гледачам, але і некаторым калегам-пісьменнікам, якія, безумоўна, не могуць не разумець, што, спрошчваючы дыялог з мінулым, у шмат разоў ускладняецца пошук аптымальных шляхоў і выхадаў на сённяшні і заўтрашні дзень. Усё гэта быццам бы агульнавядомыя, прапісныя ісціны. Разам з тым «гульня ў паддаўкі» з мінулым працягваецца і цяпер. Прытым часта з такімі яго складнікамі, якія грунтоўна выверaны на трываласць і жывучасць багатым і працяглым гістарычным вопытам.

Нам, напрыклад, здавалася, што існаванне рэалізму як эстэтычнай, метадалагічнай і мастацка-вобразнай катэгорыі ў гісторыі сусветнай і нацыянальнай літаратуры і мастацтва з'яўляецца бясспрэчнай ісцінай і ніякага сумнення не выклікае. Тут нібыта нават і няёмка спасылацца на разнастайныя выказванні аб ролі і значэнні рэалізму такіх аўтарытэтаў, як А. Бальзак, І. Рэпін, Л. Талстой, М. Шолахаў, А. Пушкін, Якуб Колас, Кузьма Чорны, І. Мележ і інш. А вось А. Глобус лічыць, што ніякага рэалізму наогул ніколі ні ў мастацтве, ні ў літаратуры не было. Такую думку выказвае ён, напрыклад, у мініяцюры «Рэальнасць», што ўваходзіць у цыкл такіх жа лаканічных твораў-замалёвак пад назвай «Рэч. Словы пра падарожжы па краінах і вяртанні з абновамі» (Маладосць, 2006, № 1). «Рэалізм? — ставіць ён пытанне і адказвае. — Не! Няма і ніколі не было ніякага рэалізму ў літаратуры і мастацтве. Была змястоўная форма, была мастацкая рэальнасць. Каб існаваў рэалізм, дык не было б ніводнага іншага стылю. А яны ёсць. Готыка рэальная і рамантызм такі ж рэальны, як і класіцызм. Развагі пра рэалізм — квецень пустаслоўя, а я люблю плады сакавітыя і смачныя, як маё цяперашняе жыццё».

Хоць аўтар, як можна заўважыць, ніякіх пярэчанняў тут не дапускае, аднак дазволім сабе ўсё ж не пагадзіцца з той яго нейкай дзіўнай, саманадзейнай і малазразумелай думкай, што, «каб існаваў рэалізм, дык не было б ніводнага іншага стылю. А яны ёсць». Як быццам бы рэалістычная коласаўская «Новая зямля» перашкаджала напісанню і з'яўленню ў свет рамантычнай паэмы «Сымон-музыка» ці сімваліка-алегічных «Казак жыцця»?! І такіх прыкладаў можна прывесці мноства.

Ды і сам Глобус, дарэчы, у тым жа названым цыкле празаічных мініяцюр, рашуча адмаўляючы існаванне рэалізму як мастацкай сістэмы ў мінулым і на сучасным этапе, настройвае сябе на даволі рэалістычны і нават прагматычны лад мыслення, каб, як ён заўважае, «не патрапіць у пастку ілюзіяў». Гэта прызнанне неабходнасці цвярозага, аб'ектыўнага ацэначнага позірку на існуючую канкрэтыку жыцця з'яўляецца своеасаблівай адзнакай прызнання правамернасці і неабходнасці існавання рэалістычнай метадалогіі, скіраванай на паказ чалавечых характараў і сацыяльна-псіхалагічнай атмасферы часу.

Зразумела, я зусім не схільны пагаджацца з тымі добра вядомымі аднамерна-тэарытычнымі формуламі рэалізму, паводле якіх вышэйшы ўзровень праўдзівасці і мастацкасці выяўляў сябе адлюстраваннем жыцця ў формах самога жыцця або ў расфарбаваных у ружовыя колеры формах ілюзорна-утапічнага ідэалу, як гэта

нярэдка наглядалася ў некаторых творах сацыялістычнага рэалізму. Але, на мой погляд, крытычная рэакцыя на нейкія застылыя ці кансерватыўныя з'явы сама можа ператварыцца ў кансерватыўны тормаз, калі, нешта адмаўляючы і не прымаючы, пачынае абсалютызаваць і генералізаваць сваё значэнне і ролю. Крайнасці сыходзяцца. Крытыкуючы і адмаўляючы схематызацыю і ідэалізацыю сацыялістычнага рэалізму, некаторыя крытыкі, літаратуразнаўцы ды і самі пісьменнікі несправядліва закрэсліваюць рэалізм як мастацкую сістэму, празмерна высока ўзнімаючы між тым літаратурную парадыгму міфалагізму, сімвалізму, ну і, вядома ж, постмадэрнізму. А людзям па-ранейшаму хочацца ведаць, кім яны былі ўчора, хто яны сёння і ў які заўтрашні дзень скіраваны вектар іх асабістага лёсу і грамадскага жыцця краіны.

А наогул, кожны нармальны чалавек, а значыць, і чытач, колькі б не захаплялі яго арыгінальныя вынаходніцтвы ў галіне тэхнікі пісьма, формы і «гульня» мастацкіх прыёмаў у літаратуры, відаць, не можа, кіруючыся проста логікай здаровага сэнсу, быць індыферэнтным, безуважным да рэальнага стану рэчаў акаляючай рэальнасці і ўспрымання «свету такім, які ёсць у сапраўднасці». Гэтыя, узятыя ў двукоссе словы, выказаў вядомы вучоны-сацыёлаг, член-карэспандэнт НАН Беларусі А. М. Данілаў у адным са сваіх артыкулаў, прысвечаным гуманітарным аспектам сучаснага навуковага пазнання. На яго погляд, вучоным-гуманітарыям «належыць сёння болей абапірацца на дадзеныя, заснаваныя на рэальным назіранні свету, і меней — на утопіі». Пагодзімся, што генералізацыя утопій і, прынамсі, утопій, скіраваных не на развейванне жыццёвага туману, а на яго згушчэнне, не можа быць прызнана перспектыўнай лініяй і ў літаратуры. Суровай прозе рэалізму тут, безумоўна, ёсць яшчэ дзе разгарнуць сваю эстэтычную, стылёва-жанравую і адлюстравальна-пазнавальную энергію.

Мастацкая літаратура ў многім рухаецца і развіваецца па сваіх, уласцівых ёй, іманентных законах. Хоць літаратурная тэорыя пэўным чынам і ўплывае на яе развіццё і фармаванне, апошняе слова ў выбары кірунку мастацкай думкі і галоўнага аб'екта адлюстравання застаецца за пісьменнікам. Назапашаны ў гэтай сферы і вялікі вопыт. Высокі ўзровень мастацкасці літаратурнага твора шмат у чым вызначала, апрача ўсяго, тая *састаўная* пісьменніцкага таленту, якая чуйна настройвалася на балючыя праблемы часу і тонкія струны чалавечай душы. Адсутнасць гэтай асаблівасці ў светапоглядным свеце пісьменніка і характары яго таленту немагчыма кампенсаваць ніякімі, самымі віртуознымі мастацкімі прыёмамі. Праўда, некаторыя сучасныя пісьменнікі такую магчымасць за сабой быццам бы пакідаюць, калі пішуць наступнае: «...Галоту і басоту ненавіджу!!! Грэбую меркаваннем жабракоў і паджабрачнікаў. Грошы — вымярэнне таленавітасці і разумнасці. Яшчэ я не веру заможным і звышзаможным людзям, калі яны публічна заяўляюць пра свае спачуванні да галадранцаў...»

Мы зноў працытавалі А. Глобуса, спаслаўшыся на яго мініяцюру «Багатыя і бедныя», надрукаваную ў першым нумары часопіса «Маладосць» за бягучы год. Ну які тут можа быць каментарый? Абмяжуемся самым кароткім рэзюме: становіцца вельмі сумна, што гэтыя словы, выказаныя з нейкім саманадзейным гонарам, мы чуем з вуснаў пісьменніка, які самой прыродай сваёй прафесіі закліканы быць гуманістычным суразмоўцам з чалавекам, быць яго заступнікам і абаронцам, у тым ліку і з чалавекам, які мог па розных, часта і мала залежных ад яго прычынах трапіць у бядотнае становішча і нават апынуцца на дне жыцця. Тут нам зусім не пашкодзіць прыгадаць Пушкіна:

И долго буду тем любезен я народу,
Что чувства добрые я лирой пробуждал.
Что в мой жестокий век восславил я свободу
И милость к падшим призывал.

Нешта падобнае мы без цяжкасці можам знайсці ў Купалы, Коласа, Багдановіча, Бядулі і інш.

Як там пойдзе развіццё літаратурнага працэсу ў далейшым, дакладна прадказаць цяжка. Хацелася б верыць, што з таго мнагастайнага і не беднага «зорнага рэчыва» (словы А. Лойкі) сучаснай літаратурнай мазаікі з цягам часу выкрышталізуецца сталая, глыбокая і разгалінаваная стылёва-жанравая эстэтычная тэндэнцыя, якую будуць прадстаўляць яркія пісьменніцкія постаці. А яны заўжды з'яўляліся і галоўнымі выразнікамі свайго часу. А пакуль што цяжар гэтай адказнасці ў многім усё яшчэ нясе прыкметна парадзелае, на жаль, пакаленне пісьменнікаў славутай генерацыі «шасцідзесятнікаў». Выразна чуцён іх мастацкі голас, нязмена арыентаваны на сувязь з плённай сусветнай і нацыянальнай традыцыяй і ў жанры апавядання. Такія іх творы малой жанравай формы, як «Тры пуды жыта», «Асколак ад зоркі» І. Пташнікава, «Познія яблыкі», «Зязюля пракукуе заўтра» А. Кудраўца, «Супоня», «Чаравікі для Бауэра», «Электрашокер» В. Зуёнка і іншыя, з'яўляюцца высокамастацкім узорам чалавеказнаўства і жыццязнаўства, вызначаюцца гуманістычнай увагай да паказу і раскрыцця клопатных будняў звычайнага, шараговага чалавека, якому вонкавыя абставіны нярэдка больш супрацьдзейнічаюць і перашкаджаюць, чым дапамагаюць і спрыяюць.

Большасць гэтых і іншых твораў, напісаных у апошнія гады, пераважна звернута асноўнымі, сюжэтна-тэматычнымі лініямі ў ваеннае мінулае. Аднак гучаць яны па-сучаснаму надзённа і актуальна, бо мінулае і сучаснае, хоць нярэдка і знаходзяцца тут у надзвычай складаных канфліктна-палемічных узаемаадносінах, псіхалагічных сувязей паміж сабой не парываюць і адно другое ўзаемападсвечваюць. Толькі ў такім выпадку захавання нейкіх істотна важных псіхалагічных момантаў сувязі адзін нейкі гістарычны час і можа зразумець іншы. Для сучаснага пісьменніка, відаць, небескарысна будзе прыслухацца да слоў вядомага фізіка і матэматыка Н. Вінера: «Мы можам уваходзіць у зносіны толькі з сусветамі, якія маюць такі ж накірунак часу».

Гэтыя словы, сказаныя ў адносінах да высвятлення глыбінных законаў фізікі, у многім стасуюцца і з літаратурнымі законамі. Для сучаснага пісьменніка надзвычай важна ў мінулым знайсці нешта такое, што не раз'ядноўвае нас, а настройвае на дыялог з намі і нашым часам. І тады, напэўна, мы будзем больш цярплівымі, уважлівымі і ўзважана-аналітычнымі ў сваіх падыходах і ацэнках да ўсяго таго, што адыходзіць у мінулае і становіцца гісторыяй.



**Любоў ГАРЭЛІК**

# ВЫЯВЫ ІНТЭРТЭКСТУАЛЬНАСЦІ Ў ТВОРАХ МАЛАДЫХ ПАЭТАЎ

Інтэртэкстуальнасць — тэрмін уведзены ўпершыню ў 1967 годзе тэарэтыкам постструктуралізму Ю. Крысцевай на аснове пераасэнсавання навуковатэарэтычнай працы М. Бахціна «Праблема зместу, матэрыялу і формы слоўнай мастацкай творчасці», датаванай 1924 годам. Яна звярнула ўвагу на дыялагічную зарыентаванасць даследчыка, які падкрэсліваў, што пры напісанні мастацкага твора пісьменніку пастаянна даводзіцца пераадольваць супраціўленне матэрыялу, уступаць у барацьбу з існуючымі літаратурнымі формамі, весці дыялог з папярэднімі набыткамі. Ідэя дыялога ў інтэрпрэтацыі Ю. Крысцевай напачатку мела чыста фармалістычны характар і была абмежавана толькі літаратурнымі тэкстамі — інтэртэкстуальнасцю толькі ў галіне літаратуры. Паступова канцэпцыя інтэртэкстуальнасці пад уплывам тэарэтыкаў структуралізму і постструктуралізму (найперш філосафаў і літаратуразнаўцаў А.-Ж. Грэймаса, Р. Барта, Ж. Лакана,

М. Фуко і інш.) набывае універсальны характар, атрымлівае прызнанне філосафаў і літаратуразнаўцаў рознай арыентацыі. Літаратура, культура, грамадства, сам чалавек і яго свядомасць атаясамліваюцца з пісьмовым тэкстам, разглядаюцца як аб'ект, прыдатны для прачытвання, як адзіны «інтэртэкст», што, у сваю чаргу, з'яўляецца прадтэкстам кожнага новага тэксту.

Інтэртэкстуальнасць дапамагае «дэканструяваць» супрацьлегласць паміж крытычнай і мастацкай творчасцю, супрацьпастаўленне суб'екта аб'екту, свайго чужому, пісьма чытанню і г. д. Агульным пастулатам з'яўляецца выснова, што ўсялякі тэкст — своеасаблівая рэакцыя на тэксты папярэднія.

«Усялякі тэкст ёсць між-тэкст у адносінах да нейкага іншага тэксту, — зазначае Р. Барт у артыкуле «Ад твора да тэксту», — але гэту інтэртэкстуальнасць нельга разумець так, што ў тэкста ёсць нейкае паходжанне; усялякія пошукі «крыніц» і «ўплываў» адпавядаюць міфу аб філіяцыі твораў, тэкст жа ўтвараецца з ананімных, няўлоўных і разам з тым ужо чытаных (...) цытат — з цытат без двукосся».

Некаторыя літаратуразнаўцы (Ш. Грывель) зводзяць праблему тэкста да інтэртэкстуальнасці, іншыя ж (М. Бахцін, французскі даследчык Ж. Жэнет) выяўляюць зацікаўленасць да ўзаемадзеяння «свайго» і «чужога». У кнізе апошняга «Палімпсесты: Літаратура ў другой ступені» (1982) дадзена наступная класіфікацыя розных тыпаў тэкставага ўзаемадзеяння:

1. Інтэртэкстуальнасць як «ужыванне» ў адным тэксце двух і больш тэкстаў (цытата, алюзія, плагіят і інш.).

2. Паратэкстуальнасць як адносіны тэксту да сваёй назвы, пасляслоўя, эпіграфа і г. д.

3. Метатэкстуальнасць як каментуючая і нярэдка крытычная спасылка на свой прадтэкст.

4. Гіпертэкстуальнасць як высмейванне і парадыраванне аднаго тэксту другім.

5. Архітэкстуальнасць як жанравая сувязь тэкстаў. Затым асноўныя класы падзелены на падкласы і тыпы.

На практыцы абмяжуемся толькі некаторымі прыкладамі з найбольш экспліцытнымі выявамі інтэртэкстуальнасці. Аб'ектам даследавання абраны пераважна першыя кнігі маладых паэтаў, выдадзеныя ў 1990-я гады і на пачатку новага, XXI стагоддзя: Т. Барысюк «Аўтапартрэт» (2002), Г. Булыка «Турмалін» (1994), В. Жуковіч «У храме хараства і смутку» (2003), В. Кустава «Каб неба сагрэць...» (2005), Т. Мушынская «Рабро Адама» (1999), І. Пракаповіч «Шляхі наканаванага бязмежжа» (1999), Л. Раманава «Аддай асалоду Богу» (1997), А. Спрынчан «Вершы ад А.» (2004), В. Трэнас «Цуд канфіскаванага дзяцінства» (2005), А. Хадановіч «Старыя вершы» (2003) і «Лісты з-пад коўдры» (2004), Г. Ціханава «Фільтры сноў» (2003). Выключэннем з'яўляецца хіба што кніга В. Жуковіча (далёка не першая і аўтар не такі ўжо малады).

Відавочна, што нават назвы некаторых кніг даволі інтэртэкстуальныя («Рабро Адама», «Каб неба сагрэць...», «Фільтры сноў»).

Паэзія канца XX — пачатку XXI стагоддзяў сведчыць пра эстэтычныя пошукі, якія вядуцца на скрыжаваннях традыцыйнага і наватарскага, рэалістычнага і постмадэрнісцкага дыскурсаў у рамках міждысцыплінарнага ўздзеяння «свайго» і «чужога» слова. Так, паэзія і музыка хораша «ўжываюцца» ў вершах музыказнаўцы Т. Мушынскай («Нацягнуты струны душы, // Як струны Эолавай арфы»), а жывапіс і іншыя культуралагічныя сентэнцыі ў многім вызначаюць паэтычнае майстэрства паэткі-мастачкі Г. Ціханавай («Я чытаю Басё — // Каб пісаць Афрадыту»). «Сваё» і «чужое», ява і мара сплятаюцца ў «Фільтрах сноў», ператвараючыся ў гульню са словам:

Гесэ згуляў у бісер,
Пікасо згуляў у кубікі,
Бах у іголкатэрапію для вуха.
Караткевіч згуляў у зярняты,
Шагал згуляў у сон,
Маціс — у карункавыя ўзоры.
Багдановіч згуляў у вянок,
Калумб згуляў у мапу.
Селяшчук у вады далягляды ...
...У што згуляю я?

Абыгрываюцца назвы твораў, з дапамогай алюзіі прыгадваецца нешта істотнае ў творчасці пісьменнікаў, паэтаў, мастакоў, музыкаў, першаадкрывальнікаў новых земляў.

Можна прымаць або не прымаць гэтую «гульню», можна крытыкаваць за празмернасць і недакладнасць, але гэта той выпадак, які дазваляе прыгадаць раман Т. Мана «Доктар Фаустус», герой якога музыка Адрыян Леверкюн сцвярджаў, што ігру можна ўзняць на вышэйшую ступень, гуляючы з формамі, пазбаўленымі жыцця.

Адпаведна прыгадваецца і аналагічная сітуацыя ў рамане Германа Гесэ «Гульня ў бісер», з алюзіі якога пачынаецца прыведзены верш.

Канцэпцыя шматмернасці часу Джона Уільяма Дана, якая мае непасрэднае дачыненне да інтэртэкстуальнасці, знаходзіць мастацкае ўвасабленне ў творах многіх паэтаў як традыцыйнай, так і нетрадыцыйнай арыентацыі. Вернемся яшчэ раз да твораў Т. Мушынскай. Прыгадаем адзін з яе вершаў — «Калі ў Егіпце старажытным я жыла...»:

Калі ў Егіпце старажытным я жыла,
Дык там была не менш як Клеапатра.
Якія могуць быць з царыцай жарты?
Ў Егіпце старажытным я жыла.
Я — Клеапатра.
Ты — Антоній.

У гэтых радках, як і ў Г. Ціханавай, другое, прасторавае вымярэнне часу, па якім можна перамяшчацца ў стане зменецай свядомасці, ператвараецца ў гарэзлівую гульню, без якой немагчымае спасціжэнне шматмернай, шматслойнай выявы інтэртэкстуальнасці. Згадкі знакавых гістарычных постацяў, абсягі гарызанталі і вертыкалі, змяшчэнне прасторавых і ча́савых пластоў сведчаць пра непасрэдную сувязь з «семантыкай магчымых сусветаў».

Адной з найбольш экспліцытных выяў інтэртэкстуальнасці ў мастацкіх творах бачыцца эпіграф, які можа выконваць розныя функцыі — змястоўныя, фармальныя, стылявыя: можа ўтрымліваць дадатковую інфармацыю, узмацняць драматызм сюжэта і г. д.

Услед за А. Разанавым, які прымусіў «загаварыць» камень, жалеза і гліну, — багаты і разнастайны рэчыўны свет адкрывае на мове паэзіі Г. Булыка. У якасці эпіграфаў да яе твораў дадаюцца цікавыя паведамленні: «У старажытным Егіпце з чорнага каменю гагату рабілі люстэркі». Або «Існуе легенда, паводле якой біруза ўтварылася з костак тых, хто загінуў ад кахання» (вершы «Гагат» і «Біруза»). Рэальнасць і міф пераплецены ў гэтай інфармацыі.

У вышэйназванай кнізе В. Жуковіча рэпрэзентаваны дзве знакавыя постаці беларускага мастацтва і літаратуры — Марыя Захарэвіч (аднайменны верш) і Яўгенія Янішчыц («Сваю ты драму прадчувала», у вянок памяці паэткі). Выява трагізму, у якой перададзены вялікі боль невымернай страты, пачуццё жалобы з прычыны заўчаснай смерці «незабыўнай Жэні», пачынаецца з эпіграфа (радкі А. Блока):

Не подходите к ней с вопросами,
Вам все равно, а ей — довольно:
Любовью, грязью иль колесами
Она раздавлена — всё больно.

Як прыклад, можна прывесці эпіграф (радкі Г. Гейнэ) да першага раздзела кнігі Т. Барысюк «Аўтапартрэт» («Анёлы завуць гэта нябеснай уцехай, чэрці — пякельнай пакутай, людзі — каханнем»). У эпіграфе, нібы ў люстэрку, высвечваецца адэкватны змест медытатыўнай лірыкі: драматызуюцца пакуты кахання. Выяўляецца стан душы лірычнай гераіні, якая прагне ідэалу і не знаходзіць яго.

Эпіграфамі могуць быць урыўкі з біблейскіх тэкстаў, летапісаў, навуковыя сілагізмы, сентэнцыі мастацкіх твораў. У вышэйназваных кнігах можна сустрэць

радкі Кальдэрона, Катула, М. Ламаносава, М. Някрасава, А. Пушкіна, М. Рубцова, В. Фёдарава, С. Ясеніна і інш.

Эпіграф — своеасаблівы пароль, візітная картка, экспазіцыя, з якой пачынаецца знаёмства з мастацкім творам. Гэта тэкст у інтэртэксце.

Асновай для стварэння інтэртэкстуальнасці з'яўляецца фальклор, антычная, паганская і хрысціянская міфалогіі. Паэты, мастакі пастаянна звяртаюцца да гэтых бяздонных крыніц у пошуках мастацка-вобразных інавацый. На дадзеную акалічнасць якраз і звяртае ўвагу Р. Барадулін, аўтар прадмовы да кнігі В. Куставай «Каб неба сагрэць...»:

«Паэтка рупіцца пазнаёміць антычных багоў з паганскімі. Нагадаю, з беларускімі паганскімі багамі». Бог, Хрыстос, Вялес, Злыдухі па-свойску ўваходзяць у яе вершы, і гэта толькі адна спроба спраўдзіць эстэтычны імператыў — «неба сагрэць». Другая ж — звязана з выкарыстаннем у якасці эпіграфа матыва вядомай народнай беларускай песні «Ой, сівы конь бяжыць». Вядомы матыў набывае іранічнае гучанне ў даволі ўдала, з дапамогай дыялагічнага маўлення створанай сітуацыі («Аксюмаран кахання на змярканні —// юначы спеў сівога салаўя...»).

У вершы «Боль» І. Пракаповіча згаданая песня ўплятаецца непасрэдна ў тэкст, навяваючы зусім іншы, мінорны настрой. Аўтар пакутліва шукае адказу на заканамернае пытанне: «Чаму ў беларусаў // народныя песні // такія сумныя?» Адзін з варыянтаў адказу, у якім бачыцца выхад да «семантыкі магчымых сусветаў», можна растлумачыць няспраўджанымі спадзяваннямі: «Белы конь надзеі стаў сівым».

В. Куставу таксама хвалююць грамадзянскія матывы і праблемы сучаснасці. Драматызм пэўных экалагічных і гістарычных стасункаў перадаецца з дапамогай алюзій і рэмінісцэнцый (складнікі інтэртэксту), якія ўзыходзяць да нядаўніх трагічных падзей на Нямізе і старажытнагрэчаскай міфалогіі:

Здзічэла мая туга...
Як Свіслач згубіла вены,
Нібыта Нямігі гены,
Бы Троя, — спакой, — з-за Алены.

Біблейскія, як і антычныя, міфы, вобразы, постаці першалюдзей (Адам, Ева, Ліліт) прысутнічаюць у многіх творах розных паэтаў, якія спрабуюць узважыць суадносіны фантазіі і рэальнасці. Прыкладам — вершы Т. Барысюк («Адаму», «Парады Ліліт»), Г. Булыкі («Ліліт»).

Большасць вершаў у кнізе А. Спрынчан — верлібры. Праўда, ёсць яшчэ «Трыялет кахання», «Бабулін трыялет», «Мінскія хоку». Асноўны матыў — каханне, якое выглядае па-рознаму. У адных выпадках «Ладдзя роспачы» У. Караткевіча (тэкст у тэксце) ператвараецца ў ладдзю шчасця:

Гляджу на цябе
і заплюшчваю вочы
ад сонца
і ўсё адно ведаю —
ты ўсміхаешся.
Пра гэта спяваюць птушкі
на дрэвах, якія заўсёды
сумотна глядзяць у ваду
і толькі зараз шэпчуць:
«Ладдзя... ладдзя... ладдзя...
шчасця... шчасця... шчасця...»

А над намі воблака
З усмешкай Караткевіча.

У другіх жа — самаадчуванне далёка не такое бясхмарнае: «Лёсу майму стала цяжка...», «А за акном // стамлёная дарога». Аднак А. Спрынчан не з тых, хто скардзіцца на свой лёс.

Чароўны свет дзяцінства ўваходзіць у яе творы з матывамі казак «Царэўна-жабка», «Дзюймовачка» («Kvaterra»), з песняй бабулі «На моры жабка лянок ірвала...» *Можа, у народных песнях і казках якраз і варта шукаць паратунку ад* сённяшняга бязладдзя ў Сусвеце?! У назве вершаванай кампазіцыі «Kvaterra» выразна чуецца гукаперайманне спеваў жабінага хору, які на ўсіх мовах гучыць аднолькава, таму і напісанне лацініцай апраўданае. У творах паэткі прысутнічаюць гумар, усмешка, іронія, парадыраванне стылю аб'яў, шыльдаў, вывесак («Помнік архітэктуры...»), паліндром («Тут») і інш.

Казачныя і песенныя матывы, постаць У. Караткевіча, гукаперайманне, паліндром, парадыраванне стылю, верлібрызацыя, хітравата-гарэзлівая ўсмешка — усё гэта істотныя прыкметы інтэртэкстуальнасці ў паэзіі Аксаны Спрынчан.

Думаецца, што найбольш эпатажныя і радыкальна-экзістэнцыйныя вершы ў кнізе «Цуд канфіскаванага дзяцінства» В. Трэнас. Адчужанасць, самота, нагнятанне негатыўных эмоцый і адпаведная экспрэсіўная афарбоўка знакавых лексемаў і словазлучэнняў (чужы, рана, кроў, боль, вар'яцтва, спустошанасць, самотныя твары, чырвоная вада, шэра-плямістыя сны) — усё гэта асацыяцыі з творамі экзістэнцыялістаў — Жан-Поль Сартра, А. Камю. Красамоўнае сведчанне — нават назвы вершаў («Чужынец», «Маё вар'яцтва», «Спустошанасць», «Быццё»). Некаторыя творы вылучаюцца дыялагічным прамаўленнем. Так, у вершы «Ты не кліч мяне, не заві», адштурхоўваючыся ад вядомага лірычнага верша Я. Янішчыц, ідучы ад супрацьлеглага, паэтка з уласцівым ёй палемічным пафасам перадае адчуванне трагізму, тым самым пратэстуючы супраць суіцыдальных настрояў.

Думаецца, што ці не самым інтэртэкстуальным сярод маладых беларускіх паэтаў з'яўляецца Андрэй Хадановіч. Яго інтэлектуалізм, эрудыцыя дазваляюць выкарыстоўваць самыя розныя крыніцы, адкрываюць шырокае поле ўзаемадзеяння «свайго» і «чужога». Як слушна сцвярджае Г. Кісліцына ў кнізе «Новая літаратурная сітуацыя: змена культурнай парадыгмы», у творах А. Хадановіча інтэлектуалізм «наогул перастаў успрымацца як «літаратура для абраных» і выйшаў на эстраду». Складнікамі інтэртэксту А. Хадановіча з'яўляюцца алюзіі, рэмінісцэнцыі, перыфразы, макаранічная лексіка, трасянка, перамешаная з іншамоўнымі выразамі, гратэск, парадыраванне, змяшчэнне часавых пластоў.

Вядома, зводзіць узаемадзеянне «свайго» і «чужога» толькі да выявы літаратурных ці іншых крыніц — «занятак няўдзячны» (Г. Кісліцына). Нельга абмяжоўвацца толькі экспліцытнымі прыкладамі інтэртэксту і бачыць тое, што ляжыць на паверхні, ігнаруючы шматмернасць літаратурных твораў (не толькі постмадэрнісцкага кшталту). Аднак нават беглае знаёмства з дадзенай праблемай дазваляе ў пэўнай меры высвеціць некаторыя асаблівасці ўзаемадзеяння «свайго» і «чужога» ў беларускай паэзіі, засведчыць павышэнне эстэтычных і культуралагічных каардынат беларускай літаратуры ў кантэксце нацыянальных, усходніх і заходніх літаратурных традыцый.



Юрый СОХАР

# НАРОДНАЯ ПА ПРЫЗВАННІ

*(Штрыхі да творчага партрэта Лілії Давідовіч)*

*І была яна шчаслівая,*
*Бо любілі ўсе лілею...*

Якуб Колас

*Давідовіч Лілія Міхайлаўна — народная артыстка Беларусі (1975), актрыса Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы (з 1960 г.), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1966). Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут скончыла ў 1960 годзе ў майстэрні К. М. Саннікава і А. І. Бутакова. Найбольш значныя сцэнічныя вобразы: Ларыса («Не было ні граша, ды раптам алтын» А. Астроўскага), Лаўрэнсія («Паехаўшы, застаўся дома» Лопэ дэ Вегі), Матруна («Злавацца не трэба» В. Зуба), Валька («У мяцеліцу» Л. Лявонава), Ганна («Людзі на балоце» паводле І. Мележа), Насця («На дне» М. Горкага), Галя і Рая («Трыбунал», «Пагарэльцы» А. Макаёнка), Ганна («Плач перапёлкі» паводле І. Чыгрынава), Маскалёва («Дзядзечкаў сон» паводле Ф. Дастаеўскага), Шафак («У ноч зацьмення месяца» М. Карыма), Лаура («Эшалон» М. Рошчына), Вольга («Блакада» Ус. Іванова), Марыя Сяргееўна («Залатая карэта» Л. Лявонава), Эліда («Жанчына з мора» Г. Ібсена), Юлія («Апошняя ахвяра» А. Астроўскага), Джэймс («Умовы дыктуе жанчына» Э. Эліса і Р. Рызы), Аманда («Татуіраваная ружа» Т. Уільямса), каралева Бонна («Чорная панна Нясвіжа» А. Дударава) і іншыя. Здымалася ў кінафільмах «Іван Макаравіч», «Руіны страляюць...», «Вазьму твой боль», «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», а таксама ў тэлеспектаклях «Крах», «Ткачы», «Чужая айчына», «Федра».*

...На вялікі жаль, аб гэтай таленавітай актрысе, багатай душой жанчыне даводзіцца гаварыць у мінулым часе. Горка, прыкра, але...

Яна звярнулася ў паліклініку з прычыны чарговага абследавання. Там прапанавалі паляжаць у бальніцы, растлумачыўшы: «Штосьці ў вас з лёгкімі...» Праз тыдзень наступіла пагаршэнне, і яна не захацела, каб яе наведвалі калегі. А потым усё абарвалася — выдатная актрыса Купалаўскага тэатра памерла...

---

***Сохар Юрый Максімавіч** нарадзіўся 12 лістапада 1943 года ў вёсцы Багатая Чарнешчына Сахноўшчынскага р-на Харкаўскай вобласці. Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (1969) працаваў акцёрам тэатра імя Янкі Купалы. Скончыў аспірантуру і дактарантуру Ленінградскага дзяржаўнага інстытута тэатра, музыкі і кінематаграфіі (1976, 1986). Працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі (1974—1982), загадчыкам кафедры, прафесарам Беларускага універсітэта культуры і мастацтваў (1982—1998). Ганаровы прафесар Карлавага універсітэта (г. Прага). Пісьменнік. Аўтар кніг, навуковых манаграфій і п'ес.*



Нарадзілася Лілія Давідовіч 25 снежня 1936 года ў сялянскай сям'і на Гродзеншчыне. Яна была апошнім, пятым, дзіцём. У сваіх успамінах Лілія Міхайлаўна адзначала: «Мае бацькі былі бедныя сяляне, якія з часам пераехалі ў горад. Я расла пасля вайны. Жыццё было цяжкае — халоднае і галоднае. Да таго ж бацькі былі да фанатызму веруючымі і цярплівымі людзьмі, якія жылі паводле прынцыпу: «Галоўнае, каб заўтра не было горш, чым сёння». А горш ужо быць не магло... З ранняга дзяцінства давялося далучацца да працы, часам непасільнай — трэба было дапамагчы сям'і выжыць...»

Скончыўшы сямігодку ў 1951 годзе, паступіла ў Гродзенскае культасветвучылішча на тэатральнае аддзяленне «за кампанію з сяброўкай». Вучоба захапіла дзяўчыну, і яна вырашыла, што будзе артысткай. Пасля паспяховага заканчэння вучылішча далі накіраванне ў тэатральны інстытут.

Але, як часта бывае, яе не «заўважылі». «Сказалі, — успаміна́ла актрыса, — што ў мяне дрэнная дыкцыя, маленькі рост і, увогуле, у мяне няма ніякіх акцёрскіх дадзеных... Было вельмі крыўдна, у вучылішчы ж я іграла Ганну Карэніну і Зою Касмадзям'янскую, а тут «няма дадзеных».

Аднак настойлівасць, сіла волі і жаданне даказаць, што ў яе ўсё ж «ёсць дадзеныя», узялі верх. Праз год дзяўчына зноў паўстала перад прыёмнай камісіяй, і К. М. Саннікаў адразу ж звярнуў на яе ўвагу. У 1965 годзе Ліля Давідовіч стала студэнткай.

...У працэсе назірання за творчым станаўленнем таго ці іншага майстра сцэны міжволі звяртаешся да школы, да пачатковага перыяду яго фарміравання. Раскрыць прыродны талент, выхаваць у сабе працавітасць, добры густ можна толькі пад кіраўніцтвам вопытных настаўнікаў. Лілії Давідовіч пашчасціла, яна вучылася ў выдатных майстроў: К. М. Саннікава, А. І. Бутакова (майстэрства акцёра), Б. Я. Вішкарова (сцэнічная мова), В. А. Дудко (танец), В. В. Фамічэнка (сольныя спевы) і іншых. Усе яны разам і кожны паасобку імкнуліся выхаваць усебакова развітых, прафесійна падрыхтаваных да самастойнай творчай працы акцёраў. Кіраўнік курса К. Саннікаў выстройваў творчы працэс на рэпертуары рускай, беларускай і заходнееўрапейскай класікі, на лепшых сучасных п'есах. Дыпломныя спектаклі акцёрскага факультэта адзінаццатага выпуску (1960), якім ён кіраваў, — «Не было ні граша, ды раптам алтын» па п'есе А. Астроўскага, «Паехаўшы, застаўся дома» Лопэ дэ Вегі, «Злавацца не трэба» В. Зуба, — выявілі цікавыя акцёрскія індывідуальнасці, сярод якіх ярка вызначылася і Л. Давідовіч. Яе работы — Ларыса, Лаўрэнсія, Матруна Шабуневіч — сведчылі аб неардынарнай творчай асобе.

Пасля заканчэння інстытута Лілію Давідовіч адразу запрасілі ў тэатр імя Янкі Купалы. Якое шчасце! Са студэнцкай аўдыторыі — у славуты Купалаўскі калектыў. Ролі былі адразу, іх было шмат: Кацярыны, Соні, Веры, Марыйкі — цэлая нізка імён дзяўчат-сучасніц. Маладую актрысу хвалілі калегі, яна падабалася гледачам. Прыгожая пявуння, танцорка, Ліля ў кожным эпізодзе атрымлівала

апладысменты. Яна паслядоўна набірала вопыт і артыстычнае майстэрства, спасцігала на практыцы сакрэты, азбуку акцёрскай прафесіі, усё тое патаемнае, што ў вучэбнай майстэрні не вывучыш. Усё гэта так. Але ішлі гады, і з цягам часу актрыса зразумела, што ўсе гэтыя вобразы дзяўчат, іх характары падобныя. Ды і яна ўжо стала «абрастаць» пэўнымі штампамі. Аб гэтым ёй сталі адкрыта гаварыць калегі па сцэне, рэжысёры. Актрыса ўстрывожылася за сваю будучыню. Патрэбны быў нейкі «выбух», які б «ускалыхнуў» маладую акцёрскую прыроду...

У той час мастацкім кіраўніком тэатра быў Барыс Эрын, які ўсё гэта адчуваў і таксама непакоіўся за лёс актрысы. Ён нечакана для ўсяго калектыву прапанаваў Л. Давідовіч ролю Валькі Лапатухінай («У мяцеліцу» Л. Лявонава) — з мэтай «пераадолення акцёрскай псіхатэхнікі». І вось жаданы «выбух» адбыўся. Ліля заззяла новымі фарбамі: яркімі, каларытнымі, нечаканымі. Крытыка адзначала: «Валька ў выкананні Лілі Давідовіч і смешная, і кранальная, і нязграбная. Яна бясстрашна кідалася ў жыццё, такая ўпэўненая ў сваёй прывабнасці і «вопытнасці», што за яе рабілася страшна. Калі з той самай адвагай, з тым самым адчаем яна адстойвала годнасць свайго бацькі — нікчэмнага і паганага, але для яе — бацькі і чалавека, мы разумелі, які сумленны і чысты чалавек Валька Лапатухіна...»

А потым была куранёўская Ганна Чарнушка. Спачатку гэты вобраз Ліля ўвасобіла ў тэлеспектаклі, а пазней Барыс Эрын узяўся за пастаноўку спектакля «Людзі на балоце» па рамане І. Мележа на купалаўскай сцэне. На ролю Ганны ён прызначае адзіную выканаўцу — Лілю Давідовіч. Гэты вобраз з'явіўся своеасаблівым узлётам, у якім маладая актрыса здолела перадаць не толькі знешнюю праўдзівасць характару палескай дзяўчыны, а і быццам бы адчула яе знутры, у самых патаемных куточках душы. Выканаўца імкнулася да шматколернага, шматпланавага вырашэння ролі. У кожнай сцэне, у кожным эпізодзе актрыса паслядоўна раскрывала логіку ўчынкаў, унутраны свет гераіні, узаемаадносіны з іншымі персанажамі, захоўваючы пры гэтым сваю самабытнасць.

З таго часу, як адбылася прэм'ера славутага спектакля (28 сакавіка 1966 г.), прайшло шмат гадоў, але я і сёння выразна памятаю некаторыя «ўдарныя» для актрысы сцэны. Якой чароўнай паляшучкай, менавіта куранёўскай гордай дзяўчынай убачыў я Ганну-Давідовіч на будаўніцтве грэблі. Натуральна і каларытна (па-мележаўску) праводзіць яна сцэну з Яўхімам (Б. Уладамірскі). Малады Глушак вядзе сябе як гаспадар жыцця, самаўпэўнена, нават нахабна падыходзіць да дзявочага гурту з намерам зачараваць Ганну. Ды і сапраўды, як абысці такую красуню, як не закахацца ў яе. Аднак, хоць Яўхім і першы багацей у вёсцы, і ўсе дзеўкі па ім сохнуць, гэтая галадранка не зважае на яго, больш таго, яшчэ і кепікі строіць, на смех перад усімі выстаўляе...

А якім псіхалагізмам напоўнена сцэна вяселля, дзе на працягу дваццаці сцэнічных хвілін Ганна-Давідовіч не прамовіла ніводнага слова. Моўчкі пераступае яна парог Глушаковай хаты і тройчы крыж-накрыж цалуецца са свёкрам і свякрухай. Без слоў, але з гонарам садзіцца на засланую кажухом дзяжу і пакорна выконвае патрабаванне гасцей: «Горка!» Мы бачым, што Ганне сапраўды горка, гідліва, балюча, але яна пакарылася лёсу...

А ці ж можна забыць кульмінацыйную сцэну — сустрэчу на прыгуменні з Васілём (Г. Гарбук)? Усяго адна рэпліка: «Як табе жывецца, Васіль?..» А той нібы не зважае, прасейвае жыта і як бы мімаходзь ціха адказвае: «Жывецца... Жывецца — толькі жыцця няма...» І тут Ганна не вытрымлівае і праз струмень зерня кідаецца да Васіля, абдымае, цалуе, мілуе...

Цудоўныя, глыбока псіхалагічныя, праўдзівыя, незабыўныя акцёрскія знаходкі. У іх было ўсё: радасць, гора, пакуты, каханне. Ліля Давідовіч у ролі Ганны Чарнушкі раскрыла лепшыя рысы палескай жанчыны, у аснове якіх прыродная мудрасць, чысціня, душэўнасць, рашучасць і пяшчотнасць.

Пра Ганну Л.Давідовіч напісана шмат артыкулаў і рэцэнзій. Кожны з аўтараў ледзь не ў першую чаргу падкрэсліваў, што работа актрысы — вялікае творчае дасягненне ўсяго беларускага тэатра. І гэта сапраўды так. Васемнаццаць гадоў

«жыў» спектакль у рэпертуары, быў запісаны на радыё, экранізаваны на тэлебачанні, і ўвесь час Л. Давідовіч іграла сваю Ганну, узбагачаючы яе новымі фарбамі. І невыпадкова, што за гэту работу актрысе прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР (1966 год).

Лілія Давідовіч была выдатным майстрам пераўвасаблення, сцвярджаючы сваёй творчасцю сінтэз мастацтва бытавога і рамантычнага, глыбока псіхалагічнага, вострахарактарнага як па форме, так і па змесце. Аднак шлях да гэтага быў не просты і не лёгкі. Многія яе вобразы — Аня («Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона), Ліза («Традыцыйны збор» В. Розава), Данія («Працяг» Д. Валеева), Клава («Стары Новы год» М. Рошчына) — здаваліся іншы раз аднапланавымі, перанасычанымі побытавымі дэталямі. З гадамі актрыса ўсё больш строга і дакладна ставілася да выбару выяўленчых сродкаў. Бытавая (у добрым сэнсе) адухоўленасць уласцівая яе творчасці, аднак з цягам часу характары гераінь станавіліся больш аб'ёмнымі, у іх адкрывалася нейкая чалавечая мудрасць, духоўная незвычайнасць.

Неспакой, пакутлівыя пошукі лепшага жыцця, «выбуховае» раздражненне — аснова характару Насці («На дне» М. Горкага). Сярод мноства персанажаў спектакля, якія ўвесь час ходзяць адно за адным, сутыкаюцца і адразу ж разыходзяцца, бясконца пратэстуюць і скардзяцца, сярод гэтага «дна жыцця», дзе ўсе чужыя, Насця Л. Давідовіч выглядала найбольш чужой. Жыццё безвыходнае, таму адным суцяшэннем для яе былі гарэлка і танныя бульварныя раманы. Актрыса сыграла ролю на высокай трагічнай ноце. Насця-Давідовіч — надломлены чалавек. Яна ненавідзіць жыццё, хоча помсціць усім за сваю зняважаную душу, бачыць нікчэмнасць, пагарджае начлежкай і яе пастаяльцамі, з такой жа разлютаванасцю і бязлітаснай пагардай ставіцца і да сябе.



*Л. Давідовіч у ролі Ганны, Васіль — Г. Гарбук.«Людзі на балоце» І. Мележа.*

Апошняя спроба штосьці змяніць, нават не змяніць, а хоць бы памарыць пра лепшае наглядаецца ў сцэне з Лукой. Давідовіч знаходзіць у ролі складаныя і разнастайныя пераходы. Слухаючы старога хітруна, яна раптам паверыла ў свой ратунак, але адразу ж зразумела бессэнсоўнасць гэтай мары. Выканаўца здолела ўвасобіць на сцэне вульгарнасць і разам з тым не быць вульгарнай, раскрыць нутро чалавека, яго псіхалагічную прыроду і не дапусціць грубай прасталінейнасці. Актрыса дакладна адчувала рыску, за якой мастацтва перастае быць мастацтвам, і ніколі не пераступала яе. Такое майстэрства прыходзіць з вопытам.

Пошукі сапраўдных, часам глыбока схаваных уласцівасцей і рысаў характару захаплівалі актрысу, дазвалялі пранікнуць у сутнасць ідэі аўтара, беспамылкова адшукаць «зерне» вобраза. Гэта мы назіралі і ў ролі Юліі Тугіной («Апошняя ахвяра» А. Астроўскага). Выканаўца як бы здымала першы, павярхоўны пласт гэтай мяшчаначкі, купчыхі і прабіралася да галоўнага — псіхалагічнай сутнасці характару. Л. Давідовіч здолела прадэманстраваць, як змагаецца Юлія з сабой, як

прыносіць сябе ў ахвяру лжываму царству рускага купецтва. Так, яе гераіня церпіць паражэнне, яе падманулі, але яркі канфлікт з палярна процілеглымі па сваім характары людзьмі сцвярджаў не толькі высакароднасць яе натуры, але і ўзвышанасць думак і імкненняў. Пластычны малюнак вобраза, эмацыянальная напоўненасць, безвыходнасць ад знявагі, адчай — усё гэта арганічна з'ядналася ў сцэнічным партрэце Юліі-Давідовіч.



*Насця ў спектаклі «На дне» М. Горкага, 1968.*

У вобразе Юліі — мноства фарбаў, нюансаў, паваротаў. Акрыленая каханнем да Дульчына, яна выглядае чулай, пяшчотнай і ўважлівай да людзей. Як радавалася Юлія хвілінам шчасця, цаніла аптымізм, весялосць, дабрыню! І якая яна была жорсткая і халодная, калі разумела, што пацярпела крах яе мара аб сапраўдным каханні, што яна ашукана. На нашых вачах разбуралася духоўная прыгажосць, гінула чалавечая асоба. Згода выйсці замуж за старога купца Прыбыткава — гэта толькі выйсце з безвыходнага становішча, гэта жэст абыякавасці, што мяжуе з адчаем. Ад пачатку і да канца спектакля вобраз, створаны Л. Давідовіч, псіхалагічна глыбокі і змястоўны.

Якія б ні былі драматургічна складаныя вобразы, якую б задачу ні ставіў перад Л. Давідовіч рэжысёр, яна ўмела надаць сваім гераіням дзіўную прывабнасць і своеасаблівасць. Актрыса заўсёды арганічная, «востратэатральная» на сцэне. Запамінальны, часам нечаканы малюнак ролі спалучаўся з моцным унутраным тэмпераментам выканаўцы. Усе думкі, пачуцці яе гераінь атрымлівалі тую ступень абагульнення, якая неабходная дзеля таго, каб увасабленне сцэнічнага вобраза стала творам мастацтва.

Узгадаем, да прыкладу, ролю Лауры («Эшалон» М. Рошчына). Актрыса здолела ў трагічную танальнасць спектакля ўнесці своеасаблівую яскравасць гратэска. Крыклівая, нават грубаватая Лаура-Давідовіч паказвае шчодрасць душы, дзіўную цэласнасць натуры. Давідовіч вымалёўвае гераіню шматгранна, не пазбаўляючы пры гэтым вобраз рысаў рэальнай жанчыны, часам смешнай, наіўнай і разам з тым па-жаноцку слабай. Наіўная і адначасова мудрая, даверлівая і ранімая — такія перапады духоўнага зместу Лауры-Давідовіч. З вялікай праніклёнасцю, паэтычным адчуваннем свайго жаночага шчасця іграла актрыса сцэну ўспамінаў. Кароткая, у некалькі хвілін, сцэна выражала цвёрды характар гераіні, дзе і рашучасць усё перанесці, і вера ў тое, што гора і нягоды будуць пераадолены.

Вобразы, створаныя актрысай, трапяткія і парывістыя, звышчулыя да розных праяў жыцця. Так, парыў Раі («Пагарэльцы» А. Макаёнка) з першых хвілін спектакля быў абумоўлены ўнутраным напружаннем (скаваная жэстыкуляцыя, дрыготкі голас). Рая цэлую ноч чакала свайго мужа з адказнай нарады. Гэта напружанне, створанае актрысай з першых хвілін дзеяння, перадавалася ўсёй зале, выразна акрэслівалася ў пластычным малюнку ролі. Але вось яе муж Фёдар вяртаецца з навіной, што яго прызначылі на высокую пасаду. Ужо іншыя адценні набывае ігра Л. Давідовіч — трыумф, няўтойная радасць мяшчанкі, якая цяпер будзе катацца на службовай «эмцы» па базарах і сваяках. Літаральна на вачах адчай змяняецца вялікай радасцю. Здзіўляешся, як амаль у эпізадычнай ролі акт-

рыса здолела знайсці патрэбную танальнасць, улавіць душэўны настрой персанажа, прадэманстраваць пластычную аснову вобраза ва ўсім аб'ёме яго імкненняў і абсалютна дакладна распрацаваць сцэнічны характар.

Перагортваючы старонкі творчай біяграфіі Л. Давідовіч, задаешся пытаннем: якое ж у яе было сцэнічнае амплуа? Адназначнага адказу няма. Яна магла сыграць усё: пяшчотнае лірычнае каханне, глыбокі драматызм і безвыходную трагедыю. У яе рэпертуарным спісе, акрамя названых Ганны Чарнушкі, Насці, Валькі Лапатухінай, Юліі Тугінай, Лауры, Раі, мы бачым дзёрзкую Шафак («У ноч зацьмення месяца» М. Карыма), валявую Вольгу («Блакада» Ус. Іванова), гаротную Мар'ю Сяргееўну («Залатая карэта» Л. Лявонава), палымяную Філіпу Джэймс («Умовы дыктуе жанчына» Э. Эліса і Р. Рызы), непараўнальную Ганну («Плач перапёлкі» І. Чыгрынава), фанабэрыстую Аманду («Татуіраваная ружа» Т. Уільямса), бурлівую Маскалёву («Дзядзечкаў сон» паводле Ф. Дастаеўскага), ганарлівую каралеву Бонну («Чорная панна Нясвіжа» А. Дударава) — больш за восемдзесят вобразаў увасобіла актрыса на купалаўскай сцэне. Ад гордай паляшучкі-сялянкі да высакамернай Каралевы — такім быў яе шлях у мастацтве.

«Я люблю, — адзначала Лілія Міхайлаўна, — калі на рэпетыцыях ёсць імправізацыя, калі рэжысёры і акцёры творча супрацоўнічаюць. Мне не падабаюцца ўсялякія штукарствы, калі ўсё трымаецца на нейкіх прыстасаваннях, танных прыёмах і «глюковінах». Асабліва не люблю, калі рэжысёр мне паказвае, як іграць, тады я іду дадому «з халодным носам». Мне заўсёды было важна адчуць ролю самой, пражыць і прапусціць яе праз сябе. Стварыць вобраз, характар і прымусіць гледача паверыць — гэта самае дарагое, што ёсць у маёй прафесіі. А яшчэ я вельмі люблю сваю сям'ю: мужа, двух дарослых сыноў і ўнучку, якая, спадзяюся, таксама будзе актрысай...»

Усю сваю вялікую артыстычную працу, сямейныя клопаты яна ўмела спалучаць з грамадскай дзейнасцю. Многія гады Лілія Давідовіч была дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, старшынёй журы шматлікіх тэатральных фестываляў, узначальвала камісію па шэфстве над сялом, займалася педагагічнай дзейнасцю, з'яўлялася членам Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры і мастацтва. Яна была Народная не толькі паводле паходжання і звання, але і па прызванні, па сутнасці свайго чалавечага зместу.

Пасля прэм'еры спектакля «Людзі на балоце» ў глядзельнай зале застаўся адзін чалавек. Гэта быў Іван Мележ. Ён сядзеў і плакаў... Калі пайшла з жыцця Лілія Давідовіч (2002 г.), плакала ўся Беларусь...



**Анатоль ЗЭКАЎ**

# ТАКІ ЁН БЫЎ — АЛЕСЬ...

***Я не быў аднакурснікам Алеся Пісьмянкова. Ды і ў Мінск я трапіў толькі ў 1982 годзе. Што ж тычыцца знаёмства з Алесем, то яно адбылося і таго пазней. Праўда, сышліся мы з ім неяк адразу і не развітваліся аж да самага чорнага дня ў нашым сяброўстве, калі гэтага светлага чалавека не стала.***

***Сёння я перачытваю вершы А. Пісьмянкова, згадваю нашы літаратурныя вандроўкі па Беларусі, доўгія размовы да позняй ночы ў яго на кватэры, сумесныя працоўныя будні (хоць язык і не паварочваецца называць іх так) у рэдакцыі часопіса «Вожык» — і ні на хвіліну не пакідае адчуванне, што гэта было толькі ўчора.***

***Асобныя эпізоды з нашага жыцця я ўжо згадваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» (21.04.2006 г.); тыя, што, прапаную сёння, усплылі ў памяці пазней...***

## Маўклівы

Не ведаю, хто з нашых агульных сяброў даў некалі Алесю мянушку «Маўклівы» — несумненна ж, насуперак яго залішняй гаварлівасці. Прытым гаварыў Алесь, як правіла, не сунімаючыся, цэлымі гадзінамі. У любую бяседу, пра што б яна ні была, мог уставіць не толькі свае «пяць капеек», а і не «адзін рубель». То, здаралася, распавядаў нейкую цікавую гісторыю, то нешта захоплена даказваў, то з некім да хрыпаты спрачаўся. І не толькі ў сяброўскай кампаніі за бяседным сталом, а, выпадала, і на вуліцы, калі мы (альбо на маім месцы быў нехта іншы) заставаліся ўдваіх.

Часам ужо і апоўнач падбіралася, калі Алесь, праводзячы мяне каля Дома прэсы на 33-ці тралейбус, пры падыходзе таго прапаноўваў:

— Давай прапусцім. На наступным паедзеш! — і ніяк не мог зразумець, чаго я нярвуюся: — А куды ты так спяшаешся?

Прыпынак, на якім мы развітваліся, і сапраўды знаходзіўся ў нейкіх двухтрох сотнях метраў ад Алесевага дома, а мне ж яшчэ дабірацца і дабірацца да мікрараёна «Захад»! Ды дзе там сябру да маіх хваляванняў, калі так пра многае карцела пагаварыць...

Маўклівы... Прыдумаў нехта... Як насмешку... Праўда, не сказаць, каб мянушка гэтая прыліпла да Алеся — яе ведала хіба што вузкае кола сяброў. Алесь, зрэшты, не злаваў. Ды і ці злаваў ён калі на каго ўвогуле?

## Першы верш

«Калі вы напісалі свой першы верш?» — гэта, бадай, самае распаўсюджанае пытанне, якое чытачы задаюць на сустрэчах з паэтам.

Не мінала яно і Алеся. Сапраўды, калі?

А было гэта, па яго ўласным прызнанні, у чацвёртым класе. Усе хлопчыкі хадзілі па вушы закаханыя ў сімпатычную аднакласніцу. Алесь, безумоўна, — не выключэнне. І аднойчы, асмялеўшы, ён напісаў верш і перадаў дзяўчынцы. Пасланне складалася з двух рыфмаваных радкоў:

Удзень і ўноч парой вясновай
Люблю я Таньку Раяўнёву.

Нейкім чынам Алесева прызнанне трапіла да настаўніцы, і Алена Трыфанаўна (так, па-мойму, яе звалі) з абурэннем: маўляў, калі ўсе ў класе рашаюць задачы, гэты нягоднік сачыняе любоўныя запіскі, паставіла закаханага вучня ў кут. «Пакуль я там стаяў, — распавядаў Алесь, — напісаўся яшчэ адзін верш. Мне спадабалася, і адтуль усё пайшло».

Вось так з таго класнага кута на ўроку арыфметыкі і сягнуў будучы паэт на літаратурны абсяг ды ўзняўся на такую вяршыню, якая тады, у школьныя гады, наўрад ці бачылася і самому Алесю, і яго настаўніцы Алене Трыфанаўне. Дзякуй ёй і нізкі паклон!

## Там, дзе пачынаецца Бесядзь...

Колькі і памятаю, Алесь жыў запаветнай марай — наведаць выток і вусце Бесядзі. «Добра было б і па ўсёй рацэ — ад краю да канца — праплысці, — казаў ён, — ды гэта неажыццявіма. А вось выток на Смаленшчыне і вусце пры ўпадзенні ў Сож на тваёй Гомельшчыне — гэта рэальна...»

І я разумеў сябра, бо Бесядзь была не толькі ракой Аркадзя Куляшова, а і яго, Алесевай. На Бесядзі прайшло маленства Пісьмянкова, сюды, у родныя Бялынкавічы, наведваўся ён з Мінска да бацькоў, а пазней — на іх святыя магілы.

Першую частку Алесевай мары, вытокавую, мы ажыццявілі разам, другая ж, вусцевая, на жаль, так і засталася няздзейсненай.

Я добра памятаю той спякотны летні дзень, калі з тагачасным галоўным ляснічым Касцюковіцкага лясгаса Міхаілам Шавандам і нейкім раённым агразабеспячэнцам за рулём «УАЗіка» выбраліся на Смаленшчыну — дзякуй Богу, ніякага пагранпаста на мяжы з Расіяй не існавала. Прыехалі ў вёску, за якой дзесьці там, у балоцістым вербалозе, з крынічкі і павінна была выцякаць Бесядзь. У праваднікі прыхапілі мясцовага старажыла, які першым трапіўся на нашым шляху. Спачатку ехалі на машыне, а потым, калі зямля стала больш нізіннай, пакінулі яе на сушэйшым месцы і далей прадзіраліся праз густыя, усыпаныя камарэчай кусты ў крапіве пехатой.

— Вось ён, выток! — усклікнуў нарэшце Алесь, першым натрапіўшы на бруістую крынічку. Скінуў кашулю, схіліўся і, набраўшы поўныя прыгаршчы студзёнай крынічнай вады, лінуў яе на сябе, пачаў расціраць спатнелае ад хады і сонца цела. А ўбачыўшы, што я стаю застыла ўзбоч, загукаў: — А ты, Толік, што як сонны? Абдайся! Уяўляеш, мы на вытоку Бесядзі!

Каб улагодзіць сябра, я таксама падступіўся да крыніцы, набраў у прыгаршчы вады і лена плюхнуў сабе на твар — вядома ж, зрабіў гэта не з такой замілаванасцю, як Алесь.

Зрэшты, я рэдка бачыў яго такім натхнёна-шчаслівым, як у той момант. Здавалася, што Алесь ля гэтай крынічкі як бы наноў нарадзіўся.

...Кажуць, што ў свой апошні прыезд у Бялынкавічы на магілы бацькоў (гэта было якраз на Радуніцу, 20 красавіка 2004 года, літаральна за тры дні да раптоўнай смерці ў Мінску) Алесь з начы яшчэ, ледзь заднелася, пайшоў на Бесядзь і прасядзеў на беразе, аж пакуль не наспеў час ехаць у сталіцу. Пра што ён думаў той часінай, гледзячы на рачную плынь? Няўжо прадчуваў блізкае развітанне з ракой не такога ўжо з вышыні сваіх гадоў і далёкага маленства-юнацтва?..

## Сустрэча ў лесе

Пасля таго, як выйшла шырокавядомая сёння кніга паэзіі, прозы і публіцыстыкі пра чарнобыльскую трагедыю «Прайсці праз зону» (яшчэ першая, бо праз пяць гадоў з'явілася другая), аўтар гэтай ідэі Мікола Мятліцкі загарэўся жаданнем паказаць нашу родную Беларусь з іншага боку: маўляў, не ўся ж яна атручана, захаваліся і прыгожыя мясціны, напрыклад, Браслаўшчына. Каб прыахвоціць да стварэння браслаўскай анталогіі сяброў-паэтаў, Мікола арганізаваў некалькі летніх вандровак на тутэйшыя азёры.

Я патрапіў на другое лета. Пасяліліся мы з Алесем асобна ад астатніх — у прыстасаванай пад жыллё бочцы-цыстэрне на маляўнічым беразе Струсты. Побач тулілася лазня, але металічную цыстэрну так за дзень награвала сонца, што ноччу і ў ёй пачуваліся, як у парыльні.

— Затое Міколка бурчаць не будзе, калі чарку возьмем, — цешыўся Алесь. — А то сам цяпер не п'е і нас з табой ушчуваць будзе: маўляў, я ж вас прывёз сюды, каб хараством натхняліся ды вершы пісалі, а не гарэлку жлукцілі...

Раз-другі выплылі на возера з вудамі, а надалей я адмовіўся ад гэтага занятку — не рыбак усё-ткі. Ды і адкуль узяцца таму рыбацкаму азарту, калі вырас не на рэчцы?!

Пакуль Алесь бавіў час на вадзе, я хадзіў па лесе, збіраў грыбы. Асабліва шэнціла на паддубнікі — хоць, як кажуць, касой касі. Прывабныя, крамяныя — адно задавальненне зрэзаць!

Падчас аднаго з такіх блуканняў натрапіў на турысцкія палаткі. Як даведаўся пасля, гэткім чынам адпачывала сям'я з Магілёва: муж з жонкай і дзве іх дачкі-старшакласніцы. Пазнаёміліся, разгаварыліся, гаспадыня пачаставала мяне нават згатаванымі на вогнішчы прысмакамі. Запрашалі яшчэ наведацца.

І я не адмовіўся, тым больш, што старэйшая з прыгажунь-дзяўчатак, Алеся, адразу запала ў сэрца. Неяк узяў з сабой і сябра — пазнаёміць з землякамі.

— Дык вось чаму Толік адмовіўся ад рыбалкі, — жартаваў падчас сустрэчы з магілёўскімі турыстамі Алесь і ківаў у мой бок. — Гэты нюхам чуе сімпатычных дзяўчат. Бач ты, нават у лесе вынюхаў, — і звяртаўся да гаспадара: — Глядзіце, за Толікам вока ды вока трэба... А я-та думаю, па якія грыбы ён так бегае? Добрыя сыраежачкі знайшоў, не скажы, добрыя...

Усе зразумелі жарт, асабліва гарэзна, запунсавеўшыся, смяяліся дзяўчаткі. А мы і насамрэч з магілёўцамі пасябравалі, нават у лазню запрасілі. Не памятаю ўжо, ці прыходзілі. Мабыць, не, бо такое я абавязкова б запомніў.

Затое ўжо ў Мінску пад тымі браслаўскімі ўражаннямі Алесь напісаў верш «Рыбацкая малітва», які ўпершыню быў змешчаны ў зборніку «Браслаўшчына азёрная мая» — тым, дзеля якога і вазіў нас на азёры Мікола Мятліцкі.

...Трэці год няма Алеся, а я ўсё не-не ды і перачытваю ягоны верш — і як бы вяртаюся ў тое спякотнае лета на Браслаўскіх азёрах:

О, Божа, не дай прапасці,
Не рабі недарэкамі,
Пашлі нам рыбацкае шчасце,
Мне і Толіку Зэкаву.
У нас усяго даволі
З добрае ласкі Твае,
Даволі і хлеба, і солі,
А шчасця рыбацкага не стае.
І вуды ў нас адмысловыя,
А чамусьці ні клёву, ні лову...

З нас смяяцца гатовая
Студэнтачка з Магілёва.
Нібы рыбакі мы ніякія,
Нібы мы нічога не ўмеем:
— Прывітанне Аксакаву!
Добры дзень Сабанееву!
О, Божа, не дай прапасці,
Не рабі недарэкамі,
Пашлі нам рыбацкае шчасце,
Як не мне, дык хоць Зэкаву.

## Па самую плешку

Да нашых першых сумесных з Алесем літаратурных вандровак спрычыніўся Пятро Іллюкевіч, які абвяшчаў сябе пад псеўданімам Пятро Чабор (чытачу, праўда, нічога не гаварыла ні першае, ні другое). Вершы ён пісаў, нават чытаў іх на нашых імпрэзах, але амаль нідзе не друкаваўся. Больш Пятро быў вядомы тым, што займаўся распаўсюджваннем вучэбна-метадычнай літаратуры ў школах і педвучылішчах, а, каб справа рухалася весялей, заадно ладзіў і сустрэчы з пісьменнікамі. Адно за адным мы наведалі з такой місіяй Баранавічы, Барысаў, Горкі, Ліду, Оршу, Рэчыцу... У розных паездках да нас з Алесем Пятро далучаў некага яшчэ: памятаю Анатоля Клышку, Авяр'яна Дзеружынскага, Уладзіміра Клімовіча, Валерыя Пазнякевіча...

Аднойчы вярталіся цягніком з Ліды. Наўскасяк праз праход у вагоне сядзеў нейкі, прыкладна нашага веку мужчына — бачылася, ён быў на падпітку. Пэўна, наша гучная размова, асабліва пісьмянкоўскі бас, закранула і мужчыну. Ён падняўся і як ні ў чым не было падсеў да нас.

— Я чую, вы па-беларуску гаворыце. Відаць, пісьменнікі?

— Можа, і пісьменнікі, — неахвотна адгукнуўся Алесь. — А што?

— Г... вы, а не пісьменнікі! — без усялякіх цырымоній выпаліў мужчына. — Вось я ведаў аднаго, дык той сапраўдны пісьменнік, не вам раўня. Анатоль Зэкаў яго завуць, можа, чулі?

У нас з Алесем ад пачутай нечаканасці ледзьве сківіцы не адваліліся: нічога сабе, скажы каму — не паверыць. А наш спадарожнік працягваў:

— У Гомелі жыў. У раённай газеце такія вершы друкаваў, што вам і не сніліся. Потым у Мінск паехаў, а там перабудова пачалася, так недзе і прапаў. Не ў струмень, мабыць, трапіў. Ці, можа, вашы, сталічныя, зацерлі, не далі ходу? А шкада, харошы пісьменнік быў.

— А ты хоць раз бачыў таго Зэкава? — пацікавіўся Алесь.

— А як жа! — усхапіўся з выглядам пакрыўджанага наш спадарожнік. — Не далей, чым вас. Да нас прыязджаў. Сядзелі нават за адным сталом. Мог абцасам цвік у сцяну загнаць. Адным ударам. Бывала, разгоніцца — і як дасць! Па самую плешку!

— А гэтага ты ведаеш? — кіўнуў Алесь у мой бок.

— Гэтага — не. І цябе — таксама.

— Анатоль Зэкаў, — прадставіў Алесь.

— Не дуры мне галавы, — адмахнуўся мужчына. — Гэтаму да Зэкава далёка. Той цвікі ў сцяну забіваў абцасам...

— Якія цвікі? — пасля таго, як мы засталіся ўдвух, пацікавіўся Алесь.

— Ды слухай ты, — адмахваўся я. — Прыдумаў нешта...

— Але ж усё адно запомніў. Ведае, што ты — паэт.

— Ага. Які цвікі абцасам у сцяну заганяе...

— Дзякуй і на гэтым, — падсумаваў Алесь. — Прозвішча ж у галаве засела. А што да цвікоў, то Бог з імі, хай будуць. Для рэкламы.

## «Сабака»

Алесь ведаў, што на працы мяне можна знайсці і ў восем, і ў дзевяць гадзін вечара. «Нехта — алкаголік, а Толік — працаголік», — казаў ён часам самім прыдуманае.

Аднойчы, памятаю,тэлефануе:

— Сядзіш?

— Сяджу, — адказваю. — А ты?

— Таксама сядзім з адным вельмі сімпатычным чалавекам — ты, зрэшты, яго ведаеш: наш выдатны пісьменнік К. Узялі па сто грамаў, мяркуем, што рабіць далей.

— Дык прыязджайце! — прапаную.

Праз паўгадзіны Алесь і пісьменнік К. ужо былі ў мяне, у рэдакцыі газеты «Добры вечар», дзе я на той час працаваў галоўным рэдактарам.

Пасядзелі, пагаманілі, між іншым выпілі пляшку гарэлкі. К. — вядома ж, не нашы гады — крыху «паплыў». Мы ўзяліся правесці яго дадому.

У пад'ездзе Алесь прапанаваў:

— Да кватэры ідзі ты, бо я ўчора праводзіў — жонка не зразумее. А цябе яна да таго ж не ведае. Карацей, я ўнізе пачакаю...

Падняліся на патрэбны паверх, падышлі да кватэры. Я націснуў кнопку званка. Дзверы расчыніліся — і перад намі ўзніклі адразу дзве жанчыны: адна — старэйшая, другая — маладзейшая, відаць, жонка пісьменніка і дачка.

Глянуў К. на іх — і тут жа развярнуўся на 180 градусаў:

— Ты куды мяне прывёў, сабака?

Я спалохаўся: можа, і насамрэч кватэру пераблыталі?

— Ваш? — запытаў у жанчын, кіўнуўшы на К.

— Наш, наш, — у адзін голас адказалі кабеты.

...На раніцу К. патэлефанаваў Алесю:

— Ты ведаеш, жонка з дачкой сказалі, што я бытта нізавошта аблаяў чалавека, які мяне ўчора прывёў дадому. Гэта Анатоля, значыць. Няўжо і папраўдзе так было?

— Ды не лаялі вы яго, — супакоіў Алесь. — Я, праўда, не чуў, бо ўнізе стаяў, але Толік расказваў потым, што было. Вы яго ўсяго толькі «сабакам» абазвалі.

— А-я-яй, — залямантаваў К. — Гэта ж як няёмка!

— Ды не хвалюйцеся. Толік — свой чалавек, усё разумее.

Тым не менш К. яшчэ неаднойчы пры сустрэчах падыходзіў да мяне і выбачаўся, хоць я кожны раз і адмахваўся: маўляў, дарэмна вы перажываеце, усё добра...

Менавіта той недарэчны выпадак зблізіў нас так, як ніколі дагэтуль. А наша сяброўства доўжыцца і па сёння — на жаль, ужо без Алеся.

## Сустрэча за кратамі

Нас, вожыкаўцаў, запрасілі ў Навасады — выступіць у турме перад зэкамі. Паехалі ўтрох: Алесь, я і Павел Саковіч. «Да сваіх едзеш», — пакеплівалі з мяне па дарозе калегі.

На сустрэчы Алесь знаёміў зняволеных з «Вожыкам»: згадваў пра газету-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну», з якой пачынаўся сённяшні часопіс, распавядаў, пра што пішам цяпер. Калі назваў імя Кандрата Крапівы, які стаяў ля вытокаў «Вожыка», нехта з залы ці то жартам, ці то ўсур'ёз запытаў:

— А дзе ён сядзеў?

...Свае ўражанні ад той паездкі Алесь занатуе потым у «Вершы, напісаным у турме». Чытачы, аднак, пазнаёмяцца з ім ужо ў пасмяротнай кнізе паэта «Думаць вершы...»:

Навасады. Зіма.
Год 2003-ці.
Месца дзеі — турма;
Запрасілі сустрэцца.

Ад турмы і сумы
Адракацца не будзем,
Добра ведаем мы,
Што й за кратамі — людзі.

Іх зямная юдоль
Не найлепшая ў свеце,
Іх затоены боль
Нельга нам не прыкмеціць.

Ну не звер ён, не звер,
Той вунь стрыжаны хлопча.
Мо ягоны давер
Заўтра зона растопча.

Анічым не праб'еш
Яе панцыр лядовы.
Спадзяванне на верш,
На гаючае слова.

Як бачна, дабрыня да людзей, якой заўжды поўнілася Алесева душа, не пакінула яе і ў турме.

## Пачатак і канец

Дзіўна, але я зусім не памятаю, пры якіх акалічнасцях мы пазнёміліся. Алесь тады працаваў у апараце Саюза пісьменнікаў — і, магчыма, гэта здарылася ў Доме літаратара на нейкай літаратурнай вечарыне, дзе ён быў амаль нязменным вядучым. Ці, можа, усё адбылося пры прэзентацыі маёй кнігі пародый і баек «Дуэль», якую мы там жа ладзілі з прыватным выдаўцом і першым галоўным рэдактарам мінскай гарадской газеты «Добры вечар» Міхасём Расолькам. А можа, была нейкая іншая нагода... Адным словам, не памятаю.

Затое апошні дзень Алесевага жыцця — пятніца, 23 красавіка 2004 года — і сёння перад вачыма. Пасля абеду ў рэдакцыю часопіса «Вожык» завітала лагойская паэтэса Ірына Грыгор’ева. Мы абодва пазнаёміліся з дзяўчынай на семінары маладых паэтаў Міншчыны, якія раз на тры гады праводзіць пад тым жа Лагойскам абласная бібліятэка імя А. Пушкіна на чале з няўрымслівым дырэктарам Наталляй Чуевай. Запрошаныя туды ў якасці літкансультантаў, мы адразу вылучылі сярод семінарыстаў найбольш таленавітых. У іх ліку была і Ірына Грыгор’ева.

Дзяўчына пісала па-руску, і Алесь надта шкадаваў, што па гэтай прычыне яе творы нельга прапанаваць у «ЛіМ» ці ў «Маладосць». Тым не менш парэкамендаваў звярнуцца ў «Нёман», дзе Ірына і дэбютавала неўзабаве з падборкай вершаў. Алесь жа з таго часу пачаў падбіваць яе на выданне кнігі. «Таленавітая, але такая ўпартая», — скардзіўся мне, згадваючы сваю літаратурную вучаніцу.

Менавіта рукапіс паэтычнага зборніка Ірына Грыгор’ева і прывезла Алесю ў тую пятніцу. Некалькі хвілін мы пасядзелі ўтраіх, потым я пакінуў іх і пайшоў да сябе ў кабінет. Алесь яшчэ колькі разоў зазіраў да мяне: маўляў, паслухай, як хораша! — і зачытваў асобныя радкі, а то і цалкам нейкі верш Ірыны. Ён, бадай, як ніхто іншы, умеў радавацца ўдачы аўтара і заўсёды спяшаўся падзяліцца гэтым з кожным, каго мог далучыць да свайго адкрыцця.

У той дзень Алесь радаваўся ў апошні раз. А Ірына Грыгор’ева аказалася апошняй, хто размаўляў з ім жывым, і першай, хто пабачыў яго мёртвым. Яна распавядала потым, як усё здарылася, але гэта ўжо яе ўспаміны...

А тады мы ўтраіх — Ірына, Павел Саковіч і я — панеслі самую жудасную вестку ў сям’ю Алеся: жонцы Алене Рыгораўне і сынам Максіму і Аляксею. Тыя сотні метраў, што пралеглі паміж рэдакцыяй «Вожыка» і домам на Калінінградскім завулку, дзе жыў яго галоўны рэдактар, сталі, бадай, самымі пакутнымі ў маім жыцці.

...Апошнюю прыжыццёвую дату з біяграфіі Алеся Пісьмянкова нельга сцерці, таму, пэўна, памяць і не захавала тую, першую. Каб хоць такім чынам пашырыць межы часавай прасторы, у якой мы былі разам.



**Алена БАГАМОЛАВА**

# З ПАВАГАЙ І ЎВАГАЙ ДА СЛОЎКА

Алфавітны даведнік па культуры беларускай мовы для ўсіх «Слоўка за слоўкам», аўтары якога вядомыя навукоўцы А. Я. Міхневіч, Л. П. Кунцэвіч, Ю. В. Назаранка, — першая арталагічная праца ў рэспубліцы, прысвечаная аналізу маўленчых памылак і шляхам іх прадухілення. Гэты найцікавейшы лінгвістычны слоўнік створаны з глыбокім веданнем як мовы беларускай, так і іншых моў, з тонкім адчуваннем роднага «слоўца», і што самае галоўнае — з любоўю да гэтага «слоўца».

Аўтары, у арыгінальнай форме абапіраючыся на «жывыя» моўныя факты, тлумачаць памылкі рознага тыпу. Чытачу, напрыклад, цікава будзе даведацца, што на акцэнталагічныя нормы беларускай мовы ўплываюць аналагічныя нормы суседніх моў або няўважлівае стаўленне да запазычаных лексем. Культурамоўныя нормы патрабуюць вымаўляць *украі́нец, пры́яцель, вяха́, дале́й, лу́бін, стра́шыць, ло́пух, ко́клюш, гры́нпіс, дзе́яч, кварта́л* і г. д. Няведанне такіх нормаў дэманструе нізкі агульнаадукацыйны ўзровень носьбітаў мовы.

Асаблівая ўвага ў даведніку надаецца памылкам, звязаным з недасканалым і таму непажаданым слова- ці формаўтварэннем. Аўтары матывавана даводзяць, што словы *ўнёсак* (як і заробак, выпадак), *спазіранне* (як і спажыванне, спадзяванне), а таксама *спакушальнік, жытло, Дабравешчанне, вернік* і інш. маюць уласнабеларускае гучанне і адпавядаюць словаўтваральным нормам сучаснай мовы.

Аўтары «Слоўка...» выяўляюць вялікую колькасць лексічных і сэнсавых памылак. Менавіта няведанне значэнняў слоў, няўдумлівае стаўленне да зместу Яго Вялікасці Слова прыводзіць да таўталогіі ці да плеаназмаў: *казусныя непрыемнасці, тады ў краіне пражывала сем мільёнаў трыста тысяч чалавек насельніцтва, уважліва прыглядзецца наўкол, перадавы авангард, упершыню дэбютаваць, падманная ілюзія* і інш.

Лёгка «заблукаць» і ў словах блізказначных (*клімат — надвор'е — пагода, кут — вугал, кропка — пункт, перыяд — час, любіць — кахаць* і г. д.), а таксама ў словах сугучных (*эліпсіс — эліпс, статут — статус, чаромха — чарэмшына — чаромуха, пазычанае — запазычанае, эўфемізм — эўфуізм*). Але чалавеку, нераўнадушнаму да свайго маўлення, кваліфікаванаму ў любой галіне спецыялісту якраз і дапаможа выдадзены арталагічны даведнік. Той, хто звернецца да слоўніка, зможа атрымаць дапамогу ў размежаванні сэнсавых нюансаў слоў, іх стылістычнай афарбоўкі, а таксама выявіць іх нарматыўную валентнасць.

Абыякавае стаўленне да роднай мовы і да маўлення ўвогуле прыводзіць да самых розных моўных казусаў. Якое ўражанне ў чалавека пісьменнага будзе выклікаць той, хто гаворыць *ад куцюр, тэт — на — тэт, грэйфрукт, палувер, пературбацыя* і г. д? Адпаведнае! Магчыма, як той, у каго *свая галава за плячыма* (у каго два розныя ўстойлівыя выразы знітоўваюцца ў адно асематычнае цэлае).

Аўтары даведніка перасцерагаюць носьбітаў мовы ад такой кантамінацыі — надзвычай распаўсюджанай маўленчай памылкі (*аб гэтым можаце мне паверыць, усё гэта абышлося амерыканцам бокам, дазвольце сардэчна павітаць Вас з пяцідзесяцігоддзем, розуму не прыкладу* і інш.) Куды ж прыкласці той розум, як яго




няма… І ўвогуле, «розум — не кулеш, у галаву не ўвальеш», але набрацца розуму з разумных кніг можна.

У «Слоўцы…» лінгвісты прапануюць чытачам узбагачаць мову і маўленне як праз словы іншамоўнага паходжання, так і праз словы спрадвечнабеларускія. Што ж да слоў запазычаных, то тут аўтары звяртаюць нашу увагу на шматлікія новыя тэрміны: *еўрапанта, кіч, ляпсус, лінгвэ, мімесіс, палітэс, праксеміка, рыпоста* і інш.

Скарбніцу ўласнабеларускай лексікі навукоўцы правамерна прапануюць узбагаціць словамі народна-дыялектнымі, аўтарскімі. Кожнае такое слоўка аўтары ілюструюць адпаведным кантэкстам, каб моўца яшчэ раз мог ацаніць яго мілагучнасць, натуральнасць, сэнсавую напоўненасць. Каб зацікавіць чытача, прывяду такія, на мой погляд, самыя яркія слоўцы: *натхненніца* (Я. Колас: «Жанчына — душа мужчыны; яна наша натхненніца на вялікія справы»), *суламітная* (Л. Дранько-Майсюк: «У адным з дамоў у адчыненым акне, што пад самым чырвоным дахам, паспяваю заўважыць суламітную жанчыну»), *нядбайліца* (М. Багдановіч: «А калі ты жаці станеш свой загон, // Аж дзівуецца нядбайліца Лявон»), *юнь* (У. Караткевіч: «З дальніх паплавоў плыве ракой // Чуць заметны сумны халадок — // Подых юні узыходзячай маёй»). І хіба горшае *жартаслоўе* (М. Гарэцкі) у значэнні «каламбур» або *дзяньгуб* (з дыялектнага слоўніка Магілёўшчыны К. Бялькевіча) у значэнні «той, хто працуе абы дзень да вечара — дзень губіць»? Няўжо беларусам не будзе *ручыць*, і не будуць яны *чаркавацца* і пры гэтым жадаць адно аднаму *«Сыць, Божа!»*? А якое моцнае беларускае кіраванне, нагадваюць нам яшчэ раз навукоўцы: у ім нацыянальная адметнасць мовы, яе трываласць і хараство (*паліць у печы, пайсці ў грыбы, сведчыць што, аб чым, пра што, каму* і г. д.)!

Прааналізаваныя моўныя хібы ў алфавітным даведніку «Слоўка за слоўкам» і многія іншыя культурамоўныя памылкі — гэта парушэнні літаратурных нормаў беларускай мовы, якія «хаваюць» яе адметнасць, мілагучнасць. Не хацелася б, каб такія недакладнасці маўлення праз іх паўтаральнасць у жывой гаворцы, у мове СМІ сталі варыянтамі нормаў ці ўвогуле адзінымі нормамі.

Прыведзеныя ў даведніку факты насцярожваюць, паколькі культура мовы асобы цесна звязана з культурай яе паводзін, бо мы тут маем адзін ланцужок: культура думкі — культура мовы — культура паводзін. Парушэнне аднаго са звёнаў разбурае ўвесь ланцужок. Сапраўды, правільнасць маўлення залежыць ад эрудыцыі моўцы. Таму давайце разам з аўтарамі даведніка ўслухоўвацца ў гучанне і ўнікаць у сэнс слоў, каб не прыйшлося нам *насіць мяхі з Еўропы* і піць каву ў *кафэ «Паранойя»*.





# *МЕТРЫКА*

## *літаратурная*

## 330

гадоў таму нарадзіўся **Несялоўскі** Казімір [1676(?)—1752(?)], польскі пісьменнік, грамадскі дзеяч.

Жыў у вёсцы Варончы і Ясенцы на Навагрудчыне. Быў паслом на сейм Рэчы Паспалітай (1722). Маршалак навагрудскі (1733), камісар гродзенскі (1738). Прыхільнік палітыкі Пятра I, у 1737 годзе наведаў Пецярбург. Пісаў і на лацінскай мове. Апублікаваў у Пінску кампілятыўныя зборнікі «ўсякай усячыны» — «Публічныя забаўкі» (1743) і «Хатнія забаўкі» (1752), у якія, апроч уласных барочных вершаў, уключыў прамовы, пасланні, эпітафіі, легенды.

## 185

гадоў таму на Палтаўшчыне нарадзіўся **Семянтоўскі** (Семянтоўскі-Курыла) Аляксандр Максімавіч, рускі і беларускі этнограф, археолаг, краязнаўца.

У 1840 годзе скончыў Нежынскі ліцэй. У 1860—62 гадах быў сакратаром Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта, пасля рэдактарам неафіцыйнай часткі «Витебских губернских новостей», а пазней — «Памятнай кніжкі Віцебскай губерні». Вывучаў этнаграфію, гісторыю, геаграфію, пераважна Віцебшчыны, помнікі археалогіі. Сабраў звесткі пра 30 замкаў і замчышчаў і больш як 1200 курганоў. Апісаў крыж Еўфрасінні Полацкай, Барысавы камяні, старажытныя помнікі і археалагічныя знаходкі.

Памёр у 1893 годзе.

## 110

гадоў таму нарадзіўся **Акулевіч** Павел Антонавіч (1896—1979), беларускі казачнік.

## 85

гадоў таму пачалі выходзіць з друку **«Беларускія ведамасці»**, штотыднёвая грамадска-палітычная літаратурная газета на беларускай мове.

Выйшла 16 нумароў. Крытыкавала каланізатарскую палітыку ўлад так званай Сярэдняй Літвы і буржуазнай Польшчы ў дачыненні да беларускага народа, змагалася за навучанне на роднай мове, асвятляла поспехі нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў БССР. Друкавала гістарычныя і этнаграфічныя матэрыялы пра Беларусь, фальклорныя запісы, творы П. Багрыма, Ф. Багушэвіча, А. Абуховіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Каганца, У. Жылкі… За апазіцыйны кірунак 15 студзеня 1922 года газета была закрыта ўладамі Сярэдняй Літвы. Рэдактар-выдавец М. Гарэцкі быў пасаджаны ў астрог на Лукішках, а пасля высланы з Вільні.

## 75

гадоў таму быў створаны **хор Беларускага саюза студэнтаў** у Вільні.

Існаваў да 1939 года пры Віленскім універсітэце. Стваральнік і кіраўнік Рыгор Шырма. Калектыў працаваў у цяжкіх умовах нацыянальнага ўціску збоку

польскіх улад, але яго дзейнасць па прапагандзе беларускага нацыянальнага рэпертуару мела вялікае культурнае і палітычнае значэнне. Хор выступаў у гарадскіх парках Вільні, гуртках Таварыства беларускай школы, Віленскай беларускай гімназіі. У рэпертуары былі беларускія народныя песні, а таксама творы К. Галкоўскага, М. Гайваронскага, А. Валынчыка, М. Равенскага, Л. Рагоўскага на вершы беларускіх паэтаў.

## КАСТРЫЧНІК

1

— **85** гадоў таму на станцыі Затаболаўка Кустанайскага раёна (Казахстан) нарадзілася **Клімава** Аляксандра Іванаўна, беларуская і руская актрыса, педагог, народная артыстка Беларусі (1963) і СССР (1969).

Скончыла Маскоўскае тэатральнае вучылішча імя Шчэпкіна ў 1949 годзе. З 1956 года працавала ў Дзяржаўным рускім драматычным тэатры імя М. Горкага ў Беларусі. Мастацтва актрысы было адметна рамантычнай узрушанасцю і сілай эмоцый. Сярод выбітных роляў А. Клімавай: Клеапатра, лэдзі Макбет («Антоній і Клеапатра», «Макбет» У. Шэкспіра), Марыя Сцюарт (аднайменная п'еса Ф. Шылера), Камісар («Аптымістычная трагедыя» У. Вішнеўскага), Ларыса («Беспасажніца» А. Астроўскага), Гелена («Варшаўская мелодыя» Л. Зорына), Патрык Кэмпбел («Мілы лгун» Дж. Кілці), Этэль Тэер («На залатым возеры» Э. Томпсана), Зубрыч («Трывога» А. Петрашкевіча). Здымалася таксама ў кіна- і тэлефільмах.

Памерла ў 2005 годзе. Пахавана ў Мінску.

1

— **85** гадоў таму адкрылася **Беларуская драматычная студыя** ў Маскве.

З 1924 года — на правах ВНУ. Мела на мэце падрыхтоўку беларускіх нацыянальных кадраў. Вядучымі педагогамі былі рэжысёры і акцёры МХАТ-2. Праграмным спектаклем студыі лічылася народная драма «Цар Максімілян» у апрацоўцы А. Рэмізава і М. Міцкевіча. Былі ажыццёўлены пастаноўкі п'ес У. Шэкспіра, Эўрыпіда, Е. Жулаўскага, «Апраметная» В. Шашалевіча, «У мінулы час» І. Бэна, «Чорт і баба» Ф. Аляхновіча. У 1926 годзе з выпускнікоў студыі (34 чалавекі) быў створаны БДТ-2 (па сутнасці Беларускі акадэмічны (з 1977) тэатр імя Я. Коласа (з 1944).

4

— **70** гадоў таму ў вёсцы Гошчава Івацэвіцкага раёна нарадзіўся **Майсейчык** Аляксей Антонавіч, беларускі літаратуразнавец.

Пасля сярэдняй школы скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута. Быў рэдактарам факультэцкай газеты. На пачатку 1960-х працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў роднай вёсцы. У 1962—66-м гадах вучыўся ў аспірантуры Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Кандыдат філалагічных навук (1967). Працаваў дэканам філалагічнага факультэта (1975—80).

Друкавацца пачаў з 1961 года ў раённай газеце. З 1962 года выступаў у рэспубліканскім друку з крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі. Даследаваў праблемы народнасці літаратуры і рамантычнай стылявой плыні ў сучаснай беларускай паэзіі. Аўтар дапаможніка «Практыкум па ўводзінах у літаратуразнаўства». Адзін з аўтараў дапаможніка для студэнтаў «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. 1941—1980», «Методыка выкладання беларускай літаратуры», падручніка для 6-га класа «Родная літаратура».

Памёр у 2002 годзе.

**6**

— **130** гадоў таму ў вёсцы Асташына Навагрудскага раёна нарадзіўся **Булгак** Ян, беларускі і польскі этнограф, фалькларыст, майстар мастацкай краязнаўчай фатаграфіі.

У 1919—39 гадах быў кіраўніком лабараторыі мастацкай фатаграфіі пры Віленскім універсітэце. У польскіх часопісах апублікаваў шмат здымкаў краявідаў, вёсак, гаспадарчых пабудоў, тыпаў сялян з розных этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі. Аўтар кніг «Мая зямля (1919), «Дваццаць шэсць гадоў з Рушчыцам» (1939) і артыкулаў «Экскурсія на Свіцязь» (1910), «Велікодныя песні на Міншчыне (валачоннікі)» (1911) ды іншых.

Памёр у 1950 годзе.

**8**

— **175** гадоў таму ў вёсцы Дудзічы Пухавіцкага раёна нарадзіўся **Ельскі** Міхаіл Карлавіч, беларускі скрыпач, кампазітар, пісьменнік.

Ігры на скрыпцы вучыўся ў К. Кжыжаноўскага, В. Банькевіча, удасканальваў майстэрства ў А. В'ётана і К. Ліпінскага. З пачатку 1860-х гадоў выступаў з канцэртамі ў Польшчы і Германіі. Доўгі час жыў у сваім маёнтку Дудзічы, канцэртаваў у Мінску і Вільні. Аўтар каля 100 музычных твораў. Выступаў і як музычны публіцыст. Запісваў беларускія народныя мелодыі, выкарыстоўваючы іх у сваіх творах. Аўтар працы «Народныя танцы Мінскай губерні» (у рукапісе).

Памёр у 1904 годзе.

**8**

— **110** гадоў таму ў мястэчку Ракаў Валожынскага раёна нарадзіўся **Фінкель** Уры Гіршавіч, беларускі крытык і літаратуразнавец. Пісаў на яўрэйскай і беларускай мовах.

У 1918 годзе паступіў у Маскоўскі універсітэт на эстэтыка-філасофскае аддзяленне філалагічнага факультэта. Вучобу перапыніла вайна: служыў у Палітупраўленні Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі (1921) накіраваны ў Народны камісарыят асветы РСФСР, потым — у Народны камісарыят нацыянальнасцей. Пераехаўшы ў 1922 годзе ў Беларусь, займаўся пытаннямі адукацыі ў Наркамаце асветы БССР. У 1926 годзе экстэрнам здаў экзамены за педфак БДУ. У 1931 годзе закончыў аспірантуру пры АН БССР. Выкладаў у педінстытуце (1930—38). Падчас вайны страціў двух дачок, бацьку, брата, сясцёр. Быў у эвакуацыі. У 1949—53 гадах жыў у Ракаве і выкладаў у мясцовай школе, пісаў даследаванні па яўрэйскай, беларускай і рускай літаратурах. Займаўся зборам матэрыялаў пра рэвалюцыю 1905 года на тэрыторыі Беларусі для свайго рамана «Пяцьдзесят год таму назад» (не скончаны). У апошнія гады жыцця знаходзіўся ў Мінску.

Друкавацца пачаў з 1918 года. У 1937 годзе выдаў кніжку «Мендэле Мойхер-Сфорым» (перакладзена на беларускую мову ў 1940 годзе), а ў 1938 годзе выйшла ў свет яго даследаванне «Шолам Алейхем». Напісаў мастацкую біяграфію З. Бядулі, артыкул пра фалькларыста і этнографа П. Шэйна, памяці Я. Купалы прысвяціў апавяданне «У пошуках Івана Купалы». Аўтар шэрага артыкулаў пра творчую дзейнасць М. Горкага, М. Гогаля, Я. Коласа. Добра ведаў К. Чорнага, пра што напісаў у сваім «Дзённіку». Распачаў працу па стварэнні пры Ракаўскай дзесяцігодцы краязнаўчага музея.

Памёр у 1957 годзе.

**10**

— **210** гадоў таму ў Магілёўскай губерні нарадзіўся **Без-Карніловіч** Міхаіл Восіпавіч, беларускі гісторык, краязнавец і этнограф.

Служыў вайсковым тапографам і статыстыкам. Меў чын генерал-маёра рускай арміі. Аўтар прац па гісторыі Беларусі. Яе тэрыторыі ён чамусьці абмяжоўваў

Віцебскай і Магілёўскай губернямі, а астатнія беларускія землі называў Літвой. Продкамі беларусаў лічыў не толькі крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, але і суседнія плямёны. Выключнае значэнне надаваў дзяржаўнасці Полацка, лічыў яго цэнтрам крывічоў. Падкрэсліваў згуртаванасць Полацкай зямлі ў 1230—40-я гады ў барацьбе супраць крыжакоў, даказваў паходжанне вялікага князя ВКЛ Віценя з роду полацкіх князёў. Сабраў значныя гістарычныя і краязнаўчыя звесткі пра старажытныя беларускія гарады, помнікі дойлідства, археалогіі і этнаграфіі, пра побыт беларускіх сялян.

Памёр у 1862 годзе.

**13**

— **110** гадоў таму ў Маскве нарадзіўся **Шчакаціхін** Мікалай Мікалаевіч, беларускі мастацтвазнавец, гісторык, тэарэтык мастацтва і педагог.

У 1914—18 гадах вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. З 1922 года — у Мінску. Спачатку працаваў у БДУ, пасля ў Інбелкульце і ў АН БССР. Даследаваў выяўленчае мастацтва і архітэктэру Беларусі — культавае дойлідства і манументальны жывапіс XI—XIX стагоддзяў, іканапіс XVII—XVIII стагоддзяў, абарончыя збудаванні, старажытныя гравюры, мастацтва кніг Ф. Скарыны, а таксама творчасць беларускіх мастакоў. Выпрацаваў навуковую канцэпцыю гісторыі беларускага мастацтва, асноўныя кірункі яго развіцця і перыядызацыі. Аўтар кніг «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1, 1928), артыкула пра беларускае мастацтва для 1-га выдання Вялікай савецкай энцыклапедыі (т. 5, 1926).

Памёр у 1940 годзе.

**14**

— **80** гадоў таму ў гарадку Жыздра Калужскай вобласці нарадзілася **Смальянава** Лілія Пятроўна, беларускі літаратуразнавец.

У 1945 годзе скончыла сярэднюю школу ў Магілёве, а ў 1948 годзе філалагічны факультэт Магілёўскага педінстытута. У 1949—52 гадах вучылася ў аспірантуры Мінскага педінстытута. Працавала старшым выкладчыкам Брэсцкага педінстытута (1954—70), дэканам філалагічнага факультэта таго ж інстытута (1970—75). З 1975 года працавала дацэнтам кафедры рускай і замежнай літаратуры Кіравагpадскага педінстытута на Украіне. У 1979—80 чытала гадавы курс літаратуры народаў СССР у Польшчы. Кандыдат філалагічных навук (1963), дацэнт (1971). Піша на рускай, беларускай і ўкраінскай мовах.

Першая публікацыя адносіцца да 1957 года. Друкавалася ў шмат якіх выданнях, у тым ліку ў часопісах «Полымя» і «Маладосць». Прапагандуе беларускую літаратуру на Украіне. Выдала манаграфію «Шлях паэтычнага эпасу: З гісторыі беларускай савецкай паэмы» (1977).

Жыве ў Кіраваградзе (Украіна).

**15**

— **95** гадоў таму ў вёсцы Востраў Рагачоўскага раёна нарадзіўся **Гаварушка** Яфім Максімавіч, беларускі празаік, публіцыст.

Рана страціўшы бацькоў, выхоўваўся ў дзіцячым доме № 5 горада Бабруйска. У 1935 годзе скончыў Мінскі вышэйшы педагагічны інстытут. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Смалявічах. Быў незаконна рэпрэсіраваны (арыштаваны ў 1937, асуджаны на 6 гадоў пазбаўлення волі і на 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў). Рэабілітаваны ў 1955 годзе. У зняволенні быў лесарубам, дзесятнікам, пасля вызвалення працаваў майстрам, інжынерам-таксатарам, настаўнікам, дырэктарам дзіцячага дома. Жыў у Смалявічах.

Апавяданні друкаваў у газетах «Піянер Беларусі», «Настаўніцкая газета», «Чырвоная змена», «Мінская праўда» і ў некаторых рускіх выданнях. Публіцыстыка выходзіла ў часопісах «Маладосць», «Беларусь», «Бярозка», «Нёман».

Надрукаваў некалькі артыкулаў пра жыццё і творчасць акадэміка І. Замоціна. Укладальнік кніжкі І. Замоціна «Творы» (1991). У апошні час працаваў над складаннем анталогіі паэзіі рэпрэсіраваных паэтаў «Песня падуладных».

Памёр у 1992 годзе і пахаваны ў Смалявічах.

**15**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Слабада Лагойскага раёна нарадзіўся **Гіль** Мікола (сапр. Гілевіч Мікалай Сымонавіч), беларускі празаік.

Скончыў Янушкавіцкую сярэднюю школу, а ў 1959 годзе аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. Працаваў рэдактарам перадач для дзяцей на Мінскай студыі тэлебачання (1960—61), загадчыкам аддзела тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» (1961—72), узначальваў аддзел публіцыстыкі ў часопісе «Маладосць» (1972—77). З 1977 года працаваў адказным сакратаром , пасля намеснікам і з 1990 года галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва». Працаваў рэдактарам у тыднёвіку «Культура». Цяпер узначальвае часопіс «Мастацтва».

Друкавацца пачаў з 1952 года. Першая кніжка «Ранішнія сны» пабачыла свет у 1973 годзе. Пасля выдаў кніжкі «На лясной вуліцы», «Таццянін чэрвень», «Самы галоўны чалавек», «Петр Климук» (фотаальбом), «Пуд жыта», «Ёсць на зямлі крыніца», «Тэлеграма з Кавалевіч», «Пасеянае — узыдзе», «Камандзіроўка ў Вішанькі», «Кім і Валерыя».

Піша таксама творы для дзяцей, займаецца мастацкім перакладам.

**15**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна нарадзіўся **Шлег** Алесь (Аляксандр Карпавіч), беларускі празаік, паэт, публіцыст, кінадраматург і перакладчык.

Бацька будучага пісьменніка быў старшынёй калгаса. У вайну камандаваў ротай партызанскага атрада. У 1942 годзе фашысты жорстка расправіліся з сям'ёй партызана. Уварваўшыся ў хату, дзе жыла маці з трыма маленькімі сынамі, яны стрэлілі аднаму брату ў рот, другога з усяго маху стукнулі аб вугал хаты, а маці павесілі. Малы Алесь убярогся толькі таму, што схаваўся ў печы. Пасля вайны бацька ўзначальваў калгас у Баранавіцкім раёне. За непрыняцце «кукурузнай палітыкі» М. Хрушчова быў зняты з пасады і выключаны з камуністычнай партыі. Скончыў працоўны шлях стрэлачнікам на чыгунцы ў Баранавічах. Алесь Шлег скончыў сем класаў Баранавіцкай СШ і вучыўся ў рамесным вучылішчы ў Навагрудку. Працаваў слесарам, аўтазваршчыкам, пасля на флоце качагарам і машыністам (1953—54). Служыў на Балтыцы радыстам. Дэмабілізаваўся інвалідам І групы. Працаваў у Ляхавіцкай раённай газеце (1958—59). Здаў экстэрнам экзамены за сярэднюю школу і ў 1959 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі БДУ. З трэцяга курса працаваў у газеце «Звязда» і вучыўся завочна. У 1964 годзе за нязгоду з «чужой рэдакцыяй» артыкула, выдрукаванага пад яго прозвішчам, быў звольнены з работы. Уладкаваўся рэдактарам у выдавецтва «Беларусь». За тое, што на адкрыцці Палаца спорту (1966) кінуў рэпліку кіраўнікам рэспублікі («Выступайце, калі ласка, на беларускай мове!») быў арыштаваны і паніжаны да малодшага рэдактара, а ў 1975 годзе за нязгоду з адміністрацыяй пры рэдагаванні прозы І. Чыгрынава і ўвогуле звольнены з працы. Цягам пяці гадоў быў змушаны падпрацоўваць на жыццё толькі па дагаворы з рэдакцыямі. З 1985 года нарэшце ўладкаваўся рэдактарам, а пасля працаваў старшым рэдактарам у рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання.

Першы свой артыкул надрукаваў у 1954 годзе. Выдаў кніжкі «Трывожная памяць», «Цыганок», «Праўда адна», «Жыло чаканне болю: Апавяданні, аповесць», «Хлеб на далонях тваіх», «Тайна Чорнага Бору».

Памёр у 1998 годзе.

**17**

— **70** гадоў таму ў Мінску нарадзіўся **Станюта** Аляксандр Аляксандравіч, беларускі крытык, літаратуразнавец, пісьменнік.

Маці Стэфанія Станюта — народная артыстка СССР. У 1954 годзе скончыў Мінскую сярэднюю школу № 4. У 1960 годзе атрымаў дыплом аб сканчэнні адзялення журналістыкі БДУ. Працаваў у газеце «Знамя юности», пасля вучыўся ў аспірантуры на кафедры рускай класічнай літаратуры ў БДУ. У 1973 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. Дацэнт філалагічнага факультэта (1981).

Першы артыкул надрукаваў у 1959 годзе, апавяданне — у 1963 годзе. Даследуе праблемы ўзаемадзеяння беларускай літаратуры і тэатра з рускай класікай. Разглядае стан сучаснай беларускай прозы, своеасаблівасць сённяшняга літаратурнага працэсу ў Беларусі. Даследуе творчыя індывідуальнасці пісьменнікаў В. Быкава, В. Казько, А. Жука, М. Стральцова... Піша прозу (аповесць «Мост» і шматлікія апавяданні), сцэнарыі дакументальных фільмаў («Такі характар»).

Выйшлі аўтарэфераты, манаграфіі і кніжкі: «Ждановічы» (фотаальбом), «Идея человека в творчестве Ф. М. Достоевского (1840—1860-е гг.)», «Постижение человека. Творчество Достоевского (1840—1860-е гг.)», «Плошча Свабоды» і іншыя.

**18**

— **100** гадоў таму ў вёсцы Зарудзічы Смаргонскага раёна нарадзіўся **Салагуб** Алесь Феафілавіч, беларускі паэт, літаратуразнавец і публіцыст.

У 1927 годзе скончыў Віленскую беларускую гімназію. Там зблізіўся з дзеячамі беларускага рэвалюцыйнага руху. Сядзеў у Лукішках і Стафанаўскім астрозе ў Вільні. Выйшаўшы з турмы ў 1928 годзе, стаў шукаць магчымасці перабраццa ў Савецкую Беларусь. Нелегальна перайшоў мяжу і паступіў вучыцца ў БДУ. У 1931 годзе пасля сканчэння універсітэта стаў аспірантам Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР. Марыў пра сур'ёзную навуковую і літаратурную працу, але планы не збыліся. Такі адданы ідэі сацыялістычных пераўтварэнняў і рэвалюцыйным ідэалам, ён 9 студзеня 1934 года як «вораг народа» быў арыштаваны і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Найбольш верагодна, што прысуд быў выкананы ў Мінску. Пасмяротна рэабілітаваны ў 1959 годзе. Рэпрэсіраваны былі і жонка з сынам, якіх выслалі на Поўнач.

Першыя вершы з'явіліся ў часопісе «Рунь» у 1923 годзе. Пачатак сваёй літаратурнай творчасці лічыў ад часу свайго першага зняволення ў 1924 годзе, дзе напісаў нізку вершаў і п'есу «Касулі ў цемры». У турэмным зняволенні напісаў ён і яшчэ адзін свой твор — «Лукішскі дзённік» (фрагменты былі надрукаваны ў 1961 годзе). Выдаў адзіны зборнік вершаў «Лукішкі: Вершы з Заходняй Беларусі» (Мінск, 1929).

**18**

— **60** гадоў таму ў вёсцы Ерасхаун Акцембяранскага раёна ў Арменіі нарадзіўся **Чарказян** Ганад Бадрыевіч, беларускі паэт і пісьменнік. Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах.

У 1966 годзе скончыў Маркарынскую сярэднюю школу. Вучыўся ў тэхналагічным вучылішчы ў Ерэване (1967—68). Пераехаў у Туапсе Краснадарскага краю і працаваў токарам на суднарамонтным заводзе. Служыў у СА (1969—1971). Пасля арміі працаваў выхавацелем у прафесійна-тэхнічным вучылішчы ў Эчміадзіне. У 1973 годзе ажаніўся з беларускай і пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск. Працаваў старшым тэхнікам, інжынерам, начальнікам участка на розных прадпрыемствах Мінска. Завочна скончыў індустрыяльна-педагагічны тэхнікум у Ерэване (1975), будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1984). З 1993 года працаваў загадчыкам аддзела маркетынгу выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Першы верш надрукаваў у 1963 годзе ў газеце «Піянер» (Ерэван). Першая публікацыя ў Беларусі з'явілася ў 1977 годзе ў часопісе «Нёман» (у перакладзе

Ф. Яфімава з армянскай мовы на рускую). Першыя апавяданні ўбачылі свет на рускай мове ў газеце «Во славу Родины» ў 1978 годзе.

Выдаў кнігі вершаў і прозы на рускай і беларускай мовах: «Прочность», «Цвет доброты», «Пространство и время», «Шамдзін», «Караваны гор», «Чаргаві», «Плач» і іншыя.

## 20

— **90** гадоў таму ў вёсцы Ахматава Алатырскага раёна ў Чувашыі нарадзіўся **Сучок** Алесь (сапр. Дабрыян Пётр Навумавіч), беларускі паэт.

Бацькі былі родам з вёскі Какошына Слонімскага раёна. У Чувашыі апынуліся падчас бежанства. У 1922 годзе, пасля смерці бацькі, маці з дзецьмі вярнулася на Радзіму. У 1932 годзе А. Сучок скончыў пяць класаў польскай школы ў Мяльканавічах. І неўзабаве быў арыштаваны за ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе. Абіраўся сакратаром падпольнага райкама камсамола Заходняй Беларусі. Зноў арыштоўваўся і ў 1935 годзе быў асуджаны да чатырох гадоў зняволення. Адбываў пакаранне ў Слоніме і ў Беластоку. Выйшаў на волю па амністыі ў 1937 годзе. Але ў 1939 годзе быў арыштаваны наноў і адпраўлены ў канцлагер Картуз-Бяроза. Вызвалены Чырвонай Арміяй. Працаваў у Слонімскай раённай газеце. Падчас вайны быў у антыфашысцкім камітэце, а пасля ў партызанскім атрадзе. Пасля вызвалення тэрыторыі ад фашысцкіх захопнікаў працаваў другім сакратаром РК ЛКСМБ. Быў загадчыкам Азярніцкага сельскага Дома культуры, старшынёй мясцовага сельсавета, інструктарам Слонімскага РК КПБ (1953—55), працаваў у калгасе. У 1963—78 гадах быў стрэлачнікам на станцыі Азярніца.

Вершы пачаў складаць яшчэ ў Слонімскай турме. *«Паперы і алоўкаў не дазвалялі, дык ухітраўся пісаць алюмініевай лыжкай на сцяне...»* Першая публікацыя была ў 1938 годзе. Друкаваўся ў часопісе «Шлях моладзі», слонімскай раённай і гродзенскай абласной газетах, калектыўным зборніку «Сцягі і паходні». Сваёй асобнай кніжкі так і не выдаў. Пра яго творчасць пісаў У. Калеснік у артыкуле «Лёсам пазнанае» (1982).

Памёр у 1993 годзе.

## 21

— **85** гадоў таму ў вёсцы Таль Любанскага раёна нарадзіўся **Муравейка** Іван Андрэеевіч, беларускі паэт, заслужаны работнік культуры Беларусі.

Любоў да літаратуры праявілася яшчэ ў школе, што не прамінулі заўважыць школьны настаўнік, пісьменнік М. Лобан, а пасля М. Клімковіч. У 1939 годзе, скончыўшы мясцовую сярэднюю школу, паступіў у Мінскі Камуністычны інстытут журналістыкі, але напрыканцы 1939 года быў прызваны ў Чырвоную Армію. У гады вайны ўдзельнічаў у баях на Заходнім фронце. Быў паранены. Працаваў у армейскім друку. Служыў у складзе цэнтральнай групы войск у Германіі. Дэмабілізаваны ў 1947 годзе як інвалід 2-й групы вярнуўся ў вёску Сарачы Любанскага раёна. Працаваў у раённай газеце. У 1962—64 гадах вучыўся ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах пры Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. Пасля іх заканчэння зноў працаваў адказным сакратаром любанскай раённай газеты.

Першы верш надрукаваў у 1936 годзе ў газеце «Піянер Беларусі». Аўтар шматлікіх вершаў для дзяцей, а таксама зборнікаў гумару. Некаторыя вершы пакладзены на музыку. Выйшлі кніжкі: «Мы таксама падрасцём» (Выбранае, 1971), «Песня над палямі», «Ручаінкі», «Вось якія мы», «Пра работу і ляноту», «Дружная сямейка», «Сняжынкі-смяшынкі», «Сем колераў вясёлкі», «Лясное возера», «Дуб і дубок», «Няхай сонца не заходзіць», «На зямлі камунараў», «Я прыдумаў казку», «Вадзіца з крыніцы» (2006). Выдаў таксама кніжку на аснове франтавых блакнотаў, дапоўненых вершамі, апавяданнямі і ўражаннямі «Прынёс з вайны» (1991).

**25**

— **70** гадоў таму ў Магілёве нарадзіўся **Тураў** Віктар Цімафеевіч, беларускі кінарэжысёр, народны артыст Беларусі і СССР.

Скончыў Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі ў Маскве ў 1964 годзе. З 1959 года працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм». Пакаленню, дзяцінства якога апалена вайной, прысвечаны фільмы «Праз могілкі» (1965), «Я родам з дзяцінства» (1967), «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой» (1970). Этапнымі работамі сталі экранізацыі «Палескай хронікі» І. Мележа: «Людзі на балоце» (1982, Дзяржаўная прэмія СССР, 1984), «Подых навальніцы» (1983). Ім зняты і тэлефільм паводле апавяданняў І. Тургенева «Жыццё і смерць двараніна Чартапханава». Апошняя рэжысёрская работа В. Турава экранізацыя Баршчэўскага «Шляхціц Завальня». З 1971 да 1981 года быў першым сакратаром праўлення Саюза кінематаграфістаў Беларусі.

Памёр у 1996 годзе.

**27**

— **95** гадоў таму ў вёсцы Чаплічы Слуцкага раёна нарадзіўся **Лобан** Мікола (Мікалай Паўлавіч), беларускі пісьменнік і мовазнавец, заслужаны работнік культуры Беларусі.

У 1926 годзе скончыў сямігадовую школу ў Слуцку. Працаваў паштальёнам і бібліятэкарам у роднай вёсцы. У 1929 годзе паступіў на двухгадовыя педагагічныя курсы ў Слуцку. Пасля іх заканчэння працаваў настаўнікам у школах Слуцкага, Любанскага і Пухавіцкага раёнаў. Трагедыя (смерць жонкі і дваіх дзяцей) змусіла з’ехаць за межы Беларусі. У 1939 годзе паступіў у Кіеўскі універсітэт, але праз некаторы час зноў вярнуўся на бацькаўшчыну. Вайна застала яго ў Мінску. Ваяваў пад Ленінградам і на Волхаўскім фронце. Быў цяжка паранены ў твар, выпісаўся са шпіталя інвалідам 3-й групы. Працаваў выкладчыкам у Казахстане. З аднаўленнем БДУ (1943) вярнуўся да вучобы. Пасля сканчэння універсітэта (1945) працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН БССР. У 1967 годзе — загадчык рэдакцыі мовы і літаратуры БелСЭ, а з 1968 года — загадчык сектара лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства АН БССР.

Першае апавяданне надрукаваў у 1930 годзе. Выдаў такія вядомыя раманы, як «На парозе будучыні» (1964), «Гарадок Устронь» (1970), «Шэметы» (1980), «Пяць раніц тыдня» (эсэ, асацыяцыі, артыкулы, 1984). Адна з лепшых кніг у беларускай эсэістыцы.

Апроч пісьменніцкай творчасці, займаўся і навуковай. Пры яго непасрэдным удзеле падрыхтаваны і выдадзены ў свет такія значныя працы, як «Руска-беларускі слоўнік», «Беларуска-рускі слоўнік», пяцітомны тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Ён адзін з аўтараў «Арфаграфічнага слоўніка» і «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі».

Кандыдат філалагічных навук (1953), Заслужаны работнік культуры Беларусі (1974).

Памёр у 1984 годзе і пахаваны на Паўночных могілках.

**27**

— **145** гадоў таму ў Беліцы (у межах Гомеля) нарадзіўся **Лапо** Дзмітрый Еўдакімавіч, беларускі і рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

З 1879 года вучыўся ў Кіеўскай гімназіі. Быў старшынёй аб’яднанага камітэта рэвалюцыйных груп сярэдніх навучальных установ Кіева. Пасля заканчэння гімназіі паступіў на юрыдычны факультэт Кіеўскага універсітэта. Быў членам кіеўскай групы нарадавольцаў. У 1885 годзе арыштаваны ў Гомелі і сасланы ў Табольскую, а пасля ў Енісейскую губерні. Там і пачаў пісаць апавяданні з беларускага жыцця. Праўда, на рускай мове.

Літаратурны дэбют адбыўся ў 1888 годзе апавяданнямі «Стукачка на р. Сожы» і «Патап і Цяроха». Пасля ссылкі, у 1890 годзе, вярнуўся ў Гомель і зноў

уключыўся ў работу нарадавольскіх арганізацый. Пасля займаўся прыватнай адвакатурай у Казанскай губерні і ў Краснаярску. Супрацоўнічаў з многімі сібірскімі газетамі. Змяшчаў артыкулы і допісы. Займаўся педагагічнай дзейнасцю. Па яго ініцыятыве быў адкрыты Марцьянаўскі дзіцячы прытулак. Дапамагаў галадаючым. Прымаў удзел у падзеях 1905 года ў Краснаярску. Пасля рэвалюцыі актыўна ўключыўся ў культурнае будаўніцтва Сібіры. Працу юрыста сумяшчаў з выкладчыцкай работай у Краснаярскім тэхнікуме.

Асноўнае месца ў творчай спадчыне Дз. Лапо займае зборнік «Беларускія апавяданні», у якіх праўдзіва, з дэмакратычных пазіцый апісана цяжкае жыццё сялян Пасожжа. І хоць Дз. Лапо пісаў па-руску, але як аўтар «Беларускіх апавяданняў», дзе шырока выкарыстаны беларускі фальклор, народная лексіка, спрыыніўся да мастацкага пазнання Беларусі, да развіцця яе літаратуры.

Памёр у 1936 годзе і пахаваны ў Краснаярску.

**27**

— **80** гадоў таму быў заснаваны **Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР**.

Тэатр быў створаны з выпускнікоў Яўрэйскай студыі ў Маскве (1922—1926). Узначальвалі тэатр М. Рафальскі і В. Галаўчынер. Мастацкае яго аблічча вызначалі спектаклі, створаныя паводле твораў яўрэйскай класікі: Шолам-Алейхема («Тэўе-малочнік»), А. Гольдфадэна і іншых, а таксама сучасных аўтараў (М. Кульбака, І. Дабрушына). Значнае месца ў рэпертуары займала і замежная класічная драматургія (У. Шэкспір, Лопэ дэ Вэга, Б. Джонсан, К. Гальдоні, Б. Шоу). Ставіліся і актуальныя рускія савецкія п'есы (у тым ліку ў 1937 годзе М. Горкага «Фальшывая манета»). Пасля вайны тэатр патрапіў пад агонь партыйнай крытыкі (яго абвінавачвалі ў фармалізме, касмапалітызме, нацыяналізме). У 1949 годзе быў расфарміраваны.

*Аўтар рубрыкі Леанід Галубовіч.*



## «Наш край» у часопісе «Полымя»

***Беларусь мае багатую шматвяковую гісторыю. Кожны горад, кожнае мястэчка, кожная вёска — гэта своеасаблівая старонка ў падручніку гісторыі нашай Бацькаўшчыны.***

***Шмат якія з гэтых старонак убачаць свет у «Полымі» — старэйшым літаратурна-мастацкім і грамадска-палітычным часопісе краіны, які ў 2007 годзе адзначыць сваё 85-годдзе. Ужо ў першым, студзеньскім, нумары мы адкрываем новую рубрыку «Наш край». І хаця публікацыі па гісторыі Беларусі ў «Полымі» заўсёды займалі прыкметнае месца, у новым годзе яны яшчэ больш наблізяцца да канкрэтных гарадоў, мястэчак і вёсак нашай краіны. І першым такім адрасам стане вёска Чамяры Слонімскага раёна, куды чытачоў запрашае краязнаўца Сяргей Чыгрын. Цікавымі абяцаюць быць і публікацыі, што з'явяцца ў наступных нумарах часопіса.***

***Адначасова запрашаем да супрацоўніцтва пісьменнікаў, журналістаў і краязнаўцаў, усіх патрыётаў беларускай зямлі: давайце разам напішам гісторыю нашых гарадоў, мястэчак і вёсак, што паслужыць паглыбленню ведаў кожнага беларуса пра наш край, нашу любімую Бацькаўшчыну.***

## ПАДПІСКА:

**індывідуальная (індэкс — 74985)**
**на 1 месяц — 4070 руб.**
**на 3 месяцы — 12210 руб.**

**ведамасная (індэкс — 749852)**
**на 1 месяц — 5090 руб.**
**на 3 месяцы — 15270 руб.**



*e-mail: minsk@lim.by*

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў прозы, паэзіі, навукі, крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-12.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Сяргейчык*

Падпісана ў друк 28.09.06 г. Фармат 70 × 108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 19,60. Ул.-выд. арк. 18,68. Тыраж 3355 экз. Зак. 2688.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.



# Партрэт Беларусі



## Нашы маці



Маці Боская Адзігітрыя
Баркалабаўская. 1659.



І. Пратасеня.
Бацькоўскі дом. 1971.



Ганна Юр'еўна Міцкевіч,
маці Якуба Коласа.





Марыя Апанасаўна Багдановіч
(дзявочае Мякота).



Бянігна Іванаўна
Луцэвіч, маці Янкі Купалы.



Ганна Цімафееўна Гагарына
і Марфа Паўлаўна Клімук — маці герояў космасу.



З роздумам пра дзяцей,
унукаў і праўнукаў.

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985 ✓
ведамасны — 749852
льготны — 00727

Языкознание

# Чытайце ў наступным нумары:

**Казімір Камейша**
**Віктар Шніп**
**Соф'я Шах**
**Васіль Рагаўцоў**
Вершы

**Уладзімір Гніламёдаў**
**Вяртанне**
Сямейная хроніка

**Іван Капыловіч**
**Хоць прападзі**
Аповесць

**Іван Шамякін**
**З Дзённікаў**

**Янка Сіпакоў**
Эсэ

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130 — 8068